ISSN 0130 — 8068

7 /2007



# ПОЛЫМЯ

Мелі шмат мы раскіданых гнёздаў,
Дзе ні глянь — курганы, курганы.
Свет застаўся пахмурны і грозны
І пасля найвялікшай вайны.

Толькі Вязынку, хату Купалы,
Наш народ захавае навек,
Бо і сёння адгэтуль нямала
Пачынаецца песенных рэк.

Пімен Панчанка



# ПОЛЫМЯ

7

(933)

2007

ліпень

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2007

## ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь**



## Васіль МАКАРЭВІЧ

# ВОЛАТ

*У вянок Янку Купалу*

1

Калі паўдзёна
Ўздыбіцца асвер,
І пойдзе ён пад схіл, агнём апалены,
Вядзе мяне сцяга ў надрэчны сквер,
Што стаў гасподай велічнай
Купалавай.

Гарачыня
Бултыхнецца ў раку,
Ля помніка, бы ўзведзенага з золата.
Каб мог дастаць, пацiснуў бы руку
Яму, прароку і празорцу —
Волату.

Паэту выпаў
Катаржанскі лёс —
Ісці дарогай, як вяроўка, кручанай.
Мы знаем, што сузор'ямі з нябёс
Ён з музай быў і з бедамі
Заручаны.

Ды з клопатам
Усюды паспяваў,
Бы памагалі спрэс асілкі з магамі.
І ў лузе на жалейцы так спяваў, —
Аж у зямлі ўскіпалі руды
З магмаю!

Не толькі ведаў
Пра зямны разлом,
Але і бачыў ён крыўлянне клоунаў.
Каб не сустрэцца твар у твар са злом,
Ішоў і размаўляў падоўгу
З клёнамі.

Ён не лічыў
Ні месяцы, ні дні.
Стаіць і сёння, бы вярнуўся з высылкі.
Хоць ёсць калегі, быццам і з радні,
Ды на радкі глядзяць, як снобы,
Звысаку.

А верш ягоны
Лічаць прасцяком,
І кожны том для іх, няйнакш, як лядзішча.
Дармо што біўся з камнем-жарсцвяком,
Для іх дзялянку пад засевак
Ладзячы.

2

З-пад кронаў,
Так падобных да гандол,
Таполяў, што сагнуцца, ды не ломяцца,
Вось-вось, здаецца, ступіць ён на дол
І рушыць сцежкай з кульбаю
Ядлоўцавай.

Вышыняў,
Знае, муза не здала, —
Хоць з пераправай зналася харонавай.
Тут нават парк, цераз праспект, здаля
Яму здаецца велічнай
Харомінай.

У тумане
Прайсціся б па расе,
Які не сцягнеш з месца нават волакам.
Як горка, што даляр і сквапны сейф —
Дзён рыначных эмблема
І сімволіка.

Ён ноччу зор
Расчытвае санскрыт,
Што горад стане з часам мегаполісам.
І чуе ў цішы чуйнай спеўны скрып
З вякоў мінулых выстылага
Полаза.

Днём немтуры
Багемных валуноў,
Што быццам неба шчодра панакідвала,
З дэкаратыўных траў, як з дываноў,
Глядзяць у вочы пільна,
Быццам ідалы.

Яны падобны
Чымсьці да карчоў,
Акораных майстрамі ды ачэсаных.
Ці ўрэшце да салонных рыфмачоў,
Што енчаць скрозь пра місію
Пачэсную.

Стагоддзе
Пераходзілі не ў брод —
Настырныя, гарачыя, бязбожныя!
А што сярод паэтаў зноў разброд, —
Чыя віна? Чыя?
Паймення кожнага!

Хто ведае,
Быў рад бы ці не рад,
Ці стаўся б з твару белаю папераю,
Калі б дазнаўся пра развал-распад
Сталёвым дротам сшытае
Імперыі?

Ды што яшчэ
Гадаць там ці таіць?
Для нас ён і зарукай і апораю!
Глядзіце, ўстаў і велічна стаіць
З эпохаю-пакутніцай
Упоравень.







Іван КАРЭНДА

# ВОПЛАЎСКАЯ ГОСЦЯ

## *Аповесць*

### 14

Лоўдач даўно далёка ад дому нікуды не ездзіў, а тут адразу — за мяжу. Расія цяпер — усё-такі замежжа, іншая дзяржава, хоць і суседка, хоць і звязана з Беларуссю інтэграцыйнымі дагаворамі.

Ён ведаў, што ні пагранічнага, ні мытнага кантролю на мяжы дзвюх краін няма, а гэта галоўнае — не трэба будзе выварочваць чамаданы, запаўняць дэкларацыю. Калі развалійся Савецкі Саюз, палітыкам хапіла мудрасці не адгарадзіць народы, якія сябравалі вякамі, памежнымі платамі з калючым дротам і электрычным токам...

...На Беларускім вакзале Сцяпана, як і дамаўляліся, сустрэў Міша. Да Кутузаўскага праспекта на сваім новенькім «Опелі» ён даімчаў мінут за пятнаццаць — раніцай выхаднога дня агромністы горад толькі-толькі прачынаўся, і яго вуліцы яшчэ не былі запоўнены транспартам. Зяць па дарозе спехам расказваў, што злева — што справа, але запомніць адметнасць вялізных шэрых будынкаў, якія мільгацелі перад вачыма, было цяжка.

Маскоўская кватэра здзівіла Сцяпана прасторнымі пакоямі, высокай столлю, дарагой мэбляй і вялікай бібліятэкай. Ніколі раней бываць у падобных апартаментах яму не даводзілася.

Ён не мог сцяміць, радавацца за дачку ці не, бо ўсё гэта фактычна ёй не належала. Аднак Таня, як заўважыў бацька, паводзіла сябе так, нібыта жыла тут даўно і ўсё ў кватэры вывучыла да драбніц. Мажліва таму, што такія паводзіны ёй дазволілі свёкар і муж, даверыўшы адзінай у сям'і жанчыне немалую хатнюю гаспадарку, якая патрабавала штодзённых клопатаў і спрытных жаночых рук. Дачка пайшла па Ларысе, такая ж працавітая і такая ж акуратная ва ўсім, павуцінне ў кутах вісець не будзе — у гэтым бацька быў упэўнены.

«Цяпер паспяхова выконваць ролю гаспадыні, сумяшчаючы яе з абавязкамі маладой маці, Тані будзе няпроста», — думаў Сцяпан, пакрысе асвойваючыся з новай для яго абстаноўкай, пакуль дачка корпалася на кухні, а зяць расстаўляў на стале талеркі для снедання. Танін свёкар Фёдар Іванавіч уначы рабіў складаную аперацыю і вось-вось павінен быў вярнуцца дамоў.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 6, 2007 г.

Дзеда з Беларусі ўнук яўна не чакаў — немаўлятка, нібы птушаня ў цёплым гняздзе, соладка спала ў калысцы, не спяшаючыся выказаць сваю павагу да блізкага родзіча, якому, наадварот, хацелася хутчэй пабачыць нашчадка. Прачыніўшы дзверы ў пакой сына, Таня ціха сказала:

— Вось такі наш Ванечка. Бачыш, ямачка на шчацэ — мабыць, як у бабулі Ларысы. А імя далі ў гонар яго прадзедаў, двух Іванаў — Івана Лоўдача і Івана Васільева. Гэта была прапанова Мішы, і я з ім адразу пагадзілася. Думаю, і табе, Іванавіч, гэтае імя падабаецца, — пажартавала, завяршаючы знаёмства дзеда з унукам, дачка.

Пад'ехаў Фёдар Іванавіч, і ўсе селі снедаць. Сцяпану адразу пасыпаліся філасофскія і палітычныя пытанні: «Як там Беларусь? Ці задаволены людзі сваім жыццём? уладай? Чаго дамагаецца беларуская апазіцыя?..»

Вясковы чалавек з адказамі на падобныя мудрагелістыя пытанні звычайна не спяшаецца. А Сцяпан увогуле па натуры быў нешматслоўны, таму застольную гутарку пачаў асцярожна:

— Жыць можна. Калі чалавек працуе, то заробак выплачваюць рэгулярна. Як і пенсіі. Ну а я цяпер сталага месца працы не маю: нашу сельскую школу ліквідавалі, бо ўжо не стала каго вучыць...

— А што будзе з самой вёскай, калі ў ёй змоўкнуць дзіцячыя галасы? — задаў рытарычнае пытанне прафесар.

— Спадзяюся, што наша Воплава будзе жыць доўга. Я, здаецца, яшчэ не стары, — жартам адказаў Сцяпан. — А калі гаварыць сур'ёзна, то пэўная перспектыва ёсць — стаць летнім прытулкам для дзесяткаў сем'яў гараджан, якія ў свой час пакінулі вёску і жывуць у невялікіх гарадах, што акружаюць яе на адлегласці 20—30 кіламетраў. Краявіды ў нас маляўнічыя, рэчка і азёры — рыбныя, а лясы — ягадныя і грыбныя, для паляўнічых — раздолле, так што сцежкі пазарастаць, атравець не павінны.

Фёдар Іванавіч, заўзяты паляўнічы, стаў падрабязна распытваць, якія звяры водзяцца ў воплаўскіх лясах, якія ў Беларусі законы і правілы палявання. Задаволіць цікаўнасць гаспадара Сцяпан мог толькі ў агульных рысах, бо сам паляваннем ніколі не займаўся, хоць розных воплаўскіх гісторый-прыдумак пра паляўнічыя прыгоды ведаў нямала.

— Прыязджайце да нас паляваць — не пашкадуеце, — гасцінна запрасіў ён.

— Дзякуй. Запрашэнне прымаю, але ажыццявіць яго змагу хіба што на пенсіі, — адказаў гаспадар і нечакана для Сцяпана перавёў размову ў іншае рэчышча. — З панядзелка пачнём медыцынскае абследаванне. Таня расказвала, што ёсць пэўныя праблемы з сэрцам. Так? Я з усімі дамовіўся. Думаю, што за тры дні можна будзе прайсці ўсіх спецыялістаў.

— Дачка чамусьці хоча зрабіць мяне хворым, а я — здаровы чалавек, — здзіўлена пацiснуў плячыма Сцяпан.

— А гэта праз пару дзён мы будзем ведаць дакладна, — сказаў прафесар. — Калі здароўе ў парадку, — адпусцім зноў на свежае паветра. Як гаворыць наш шэф, Яўген Іванавіч Чазаў, лепшых лекаў, чым фізічная праца на свежым паветры, яшчэ ніхто не прыдумаў.

Не тры, а цэлых пяць дзён вадзілі Сцяпана па кабінетах і лабараторыях кардыялагічнага цэнтра. Столькі праслухоўванняў, аналізаў і праверак на сучасным медыцынскім абсталяванні ён не меў за ўсё пражытае жыццё. Абследавалі не толькі сэрца, а практычна ўвесь яго арганізм, ад пят да вушэй. У рэшце рэшт выявілася, што ў пацыента сапраўды ёсць адхіленні ў здароўі, але сардэчныя праблемы — не самыя вялікія. На той момант найбольшую трывогу дактароў выклікала захворванне страўніка. Язвавая хва-

роба, пра якую Сцяпан і не здагадваўся, як быццам перайшла ўжо ў стадыю затухання, ранка пачала зацягвацца, але, як сцвярджалі медыкі, у любы час мог быць рэцыдыў, і, каб адвесці бяду, трэба неадкладна падлячыцца. І, вядома, у далейшым асцерагацца, каб захворванне не абвастрылася.

Грунтоўнае медыцынскае заключэнне, з пералікам дыягнастычных звестак і рэкамендацыяй прайсці мэтанакіраваны курс санаторна-курортнага лячэння, Сцяпан атрымаў на рукі за дзень да свайго юбілею. Гэты дакумент, бадай, можна было лічыць своеасаблівым адмоўным вынікам яго паўвекавога жыцця — люстэркам асабістых страт, у тым ліку жонкі.

Што і казаць, невясёлы складваўся юбілейны настрой. Але дачка і зяць думалі інакш і арганізавалі бацьку і цесцю, у адной асобе, шыкоўнае віншаванне з багатым святочным сталом. Прыехаў і Андрэй, якога Сцяпан яшчэ і не бачыў, бо сына тыдзень у Маскве не было: праходзіў моўную практыку за мяжой.

Бацька ўпрошваў дачку не рабіць ніякага застолля, бо свой юбілей адзначаць не збіраўся — беспрацоўнаму настаўніку было не да ўрачыстасці. І ў Маскву прыехаў толькі дзеля ўнука. Але яго просьба была адхілена, у тым ліку Фёдарам Іванавічам.

Сцяпан нават пашкадаваў, што праявіў бязволле і, добра не падумаўшы, паехаў у Маскву: можна было зрабіць гэтую вандроўку і пазней. «Благая тая птушка, што свайго гнязда не пільнуецца», — успомніліся яму словы маці, якія ён чуў ад яе яшчэ ў студэнцкія гады. Але назад дні і ўчынкі, як старонкі ў кнізе, не адгорнеш.

«Скончыцца святочнае застолле — і гайда дадому! Госць, як і свежая рыба, пачынае псавацца хутка, а я ўвогуле страціў сорам — сяджу тут ужо другі тыдзень!..» — дакараў сябе занепакоены юбіляр.

Урачыстасць пачаў працяглым віншавальным тостам Фёдар Іванавіч. Цёплая прамова свата ўсхвалявала воплаўца, і ён папрасіў не гаварыць яму ўзнёслых слоў, бо іх не заслугоўвае: нічога ў жыцці не зрабіў такога, чым можна было б ганарыцца. Але прафесар рашуча запратэставаў:

— Вы на сваіх уроках пасеялі столькі разумнага, добрага, вечнага, што грамадства будзе збіраць ураджай не адно дзесяцігоддзе. А цудоўныя ўласныя дзеці — дачка і сын, якія атрымалі выдатную адукацыю, — хіба ж гэта не гонар для бацькі?! А ўнук, які ўжо гучна заяўляе аб сваім праве працягваць радавод, хоць і пад іншым прозвішчам, — не радасць для дзеда?! Не, Сцяпан Іванавіч, мы не можам ігнараваць гістарычную праўду. Прапаную выпіць за здароўе юбіляра і за яго шчаслівае жыццё ў другой палове чалавечага веку! Карацей кажучы, — жадаю здаровым і бадзёрым сустрэць 100-годдзе!

— Дзякуй. Калі верыць маскоўскім дактарам і іх заключэнню аб стане майго здароўя, то так і будзе, — усміхнуўся Сцяпан.

Потым тост гаварыла дачка. Але найперш яна падышла да бацькі, абняла і пацалавала яго. А сказала ўсяго некалькі слоў:

— Татачка! Я цябе вельмі-вельмі люблю. І хачу, каб ты жыў доўга-доўга, каб пабачыў, якім вырасце наш Ванечка...

Ад гэтай даччынай шчырасці і душэўнай цеплыні па Сцяпанавай шчацэ пацякла гарачая сляза, і ён, не саромеючыся, стаў выціраць вочы насоўкай.

— Было б добра, каб Ванечка быў у сям'і не адзін, — параіў маладым бацькам дзядуля-юбіляр.

— ...І прымі ад нас з Мішам падарунак — вось гэты канверцік, — перайшла да практычнай часткі віншавання Таня. — Мы доўга думалі, што табе падарыць, і нічога лепшага прыдумаць не змаглі...

«Грошы... Баяцца, каб не памёр з голаду», — прамільгнула ў Сцяпанавай галаве, і ён, не раздумваючы, адвёў Таніну руку:

— Я грошы не вазьму — пакуль яшчэ і свой рубель маю...

— А тут зусім не грошы... Можаш праверыць, — дачка паклала канверт перад бацькам на стале.

Але Сцяпан не спяшаўся зазірнуць у яго, бо не ўяўляў, што, акрамя грошай, дадумаліся пакласці туды дачка з зяцем. Таня, зразумеўшы бацькаву няёмкасць, узяла ініцыятыву ў свае рукі.

— Нічога сакрэтнага тут няма, — сказала дачка і дастала з канверта нейкую паперку. — Гэта — санаторна-курортная пуцёўка. У санаторый Лермантава...

Сцяпану здалося, што на яго галаву вылілі кіпень — ён аж здрыгануўся ад нечаканай навіны, якую дачка назвала падарункам. А Таня, не зважаючы на разгубленасць бацькі, працягвала:

— Чытаю: «Працуе з 1928 года. Знаходзіцца ў цэнтры курортнай зоны горада Пяцігорска. Побач з самай вялікай у Еўропе радонавай лячэбніцай. На тэрыторыі санаторыя размешчаны 3 пітныя бюветы з мінеральнай вадой розных тыпаў. Агульная колькасць адпачываючых — 500 чалавек. Працягласць адпачынку — 24 дні. Аднамесны нумар. Чатырохразовае дыетычнае харчаванне. Профіль санаторыя — захворванні органаў стрававання, у тым ліку язвавая хвароба страўніка, захворванні цэнтральнай нервовай сістэмы, у тым ліку вегетатыўна-сасудзістая дыстанія, парушэнні абмену рэчываў, у тым ліку цукровы дыябет, захворванні скуры...»

— Табе, дачушка, засталося адно — вызначыць, дзе і калі мне памерці, — перапыніў маналог дачкі Сцяпан...

Але за сястру заступіўся брат:

— Тата, ты ні разу нармальна не адпачываў, за ўсё жыццё не быў ні ў адным санаторыі. Хіба гэта правільна?

— Я цяпер кожны дзень адпачываю, седзячы без працы. І лепшага санаторыя, чым Воплава, на свеце няма.

— Напрацаваўся ўжо, і яшчэ напрацуешся, а цяпер трэба адпачыць. І Воплава ад цябе нікуды не ўцячэ. Зрэшты, падарункі юбіляры сабе не выбіраюць — мусіш прыняць тое, што табе дораць ад шчырага сэрца, — даводзіла сваё дачка.

— Дык мяне ж людзі засмяюць: беспрацоўны — і курортнік... Не, я пазычаць вачэй у свінні не хачу.

— Хто, акрамя цябе, будзе ведаць пра тваю паездку ў Пяцігорск? Васільевы ўвесь гэты час маўчалі, спадзеючыся, што Лоўдачы знойдуць паразуменне і без іх удзелу. Аднак спрэчка працягвалася, і Фёдар Іванавіч, карыстаючыся правам гаспадара, пачаў расстаўляць кропкі над «і»:

— Вы, Сцяпан Іванавіч, дарэмна так заўпарціліся. Дзеці разумна і своечасова прыдумалі. Вам сапраўды трэба падлячыцца ў санаторыі. Навошта рызыкаваць сваім здароўем?

Далучыўся да санаторнай дыскусіі і Міша:

— Білет да Пяцігорска і зваротны я ўжо набыў. Цягнік — заўтра вечарам.

«Трапіў у нерат — ні назад, ні ўперад», — дапякаў сябе Сцяпан, усё больш злуючыся на сваё неабдуманае рашэнне паехаць у Маскву. А ў галаве ўжо сядзела, як забіты па самую плешку цвік, курортна-літаратурнае слова «Пяцігорск».

Юбілейнае застолле, пэўна, прынесла б Сцяпану адну маркоту, калі б не парадаваў сын — сваім паведамленнем, што ў яго праз месяц-другі адбудзецца размеркаванне, але ўжо цяпер вядома, што ён пасля заканчэння вучобы вернецца ў Беларусь, будзе працаваць у апараце Міністэрства замежных спраў. На сэрцы ў бацькі стала святлей, і Танін сюрпрыз пачаў страчваць сваю першапачатковую недарэчнасць.

Калі атмасфера за сталом зноў увайшла ў святочныя берагі, юбіляр папрасіў слова:

— Ніколі не думаў, што буду адзначаць свае юбілейныя ўгодкі ў Маскве. Дзякуй вам за ўсё, што зрабілі для мяне. Сёння я вельмі шчаслівы. А калі б побач сядзела Ларыса Пятроўна, то быў бы шчаслівы ўдвайне, мая радасць была б бязмежнай. Прашу выпіць за яе светлую памяць...

Нібыта ў знак згоды з дзедам, з суседняга пакоя падаў свой голас унук — на яго плач адразу ж кінулася Таня.

«Такой адданай дзецям была і яе маці», — падумаў Сцяпан, супакойваючы сябе тым, што кроў воплаўскіх Лоўдачаў цячэ і ў жылах зусім яшчэ маленькага масквіча.

## 15

У перадсвітальным Пяцігорску церусіў дождж.

З вагонаў цягніка «Масква — Кіславодск» на платформу чыгуначнага вакзала высыпала некалькі дзесяткаў заспаных пасажыраў-курортнікаў. Сярод іх быў і выпадковы падарожнік з далёкай адсюль Беларусі — Сцяпан Лоўдач.

На слаба асветленай прывакзальнай плошчы ён хутка знайшоў прыпынак пазначанага ў санаторнай пуцёўцы маршрутнага таксі. Разам з ім у таксоўцы праезд да санаторыя імя Лермантава аплацілі яшчэ чацвёра чалавек, і ад гэтага Сцяпану стала спакайней — з людзьмі, хоць і незнаёмымі, у такі ранні час пачувалася лепш.

Рэгістрацыя аб прыбыцці на адпачынак заняла ўсяго некалькі хвілін. Атрымаўшы ключ, ён накіраваўся ў суседні корпус, падняўся на трэці паверх, дзе знаходзіўся адведзены для яго пакой. Пераступіўшы парог і апусціўшы на падлогу чамадан, Сцяпан пачаў аглядаць свой часовы прытулак.

Пасярэдзіне пакоя стаяў акуратна засцелены ложак. Пры ім з аднаго боку крэсла, з другога — тумбачка, на ёй — лямпа і радыёпрыёмнік. Акно закрывалі доўгія, ад столі да падлогі, блакітныя шторы. Каля сцяны, насупраць ложка, суседнічалі малагабарытны халадзільнік і старэнькі тэлевізар. У куце, бліжэй да выхаду ў калідор, тулілася двухстворкавая, каштанавага колеру шафа. Няцяжка было здагадацца, што адзіныя ў пакоі ўнутраныя дзверы вядуць туды, дзе можна прыняць душ і прывесці сябе ў парадак. Сцяпан памкнуўся адчыніць іх, але ручка абарвалася і выслізнула пад ногі. І тут ён заўважыў, што драўляная падлога ў пакоі сцёртая і зашмальцавана так, што месцамі стала чорная, нібы зямля. Так-сяк прыладзіўшы дзвярную ручку, зазірнуў у прыбіральню. Адтуль патыхнула смуродам і хлоркай — Сцяпан зморшчыў і прышчаміў пальцамі нос. Прычына непрыемнага паху была відавочнай: пад ракавінай-рукамыйнікам, у бляшаным тазіку, ляжаў паплавок ад зліўнога бачка, а сам бачок быў без вады. Ён павярнуў кран рукамыйніка — і там ні кроплі.

Сцяпан зачыніў дзверы прыбіральні, прысеў на ложак. Спяшацца не было куды — да сняданку ў сталоўцы, згодна з санаторным распарадкам, заставалася яшчэ каля дзвюх гадзін. Што рабіць, як бавіць гэты час, ён не ведаў. Распакоўваць чамадан рукі не гарнуліся. Настрой быў такі, быццам хтосьці плюнуў у твар. «Так табе і трэба, валацуга!» — дапякаў Сцяпан сябе за пакорлівасць перад дачкою, за тое, што згадзіўся на прыдуманую ёю вандроўку.

Зрокавая памяць закружыла перад ім, нібы на экране, знаёмыя да дробязяў малюнкі воплаўскіх краявідаў, і Сцяпану моцна, як малому дзіцяці, захацелася дадому, у родную вёску. «Чым на чужыне ў пярыне, лепей дома на мякіне», — тузала яго душу дакучлівая думка. Ён не раз чуў ад сваіх аднавяскоўцаў гэтую простую і мудрую ісціну, але, відаць, не для яго яна прамаўлялася.

Аднак хвілін праз дзесяць успаміны пра Воплава сплылі, Сцяпан паспакайнеў і вярнуўся да курортнай рэчаіснасці. Трэба было настройваць сябе на санаторны графік жыцця, прызвычайвацца да ўсяго, што тут вызначана, распісана для тых, хто прыехаў папраўляць здароўе. А Сцяпан такі існы намер меў, проста турыстам ён сюды наўрад ці прыехаў бы.

Перад тым як ісці ў сталоўку, пагаліўся (добра, што даўно стаў карыстацца электрабрытвай, бо без вады сутыкнуўся б яшчэ з адной бытавой праблемай) і пераапрануўся, скінуўшы з сябе дарожнае адзенне і выбраўшы для першага выхаду на людзі лёгкі летні касцюм, куплены перад паездкай у Маскву на базары ў райцэнтры. Адно сорамна было выходзіць да курортнікаў з непрамытымі вачыма ды не пачысціўшы зубы, але што можна было прыдумаць у такіх варунках? Дзень толькі пачынаўся, і нейкае выйсце з несамавітага становішча, у якое трапіў Сцяпан, жыццё яму ўсё ж абяцала.

Сталоўка сустрэла яго ажыўленымі галасамі — вялікая санаторная сям'я збіралася на чарговае снеданне. За сталом, да якога прыпісалі Сцяпана, яшчэ нікога не было. Але праз пару хвілін да яго падселі дзве жанчыны сярэдніх гадоў і пажылы мужчына з ордэнскай калодкай на грудзях.

— Новенькі? — запыталася адна з курортніц.

— Новенькі, — тым жа словам адказаў Лоўдач.

— Давайце пазнаёмімся. Вы адкуль прыехалі?

— З Масквы, — прамовіў Сцяпан і адразу ж сумеўся, што сказаў няпраўду: які ж ён масквіч — беларускі акцэнт не схаваеш! Але і спешна выпраўляць сваю памылку не стаў, неяк апраўдацца можна будзе і пазней.

— Мы — з цэнтральнай Расіі, з Ліпецкай і Разанскай абласцей. У нас заўтра адпачынак заканчваецца, пакуем чамаданы. А наш шаноўны ветэран Мікалай Сямёнавіч — з Сургута, ён толькі ўчора прыехаў.

Ветэран чамусьці да размовы не далучаўся, а жанчыны, наадварот, пачалі ахвотна і з захапленнем распавядаць пра санаторнае жыццё.

— Які прыгожы цяпер Машук — вачэй не адарваць ад яго залатой лістоты. А нарзанчык пілі ўжо? Не? Дарэмна. Вада чароўная. Мужчын асілкамі робіць...

— А жанчын кім? — падхапіў жартоўны тон Сцяпан.

— А гэта самі ўбачыце. Прыходзьце вечарам на танцы...

— Спадзяюся, што доктар прапіша мне танцавальную гімнастыку, — зноў пажартаваў свежаспечаны «масквіч».

— Танцы нікому не шкодзяць...

— Спачатку трэба знайсці, дзе можна памыць нос. Вады ў нумары няма, — паскардзіўся Сцяпан.

— Вас пасялілі ў старым будынку, таму там ёсць праблемы. І не толькі з вадою. Папрасіце, каб перавялі ў галоўны корпус, дзе нядаўна зрабілі рамонт. Там усё прыстойна. І свабодныя месцы, здаецца, ёсць.

— Чаму ж туды мяне адразу не пасялілі? — здзіўлена спытаў Лоўдач.

— Ну, тут хітрая палітыка... Мабыць, трэба было трошкі падмазаць...

— Не зразумеў...

— Лапоўку даць...

— А-а, да гэтага я не дадумаўся, — усміхнуўся Сцяпан і ўспомніў, што раіла яму перад ад'ездам дачка: «Дасі прэзент урачу, медсястры, масажыстцы — і будзеш у санаторыі «сваім» чалавекам. Падарункі я падрыхтавала...» Тады ён не стаў спрачацца з Таняй, бо быў перакананы, што нічога падобнага рабіць не будзе, як і не рабіў ніколі дагэтуль.

Пасля сняданку, падбадзёраны сваімі першымі санаторнымі знаёмымі, Лоўдач зайшоў у пункт рэгістрацыі і рашуча заявіў (не пазнаючы самога сябе!), што жыллёвымі ўмовамі не задаволены і патрабуе замяніць пакой. І вельмі здзівіўся, што тая самая дзяжурная медсястра адразу ж перапісала яго санаторную кніжку і дала ключ ад пакоя на шостым паверсе галоўнага корпуса.

Новае жытло Сцяпану спадабалася. Тут усё радавала вока: і шырокі ложак з капай бэзавага колеру, і бліскучы паркет, і шыкоўны імпартны тэлевізар, і вялікі халадзільнік, і мяккі дыван пад нагамі, і парадак у прыбіральні. З акна, як рукой падаць, паўставаў каўказскі прыгажун з яго непаўторным у восеньскую пару жоўта-барвовым чубам — Машук.

Ад сэрца адлегла, і Сцяпан, прыняўшы душ, пайшоў на прыём да ўрача. Прачытаўшы аформленую ў Маскве санаторна-курортную карту, доктар шмат пытанняў не задаваў. Пасля кароткіх парад, як правільна піць мінеральную ваду, прапісаў яму адразу некалькі працэдур: масаж, цыркулярны душ, падводны душ-масаж, серавадародныя і хвойныя ванны, кішэчныя працэдуры, лячэнне остэахандрозу пазваночніка лазерным праменьчыкам. Медсястра дакладна, дзень за днём, распісала яму гэты курс лячэння — што, калі, дзе, у якім корпусе і якім кабінеце можна будзе прымаць.

Перад самым абедам, пасля першага наведвання бювета і дэгустацыі мінеральнай вады, у фае галоўнага корпуса Сцяпан запісаўся на экскурсіі — па лермантаўскіх мясцінах у Пяцігорску, у Прыэльбруссе, на Дамбай і на Церскі конезавод.

Цяпер заставалася адно: выканаць лячэбную і культурную праграмы, скарыстаць курортныя дні для аздараўлення і знаёмства з Паўночным Каўказам.

Вечарам зноў пайшоў дождж, на гэты раз густы і працяглы, і пасля вячэры ў сталоўцы Сцяпан глядзеў у сваім пакоі тэлевізар — маскоўскія і мясцовыя навіны, потым канцэрт салістаў расійскай эстрады. З уключаным тэлевізарам ён і заснуў.

Дождж ішоў з невялікімі перапынкамі і на другі, і на трэці дзень.

Аднак у пакоі не сядзелася, і Лоўдач штодзень, паміж бюветам, сталоўкай і працэдурамі, падоўгу хадзіў пад парасонам па тратуарных сцежках, ад аднаго корпуса да другога, дыхаючы свежым, але сырым восеньскім паветрам. Чакаць лепшай пагоды не мела сэнсу, бо слотны характар восені не зменіш, а адведзеныя для адпачынку дні трэба было лічыць у адваротным кірунку: 24, 23, 22...

На чацвёрты дзень знаходжання ў санаторыі Сцяпан адправіўся на першую экскурсію — па лермантаўскіх мясцінах. Карцела хутчэй прайсціся

па сцежках, па якіх хадзіў паэтычны геній. Група сабралася невялікая — чалавек пятнаццаць. Пасля наведвання дома-музея, сквера, дзе ўстаноўлены помнік паэту, і месца дуэлі, экскурсантаў завезлі ў карцінную галерэю. Пра гэты пункт прыпынку падчас экскурсіі санаторнікаў не папярэджвалі, і Сцяпан быў, мякка кажучы, не ў форме: сіні спартыўны касцюм, белыя красоўкі і чырвоная бейсболка (экстравагантная экіпіроўка дачкі!) не вельмі дапасаваліся да моманту. Але і не зайсці ў галерэю было б недаравальна: сустрэч з сапраўдным мастацтвам у яго мелася няшмат.

Разглядаючы палотны мастакоў, паволі пераходзячы ад карціны да карціны з бейсболкай у руках, ён злавіў на сабе выпадковы позірк адной з экскурсантак, і, як падалося, гэта быў насмешлівы позірк.

«Што ж, жанчына мае рацыю: у культурную ўстанову трэба прыходзіць па-культурнаму, а не так, як я — выскачыў, быццам Пілін з канапель», — самакрытычна ацаніў сітуацыю Сцяпан.

З карціннай галерэі ў санаторый вярталіся пешшу. Курортнікі, якія, мабыць, ужо паспелі пера знаёміцца адно з адным, ажыўлена абменьваліся ўражаннямі. Лоўдач ішоў крыху ззаду, зводдаль ад кампаніі, не рашаючыся ўступаць у размову. Пад нагамі шаргацела апалая лістота пяцігорскіх клёнаў і каштанаў, і думкі зноў скіраваліся ў Воплава. Сцяпан з маленства любіў залацісты ўбор восені. Яе задуменна-пранізлівая цішыня супакойвала душу, вучыла няспешнасці, абачлівасці, мудрасці. Якая яна сёлета, беларуская восень? Як там маецца цяпер яго родная вёска? Ці чакае з далёкага краю свайго блуднага, рызыкоўнага сына?

Успаміны-згадкі пра воплаўскае жыццё-быццё, пра восеньскія вясковыя клопаты перапыніў парывісты вецер, які наляцеў няведама адкуль і стаў раз'юшана зрываць з дрэў і шпурляць пад ногі лісце. Наваколле ўраз пацямнела: над Пяцігорскам нізка плыло чорнае, як сажа, воблака. Пачаўся дождж. Курортнікі запстрыкалі парасонамі — у Лоўдача яго з сабою не было.

Сцяпан прыспешыў хаду і хутка далучыўся да сваёй экскурсійнай групы. І не заўважыў, як апынуўся побач, плячо ў плячо, з той самай жанчынай, якая пасміхалася з яго ў галерэі. Пазнаў яе па бялявай, коратка стрыжанай галаве — болей нічога ад першай сустрэчы не запомніў — і, баючыся зноў сустрэць той насмешлівы позірк, адвярнуўся.

— Хавайцеся пад мой парасон, а то прамокнеце, — пачуў ён цёплы жаночы голас.

— Дзякуй. Не цукровы, не размокну, — банальна-абыякава адказаў Сцяпан, нават не пазіраючы на сваю выратавальніцу.

Але знаёмая незнаёмка не адступала:

— Не бойцеся, я за гэта грошы не вазьму...

Ад нечаканай настойлівасці і адкрытай іроніі Лоўдач разгубіўся, мітусліва зашоргаў нагамі па мокрай лістоце, паслізнуўся і ўпаў на спіну, расцягнуўшыся нагамі ўперад на вузкай тратуарнай сцежцы, што вяла да веснічак санаторыя.

— Моцна выцяліся? — спытала дабрадзейка-курортніца.

— Ды не, — махнуў рукою Сцяпан, апусціўшы галаву і наліўшыся густой чырванню за сваю няўклюднасць.

— Вось бачыце, да чаго даводзіць непатрэбная ўпартасць.

— Побач з такімі прыгожымі жанчынамі ўмомант слепнеш, — паспрабаваў адбіцца жартам беларус, а пра сябе падумаў: «Трэба вочы людскія мець, сурочніца паганая...»

Дзякаваць Богу, час на размову са «спагадлівай» курортніцай выйшаў: экскурсанты, нырнуўшы ў санаторны двор, разбегліся па карпусах.

Сцяпан, заняты невясёлай думкай пра тое, як вымыць «абноўлены» недарэчным падзеннем у гразь свой спартыўны касцюм, і не прыкмеціў, куды накіравалася тая бялявая, з насмешлівым паглядам жанчына, ад вачэй якой яму цяпер было б лепш куды-небудзь схавацца.

Аднак на тэрыторыі санаторыя не надта дзе схаваешся, хіба што зачынішся ў пакоі. Але такі рэжым тут не падыходзіць: трэба рэгулярна наведвацца ў пітны бювет, сталоўку, бегаць на працэдуры. Таму праз пару дзён пачынаеш пазнаваць курортнікаў: аднаго бачыў ў водалячэбніцы, з другім разам быў на экскурсіі, з трэцім сядзеў побач у кіназале.

З жанчынай, якая прапанавала па дарозе з карціннай галерэі «сухую» бяспеку — парасон на дваіх, Сцяпан сустрэўся яшчэ раз ў той жа дзень. Перад вячэрай, набіраючы ў бювеце ваду, ён інстынктыўна адчуў (раптоўна загарэўся твар), што зноў стаў аб'ектам нечай пільнай увагі. Узняўшы галаву, пераканаўся, што не памыляецца: на яго быў скіраваны такі ж іранічна-насмешлівы позірк, які ён «злавіў» у мастацкай галерэі. Цяпер, вядома, для маўклівага посмеху падстаў было больш — плюсавалася «гразепрацэдура» на тратуарнай сцежцы.

З поўнай піялай мінералкі ў руках і самотным выглядам, вартым жалю, Сцяпан выйшаў з памяшкання бювета на вуліцу, дзе звычайна і «смакавалі» гэты боскі напітак курортнікі. Іх тут было ўжо некалькі дзесяткаў, і Сцяпан палічыў за лепшае стаць на адлегласці ад людзей, каб не быць выпадкова ўцягнутым у якую-небудзь гутарку — мянціць языком пяцігорскае паветра яму не хацелася. Нарзан-вада, якая ў першыя дні санаторнага адпачынку Лоўдачу не спадабалася, мякка кажучы, не пілася, цяпер падалася найвышэйшай асалодай, цудадзейным бальзамам.

Але яго тактычны план праз хвіліну праваліўся, бо менавіта ў гэты прамежак паміж ім і астатнімі курортнікамі і накіравалася бялявая ўладарыня яго сённяшняга настрою. Спачатку намерыўся адвярнуцца, паказаць сваю адасобленасць ад усяго, што адбываецца навокал, але стрымаўся: «Прыстойныя людзі так сябе не паводзяць». А жанчына спакойна стала побач з ім і спытала:

— Вы з Прыбалтыкі?

— Не.

— Адкуль жа?

— З Беларусі.

— А я падумала, што з Прыбалтыкі.

— Чаму?

— Не ведаю. Можа, звярнула ўвагу на вымаўленне — не тыповае рускае...

— Няўжо гэта ганьба для нярускага чалавека? Ды і дзіўна! — хіба ж мовы прыбалтыйскіх народаў бліжэй да «великого и могучего», чым беларуская мова? Спадзяюся, што нам перакладчык непатрэбен...

— Вядома, не. Даруйце, я не хацела пакрыўдзіць. Сказала, не падумаўшы, глупства. Проста ў Рызе жыве мая інстытуцкая сяброўка, запрашае ў госці, а я ўсё ніяк не магу да яе выбрацца. Вось адкуль бярэ выток мая крывабокая фантазія, — апраўдвалася жанчына.

Ні кроплі нарзану ў Сцяпанавай піяле ўжо не было, і ён круціў пусты посуд у руках, не ведаючы, якім чынам закончыць калябювэтную размову з жанчынай, якой не спадабалася яго рускамоўнасць.

— Вы не пакрыўдзіліся, праўда? — перапытала яна.

Сцяпан моўчкі пакруціў галавою.

Якая тут магла быць крыўда, калі гэта, па-першае, чыстая праўда: беларускі акцэнт выдае яго з галавой. Па-другое, Лоўдач ужо крыху звыкся са сваім «комплексам беларускасці», які асабліва востра адчуваў у Маскве, падчас наведвання дачкі. У рэшце рэшт жанчына папрасіла прабачэння за свае неасцярожныя словы — дык чаго надзімаць шчокі!

І ён упершыню прама паглядзеў на сваю субяседніцу. Курортніца была сярэдняга росту і значна маладзейшая за яго. Сцяпан убачыў перад сабою круглы светла-ружовы твар, аздоблены, паабапал носа, рэдкімі купінкамі вяснянак, а зверху і з бакоў — лёгкім вэлюмам белых (хутчэй за ўсё, пафарбаваных) валасоў, на якім яшчэ не было ніводнай маршчынкі. Поўнай нечаканасцю для яго сталі надзіва прыгожыя зялёныя вочы — яны іскрыліся так, як светлячкі ў траве сухім летнім вечарам. І ў іх не было ні кроплі насмешкі. На гэты раз Лоўдач прыкмеціў зусім іншае: вочы жанчыны выпраменьвалі мяккае, спакойнае святло. Ён амаль фізічна адчуў, што ад іх ідзе нейкая неверагодная цеплыня, якая магла быць уласціва толькі добрай чалавечай натуры. Успомнілася, як калісьці маці далікатна падказвала яму, як не памыліцца, калі настане час выбіраць сваю «палавінку»: «Люстэрка жаночай душы — вочы». Чамусьці так яна гаварыла менавіта пра жаночыя вочы, для характарыстыкі мужчынскіх такой формулай не карысталася.

У нейкі момант іх позіркі сустрэліся, нібы дэманструючы канчатковае прымірэнне. Сцяпану падалося, што жанчына хацела яшчэ штосьці сказаць, але ён адвёў свой пагляд убок.

— Бювет зачыняецца, — данесліся да іх словы дзяжурнай «нарзаннай» медсястры.

— Пара ў сталоўку на вячэру, — сказала зеленавокая прыгажуня-расіянка. — Бывайце.

— Смачна есці! — пажадаў у адказ беларус.

## 16

Наступны санаторны дзень пачаўся з новай працэдуры — лячэння пазваночніка (ці радыкуліту — Бог яго ведае) лазерным промнем.

Сцяпан прыйшоў загадзя і мусіў чакаць сваёй чаргі. Добра, што меў чым бавіць час: захапіў з сабою кнігу, якую даў яму ў дарогу Танін свёкар. Гэта была манаграфія Альберта Манфрэда «Напалеон Банапарт». Фёдар Іванавіч, рэкамендуючы тады выданне, сказаў: «Пачытайце... Знаўцы сцвярджаюць: лепшае з напісанага пра французскага імператара, яго імклівы ўзлёт і трагічнае падзенне». І былы настаўнік, які калісьці не раз расказваў воплаўскім школьнікам пра вядомую гістарычную асобу і яе крывавы след на беларускай зямлі, атрымаў магчымасць грунтоўна паглыбіць свае веды. Цяпер, чакаючы працэдуры, ён з задавальненнем працягваў пачаты яшчэ ў цягніку прыемны занятак.

Праз пару хвілін зайшла сюды і яго ўчарашняя субяседніца. Прывітаўшыся з прысутнымі, прысела насупраць Лоўдача на свабодным крэсле. На яе вітанне Сцяпан адказаў лёгкім кіўком галавы, толькі на імгненне прыпыніўшы чытанне.

— Паніна Наталля Васільеўна! Прайдзіце, калі ласка, у пятую кабінку, — аб'явіла неўзабаве працэдурная медсястра. Сэнс гэтых слоў дайшоў

да Сцяпана не адразу — нібыта праз сон, калі постаць курортніцы ўжо знікла за шторкай.

У тую ж кабінку, калі яна стала свабоднай, трапіў і ён (мабыць, лазерны апарат знаходзіўся толькі тут). У час працэдуры трэба было ляжаць на жываце, з заплюшчанымі вачыма, і Сцяпан, у адпаведнасці з падказкай медсястры, прылёг ніцма, тварам у падушку. У цеснай прасторы медкабінкі яшчэ панаваў пах цёплага жаночага цела і парфумы, які пакінула пасля сябе папярэдніца. Ужо даўно нічога падобнага Лоўдач не адчуваў — у жыццёвым асяродку ўдаўца гэтыя пахі проста адсутнічалі. А цяпер яны прыемна казыталі нос, іх наяўнасць успрымалася як нешта натуральнае і нават жаданае. Сцяпан баяўся паварухнуцца, каб выпадкова не адпрэчыць няўлоўны подых жывой, непаўторнай і загадкавай жаночай атмасферы, што засталася тут, у невялікім санаторным закутку. Хацелася, каб лазерная працэдура доўжылася як мага болей, каб ён ляжаў і ляжаў на гэтай кушэтцы і на гэтай падушцы, дзе ўсяго некалькі хвілін назад ляжала жанчына, з якою ён чамусьці часта стаў сустракацца на санаторных сцежках-дарожках і якая перастала быць для яго жанчынай-ікс: Лоўдач ужо ведаў яе імя, імя яе бацькі і нават прозвішча — мабыць, мужава...

Графік курортнага адпачынку прадугледжвае шмат якія важныя рэчы, толькі не можа ўлічваць канкрэтных абставін сустрэч людзей, якія да прыезду ў санаторый ніколі не бачыліся. Менавіта гэтыя абставіны і гэтыя стыхійныя сустрэчы і ствараюць атмасферу новай, хоць і кароткай, карціны жыцця чалавека, дыктуюць ход яго думак, а часам і перамены ў ягоных пачуццях.

У такой псіхалагічнай сітуацыі апынуўся і Лоўдач. Апошнія гады перад Пяцігорскам ён імкнуўся трымацца асобна ад людзей, носячы ў сабе і абдумваючы тое, што балела яму аднаму. Любое спачуванне, выказанае яму адкрыта і шчыра, палёгкі не прыносіла. Лекар-час не надта спяшаўся адвесці ад яго душэўныя пакуты, боль вялікай, незваротнай страты — быццам старанна і грунтоўна рыхтаваў годную замену трагічна загінуўшаму шчасцю.

І Сцяпанава душа, як снег напрадвесні, дачакалася-такі першай пасля доўгай сцюжнай пары адлігі. Як і ўсё на белым свеце, пацяпленне прыйшло, відаць, з нябёсаў.

Дзесьці ў нябачных клетачках яго арганізма, таемных скляпеннях яго істоты нараджалася штосьці новае, яшчэ невядомае. Ручайкі пяцігорскіх уражанняў мала-памалу збіраліся ў адну плынь, якая шукала выйсця, імкнулася на прастору, каб стаць прыкметнай рачулкай чалавечага жыцця. І ён адчуў, што стрымаць гэтую плынь не можа. Плыць супраць цячэння? Ну што з таго, што ён спрабаваў супраціўляцца Таніным прыдумкам? — усё роўна выйшла так, як яна хацела.

Цяпер нейкая магутная, чароўная сіла спрытнымі рукамі сплятала яго думкі і пачуцці ў адзін прыгожы вянок памкненняў, найпершым з якіх было жаданне сустрэць-пабачыць зеленавокую курортніцу. І цуд адбываўся! — лёс раз за разам ладзіў яму жаданую сустрэчу.

Аднойчы, пасля абеду, Лоўдач пайшоў на мясцовы базар, каб купіць садавіны — гэта было, бадай, адзінае, чаго бракавала ў харчовым рацыёне курортнікаў. Выбар увосень багаты, і шмат часу на закупкі не спатрэбілася. Пакідаючы базар, на выхадзе, ён сутыкнуўся з маладзіцай, якую перад тым не адну гадзіну прагна шукаў вачыма на пяцігорскіх сцежках. Яна таксама паспела накупіць сабе «вітамінаў» і вярталася ў санаторый.

— Добры дзень! — жанчына прывіталася першая і ўсміхнулася. Шчырая, нязмушаная ўсмешка славянскай душы асвяціла яе твар і, здавалася, застыла на ім назаўсёды.

Сёння, калі многія людзі, пераймаючы стыль паводзін амерыканцаў, жывуць з «прыклеенымі», штучнымі ўсмешкамі, такое ўбачыш нячаста. «Няўжо тады, у карціннай галерэі, я памыліўся, прыняўшы такую цудоўную ўсмешку за насмешку?» — падумаў Сцяпан перад тым, як адказаць на вітанне.

— Добры дзень, Наталля Васільеўна!

— Вы ведаеце, як мяне завуць. Адкуль? — здзіўлена спытала яна.

— Ваша прозвішча, імя і імя па бацьку аб'яўляла медсястра ў лазерным кабінеце. Мне пашчасціла там быць і чуць.

— Вось як... Тады і я маю права ведаць, хто ідзе побач са мною. Так?

— Я не супраць... Сцяпан Іванавіч Лоўдач... Прашу... — ён хацеў сказаць «любіць і паважаць», але, зразумеўшы некарэктнасць гэтай фразы, зухавата прамовіў: — ...запомніць.

— Дзіўнае прозвішча — Лоўдач. Што яно азначае?

— Лаўлю ўдачу, — жартам адказаў Сцяпан.

— І часта шанцуе?

— Калі-нікалі было...

— І ў санаторый прыехалі з гэтай мэтай?

— Не, Наталля Васільеўна, я трапіў сюды выпадкова...

— І жонка выпадкова адпусціла?

— Няма ў мяне жонкі. Трагічна загінула, — ціха сказаў Сцяпан.

— Прабачце, я зноў задала нетактоўнае пытанне...

— Вы не маглі пра гэта ведаць.

Хвіліну-другую яны ішлі моўчкі. Потым субяседніца нечакана сказала:

— А ў мяне ёсць муж. Але было б, мусіць, лепей, каб не было... Нацярпелася я ад яго...

Распытваць пра асабістае жыццё, якое не склалася, было б яшчэ большым глупствам, чым нагадаць чалавеку пра хібы ў яго вымаўленні. І Сцяпан маўчаў, не ведаючы, куды «выруліць» у размове, якая зайшла ў складаны лабірынт.

— Чалавеку можна дараваць усё, толькі не беспрабуднае п'янства, — працягвала жанчына. — Хіба можна спакойна глядзець, як ён заганяе сам сябе ў магілу?..

Што мог сказаць на гэта Лоўдач? Ён не ведаў, якія спачувальныя словы былі б цяпер да месца і ці патрэбныя яны ўвогуле. Таму ішоў побач, апусціўшы галаву. Маўчанне гарантавала адно: шчырасць, якая ішла ад жанчыны, не будзе парушана.

— Вавёрачка! — раптам усклікнула Наталля Васільеўна і паказала рукою на дрэва. Маленькі рудзенькі звярок лёгка і жвава скакаў па галінках высокага клёна, пад якім стаяла невялікая прыземістая лаўка, прысыпаная апалым жоўтым лісцем.

— Прысядзем і паназіраем? — прапанавала жанчына.

— Давайце, — пагадзіўся Сцяпан.

— Тут, у Пяцігорску, шмат вавёрак. І яны такія свойскія — бяруць ласункі прама з рук. А ў Кіславодску, кажуць, іх яшчэ болей.

Яна дастала з поліэтыленавага пакета аўсянае пячэнне, адламала ад яго кавалачак і, паклаўшы на далонь, працягнула руку перад сабою. Звярок узіраўся нядоўга: зрабіўшы некалькі асцярожных скачкоў, вавёрка прысела

на край лаўкі і, пераканаўшыся ў шчырасці намераў карміцелькі, спрытна схапіла пачастунак. Так працягвалася некалькі хвілін, пакуль побач з лаўкай не прысела парка галубоў. Наталля Васільеўна зноў палезла ў пакет па ласунак:

— А ў мяне для вас семкі сланечніку ёсць...

Аднак галубы толькі фыркнулі і з шумным вуркатаннем адляцелі метраў за дваццаць.

А вось пушыстай прыгажуні семкі спадабаліся, напэўна, яшчэ болей, чым пячэнне, і яна расхрабрылася так, што нават перастала адскокваць убок.

Увесь гэты час Сцяпан пазіраў то на вавёрку, то на курортніцу. Твар Наталлі Васільеўны свяціўся дзіцячай непасрэднасцю і радасцю, на ім не было і ценю хмурынкі, якая выдавала б яе няпростыя жыццёвыя абставіны.

— Кім і дзе працуеце? — раптам спытала яна.

— Нікім і нідзе, — адказаў Лоўдач. — Працаваў настаўнікам, але ў вёсцы не стала каго вучыць.

— Не веру. Калі б не працавалі, то і ў санаторый не трапілі б.

— Я ж гаварыў, што гэта адбылося выпадкова. Так прыдумала дачка, якая жыве ў Маскве.

— А які прадмет выкладалі ў школе?

— Геаграфію. А ў дадатак — гісторыю.

— Гэта лёгка праверыць: уключым дэтэктар хлусні — раскажыце анекдот пра сваю прафесію...

— Калі ласка: «Настаўнік геаграфіі прыходзіць да ўрача. — Што баліць? — пытае доктар. — Нага. — Дзе? — На паўночным усходзе ад пяткі».

Наталля Васільеўна засмяялася і працягвала:

— А я — эколаг-нябожчык і эканаміст-самавучка.

— Для парытэту недаверу — раскажыце анекдот пра сваю прафесію, — папрасіў Сцяпан.

— Пра эколага ці эканаміста?

— Як я зразумеў, — працуеце эканамістам...

— На металургічным заводзе, у фінансавым аддзеле. Раскажу анекдот, які мне вельмі падабаецца: «Маленькі Мойша пытаецца ў маці: — Мама, а хто такі Кагл Магкс? — О Мойшанька, гэта эканаміст. — Як мой тата? — Ну што ты! Твой тата — стагшы эканаміст».

— Дарэчы, я з Самары, дзе любяць гумар, — дадала субяседніца.

Што ён, Лоўдач, ведаў пра гэты прыволжскі горад? Нямнога — што там ёсць Жыгулёўскія горы, бункер Сталіна часоў Вялікай Айчыннай вайны. А яшчэ ён успомніў, што вычытаў у адной расійскай газеце па дарозе ў Пяцігорск: па колькасці неверагодных з'яў Самарскі край дасць фору любой кропцы планеты. Па начах з Волгі, з вады, падымаюцца невядомыя апараты. Светлавыя слупы ўпіраюцца ў неба. Потым знікаюць. Што гэта такое — НЛА ці нешта іншае? — ламаюць галаву спецыялісты, пацiскаюць плячыма жыхары горада...

Пачаў накрапваць дождж, і яны абодва падняліся з лаўкі і заспяшаліся ў санаторый.

Развітваючыся каля ўвахода ў корпус, Сцяпан прапанаваў:

— Заходзьце вечарам у госці. Шэсцьсот трэці пакой. У мяне ёсць маскоўскія гасцінцы — шампанскае і цукеркі...

— Дзякуй. Шампанскае не люблю, а цукеркі — рэч небяспечная: не хачу мець перспектыву цукровага дыябету, — сказала, усміхнуўшыся,

нядаўняя спадарожніца. — Зрэшты, мы збіраемся сёння вечарам жаночай кампаніяй на танцы ў ваенны санаторый. Далучайцеся, калі ёсць жаданне патанцаваць.

Не, такога жадання ў Лоўдача не было, і ў той вечар ён дачытваў «Напалеона Банапарта».

Потым у Сцяпана былі дзве экскурсіі, адна за адной, на Дамбай і ў Прыэльбруссе, яны занялі два дні — з раннім ад'ездам і познім прыездам, з сухім харчпайком. Жыхаркі Самары сярод экскурсантаў не было. Падчас адной з экскурсій вандроўнікі спыніліся ў маляўнічым кутку на кароткі адпачынак, каб папіць жывога нарзану з прыроднай крынічкі. Там Лоўдач, як і іншыя курортнікі, назбіраў кулёк спелых барбарысак — ярка-чырвоных, прадаўгаватых на выгляд і кіславатых на смак ягад. Асабліва прыгожыя яны былі на гронках і на галінках — як жывыя пацеркі на дзявочай шыі. Такія ягады ў Беларусі не растуць, і ён не ведаў, што з імі рабіць. «Сустрэну самарчанку — аддам ёй», — падумаў беларус. І такая рэальная магчымасць у яго з'явілася: як толькі Сцяпан падышоў з ягадамі ў руках да ліфта, каб падняцца на свой шосты паверх, з расчыненых дзвярэй выйшла Наталля Васільеўна. Ён, хоць і слаба разлічваў на шчаслівы выпадак, не разгубіўся і рашуча працягнуў ягадны букет:

— Прыміце каўказскі пачастунак...

— Дзякуй. Якое хараство! Дзе такі цуд расце?

— У гарах. Я ездзіў на экскурсію. Шкада, што горад Самара на ёй не быў прадстаўлены...

Самарчанка была не адна, а з жанчынай, з якою жыла ў санаторным пакоі на другім паверсе, і нечаканы падарунак у прысутнасці сведкі прыняла з відавочным хваляваннем. Яе шчокі ўмомант загарэліся, запунсавелі. Твар Наталлі Васільеўны, які раней здаваўся Сцяпану круглым, цяпер убачыўся іншай формы — крыху прадаўгаватым, як ягада-барбарыска, павялічаная ў шмат разоў.

— А мы ідзём у кіназалу. Абяцаюць цікавы фільм, — сказала ягадка-красуня. — Там і пачастуемся...

«Свет выратуе прыгажосць — з класікам не паспрачаешся, — думаў Сцяпан, падымаючыся ў ліфце. — Але той геній мог абвясціць і прама: свет выратуе жанчына».

Незайздросны свет, у якім жыў ён, удавец Лоўдач, магла б выратаваць, здолела б перайначыць, мабыць, толькі гэтая руская жанчына. Але яна была замужам, і, хоць нармальнае сямейнае жыццё, па ўласным прызнанні, яе абмінула, разлічваць на тое, што самарчанка кіне яму выратавальнае кола, беларус не мог...

Ужо на калідоры шостага паверха ён пачуў непрыемную навіну: у санаторыі адключылі ваду — няма ні гарачай, ні халоднай. Дзесьці ў горадзе адбылася вялікая аварыя, і вадаправодная сістэма на пэўны час будзе адключана. Гэты «пэўны час» аказаўся даволі няпэўным, бо вады не было некалькі сутак запар.

Настрой у курортнікаў сапсаваўся. Адсутнасць вады азначала і тое, што бяздзейнічае каналізацыя, без чаго санаторнае жыццё ператвараецца ў сумнае, пакутлівае існаванне. Дзякаваць Богу, бювет працаваў у звыклым рэжыме.

Абмяркоўваючы бязводную сітуацыю за абедзенным сталом, той-сёй пачаў усур'ёз гаварыць пра ад'езд дадому. А ветэран-франтавік Мікалай Сямёнавіч прапанаваў выйсце са складанага становішча (вось што значыць

вопыт!) — хадзіць у грамадскі туалет на чыгуначным вакзале: дзе яшчэ цяпер можна па-людску даць палёгку свайму арганізму, здзейсніць свае найпершыя патрэбы? Пажартавалі-пасмяяліся, хоць, мякка кажучы, было не да смеху, бо з гэтай праблемай ужо сутыкнуўся кожны, і кожны шукаў свой варыянт яе вырашэння.

Сцяпан добра запомніў гэты дзень — 6 кастрычніка 2000 года.

Ідучы на вячэру, ён заўважыў незвычайнае ажыўленне ў фае перад сталоўкай. Курортнікі, з сумнымі тварамі, нешта важнае абмяркоўвалі. Да Лоўдача даляцелі словы «вакзал», «тэракт», «загінулі»...

Трывожную вестку пра выбух на платформе Пяцігорскага чыгуначнага вакзала шмат разоў перадавала цэнтральнае і мясцовае тэлебачанне, і пра гэта ўжо ведалі многія. А Лоўдача ў санаторыі не было — хадзіў на прагулку на Машук, таму навіну пачуў толькі тут: у выніку тэракта два чалавекі загінулі і больш за дзесяць атрымалі раненні.

Людзі знаходзіліся ў стане шоку. Яны ўспомнілі, што тэракт у Пяцігорску ўжо меў месца — тры гады назад, вясной 1997 года, і таксама на вакзале, калі выбух ажыццявілі дзве чэчэнкі. І тады былі загінуўшыя і параненыя. Казалі, што на гэты раз выбуховае прыстасаванне тэрарысты заклалі на пероне ў скрынку для смецця...

Вячэра была падобная да жалобнай — курортнікі маўчалі, адно звінеў посуд. Суседзяў Лоўдача за сталом не было. Потым, пад канец вячэры, калі Сцяпан дапіваў чай, з'явіўся Мікалай Сямёнавіч. Яго твар быў бледнашэры, як ільняное палатно. Дрыжачым голасам ветэран расказаў, што выбух прагрымеў на яго вачах, калі ён набліжаўся да вакзальнага туалета...

...Пазней, вярнуўшыся ў Воплава, Сцяпан даведаўся, што Стаўрапольскі краявы суд прызнаў былога афіцэра міліцыі 29-гадовага Муханіна вінаватым у арганізацыі тэракта і наўмысным забойстве і вынес суровы, але справядлівы прысуд — 19 гадоў пазбаўлення волі.

Праз два месяцы, 8 снежня, Пяцігорск зноў скалануў выбух — на аўтастаянцы каля Верхняга базару, што ў цэнтры горада, дзе калісьці Лоўдач купляў фрукты і адкуль вяртаўся разам з Наталляй Васільеўнай. Сярод белага дня былі ўзарваны два аўтамабілі са ўзрыўчаткай. І зноў загінулі 2 чалавекі, а 169 былі паранены...

...А ў той кастрычніцкі вечар трэба было неадкладна патэлефанаваць у Маскву, каб не перажывала дачка, і беларус пайшоў на пошту, дзе былі кабінкі міжгародняй тэлефоннай сувязі.

Горад патрулявалі шматлікія міліцэйскія машыны і пешыя супрацоўнікі органаў правапарадку. Перад уваходам у будынак пошты адзін з міліцыянераў перагарадзіў Сцяпану дарогу і папрасіў дакументы. Лоўдач меў пры сабе толькі санаторную кніжку, але і гэтага было дастаткова. Аднак яго чамусьці папрасілі не заходзіць на пошту, адкласці тэлефонную размову на наступны дзень.

Выручыў знаёмы курортнік-масквіч — сталічны дацэнт, з якім Сцяпан паспеў крыху пасябраваць: ён даў беларусу свой мабільнік.

## 17

Пасля тэракта санаторнае жыццё сцішылася. Вячэрнія культмасавыя мерапрыемствы былі адменены, на экскурсіі курортнікі перасталі запісвацца. А ў Сцяпана заставалася яшчэ адна паездка — на Церскі конезавод.

Яна была на другі дзень пасля выбуху на вакзале, і старэнькі санаторны ПАЗік некалькі разоў спынялі супрацоўнікі патрульна-дарожнай службы — скрозь на аўтамагістралях ішлі праверкі транспартных сродкаў.

Зайшоўшы ў аўтобус, Лоўдач стаў шукаць свабоднае месца. Іх было некалькі, а апошні рад быў зусім пусты, і ён накіраваўся туды. Але яго вочы ўжо сутыкнуліся з позіркам Наталлі Васільеўны. «Добра, што і яна едзе», — падумаў Сцяпан.

— Сядайце, калі ласка, — прапанавала самарчанка, паказаўшы рукою на свабоднае месца побач з сабою.

— Дзякуй.

Сцяпан няспешна і далікатна прысеў.

Слова за словам — разгаварыліся. Наталля Васільеўна расказала, што яна — данская казачка, родам з Растоўскай вобласці. Вучылася ў Новачаркаскім політэхнічным інстытуце і на пятым курсе, перад размеркаваннем, выйшла замуж за студэнта-выпускніка, будучага энергетыка. З ім і паехала ў Самару, дзе да гэтага часу працуюць на адным заводзе. Муж — па спецыяльнасці, энергетыкам, а яна была вымушана змяніць прафесію. У яе двое дарослых дзяцей — сын і дачка, абое ўжо студэнты.

Сцяпан, у сваю чаргу, пахваліўся сваімі дзецьмі, згадаў пра ўнука — найбольшую цяпер радасць для ягонай душы. Калі б не ўнук, то не было б у жыцці Лоўдача ні Пяцігорска, ні лермантаўскага санаторыя...

Экскурсію на конезавод беларус выбраў, напэўна, зыходзячы са сваёй вясковай цікаўнасці: хацелася пабачыць, якія яны, коні, на Паўночным Каўказе, чым адрозніваюцца ад тых, што ў Беларусі? Аднак тое, што ім паказалі і расказалі, было далёкім ад ранейшых уяўленняў пра магчымасці каня і яго ролю ў жыцці чалавека.

Жанчына-экскурсавод паведаміла, што Церскі конезавод быў створаны ў 1921 годзе па ініцыятыве Сямёна Будзённага і пастаўляў коней для бальшавіцкай арміі. З цягам часу патрэба ў гэтым адпала, і завод перавялі на вырошчванне спартыўных коней. У асноўным гэта коні чыстакроўнай арабскай пароды, самай старажытнай у гісторыі конегадоўлі. А калісьці арабскія скакуны нашымі продкамі не цаніліся з-за іх невысокага росту і гарачага тэмпераменту. Паўночны Каўказ лічыцца другой радзімай арабскага каня. Коні гэтага завода ідуць на экспарт у краіны Еўропы і Амерыкі. А багатыя людзі сёння дораць такіх прыгажуноў сваім абранніцам.

На мясцовым іпадроме ім паказалі гэтых скакуноў — хуткіх і моцных, гарачых і паслухмяных, разумных і высакародных, чые плаўныя, грацыёзныя рухі не могуць не выклікаць захаплення. Конь-легенда, конь-песня! Сцяпану запомнілася, што адзін скакун, гняды Пясняр — чамусьці вельмі беларускае найменне — быў прададзены за мільён долараў. Зрэшты, прадаваліся скакуны на аўкцыёнах і за большыя грошы. Многія з іх не раз станавіліся чэмпіёнамі на міжнародных спаборніцтвах і заваёўвалі ганаровыя прызы.

На завяршэнне экскурсіі ім дазволілі сфатаграфавацца з маладым белым конікам. Сцяпан бачыў, як Наталля Васільеўна, крыху прыжмурыўшыся ад сонца, абдымала яго за шыю.

На зваротным шляху яны таксама сядзелі разам. Аднак размова пайшла ў іншым рэчышчы.

— І з кім выпілі шампанскае? — хітравата ўсміхнуўшыся, спытала Наталля Васільеўна.

— Яно чакае жанчыну з Самары — а раптам яна змяніла свой погляд на гэты напітак?

— А калі не дачакаецца?

— Вернецца ў Маскву, у тыя самыя рукі, якія паклалі яго ў чамадан. Не буду ж я піць адзін.

— У такім разе я гатова дапамагчы, каб выслабаніць месца ў чамадане. Чакайце вечарам у госці.

— Вы жартуеце?

— Не. І, дарэчы, можа, нам хопіць «выкаць»?

— Згодзен.

Аднак вечарам Наташа не прыйшла. І Лоўдач падумаў, што ў аўтобусе яна ўсё-такі пажартавала. Ну што ж...

Раніцай Сцяпан сустрэў яе на сваім шостым паверсе. Самарчанка сядзела каля масажнага кабінета, чакаючы працэдуры. Як толькі ён наблізіўся, паднялася і, прывітаўшыся, прынесла яму прабачэнні:

— Даруйце. Не змагла прыйсці — пасля экскурсіі разбалелася галава. Але сёння маю намер абавязкова зайсці — калі не перадумалі...

— Не, я не перадумаў. Толькі ўчора мы дамаўляліся не «выкаць»...

— Добра.

Наперадзе ў яго быў цэлы дзень, каб падрыхтавацца да прыёму доўгачаканай расійскай госці. Ды якая патрэбна падрыхтоўка — у пакоі заўсёды парадак, да гэтага Сцяпан прывучаны змалку. І ўсё ж хацелася зрабіць нешта такое, што магло б спадабацца жанчыне.

«На вуліцы восень, і ў пакоі павінен быць восеньскі эцюд», — прыйшла ў галаву своечасовая і дарэчная думка.

Пасля абеду ён адправіўся на схіл Машука, назбіраў жоўта-залацістых лісцяў клёна, ясеня, каштана і іншых дрэў, наламаў галінак са спелай шыпшынай і глогам. Пакой быццам ажыў, знітаваўшы ў адзінае цэлае настрой прыроды і настрой пастаяльца-курортніка.

Ішла дзесятая гадзіна вечара, а госці зноў не было. І гаспадар пачаў злавацца на сябе — за сваю засяроджанасць на гэтым чаканні. Чаму ён жыве моцным жаданнем сустрэчы? Навошта яму абяцанкі-цацанкі самарчанкі? Што з ім адбываецца? Няўжо Сцяпан страціў кантроль над сабою?

Хваляванне, аднак, нарастала, і калі ўжо рэшткі цярпення былі на зыходзе, Сцяпан пачуў стук у дзверы.

— Заходзьце, адчынена, — падхапіўся Лоўдач і пайшоў насустрач.

— Добры вечар! Ці можна ў госці? — прыемны жаночы голас прагучаў неяк ціха, мякка і цёпла — і як ветлівае вітанне, і як знак шчырай прыязнасці.

— Прашу, прашу ў казённы дом, — жартам адказаў Сцяпан, зачыняючы за госцяй дзверы. — Лепш сесці на ложак, бо крэсла не вельмі зручнае. Зрэшты, гэта я госць у Расіі...

— О, які цудоўны букет! Такой прыгожай экібаны я яшчэ ніколі не бачыла. І японцы пазайздросцілі б...

— А ў цябе, здаецца, новая прычоска — ды такая класная!..

— Я толькі што з цырульні. Там была чарга, таму і затрымалася...

Наташа прысела на ложак — бліжэй да акна. Сцяпан дастаў з халадзільніка расійскае шампанскае «Исток» і купленыя на пяцігорскім базары яблыкі, з тумбачкі — порысты шакалад і цукеркі маскоўскай фабрыкі «Красный Октябрь», сеў побач з ёю.

— У казённым расійскім доме жыве новы беларус? — жартуючы, з намёкам на шыкоўны стол, спытала самарчанка.

— Новыя беларусы, як і новыя рускія, п’юць французскае шампанскае і адпачываюць на Канарах.

— А мне і ў Пяцігорску падабаецца. Гэта мой першы санаторны адпачынак.

Сцяпан акуратна зняў з бутэлькі блішчастую фольгу і стаў патроху паслабляць металічную закрутку, што ўтрымлівала пластмасавы корак. Неўзабаве корак бабахнуў у столь, адкуль на галаву Наташы пасыпалася вапна.

— Гэта падарунак ад новага беларуса, — пажартаваў воплавец і дадаў: — За расійскі кошт.

— Мне і сваёй пабелкі хапае, — таксама жартам адказала самарчанка.

— За што, Наташа, вып'ем?

— Шампанскае п'юць за сустрэчу.

— Значыць — за сустрэчу!

Пасля некалькіх глыткоў шампанскага абодва павесялелі, і размова пайшла лёгка і нязмушана, са стопрацэнтнай шчырасцю. Гаварылі пра ўсё і ні пра што — час не прыспешваў і ніякіх абавязкаў на іх не ўскладваў. Аднак неўзабаве Наташа змяніла ход застольнай бяседы нечаканай просьбай:

— Сцяпан, паразмаўляй, калі ласка, па-беларуску...

— Як гэта — паразмаўляй?

— Я хачу паслухаць, як гучыць беларуская гаворка.

— Можна, я прачытаю верш на беларускай мове?

— Гэта яшчэ лепш. Я люблю паэзію.

Лоўдач набраў поўныя грудзі паветра і выдыхнуў:

Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстанне з Вамі?
Я паблядней ад горкіх слёз
І трыялет пачаў славамі:
Мне доўгае расстанне з Вамі
Чарней ад Вашых чорных кос.

— Я ўсё разумею!.. А хто напісаў? Між іншым, і ў мяне былі косы. З імі я яшчэ прыехала ў інстытут. Праўда, косы былі светла-русыя...

— Максім Багдановіч, класік нашай літаратуры. Адна з самых яркіх зорак на небасхіле беларускай паэзіі. Дарэчы, ён некаторы час жыў на Волзе, у Яраслаўлі. А памёр у дваццаціпяцігадовым узросце ў Ялце.

— Такі малады і такі таленавіты... Пачытай яшчэ што-небудзь з яго твораў...

— Ёсць у Багдановіча радкі, — працягваў Сцяпан, — якія сталі народным рамансам:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла.
З гэтай пары я пачаў углядацца
Ў неба начное і зорку шукаў.
Ціхім каханнем к табе разгарацца
З гэтай пары я пачаў...

— Якая мяккая, мілагучная і цёплая мова! Як аксамітная маладая трава пад босымі нагамі, як перашэпт чароту і вярбы над ракою, як лёгкі павеў летняга ветрыку... І ты бліскуча чытаеш — за душу бярэ...

— Успомніў студэнцкія гады, калі завучваннем вершаў трэніраваў памяць.

— А мне падабаюцца вершы Аляксандра Пушкіна, Сяргея Ясеніна, Мікалая Рубцова, Юліі Друнінай, Андрэя Дзяменцьева. Раней, калі былі агляды заводскай мастацкай самадзейнасці, нават са сцэны чытала. Памятаю, за гэта і граматы давалі, і прэміі, — пахвалілася Наташа.

— Пачытай, калі ласка, сёння, — папрасіў Лоўдач.

— Не. Можа, калі-небудзь іншым разам. Я і так засядзелася. Што пра мяне падумае Ірына?!. Дарэчы, мы зямлячкі, яна з Тальяці, таму і пасяліліся ў адным пакоі. Дзякуй, Сцяпан, за цудоўны вечар! Ён мне запомніцца надоўга.

Самарчанка паднялася і накіравалася да дзвярэй. Устаў і ён. Сцяпану хацелася сказаць: «Пабудзь яшчэ...», але рашучасць Наташы шанцаў на гэта не пакідала. Ля выхада яна павярнулася і, прыгожа ўсміхнуўшыся, імгненна нахілілася да яго і пацалавала ў вусны.

— Да пабачэння! — сцішаным голасам прамовіла госця і хуценька зачыніла за сабою дзверы.

— Бывай, — ледзь паспеў сказаць услед ёй Сцяпан і прысланіўся спіною да шафы. Здалося, што пакой захістаўся, што вось-вось са століка пападаюць на падлогу чырванабокія яблыкі. Адчуў, што кружыцца галава. У ёй імкліва плылі, абганяючы адна другую, віравалі думкі, засяродзіцца на якіх ён не мог. Божа! Чаму яму цяпер так хораша і адначасова сумна? Адкуль бяруць выток і куды плывуць яго светлыя пачуцці?

У начной санаторнай цішы яшчэ былі чуваць Наташыны крокі. Якая несправядлівасць! — калідор шостага паверха цяпер быў шчаслівейшы за яго, Лоўдача, бо ён, гэты калідор, бачыў Наташу, нёс яе ногі, адчуваў іх цяпло...

Ты уходишь в ночь по коридору,
Лёгок и таинственен твой путь...
Новой встрече быть ещё не скоро,
Этой встречи больше не вернуть…

Чые гэта радкі? Не, аўтара ён успомніць не мог. Няўжо яны зусім не чужыя, а нарадзіліся ў ягонай душы?.. Нічога падобнага за сваё жыццё Сцяпан прыпомніць не мог, ніколі нічога яму не рыфмавалася...

Перад сабою Сцяпан бачыў толькі воблік Наташы, яе сонечную ўсмешку. Усяго некалькі хвілін назад яна была побач з ім — такая блізкая і такая жаданая жанчына! Ён зрэдку, крадком, кідаў позірк на яе прыгожыя круглыя калені і ледзь стрымліваў дрыжыкі ў сваіх...

Стала горача, па шчаках пацяклі кроплі поту. Прылёг на ложак, аднак хутка падхапіўся і выйшаў на балкон, каб папрасіць у ночы глыток свежага паветра.

Курортны горад мірна, хоць і насцярожана, спаў, нічога не ведаючы пра пачуцці вандроўніка-беларуса. Ці ён тут першы, каму закружылася галава ад мінеральнай вады і жаночых чараў?

У высокім каўказскім небе ў зорнай славе Сусвету купаўся гарэзлівы, шчаслівы маладзік.

**18**

Пяцігорская восень шчодра складвала ў скарбонку Сцяпанавай душы бурштынавыя гронкі новых уражанняў і пачуццяў. І ўсе яны — можа, за

рэдкім выключэннем, — чамусьці нанізваліся на адну нітачку, якая звязвала яго з Наташай. Кожная сустрэча з ёю прыносіла Лоўдачу ўнутранае хваляванне, кожнае яе слова адгукалася ў яго істоце трапяткім, працяглым рэхам.

Праз дзень пасля сумеснага вячэрняга застолля ён сустрэў расіянку ў фае, дзе фатограф санаторыя раздаваў здымкі з экскурсіі на конезавод.

— Сцяпан, ты не пакрыўдзіўся на мяне за мае ненармальныя, нясціплыя паводзіны? Прабач, калі ласка, — крыху пачырванеўшы, звярнулася да яго Наташа.

— Адхіленняў ад нормы не заўважана, — шчыра адказаў беларус.

— А на Машук яшчэ пойдзеш? Вазьмі мяне з сабою, — папрасіла самарчанка. — Я адна ісці туды баюся, а Ірына не хоча.

— А сіл хопіць? Як-ніяк — да вяршыні 993 метры.

— Хопіць... Дарэчы, можна выкарыстаць канатную дарогу. На вяршыню гары падымемся ў фунікулёры, а назад вернемся пеша.

У фунікулёры яны былі толькі ўдваіх — ці то выбралі такі бязлюдны час, ці то пяцігорскія курортнікі пасля тэракта баяліся выходзіць за межы санаторнай тэрыторыі.

Над горадам, апавітым лёгкай блакітнай смугой, якая быццам хавала яго будзённыя клопаты і трывогі, плыло спакойнае восеньскае сонца. У яго промнях на вяршыні гары блішчаў востры шпіль антэны мясцовага тэлецэнтра. А схіл Машука з вышыні канаткі нагадваў сабою вялізны стракаты дыван — з рознакаляровымі, зыркімі плямамі зялёнага горнага кустоўя, жоўтых і барвовых кронаў ліп, клёнаў, ясеняў, грабаў, дубоў, таполяў, іншых дрэў.

— Нехта мудры слушна зазначыў, што жыццё — не колькасць пражытых гадоў, а колькасць уражанняў. Болей за ўсё мне хочацца падарожнічаць, — задумліва прамовіла Наташа. — На вялікі жаль, мала дзе была. Спадзяюся, што калі-небудзь гэта ўдасца.

— Спатрэбіцца кансультацыя географа, каб выбраць цікавы маршрут, — можаш звяртацца да мяне. Зрэшты, я згодзен быць і тваім спадарожнікам, — пажартаваў Сцяпан.

— Пра гэта можна толькі марыць, — шматзначна сказала самарчанка.

Каля вяршыні Машука яны агледзелі абеліск на магіле вядомага даследчыка каўказскіх гор, географа і тапографа А.Пастухова. Сцяпан звярнуў увагу Наташы на тое, што гэтаму помніку ўжо роўна сто гадоў (у Лоўдача захавалася ўчэпістая памяць на даты).

— Уяўляеш, калісьці сюды нехта падняўся першы і першы ўбачыў хараство горнага наваколля. І, мабыць, тады яму прыйшла ў галаву думка пабудаваць ля падножжа Машука горад, — выклаў сваю гіпотэзу беларус.

— А нехта быў і трынаццаты, — падхапіла размову расіянка.

— Быў і трынаццаты, і мільённы. І пасля нас з табою сюды будуць падымацца людзі. Толькі б не засмечвалі гару, не разводзілі ў лесе кастры дзеля шашлыкоў. Куды ні ступі, — пустыя бутэлькі, бітае шкло. А колькі ўжо было пажараў!.. Я сам бачыў вялікія лапіны чорных слядоў ад іх. Трынаццаты вандроўнік, можа, і меў права развесці тут вогнішча, каб сагрэцца ад холаду ці прыгатаваць на агні ежу. Але чым растлумачыць сённяшні вэрхал на гары? Так што трынаццаты наведвальнік Машука ў параўнанні з сучаснымі гвалтаўнікамі прыроды быў, па-мойму, анёл.

— Я проста не люблю лічбу 13, — прызналася Наташа. — У мяне з ёю звязана штат непрыемнасцей. Чакаю чарговую. 13 кастрычніка ў мяне апошні санаторны дзень, і я ад'язджаю...

— А на Беларусі не баяцца гэтай лічбы. Калі беларус будуе драўляны дом, то ў ім абавязкова будзе 13 «вянкоў». Нашы цесляры знарок спыняюцца на такой вышыні.

— Чаму?

— Не ведаю. Гэта даўняя традыцыя. У Сусвеце шмат неразгаданых загадак. Каардынаты чалавечага жытла, напэўна, адлюстроўваюць адну з таямніц Вечнасці. Можа быць, гэта паменшаны выгляд Сусвету і Вечнасці.

— Цікава...

— Сакрэт схаваны ў тым, што жыллёвую прастору хаты апаясваюць не больш і не менш, а дванаццаць вянкоў (столькі сузор'яў ахоплівае гадавы шлях сонца, які доўжыцца якраз столькі месяцаў). Трынаццаты вянок, які замыкаў зруб, ужо не належаў гаспадару хаты. З яго распачыналіся каардынаты зусім іншага свету — гарышча, якое, па народных уяўленнях, з'яўлялася прыстанішчам сіл Цемры, Смерці, усялякіх нячысцікаў. Толькі там ім адводзілася месца!..

З Машука яны нетаропка спускаліся па асфальтаванай дарозе. Бадай, менавіта яна прынесла гары шматлікія беды, характэрныя для урбанізацыі — эпохі маштабнага і бяздумнага гаспадарання.

— У жыцці шмат дарог. Галоўнае — знайсці, выбраць тую, якая вядзе да шчасця, — пачала выкладаць свае філасофскія погляды Наташа.

— Налева пойдзеш — знойдзеш шчасце маленькае, пойдзеш направа — крыху большае, а пасярэдзіне пойдзеш — любое, якое хочаш, знойдзеш, — успомніўшы вясёлую прымаўку, даў параду Сцяпан.

— Раіш ісці прама, не збочваць? Але так я іду ўжо дваццаць гадоў, а яго ўсё няма і няма...

— Значыць, твой шчаслівы час яшчэ наперадзе.

— У госці ты мяне болей не запрашаеш...

— Яшчэ не вечар.

— Мне вельмі хочацца, каб аднойчы адбыўся цуд — і я атрымала ад цябе пісьмо... Ты напішаш мне, праўда? Напішаш?

— Я не люблю пісаць лісты. Здаецца, апошні раз пісаў з арміі. Ну што я пра сябе напішу? — І Сцяпан зноў перавёў размову на жарт: — Ды і патрэбен пісьмовы дазвол ад мужа...

— Жартуеш, а я сур'ёзна...

— Лепей прыязджай у Беларусь, у наш сінявокі край.

— На деревню к дедушке — як у Чэхава?

— Я ж не дзіця, каб пускаць мыльныя бурбалкі. Гэта вельмі проста: купляеш білет да чыгуначнай станцыі Ліда. Ёсць такі горад у Беларусі — запомніць, думаю, няцяжка. Адтуль да Воплава 30 кіламетраў. У суботу і нядзелю ходзіць маршрутны аўтобус.

— Я прыехала б... Толькі назусім, назаўсёды... — І самарчанка пaглядзела Сцяпану ў вочы.

Гэта было вельмі падобна на праўду — у яе позірку ён прачытаў надзею, зразумелую пакуль што адной ёй.

— Прыязджай.

— А ты не паспееш за час нашай ростані ажаніцца?

— Не.

— Абяцаеш?

— Абяцаю.

Лоўдач адчуў: у гэты момант у яго жыцці адбываецца нешта важнае, бо яшчэ ніколі і нікому ён ніякіх абяцанняў не даваў. Што, з яго языка проста

сарвалася гарачае слоўца? Не, падману збоку беларуса не было — ён сапраўды не збіраўся жаніцца. Але навошта Наташы гэтае абяцанне? Сцяпан не любіў высокіх слоў, раней абыходзіўся без іх, а тут не стрымаўся — відаць, так трэба было. «Толькі памятай, дружа, — звяртаючыся да самога сябе, падумаў, — што абяцанне — тая ж самая клятва, ад чаго адступацца нельга. Той, хто просіць твайго цвёрдага слова, адказнасці за яго не нясе. А ты мусіш здзейсніць абяцанае, інакш станеш пустабрэхам».

Некалькі хвілін яны ішлі моўчкі, засяроджана абдумваючы кожны сваё. Хутчэй за ўсё, абодва пракручвалі ў памяці папярэдні дыялог.

Перад іх вачыма стужка асфальту рабіла круты паварот. Напэўна, такі ж круты паварот лёс рыхтаваў кожнаму з іх у далейшым жыцці, пасля санаторнага адпачынку...

— Наташа, давай пойдзем па горнай сцяжыне — будзеш таптаць асфальт у сваёй Самары, — прапанаваў Сцяпан. — Не бойся, я ўжо хадзіў па гэтай сцежцы. Мы выйдзем каля санаторыя «Ленінскія скалы», заадно пакажу табе партрэт Леніна на скале.

— Хочаш яшчэ адзін ленінскі ўрок даць? — перайшла на іранічны тон Наташа. — Дык я і так з моцнай ідэйнай загартоўкай — у інстытуце была камсамольскай актывісткай.

— Кінь пустое гаварыць...Лепш дай руку — буду падтрымліваць, бо тут ёсць цяжкаватыя спускі, — шчыра паклапаціўся пра сваю спадарожніцу Лоўдач.

Павярнуўшыся да яго і хітравата ўсміхнуўшыся, Наташа працягнула яму наўмысна адразу абедзве рукі:

— Выбірай любую...

Беларус не разгубіўся і выставіў насустрач, далонямі ўверх, свае рукі:

— Надзейнасць гарантую! — упэўнена заявіў ён.

Наташа даверліва паклала свае прыгожыя, з доўгімі, як у піяністкі, пальцамі, рукі ў шурпатыя мужчынскія далоні, якія не цураліся фізічнай працы і толькі цяпер, у санаторыі, атрымалі кароткую перадышку. Мяккае жаночае цяпло пачало паступова, двума ручайкамі, пераплываць у нябачнае возера Сцяпанавай душы, якое з радасцю прымала гэтыя прытокі і напаўнялася імі да самых берагоў.

— Сцяпан, прыпыніся, калі ласка, — папрасіла Наташа. — Давай паслухаем, пра што шэпча Машук. Мабыць, ён — сапраўды чараўнік: мне даўно так лёгка не дыхалася.

Іх позіркі зноў сустрэліся, і нават мудры Машук наўрад ці здолеў бы разабрацца, у чыіх вачах цяпер было болей любасці і замілавання — хутчэй за ўсё, ён прызнаў бы раўнавагу.

Як і ў той вечар у санаторным пакоі на шостым паверсе, Наташа нечакана наблізілася да воплаўца і, моцна абняўшы за шыю, прыпала да яго сухаватых, абветраных губ, аддаючы пацалунку ўсю сваю пяшчоту. На гэты раз і Сцяпан адказаў узаемнасцю, прагна ловячы яе салодкія, трапяткія вусны. Да яго даўно не тулілася жаночае цела — лёс удаўца гэта не прадугледжвае. А цяпер яно цягнулася да яго, аддаючы сваю энергію і выклікаючы сустрэчны рух. У яго абдымках было маладое, моцнае цела, якое яшчэ не растраціла сваіх жыццёвых сіл і сваёй цеплыні. Ён адчуваў гарачыя Наташыны грудзі, яе ўстрывожаныя, дрыготкія калені...

Прыцяжэнне цел — лепшая песня без слоў, якая выконваецца дуэтам!..

— Ой, што мы, дарослыя людзі, робім?!. — расіянка рэзка адкінула галаву назад, апусціла рукі і, крыху аддыхаўшыся, стала папраўляць прычоску.

— З табою, Сцяпан, небяспечна... На мяне нейкае памутненне находзіць... Пайшлі хутчэй да Леніна — з ім будзе спакайней...

Абодва зарагаталі — спачатку воплавец, потым да яго далучылася самарчанка.

Аднак і на смех, і на сустрэчы ўвогуле часу ў іх заставалася мала. Яны разумелі непазбежнасць хуткага расставання, але ў размовах стараліся не закранаць гэтую цяжкую тэму. І ўсё ж набліжаўся момант, калі з пяцігорскага вакзала павінен быў адправіцца цягнік з пасажыркай Наталляй Васільеўнай Панінай — адзінай жыхаркай Самары, якую ведаў беларус Лоўдач. Яму яшчэ можна было на працягу трох санаторных дзён піць нарзан, хадзіць на Машук, а ёй настаў час складваць чамадан і рыхтавацца да сустрэчы з сям'ёю...

...Раніцою ў дзень ад'езду самарчанкі Сцяпан заспаўся, таму не хадзіў ні ў бювет, ні ў сталоўку. Уначы доўга не мог заснуць — мо сто разоў пераварочваў пад галавою падушку, круціў-перакручваў коўдру, а то і зусім скідваў яе з ложка, сам качаўся з боку на бок, а сон не браў: перад вачыма праплывалі кадры сапраўднага, жывога кіно, падзеі якога разгортваліся ў лермантаўскім санаторыі і галоўнай гераіняй якога была Наташа. А калі, нарэшце, ён выпрасіў у Бога збаўленне ад начных пакут, то праваліўся ў сон, нібы ў бездань.

Прачнуўся Лоўдач ад стуку ў дзверы. Заспаны, няголены-нямыты, ён не захацеў падняцца і адчыніць іх. І толькі праз хвіліну схамянуўся: «А раптам тут была Наташа?..» Ад гэтай думкі яго кінула ў жар, ён імгненна ўспацеў і, заскрыгатаўшы зубамі ад злосці на сябе, ускочыў на ногі. Дзесьці ў канцы калідора яшчэ былі чутны лёгкія, ціхія крокі — несумненна, гэта былі крокі жанчыны.

«Нічога кепскага не адбылося, я сам зайду да яе», — падумаў воплавец і, дастаўшы з тумбачкі электрабрытву, пачаў галіцца. З люстэрка на яго пазіраў насуплены, зморшчаны твар з цёмнымі складкамі-мяшкамі пад вачыма, чаго ён даўно за сабою не заўважаў. «Ну і фізіяномія — як у малпы, вышэйшы клас! Паратунак — або камень, або прас...» — згадалася даўняя, злая вясковая жартоўка. О, дарэчы, яму на самай справе патрэбен прас, каб пагладзіць штаны: за час санаторнага жыцця ён гэты агрэгат у рукі не браў.

Крыху перакусіўшы таго-сяго з халадзільніка, Сцяпан пайшоў да дзяжурнай прыбіральшчыцы. Тая развяла рукамі:

— Ужо разабралі лепшыя, засталося адно ламачча. Глядзі, можа, выбераш з таго, што ёсць...

У вёсцы ён не раз рамантаваў і свой, і суседскія электрапрасы, таму доўга не прыглядаўся — маўляў, калі што не так, то сам майстар.

У бытавым пакоі было спецыяльна адведзенае для прасавання месца, туды Лоўдач і накіраваўся са сваімі порткамі ад касцюма, купленага перад паездкай да дачкі. Да гэтага моманту яны яшчэ ні разу не бачылі праса. Намачыўшы пад кранам марлю, Сцяпан звыклым рухам расцягнуў яе ўздоўж адной штаніны і паставіў на яе электрапрыбор. Вада пад ім засквірчэла, як скварка на патэльні, а марля імгненна прыклеілася да штаніны. Калі Сцяпан падняў прас, то жахнуўся: кавалак белай матэрыі стаў рыжы. Стала зразумела, што порткі, якія адзяваў усяго пару разоў, спалены. Вось дык фарсануў!

У роспачы вярнуўся ў свой пакой.

Выйсце бачылася адно: купіць на базары новыя порткі, каб было ў чым даехаць да Масквы, а потым у Воплава. Не раздумваючы, сеў у «маршрутку» і паехаў да пяцігорскіх гандляроў.

Сцяпан не любіў барахолкі са студэнцкай пары, калі самому даводзілася выбіраць сабе абновы. Потым пра яго знешні выгляд клапацілася Ларыса, і яму падабаўся яе густ: усё купленае на ім сядзела, як сшытае персанальна для яго. Часам да бацькавых абновак далучалася дачка. Кансультантаў, якім Лоўдач мог бы даверыць выбар пакупкі, тут не было. Пасля некалькіх прымерак ён зразумеў, што на яго 173 сантыметры росту цяпер порткі не шыюць — усё, што яму больш-менш падыходзіла з прапанаванага, было на рост 176. Маладая гандлярка, якая доўга ўгаворвала купіць менавіта яе тавар, параіла:

— Гэта не праблема! Тут, на базары, ёсць атэлье, дзе падкароцяць за пяць мінут.

— Праўда, корпаліся там не пяць мінут, а паўгадзіны, але Сцяпанаву праблему сапраўды вырашылі.

Да адыходу поезда на Самару заставалася мінут сорак, і Лоўдач разгубіўся — ён так і не развітаўся з Наташай, а пакуль даедзе з базара да санаторыя, то яна ўжо можа адправіцца на вакзал. Успомніў, што расіянка выпадкова, у час прагулкі на Машук, называла нумар вагона — сёмы. «Значыць, яшчэ ёсць шанц», — абнадзеіў сябе беларус. Рашэнне было прынята імгненна: трэба купіць кветкі і на таксі ехаць адразу на вакзал.

Каўказскі кветкавы базар быў гатовы задаволіць любы яго заказ: выбірай, чалавеча, што душа пажадае. А яго душа свой выбар зрабіла, мабыць, раней: вядома ж, — ружы, і самыя прыгожыя, самыя свежыя... Адно не ведаў — колькі штук. І тут нешта цюкнула яму ў галаву: «Я сустрэў Наташу 25 верасня. Дык што тут думаць — 25!»

Пасадка на цягнік ужо ішла, і яшчэ здалёк ён заўважыў мітусню каля сёмага вагона. «Дзякуй Богу, паспеў», — супакоіў сябе Сцяпан і крыху сцішыў хаду.

Наташа стаяла без чамадана — напэўна, ужо ўладкавалася ў сваім купэ і выйшла на платформу. Побач з ёю была Ірына.

Самарчанка ўбачыла беларуса з кветкамі ў руках, і яе твар умомант стаў ружовы — як колер ружаў, якія ён нёс.

— Гэта табе, Наташа, — сказаў Сцяпан. — Так загадаў майму сэрцу Каўказ...

— Вялікі дзякуй! — ціха прамовіла расіянка, прымаючы вялізны духмяны букет. — Мне яшчэ ніхто столькі ружаў не дарыў.

Сцяпан моўчкі пацiснуў плячыма.

— Сёння я тройчы заходзіла на шосты паверх, каб развітацца, але ў пакоі цябе не было. Як быццам хаваўся ад мяне.

— Не, я ў хованкі даўно не гуляю, — усміхнуўся Сцяпан. Не мог жа ён расказаць ёй праўду пра свае недарэчныя прыгоды.

— А я ўжо думала, што мы не ўбачымся...

Ірына тут была трэцяй лішняй і, зразумеўшы гэта, развіталася з беларусам і паднялася ў вагон.

Што сказаць адно аднаму на развітанне, воплавец і самарчанка не ведалі. Сцяпан адчуў, што ў горле нарастае камяк, які не дасць прамовіць ні слова.

Няведама колькі доўжылася б іх маўчанне, калі б праваднiца не папрасіла ад'язджаючых зайсці ў вагон. Наташа расчулена сказала:

— Дзякуй табе, Сцяпан, за ўсё-ўсё. У Пяцігорску я была амаль тры тыдні шчаслівая. — Яна цмокнула яго ў шчаку, а потым пацалавала ў губы. — Пакіну табе на памяць хоць памаду, — усміхнулася, на гэты раз

нейк сумна, і, цяжка ўздыхнуўшы, пачала падымацца з ружамі па вагонных прыступках. У тамбуры прыпынілася і павярнулася да Сцяпана. У вачах самарчанкі бліснулі кропелькі слёз. Хаваючы іх, яна памахала яму рукой і пайшла ў вагон.

Лоўдач адчуў, што і сам можа не стрымацца: жаласць перапаўняла і абсягі яго душы.

Электравоз даў працяжны гудок, зрушыў пасажырскі састаў з месца і пачаў набіраць хуткасць.

Сцяпан яшчэ доўга стаяў на платформе, пазіраючы ўбок цягніка, пакуль той не знік у шэрані позняга адвячорка, за маўклівым хрыбтом каўказскіх гор, з якіх на горад паволі спаўзалі цёмныя дажджавыя хмары. Толькі цяпер да яго свядомасці дайшло, што гэты поезд павёз яго вялікую радасць, а мо і штосьці большае, пакінуўшы яму не толькі Наташыну памаду, але і глыбокую, невычэрпную тугу...

Тры апошнія санаторныя дні бясконца ліў халодны кастрычніцкі дождж, дарэмна спрабуючы астудзіць гарачую кроў курортніка-беларуса.

## 19

У Маскве Сцяпан пераначаваў усяго адну ноч і заспяшаўся на радзіму. Ён не мог тут быць ніводнай лішняй гадзіны, каб не выкрыць сябе з галавою. Дачка і так адчула ў ім перамену, спытала, як быццам ведала ўсё-ўсё пра яго курортныя паводзіны:

— Ну што, татачка, цяпер не шкадуеш, што паехаў у санаторый?

— Час пакажа, — па-філасофску адказаў бацька.

Яму сапраўды стала лепш, але што тут дзіўнага — больш за месяц без усялякай працы, пагультайнічаў, як ніколі раней.

Перад ад'ездам на вакзал яны некалькі гадзін гулялі ў парку з унукам, якому соладка спалася на свежым паветры ў цёплай калысцы на колах.

— Таня, прыязджай на ўсё лета ў Воплава — і для Ванькі будзе добра, і мне весялей, — папрасіў Сцяпан.

— Калі нічога не здарыцца, то абавязкова прыеду. Толькі ты не вешай нос, не сумуй...

Воплава сустрэла Лоўдача з «кошыкам» навін. Іх падрабязна пераказаў яму Сяргей Стадолік, які па-суседску прыняў на час адсутнасці Сцяпана клопаты з ягонай «птушкафермай»:

— Арыштавалі за хабар Тужыка... Застрэлілі ў пад'ездзе дома Швайку... У бальніцы з невылечнай хваробай ляжыць Галіна Антонаўна... Дачка Ніны Лапосік выходзіць замуж за мінскага футбаліста — вяселле праз тыдзень... У вёску па аўторках прыходзіць прыватная аўталаўка з Ліды — малады камерсант прывозіць хлеб, макароны, іншы харч, і ў яго танней, чым у сельскай краме... Шасцёра састарэлых воплаўцаў збываюць сваіх кароў... А цябе, Сцяпан, між іншым, учора шукаў дырэктар Суслаўскай школы Генадзь Віктаравіч Дашкевіч: зламала нагу настаўніца гісторыі, і ён хацеў, каб ты яе часова падмяніў...

Першы тэлефонны званок быў якраз ад яго:

— Сцяпан Іванавіч, выручай. У Сабіны Станіславаўны цяжкі перапом нагі, і на працу яна выйдзе праз месяцы тры, не раней.

— У якіх класах яна вяла ўрокі?

— У старэйшых, у тым ліку выпускным.

— Добра. Буду рыхтавацца, — пагадзіўся Сцяпан.

Са старшакласнікамі яму працаваць не даводзілася, і таму прапанова спадабалася. Ды і што выбіраць — ён жа беспрацоўны...

Пад вечар таго ж дня Сцяпан схадзіў на могілкі. Захацелася ачысціць сваю душу, папрасіць у жонкі прабачэння за пяцігорскі кавалак жыцця, які ён пражыў, нібы ў гарачцы, здрадзіўшы яе светлай памяці. Але Ларыса чамусьці глядзела на яго з надмагільнага фота-медальёна стрымана, без ценю асуджэння, без грама дакору, і ад гэтага яму стала не па сабе. «Што ж ты маўчыш, Ларыса? Аблай мяне, спапялі сваім позіркам. І даруй...» — яго стрывожанае, зрушанае са спакойнай жыццёвай каляіны сэрца шчыра прынесла сюды пакаянне і гатова было прыняць самую суровую кару. Маўчалі і бацькі, якія ляжалі побач з Ларысаю, быццам і яны не бачылі нічога дрэннага ў яго паводзінах на далёкім адсюль Каўказе...

З чым хадзіў на могілкі — з тым і вярнуўся дадому: адчуванне віны перад жонкай не знікла, душэўнага спакою пакаянне не дало...

На працу ў Суслаўскую школу Сцяпан ездзіў на калгасным аўтобусе, які падвозіў на заняткі воплаўскіх дзяцей. Але аднойчы, затрымаўшыся на педсавеце, быў вымушаны дабірацца дадому пеша.

Калі падыходзіў да Воплава, на веласіпедзе яго абагнала Валя Красунька. Параўняўшыся, прывіталася, праехала некалькі метраў наперад, аднак спынілася і стала цягнуць «велік» у руках. Было відаць, што зрабіла яна так наўмысна, каб пагаварыць са Сцяпанам. Звычайна пры сустрэчах яны толькі віталіся, ніякіх размоў не завязвалі, каб не даваць воплаўцам падстаў плявузгаць языкамі. Цяпер сведкаў побач не было, і Валя асмелілася сказаць тое, што, напэўна, даўно насіла ў душы, хоць і пачала гутарку здалёк:

— Цябе так доўга не было ў вёсцы... Няўжо ў прымакі падаўся?

— Навошта мне прымачыць, калі я сваю хату маю? А быў я ў дачкі, хацелася пабачыць унука.

— І як яна там у Маскве жыве? Якое імя ўнуку далі?

— Дзякаваць Богу, усё нармальна. А ўнука назвалі ў гонар прадзедаў — Іванам. Сышлося так з абодвух бакоў — ад беларускай і маскоўскай радні.

— Няхай расце здаровенькі!

— Дзякуй.

Сцяпану кінулася ў вочы, што Валя хвалюецца, як быццам чымсьці занепакоена.

— А ты адкуль едзеш? — спытаў са спадзевам на тое, што сітуацыя неяк праясніцца.

— У Суслаўскай амбулаторыі праводзілі раённы семінар сельскіх медработнікаў, — паведаміла Валя. — Дарэчы, можаш павіншаваць — мяне ўзнагародзілі Ганаровай граматай.

— Віншую, — шчыра сказаў Лоўдач. — І жадаю новых поспехаў на ніве аховы здароўя воплаўцаў.

— Буду старацца, але працую я не дзеля грамат, — адказала на віншаванне Валя і, павярнуўшыся да яго, гледзячы яму прама ў вочы, выдыхнула галоўнае: — Сцяпан, давай жыць разам... Я цябе ўсё жыццё кахаю... А людзі ў Воплаве нас зразумеюць...

Такога павароту лёсу Лоўдач не чакаў. Гэта быў яшчэ адзін удар па Сцяпанавым сэрцы — Валіны словы білі ў яго самую балючую кропку.

— Я пра гэта не думаў, — пасля кароткай паўзы, сказаў ён.

— А ты падумай. І не спяшайся з адказам... Я прыспешваць не буду,

пачакаю. — Валя зноў уселася на веласіпед і, не азіраючыся, нетаропка паехала, пакінуўшы Сцяпана сам-насам.

Што ён мог сказаць? Ларысіна рана да гэтай пары не зажыла і, пэўна, не зажыве ніколі. Дык ці варта яе вярэдзіць, калі боль і так не адпускае?!.

Успомнілася старажытная ісціна: «У адну раку нельга ўвайсці двойчы». Прапанова Валі супярэчыла гэтай ісціне, катэгарычна не прымала, адпрэчвала яе.

О, жыццё віхурнае, жыццё непрадказальнае! Што ты вырабляеш з чалавекам?!

Рэха першага, самага гарачага, самага пяшчотнага кахання, ад якога не адзін год кружылася Сцяпанава галава, не сціхла, не згубілася, не забылася сцежку да яго душы...

Валя шчыра захацела павярнуць кола свайго лёсу ў той бок, куды павінна было прыкаціцца даўным-даўно. Ці ж не мела яна на гэта права, пакутуючы амаль тры дзесяткі гадоў ад жорсткай несправядлівасці, ад адзінага выпадку, які зрабіў яе няшчаснай?

Сцяпан разумеў стан яе душы, спачуваў ёй, але на большае пайсці не мог: разбітую крыштальную вазу можна склеіць, але чаго яна вартая? Калі і заставаўся цяпер у яго сэрцы свабодны куточак для сумеснага жыцця з жанчынай, то, мабыць, гэты быў куточак толькі для Наташы.

У Воплаве Сцяпан часта згадваў прагулку з расіянкай на Машук і яе дзіўнае пытанне: «Абяцаеш?», на якое тады адказаў не раздумваючы: «Абяцаю». І толькі ў роднай вёсцы да яго дайшло: «Пра якое абяцанне ты, Лоўдач, успамінаеш, калі нават не ведаеш, не спытаў Наташынага адраса? Ды і не забывай, што яна — замужняя жанчына...»

«Падменныя» ўрокі ў Суслаўскай школе патрабавалі грунтоўнай падрыхтоўкі, і гэта памагло Лоўдачу крыху супакоіцца, цвяроза ацаніць сваю неспадзяваную вандроўку на Паўночны Каўказ.

Што ж адбылося з ім у Пяцігорску? Чаму ўвесь час думае пра Наташу? Чаму так пільна ўглядваецца ў тэлекадры з Самары? Эх, Самара-гарадок!.. Сцяпан ніколі там не быў і не збіраўся туды ехаць, а цяпер яго сэрца рвалася на бераг Волгі. Нават злавіў сябе на думцы: «САМАРА — САМАЯ СВЕТЛАЯ МАРА!» Але гэта сапраўды была толькі прыгожая мара, бо знайсці Наташу можна хіба што паехаўшы ў яе горад. Але ці патрэбная ёй сустрэча з воплаўцам?

Неяк Сцяпан прачытаў у газеце пра курортныя раманы: усяго тры працэнты з іх маюць шчаслівы фінал. А як назваць тое, што было ў яго з Наташай? Санаторнае знаёмства на раман ніяк не цягне: вельмі блізкіх, інтымных адносін паміж імі не было. Можа, паэма? Паэма пра дзівака-беларуса і бялявую самарчанку, якія не ведалі, чаго хочуць? Ці кароценькі раманс пра нешта прыгожае, рамантычна-загадкавае, што пасялілася ў душы разам са светлай тугой? Але які сэнс цяпер варушыць вугалькі кастра, ля якога яны нават не паспелі добра сагрэцца?

Сцяпану хацелася аднаго: каб тое, што падарыла яму пяцігорская восень, не знікла, не пакінула яго сэрца. Успаміны пра Наташу хоць крышачку абнадзейвалі ўдавецкае жыццё, падказвалі, што яно — не зусім беспрасветнае. Трэба толькі гнаць прэч ад сябе нуду, даць бой гультайскаму прынцыпу «абы дзень да вечара», шукаць занятак для рук і для душы.

«Апірышча ў мяне яшчэ даволі моцнае — дачка і сын, унук, такая-сякая гаспадарка. Усё астатняе ў руках Бога: што ён пашле, тое і прыму», —

менавіта такой жыццёвай філасофіяй узброіў сябе Лоўдач пасля вяртання з Пяцігорска, яна і вызначала яго штодзённы настрой.

Амаль тры месяцы Сцяпан вёў урокі ў Суслаўскай школе, з радасцю зноў уцягнуўся ў настаўніцкія клопаты, атрымліваючы ад працы, хоць і часовай, маральнае задавальненне. Калі пасля зімовых канікул выйшла «з бальнічнага» Сабіна Станіславаўна, дырэктар школы Ґенадзь Віктаравіч нечакана прапанаваў яму папрацаваць да вясны выхавацелем у прышкольным інтэрнаце, дзе на перыяд маразоў жылі вучні з аддаленых вёсак. І гэты варыянт Сцяпан Іванавіч прыняў без ваганняў, палічыўшы яго таксама за невялікі падарунак лёсу, бо найцяжэй адзінокаму чалавеку якраз узімку, калі бясконца доўгімі вечарамі не ведаеш куды сябе падзець — альбо глядзіш да асляплення тэлевізар, альбо чытаеш кнігу.

Каб дзеці былі навідавоку, ён і сам мусіў жыць у інтэрнаце. У родную вёску наведваўся толькі на выхадныя дні, каб прапаліць у печы і абагрэць хату, якую зімовая сцюжа выстуджвала так, што ледзянелі вокны.

З пачатку красавіка вучняў зноў сталі падвозіць у школу на калгасным транспарце, інтэрнат ім ужо быў не патрэбен, і Сцяпан вярнуўся ў Воплава.

Суседзі ашаламілі яго весткай: іх колішнюю васьмігодку выкупіў нейкі фермер, які завёз у цагляны будынак школы тры сотні курэй, а сам з жонкай пасяліўся ў старым, драўляным школьным будынку. Настаўнікі-пенсіянеры напісалі скаргу-пратэст на імя старшыні сельсавета: няўжо нельга было прыдумаць іншае, больш разумнае выкарыстанне былых школьных памяшканняў?! А той маўчыць, нібы яму рот заклеілі, бо, відаць, сам і ўчыніў, не без карысці для сябе, гэтую агідную справу.

— Трэба ж было да такога глупства дадумацца! Школа дала краіне генерала, двух палкоўнікаў, прафесара-хіміка, дыпламата, паэта, некалькіх выдатных урачоў, шмат настаўнікаў і аграномаў, а ён, цемрашал, употай, крадком прадаў яе, — абуралася, сустрэўшыся з Лоўдачам на вуліцы, Ганна Мікалаеўна. — Ён яшчэ пачэша сябе ў адным месцы: на наступных выбарах мы яму дулю ў бюлетэнях намалюем!

— Ганна Мікалаеўна, калі тыя выбары будуць? Не адзін цэбар рассохнецца, — паспрабаваў жартам супакоіць яе Сцяпан. — Людзі сёння жывуць адным днём, хапаюць усё, што трапляецца пад рукі, што кепска ляжыць...

— Я напішу ліст міністру, прапаную адкрыць у былой школе краязнаўчы музей. Ты паможаш стварыць яго, Сцяпан Іванавіч? — не магла стрымаць свае эмоцыі Ганна Мікалаеўна.

— Ідэя цікавая, ды і матэрыялаў мы калісьці для школьнага музея сабралі багата. Аднак хто ўжо аддасць нам школу, калі яна перайшла ў прыватныя рукі?

— Аддадуць, нікуды не дзенуцца! — працягвала бескампрамісна абараняць воплаўскую «акадэмію» яе былая выкладчыца, хоць, можа, і сама ўжо не надта верыла, што ёсць шанц «выкурыць» адтуль курыную ферму.

Але не прайшло і паўгода, як на месцы вясковага храма ведаў засталіся адно галавешкі ды чорны цагляны шкілет: у пачатку верасня, позняй ноччу, яна ўспыхнула неўтаймоўным полымем, пакінуўшы воплаўцам толькі горкія ўспаміны. Гора-фермер, п'яны, заснуў у пасцелі з цыгаркай і згарэў у агні разам з жонкай і сваім бізнесам...

А яшчэ праз паўгода, напрадвесні, да Лоўдача наведаўся дырэктар лясгаса Акрайчык, які займаў гэтую пасаду даўно і з якім Сцяпан не раз сустракаўся, выпісваючы ў яго дровы.

— Сцяпан Іванавіч, я прыехаў да цябе з прапановай — праўда, баюся, што яна можа пакрыўдзіць цябе, чалавека з вышэйшай адукацыяй, — ідзі працаваць лесніком. Тутэйшы лес ты добра ведаеш, а знайсці сёння ў Воплаве лесніка, сам бачыш, стала вялікай праблемай...

— А колькі ў абходзе гектараў?

— Крыху больш за шэсцьсот — гэта ў нашым лясніцтве сярэдні па плошчы абход.

— Зарадка для ног выдатная... Калі прыступаць да справы? — спытаў Сцяпан.

— З першага дня вясны і прыступай. Прыязджай у кантору, аформім дакументы, атрымаеш форменнае адзенне. І будзем рыхтавацца да пасадкі — цяпер гэта задача нумар адзін. У тваім абходзе пасадзім дубы і сасоннік.

Так Лоўдач нечаканa змяніў сваю прафесію — з настаўніка геаграфіі стаў, як называюць у Воплаве, «панам гаёвым».

Разам з новай працай да яго вярнулася адчуванне душэўнай раўнавагі і жыццёвай стабільнасці, з'явілася жаданне часцей сустракацца з людзьмі, хоць доля лесніка найперш таварышкуе з адзінотай, з маўклівымі вандроўкамі па лясных кварталах.

За дзень Сцяпан праходзіць мо два дзесяткі кіламетраў — дзе з сякерай, дзе з бензапілой, па-гаспадарску, старанна робячы прасвятленне там, дзе дрэвы перашкаджаюць адно другому нармальна расці, сплятаючы свае галіны так, што сонечныя промні не могуць прабіцца да зямлі, каб сагрэць карэнні. Ён навучыўся разумець пошум дрэў, часам размаўляе з імі, як з жывымі істотамі.

Спатрэбіліся ў лесе і Сцяпанавы цяслярскія здольнасці — за няпоўныя тры гады яго леснікоўскай працы ў абходзе пабудавана пяць альтанак для адпачынку.

Лесапасадкі падштурхнулі Лоўдача да азелянення сваёй сядзібы. На падворку, уздоўж платоў, з'явіліся радкі клёнікаў і бярозак, а ў мінулую восень Сцяпан пасадзіў малады сад. Суседзі жартавалі:

— Мабыць, Іванавіч, жаніцца сабраўся...

— Як зацвітуць яблыні... — таксама жартам адказваў ён.

А яго душу перапаўняла іншае — радасць, што яму хочацца рабіць людзям і самому сабе прыемнае.

На пачатку лета, перад прыездам дачкі, пафарбаваў хату, ашаляваную ўласнымі рукамі, абнавіў некалькі праслаў платоў.

Таня, як і абяцала, прыязджае да яго штолета. Ён, бацька, не перастае здзіўляцца, як у яе ўсё лёгка і прыгожа складваецца. Не паспела падгадаваць Ванечку — нарадзіла яму брацікa, Арсеньку. Усёй сям'ёй, з зяцем, яны і наведваюць Воплава. Сцяпан тады ног пад сабою ад шчасця не чуе, возіцца з малымі ўвесь вольны час. Старэйшага, Ваньку, ужо навучыў чапляць на кручок чарвяка і закідваць у рэчку вуду. Няхай растуць здаровенькімі і шчаслівымі яе два жэўжыкі-сынкі, радуючы бацькоў і дзядуль!

Андрэй пакуль не жанаты і да бацькі наведваецца рэдка: цяпер знаходзіцца ў доўгатэрміновай замежнай камандзіроўцы, працуе ў Польшчы. Дзякуй і за тое, што амаль кожны тыдзень тэлефануе.

Апошні прыезд дачкі запомніўся і тым, што яна сказала на развітанне, ужо на чыгуначнай станцыі, перад пасадкай на цягнік:

— Жаніся, тата. Без жаночай увагі мужчыне жыць цяжка. А ты ў самым росквіце...

— Дзякуй, дачушка, за камплімент... Можа, і абранніцу падкажаш?

— Не, шукай сам. Я ўпэўнена, што ты не памылішся...

## 20

...Дзіўная з'ява — зямны чалавечы шлях. Колькі б ён ні доўжыўся, успрымаецца як адно ці некалькі імгненняў.

За адзін вечар можна ўспомніць, перадумаць пра ўсё, што было за дзесяткі гадоў, што пройдзена-пражыта на роўных і пакручастых сцежкахдарогах. Шмат што забываецца, сплывае бясследна ў нябыт. Але самае дарагое, самае запаветнае не знікае ні з памяці, ні з сэрца...

Сцяпан выключыў тэлевізар, які ўжо і так не глядзеў, успамінаючы і абдумваючы сваё жыццё, і пацягнуўся рукою да электравыключальніка, каб патушыць святло. З вуліцы, насупраць Лоўдачавай хаты, данёсся нейкі розгалас, а праз хвіліну ён пачуў, што нехта адчыняе веснічкі на падворак. Забрахаў Чапік, але чамусьці хутка змоўк. Потым Сцяпан пазнаў голас, які ніколі ні з якім іншым не пераблытаў бы, — голас Валі Красунькі. Яна з кімсьці гучна размаўляла.

У дзверы веранды пастукалі, і гаспадар выйшаў сустракаць позніх, неспадзяваных гасцей.

— Добры вечар, Сцяпан, — прывіталася Валя і, застаючыся на падворку, у цемнаце, стала прапускаць перад сабою жанчыну з вялікай дарожнай сумкай. — Прымай госцю...

— Вялікі дзякуй! Вы так памаглі мне, — сказала, павярнуўшыся да яе, госця.

— Шчаслівa заставацца! — прамовіла фельчарка і пайшла да веснічак.

Сцяпан аслупянеў: перад ім стаяла самарчанка, тая самая Паніна Наталля Васільеўна, якую бачыў апошні раз у Пяцігорску чатыры гады таму назад.

Наташа кінулася да яго на шыю:

— Не веру!.. Няўжо гэта ты, Сцяпан? Няўжо я цябе знайшла? О, я памру ад шчасця!..

Яны сталі паперамення асыпаць адно аднаго пацалункамі, потым закружыліся ў верандзе ў абдымках.

— Што ж мы тут, на парозе, спыніліся? Праходзь у хату, — сказаў гаспадар. Ён яшчэ ніяк не мог паверыць у тое, што адбыўся сапраўдны цуд, і перад ім стаіць Наташа, якую ўжо і не спадзяваўся калі-небудзь сустрэць.

Пераняўшы з рук госці сумку, Сцяпан правёў яе ў кухню.

— Распранайся, калі ласка.

— Я ўся ў гразі, цягнула сумку мо пяць кіламетраў. Ледзь дайшла да вёскі, ніякіх сіл не заставалася... Пастукала ў крайнюю хату, папрасіла паказаць, дзе ты жывеш... Таму першае жаданне з дарогі — памыцца.

— Добра, я пагрэю вады.

Наташа зняла з сябе скураную куртку, выцерла мокры ад дажджу твар насоўкай і стомлена прысела на зэдлік.

— Ты мяне не чакаў, праўда? — спытала яна.

— Не, няпраўда, — шчыра адказаў воплавец.

— А я ўжо ведаю, што ты абяцанне стрымаў — не ажаніўся... Мне гэтая добрая жанчына — здаецца, фельчарам тут працуе, так? — расказала, што жывеш адзін.

— А як з Самары дабіралася?

— Цягнікам да Масквы, потым да Ліды, як ты і раіў, — усміхнулася Наташа. — А з чыгуначнай станцыі мяне падвёз таксіст. Але не вельмі хацеў везці. Калі садзілася ў машыну, сказаў: «Да першай вялікай лужы, бо да Воплава наўрад ці даедзем».

— Такая цямрэча на дварэ, такая слота...

— Таксіст мне сказаў: «Адно ідзі прама, не збочвай, бо заблудзішся: тут вялікі лес. А звяроў не бойся — не чуваць было, каб на людзей нападалі».

— Няшчасных выпадкаў, непрыемных сустрэч чалавека з ляснымі жыхарамі ў нашай ваколіцы сапраўды даўно не было, — пацвердзіў Сцяпан.

— Пакуль ішла лесам, амаль у суцэльнай цемнаце, ледзь-ледзь намацваючы пад нагамі дарогу, было страшнавата, а ўбачыла агні вёскі — супакоілася. Мне здаецца, што я ўвесь час брыла па вадзе.

— Цяпер, мабыць, і воўку страшна высоўвацца з ляснога гушчару, — спачувальна сказаў гаспадар, не адводзячы ад госці шчаслівых вачэй.

Вада на газавай пліце нагрэлася хутка, і Сцяпан прапанаваў Наташы памыцца.

— Прабач, у мяне гарадскога камфорту няма, — сказаў. — Мыцца будзеш тут, у кухні. Вось мыла, шампунь, чысты ручнік. А я за гэты час прыгатую вячэру. Як скончыш, — паклічаш мяне.

Пачаставаць госцю ў яго было чым, і Сцяпан пачаў збіраць на стол вясковыя прысмакі: кумпяк, грыбы, агуркі, сыр, малінавае варэнне, кампот з парэчкі. Засмажыў яечню з паляндвіцай. Успомніў, што зяць прывёз яму армянскі каньяк.

— Памылася — як наноў нарадзілася, — сказала Наташа, паклікаўшы яго ў хату.

— Значыць, будзем вячэраць.

Гаспадар пасадзіў госцю, як і належыць, на покуць. Сам сеў насупраць.

— Выбачай, шампанскага не маю.

— Шампанскае я прывезла з Самары. А ты, помніцца, вялікі спецыяліст яго адкрываць.

Яны абодва засмяяліся, згадаўшы, як сыпалася вапна са столі ў пакоі на шостым паверсе санаторыя.

— За што вып'ем, Наташа? — спытаў Сцяпан, хоць і так было зразумела, за што яны могуць і павінны выпіць.

— Як і ў Пяцігорску, за сустрэчу! — сказала воплаўская госця.

— За сустрэчу! — падтрымаў яе тост воплавец. — І частуйся — ты, мабыць, згаладалася.

— Еду я ў поездзе і думаю: «А раптам усё-такі ажаніўся? Тады махну ў Рыгу, да сваёй сяброўкі інстытуцкай...» Памятаеш, я табе пра яе расказвала? Але чамусьці была ўпэўнена, што ты мяне чакаеш... У Пяцігорску я закахалася ў цябе з першага позірку. Баялася прызнацца і табе, і самой сабе... Са мной раней ніколі такога не было.

— А я, дурань, нават адрас твой тады не ўзяў.

— Дарэчы, я яшчэ раз з'ездзіла ў Лермантаўскі санаторый. Пераканалася, што ў маім жыцці нічога болей светлага, чым тая восень, калі спаткала цябе, не было, і пасля гэтага купіла білет у Беларусь.

— А мне ўсе гэтыя гады памагала жыць твая ўсмешка — і сонца не трэба было.

— Таму і лье бясконца ў Воплаве дождж? — пажартавала Наташа, даючы Сцяпану зразумець, што метафара-гіпербала ёй спадабалася.

— У нас сёлета такая гнілая восень, што людзі нават выбраць бульбу не могуць.

— А грыбы ёсць?

— Ніхто цяпер у лес не ходзіць — і там балаціна. Але, пэўна, будуць — так мочыць...

— А чым ты цяпер займаешся?

— Працую леснікам, трэці год пайшоў. Крыху падсохне — пакажу табе воплаўскі лес.

— Мне ўсё будзе цікава: у Беларусі я ніколі не была. Але найболей хачу пабачыць буслоў...

— Буслы ўжо адляцелі ў вырай. Будзем чакаць іх увесну...

— Ты прапануеш мне застацца ў Воплаве да вясны?

— Я прапаную застацца назаўсёды! — цвёрда сказаў Сцяпан.

— А я згодна змяніць самарскую прапіску на воплаўскую, — зялёныя вочы-светлячкі расіянкі глядзелі на яго з любасцю і адданасцю.

— Давай за гэта і вып’ем. Толькі на гэты раз мацнейшага — табе трэба добра сагрэцца.

— У тваёй хаце цёпла, але па некалькі кропель можна...

Армянскі каньяк адгукнуўся густой чырванню на Наташыных шчоках — такімі Сцяпан запомніў іх па пяцігорскіх сустрэчах.

— Цікаўныя ў вашай вёсцы людзі: гэтая жанчына пра мяне распытала ўсё: адкуль я, ці даўно ведаю цябе, як доўга збіраюся гасцяваць.

Сцяпан, вядома, пра Валю нічога Наташы не расказваў. Не думаў, што лёс можа звесці гэтых жанчын разам. На табе! — і тут Валю не ўдалося абмінуць.

— А што новага ў Самары? Як дзеці? — перавёў ён размову на госцю.

— Дачка скончыла вучобу, атрымала дыплом. А сын яшчэ толькі піша дыпломную, аднак ужо ажаніўся і перайшоў жыць да цешчы. Праўда, бабуляй я пакуль не стала. А чаму пра мужа не пытаеш?

Сцяпан пацiснуў плячыма.

— Віктар памёр два гады назад...

— А ў мяне нарадзіўся яшчэ адзін унук-масквіч, Арсенькай назвалі, — зноў быў вымушаны змяніць ход гутаркі Сцяпан. — Нядаўна, летам, Таня прыязджала з імі да мяне. Такія хлапчукі-гарэзы растуць!..

— Віншую... А я, між іншым, навучылася па-беларуску чытаць і крыху размаўляць, — пахвалілася Наташа. — Вось паслухай: «Смачна есці! Калі ласка! Дабранач!» Правільна, ці не?

— Правільна, малайчына! І хто быў тваім настаўнікам? — пацікавіўся Сцяпан.

— У нас на заводзе працуе шмат беларусаў. Пасля сустрэчы з табою я з некаторымі нават пасябравала. Адна з іх, начальнік аддзела кадраў Святлана Галубкова, прывезла мне слоўнік і некалькі кніг — Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна, Віктара Карамазава... Я бачу, што і ў цябе дома шмат кніг.

— Ёсць яшчэ і ў вёсцы невялікая сельская бібліятэка. Я калі-нікалі заходжу туды пачытаць свежыя газеты.

— А школа згарэла? Мне фельчарка па дарозе да цябе расказала...

— Так. Мабыць, такі ў яе быў незайздросны лёс...

— Ой, я зусім забылася пра гасцінец, які прывезла табе, — спахапілася Наташа. Яна ўстала з-за стала і накіравалася да сваёй сумкі, дастала адтуль перавязаны блакітнай стужкай поліэтыленавы пакет.

— Гэта рыба, вэнджаная і сушаная, з Волгі, — яна працягнула клунак гаспадару. — Трэба яе развязаць і пакласці ў халоднае месца, каб не сапсавалася.

— Дзякуй. Пакінем яе да лепшых часоў — калі будзе піва. Яго ў вёску часцяком прывозяць — лідскае, яно і ў Беларусі нарасхват, і на экспарт ідзе. Зяць расказваў, што і ў Маскве можна купіць.

Яны яшчэ доўга сядзелі і размаўлялі за сталом, дзелячыся навінамі апошніх гадоў свайго жыцця, успамінаючы Пяцігорск, не зважаючы на тое, што за вокнамі глыбокая ноч і безупынку лье, зацята бубніць па шыфернай страсе цёмны восеньскі дождж.

І толькі калі Сцяпан заўважыў, што госцю пачало хіліць да сну і яна нават перастала хаваць сваё пазяханне, узяўся разбіраць пасцель.

— Як, Наташа, будзем спаць? Разам ці паасобку? — крыху саромеючыся, спытаў.

— Паасобку... Табе, Сцёпачка, яшчэ трэба сур'ёзна падумаць... Хоць бы суткі. А мне і так прыемна. Я знайшла сваё шчасце... Я буду спаць са сваім шчасцем.

— Тады выбірай: ложак або канапа?

— Канапа, — не раздумваючы, сказала Наташа. Сцяпан адчуў, што тут яна праявіла пэўны такт: на шырокім ложку ён спаў з жонкай.

Сцяпан выключыў святло. Здарожыўшыся і сагрэўшыся ў цёплай воплаўскай хаце, Наташа заснула хутка. Ён чуў роўнае, спакойнае дыханне — дыханне вельмі блізкага, вельмі патрэбнага яму ў жыцці чалавека.

А сам ён у тую ноч так і не заснуў: яго шчасце спаць не хацела.

Адно не падыходзіла да новых абставін — не паспеў зрабіць зубныя пратэзы. Такой бяды — зробяцца...

Дождж перастаў бубніць на світанні.

Раніца выдалася ціхая і сухая. Упершыню за шмат дзён з палёгкай уздыхнула зямля. А пад вечар неба праяснілася, і над вёскай выплыла сонца.

...У Воплаве пачыналася цудоўная пара «бабінага лета» і светлай, залатой мужчынскай восені.

***Жнівень 2004 г. — жнівень 2006 г.***





Уладзімір МАРУК

# «У ЦІШЫ НАРАДЖАЛАСЯ ВЕРА...»

* * *

Ціха ранак азваўся асверам,
Але так, што пачула планета.
І зайграла вярба, нібы лера,
Выпраўляючы ў людзі Паэта.

І не чуў я ні леры з асверам,
Ні вярбы,
што заплача расою...
У цішы нараджалася Вера,
Што і гневам была,
і красою.

Я ж выпытваў у кожнага рання,
Ці пра вечнасць зязюля кувала...
І сабе я не верыў дазвання,
Покуль сын не прамовіў:
«Купала!..»

* * *

Яшчэ цярпенне не паспела прытаміцца.
Цярплю,
як звыклае,
што ведае крыніца

---

*Марук Уладзімір Антонавіч нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1972) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1980). Працаваў у газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у выдавецтвах «Юнацтва», «Белфакс», «Мастацкая літаратура». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя».*

*Аўтар кніг паэзіі «Зоркі ў кронах», «Ліст рабіне», «Інкрустацыя голасам» і інш.*

І што панадна месяцу ўначы,
Што нагалосіць пераспелая пшаніца... —
Ўсё,
ад чаго цярпенню не ўцячы.

Цярплю,
як родняцца нягодныя напевы,
Як уцякае мой спакой з маёй залевы
І просіцца,
і моліцца пусціць
Пад гэтыя доўгацярпення дрэвы,
Дзе ўсім баліць і з болем можна жыць...

І прамаўляць:
«Цярплю,
цярпі,
цярпіце!..»

* * *

Я спынюся —
вакол летуценні,
Вольных дрэваў птушыны акрас,
І раптоўнае яблынь цвіценне,
Што запомніць за шыбай альяс...
Я ж чакаю цяпла,
як збавення
Ад таго,
чым пакутуе час,

Ад таго,
што вярэдзіць начамі,
Нібы ветах сваім халадком,
Ён пражытай хвілінай між намі
Пралятае,
як подых,
крадком,
Каб спачыць за грыбнымі барамі,
Дзе яшчэ не асмеліўся гром

Скалануць шматгалоса прастору
І нясмелае ранне сустрэць...
Я спынюся,
каб вызнаць дакору
Хоць крывінку,
якому ледзь-ледзь
Я паверу,
каб зноўку да зморы
Разам з часам сваім летуцець.

* * *

У зняверанай памяці спраты
Я ступлю,
а за мной паганяты —
Неспазнанага слова бізун,
Я іду,
нібы ўсім вінаваты
За свае нечаканыя страты,
Ззаду —
слова,
а проста —
пярун.

Рассыпае пад ногі пагрозы...
І халодае розум цвярозы,
Каб у спратах надоўга спачыць,
Каб у сне не таміліся крозы
Так лятаць,
як над лугам стракозы,
Дзе і мне гэтак хочацца быць.

* * *

Я не хачу быць сумным і сляпым,
Як лялька,
што заплюшчыць моўчкі вочы,
Нібыта іх перапаўняе дым,
Бо не хачу з маёй сцяжыны збочыць,
Дзе нас схавае ветлівасці грым.

І так атуліць сон,
наш дзённы сон,
Дзе можна сніць,
а можна і прысніцца.
Раскрыўшы парудзелы парасон,
Сон за дажджом які ўжо дзень імчыцца
Свайму,
майму
настрою наўздагон.

Старыя прыдарожныя слупы
Мільгаюць і цыганяцца ля ўзбочын.
І польны вецер,
сумны і сляпы,
Наш дзённы сон перадаверыць ночы,
А сам засне ля вольнае капы.

* * *

Запанібрата з цішынёю —
З сабой нібыта —
Іду па жніўні пехатою
Паўз лес і жыта.

Ужо даўно яно паспела
І звоніць,
звоніць,
І ў цішыні той звон нясмелы
Мяне дагоніць,

Нібы ляцеў услед за мною
На крылах птаха...
Паселі разам пад сасною
На пень,
бы плаху,

Што дакарае,
не карае
Крывава-звыкла...
Сядзім,
нібы на ўзмежку раю,
Дзе сонца знікла.

Сядзім з любімай цішынёю —
Свет з намі моўкне...
Лісточак першы нада мною
Вось-вось прыжоўкне.

* * *

Чакаючы гасцей,
нязвыклага чакаю,
Бо нельга ўжо вярнуць з дарогі іх назад —
Вунь твары іх відны за полем каля гаю, —
Як нельга паднавіць зазвыклы дзён расклад.

Чакаючы гасцей,
сабе перадаверу
Талеркі не пабіць і не тупіць нажы,
І кожнаму свайму няпростаму намеру
Хоць раз,
але сваёй ахвотаю пажыць.

З пяшчотаю крануць настольнік і сурвэткі,
І сэрцу патураць —
хай грукае часцей...
Хай будзе хоць яно неміласэрным сведкам —
Чакаю сам сябе,
чакаючы гасцей.

* * *

Я думаю,
як думаюць пад вязам:
Адно пытанне,
але шмат адказаў,
Нібы на дрэве тых лісткоў жывых.
Яны ж маўчаць,
як ні напружвай слых,

Як ні любуйся вытканаю кронай,
Такой маркотнай,
ды яшчэ зялёнай.
А свет здаецца гэтакі стары
У нас саміх на строгім цвінтары.

І не схавацца за сваю знямогу,
Што пылам горкім выслала дарогу.
Глядзім,
глядзім,
як свечкі дагараць,
Каб за сябе і нас адгараваць.

Я думаю...
І не знаходжу выйсця
Сваім пытанням,
што ўпадуць,
як лісце.
Ды застануцца думаць сярод нас
Нязвыклы час,
як і цярплівы вяз.

* * *

Зноў пеніцца рака
Бяздомнымі вірамі.
Узгорак ветрака
Сумуе разам з намі.

Ў раку глядзіць вятрак
На цень свой невыразны
І нудзіцца,
дзівак,
Бо засцяць хмары-блазны.

А побач з ім і мы
Шукаем адзіноты —
Ні лета,
ні зімы,
Ні восеньскае слоты,

Ні спеву ручая,
Што да ракі спяшае...

У кожнага свая
Падумка —
хоць якая.

У ветрака з ракой
І ў нас з табой —
таксама...
І ў храма,
дзе спакой.
Задумлівага храма.

* * *

Трава галодная —
замала ёй святла
І салаўнай літасці замала.
Здаецца,
за пагорак уцякла
І быць травой забытай перастала.

За тым пагоркам мройлівы дымок
І лугавіны роўнядзь незямная,
Сярод якой распешчаны дамок,
Што і траву паглядам не мінае.

А хмарцы слёзы хочацца схаваць,
Бо імі белы свет даўно паліты,
Дзе ёсць калісь забытая трава
І ёсць дамок,
травою не забыты.

* * *

Паспела цемра пасварыцца з ліхтарамі,
Што ходзяць-блудзяць паміж гмахаў,
паміж намі
І пасміхаюцца,
бы хворыя на смех,
І тухнуць,
калі ціха стане ў краме,
Дзе прадаецца не святло,
а грэх.

Бы здані,
воблакі лятаюць паўз дарогу,
Паўз ліхтары,
што не свяцілі толькі Богу
І ўсё маглі —
і мроіць,
і грашыць,
І піць нагбом прастору і знямогу,
Што зведалі ў Мядзведзіцы ў каўшы.

А гмахі хочуць засланіць ад часу неба
Сляпымі вокнамі,
што могуць папрасіць
Прытулку ў зоркі,
бы акраец хлеба,
А так,
як перад сконам засвяціць, —
У ліхтароў прасіць ані не трэба.

* * *

Не палічыць гадоў,
як не цяплее лета.
Старац пакінуў свет,
не прычакаўшы хлеба.
Падае за табой —
а перад кім? —
камета.
Не паўтарыць і нам нават свайго неба.

З вернасцю гарадской
будуць шаптаць скверы,
Што не змагло шапнуць старцу глухому жыта.

Як і куды ні збоч,
хочаш ці не —
паверыш:
Што закарцела табе,
кімсьці даўно забыта.

## Махаон

Да сонца мы цябе,
да мройнасці чакалі,
Пакуль і ў нас жыццё не набыло акрас,
Прыснёны махаон,
між цыній і азалій,
Расквечаны святлом, ты павітаеш нас.

Бо хочаш дагадзіць таму,
каго пабачыш,
Карункавай красой —
няма мілей красы.
Залётны махаон,
ніколі ты не плачаш,
Бо любіш узлятаць з дзявочае касы.

Ты мкнешся дагадзіць і нашаму настрою,
А потым паляціш на белы цыкламен,
Які цябе спаўе сваёю прастатою,
Не ўзяўшы ад красы нічога наўзамен.

* * *

На мокрых дрэвах і кустах
Крыштальных кропель чую пах,
А ён —
празрыста-чысты.
Далёка дождж.
І цішыня
У грыве пасвіцца ў каня.
А конь той наравісты

Матляе мокрай галавой
Над пераспелаю травой,
Бы адганяе вецер,
Каб не ўсцілала лісце дол,
А сны,
сабраныя ў прыпол,
Паразбіралі дзеці,

Што на дарозе пастаяць
І ў свой туман палягуць спаць
На мяккія далоні...
А ўранні здзівяць цэлы свет,
Пераказаўшы свой сакрэт —
Усе прыснілі коней.

* * *

Не магу прыпыніць гэты снег,
Як цябе прыпыніў ля вакзала.
Я пачуў неразгаданы смех,
Не падобны на сон і на грэх,
Пра якія ты мне расказала.

Не магу...
А калі пастарэць
Назнарок і як быццам міжволі
Пасталець,
каб цябе зразумець
І сваёй сівізной перастрэць
На пагорку ў заснежаным полі, —

Ці пазнаеш маю маладосць
І марозна-рыпучыя крокі?..
Гэты снег —
ён яшчэ не мілосць,
Але ж ён —
не балючая злосць,
Хоць і блізкі,
ды вельмі далёкі.

Свеціць месяц такі малады,
Нібы хоча здалёку паслухаць,
Як маўчым мы.
А з намі —
клады.
А няроўныя ў полі сляды
Уначы замяце завіруха.

* * *

Яшчэ адна забытая хвіліна
У гэты самы першабытны снег.
І самая даўнейшая правіна
Ізноў пакпіць,
што захацеў уцех.

Бо захацеў такога,
што ніколі
Не спраўджвалася ў сэрцы анідзе...
Па неабсяжным і бялюткім полі
Зноў адзінокі чалавек ідзе.

* * *

Самотніца мая — начная цішыня,
Калі вакол ні слоў,
ні шолаху,
ні кроку...
І верыш,
што жывеш,
бо ў зорках —
вышыня,
Што скажа штось душы і ўдумліваму зроку.

Самотніца мая,
мой самы светлы сум, —
Калі спакой спаўе і крыўды,
і трывогі,
І столькі чысціні ў незамутнёных дум,
Як светлай пекнаты ў бярозкі ля дарогі.







Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# НА МЯЖЫ ЦЯРПЕННЯ

*Раман*

## 27

Для Рамейкі час пайшоў трохі хутчэй, неяк уляглiся яго беды-напасці, пахмурнае неба праяснела, і вось ужо вясна на двары. Яна сёлета ўдалася надта ранняя, але яна не цешыць селяніна, бо ён добра ведае, што ранняя вясна не заўсёды разумная, бо сакавік-красавік можа быць цёплы, а май халодны, з замаразкамі і снегам замест дажджу. Але для жыхароў горада не так важна, калі вясною замаразкі, ім абы цяпер добра і цёпла. Хоць чалавек вясковай загартоўкі такія змены-перамены будзе заўважаць да канца, і яны яго не перастануць трывожыць і турбаваць, весяліць ці засмучаць. Да такой катэгорыі гараджан залічваў сябе і Рамейка. Яму было важна, як сёння зайшло сонца і які заўтра можа надарыцца дзень. Калі сонца садзілася за сценку, можна чакаць непагоды, можа, і дажджу. Калі неба на даляглядзе да канца заставалася яснае, а захад чысты і сонца як закацілася за зямлю — чакай добрае пагоды!

Сёння ён ішоў на працу пешкі, устаў рана, разам з Ларысаю, ёй трэба раней на гадзіну, чым яму, яна паехала, а ён дыбаў сабе памалу — рашыў прагуляцца. У кіёску купіў пару газет, нават маскоўскую «Літаратурку», часам можа трапіцца што цікавае.

Думкі круціліся вакол апошняе падзеі — разводу, уся нерватропка, з ім звязаная, перажыванні Марыны і Ларысы, хоць яны ўспрынялі гэтую падзею кожная па-свойму, але ўсё роўна цяжка і балюча. Рамейка вярнуў Марыне пазычаныя грошы, яшчэ аплаціў судовыя расходы, якія яна панесла, паколькі ўзбуджала судовую справу. Так што душою і сумленнем Рамейка адчуваў сябе чыстым перад ёю, а яна сама можа па-ранейшаму лічыць яго сваім ворагам, Бог ёй суддзя.

З самага ранку, як толькі ўстаў, яго турбаваў сон, які прысніўся пад раніцу. Была ў Марыны фатаграфія мо якой дзесяцігадовай даўнасці: людная вуліца, дэманстрацыя недзе на Першага мая, іх выдавецкія работнікі ідуць групай, нават не ідуць, а спыніліся, чакаюць сваё чаргі, і вось яна, Марына, побач са сваімі сяброўкамі па працы, усміхаецца ў аб'ектыў, як

---

Заканчэнне. Пачатак у № 4, 5, 6, 2007 г.

бы нават падміргвае адным вокам. У капялюшыку з кароткімі палямі, у асеннім паліто, з сумачкаю на руцэ. І вось гэтая фатаграфія нібы ажыла, людзі заварушыліся, загаварылі, сярод іх апынуўся і ён, Рамейка, і зусім блізка ад Марыны. І тут яна раптам працягвае руку і хоча нешта перадаць некаму побач з ім, але Рамейка пераймае яе руку і забірае... два курыныя яйкі, невялічкія, і адно як разбітае, на шкарлупіне відаць густы празрысты бялок. Рамейка неяк механічна, не падумаўшы, кідае гэтыя яйкі сабе ў рот, нібы нават пеpажоўвае, чуе на языку прэсны смак сырога бялка — і праглытвае ўсё адным махам, нібы тых яек і не было.

І на гэтым сон абарваўся, усё прапала...

Цяпер ён ішоў і думаў, што азначае гэты сон, перабіраў дэталі, але нічога не мог разгадаць, нічога прачытаць: усё было зашыфравана. Што сімвалізуюць два яйкі, якія Марына хацела некаму перадаць? Каму — ён не бачыў, гэта было як за кадрам, але адчувалася, што яе рука была нацэлена на некага, хто стаяў побач з Рамейкам, ён спрытна перахапіў яе руку, якая сама аддала яму тыя два яйкі. І чаму ён іх праглынуў — што гэта азначае? Няўжо тое, што Марына хацела некаму даручыць дачок, іх дачок, а ён перахапіў, не даў таму, чужому, а адправіў у сваё нутро, як бы прысвоіў, прысабечыў. І смак адчуў звычайны: ні салёны, ні кіслы, ні горкі, а проста смак сырога курынага бялка. Яшчэ пытанне: чаму яна перадавала некаму там невядомаму тое, што належала ёй, што сімвалізуе дачок? А сама што, не хоча ці не можа імі займацца? Тут нешта ёсць, вось толькі што?

А ўрэшце — што тут гадаць, ламаць галаву, шукаць нечага рэальнага? Ці мала што можа прысніцца чалавеку? Хоць Рамейка верыў, што сны бываюць прарочыя, што яны збываюцца і разгадваюцца проста, але такое бывае рэдка. Сённяшні яго сон, палічыў Рамейка, не належаў да такой катэгорыі. Два яйкі ў рот — і нават не папярхнуўся! Паспрабуй такое паўтарыць наяве — і я пагляджу, які ты будзеш спрытны. Тут цыркач мо не справіцца, а не нейкі там не трэніраваны Рамейка. Смех, дый годзе... Але чаго яму прыснілася тая фатаграфія? І як яна ажыла? Тут ужо не да смеху, тут нешта ёсць, але ён тупіца, не можа знайсці разгадкі, не хапае глуздоў, каб за гэтым сімвалам убачыць нешта рэальнае. Што, што рэальнае тут можна ўбачыць? Дайце хоць нітачку, за якую трэба пацягнуць, каб разблытаць усю заблытанасць таго матка ці клубка. Дзе тая нітачка, як яе знайсці?

Рамейка адамкнуў свой пакой, сеў за стол, паклаў газеты, дастаў рукапіс, які будзе чытаць сёння, а зараз можна пазнаёміцца з прэсаю, што яна нам добрага раскажа... Пятніца, дваццаць дзевятага красавіка, праз тры дні свята Першамая. Перадсвяточныя лозунгі... Дагонім і перагонім... Пасеем... — і ўжо пазначана, колькі збяром з гектара...

Раптоўна расчыніліся дзверы, зайшлі два маладыя мужчыны, добра апранутыя, пад гальштукамі, чамусьці не павіталіся.

— Вы Рамейка? — спытаўся адзін з іх, трохі вышэйшы.

— Я, — адказаў. — А што вы хацелі?

Мы з «Ураджаю»... Каб вы ведалі... Ваша жонка Марына памерла... Сёння ноччу...

Рамейка сядзеў, аглушаны навіною, як громам. «Божа, што ж гэта робіцца? За якія грахі ты так караеш мяне?» — хацелася крыкнуць, спытаць.

— Як жа так? Яна ж не хварэла, — сказаў, як у сваё апраўданне, нейкім чужым голасам.

— А вось жа... Сардэчны прыступ... «Хуткая» прыехала позна, — сказаў другі, трохі ніжэйшы ростам, светлавалосы. — Цяпер галоўнае — пані-

хіда. Сёння пятніца, заўтра трэба ўсё закругліць, вы самі разумееце... Паколькі яна наш работнік, мы бяром арганізацыйную частку на сябе.

— А што я... што мне застаецца? — спытаўся Рамейка.

— Вы павінны даставіць цела нябожчыцы ў морг, на медэкспертызу. Адтуль прыйдзе спецыяльная машына... Гэта на Свярдлова...

— Значыць, я паеду да яе на кватэру, буду чакаць машыну, — сказаў у адказ. Устаў за сталом, але тут жа сеў — ногі не трымалі.

Хлопцы пакінулі яму пару тэлефонных нумароў і пайшлі. А Рамейка як не сваёю рукою напісаў запіску і паклаў на стале ў Ван Ваныча і ўжо збіраўся выходзіць з кабінета, як заявіўся сам Ван Ваныч уласнаю персонай, павітаўся, убачыў Рамейкаву запіску і, прачытаўшы, спытаўся:

— Што там у цябе зноў?

— Непрыемнасці... Потым раскажу. Тэрмінова паклікалі...

— Непрыемнасці... Калі яны ўжо скончацца? — сказаў Ван Ваныч.

Рамейка пачуў гэтыя словы ўжо зачыняючы дзверы. Сапраўды, калі яны скончацца? Ці не разам з намі? Вось у Марыны скончыліся, яна ўжо супакоілася і недзе там дома ў пасцелі ляжыць спакойна...

На аўтобус ён не садзіўся, захацеў прайсціся, асэнсаваць падзею, падумаць, а што ж адбылося? Хто вінаваты — першае пытанне. Канечне ж ён, Рамейка, усе так скажуць: давёў да сардэчнага прыступу. Быў нягоднікам, распуснікам, жонкі не шанаваў, не шкадаваў, яна пакутавала, перажывала — і вось сэрца не вытрымала, спынілася. Дзеці засталіся сіротамі: адна студэнтка, другая яшчэ школьніца. Хто іх цяпер дагледзіць, выведзе ў людзі? Можа, мачыха? Чакай, яна дагледзіць, яна выведзе...

Рамейка ўзняўся на дзевяты паверх, хацеў пазваніць, але ўбачыў, што дзверы прачынены. Увайшоў у прыхожую, зняў плашч і берэт, павесіў на вешалку. З вялікага пакоя насупраць выйшла маладая суседка Жэня, кіўнула яму галавою, выказала спачуванне.

— А «хуткая» спазнілася на пяць хвілін, яе ўжо не было жывое, што ні рабілі, — скончыла яна свой аповед пра няшчасце.

Яна першая, а Рамейка за ёю зайшлі ў пакой справа. Вялікае акно з поўдня было завешана, апроч шторы, яшчэ і сіняю, у дробную клетачку, дзяружкаю, але святло пранікала ў пакой і ўсё было добра відаць. На вузкім ложку пры сцяне ляжала Марына. Коўдра ссунутая на край, да сцяны, а яна ляжала раскрытая, у белай начной кашулі да самых пят. Твар быў бледны, вочы заплюшчаны, вусны стулены, але слядоў пакуты на твары Рамейка не знаходзіў: твар спакойны, застылы, абыякавы да ўсяго — нібы яна спала.

Рамейка падышоў да ложка, укленчыў на адно калена і ўзяў яе руку. Рука была яшчэ мяккая, але ўжо халодная ненатуральным глыбінным холадам. Дакрануўся вуснамі да кісці, глядзеў у такі знаёмы да драбніцаў твар і нібы чакаў: вось яна расплюшчыць вочы і здзівіцца, што ён тут, глядзіць на яе ў начной кашулі... Яна не любіла, каб нехта, нават і ён, не слухалі яе і рабілі па-свойму. А вось цяпер ужо была недзе далёка адгэтуль, а мо і зусім блізка, недзе побач, але ўжо ў іншай іпастасі, нябачная для жывых, можа цяпер толькі назіраць, што яны робяць, і нічога не можа змяніць, паправіць ці хоць бы падказаць, як і што рабіць, каб было так, як яна хоча і як ёй падабаецца.

Колькі ён так прастаяў на калене, цяжка сказаць. Перад яго ўнутраным зрокам прайшло-прамільгнула ўсё іх сумеснае жыццё — і шчаслівае, і звычайнае, шэрае, і трывожнае, са слязамі на вачах, калі дзеці хварэлі, траплялі ў бальніцу, а потым радаваліся, гледзячы, як яны набіраюць сілу, растуць

і падрастаюць, пераходзяць з ясляў у сад, потым у школу, а там — з класа ў клас... Усяго было ў іх жыцці, усяго — нават развод... Нават вось гэтае апошняе спатканне і хуткае развітанне... Нават вельмі хуткае... Не чакаў Рамейка такога, не чакаў і не спадзяваўся... Што ж цяпер? Што?

З гэтым пытаннем у душы ён і ўстаў, агледзеў такі знаёмы пакой з трыма высокімі паліцамі кніжак пры другой сцяне, з вазонамі на акне, схаванымі пад штораю і дзяружкаю. І здалося, што ў пакоі стала залішне змрочна. Узяў табурэтку, паставіў пры акне, стаў на яе і зняў цёмную дзяружку, расхінуў шторы. Цяпер хай будзе тут светла, хоць цёмна на душы... Склаў дзяружку і паклаў на край ложка, ля Марыніных ног.

Што ж далей? Вопратка ў апошнюю дарогу... Ці ёсць у яе такая вопратка? Звярнуўся да суседкі Жэні, якая была тут жа, сядзела на табурэтцы і нібы чакала пытання ад былога гаспадара:

— Вы не ведаеце, мо Марына калі гаварыла з вамі, — дзе яе выхадная, так сказаць, на апошні выхад, вопратка?

— Я вам якраз хацела падказаць... Яна гаварыла аднойчы, што сабрала патрэбнае ў дарогу, бо ўсё можа здарыцца. Але дзе яно, не магу ведаць. Вы ўжо шукайце самі.

Яны пайшлі ў другі пакой, дзе стаяла шафа. Рамейка адчыніў яе і стаў глядзець і шукаць. Пад навіссю плашчоў, сукенак, касцюмаў, якія звісалі з вешакоў, знайшоў вялікі пакет, перавязаны чорнаю тасьмою.

— Здаецца, тое, што трэба, — прамовіў Рамейка. — Зараз паглядзім.

Быў чорны трыкатажны касцюм — спадніца і кофта, яшчэ сіняя футболка з люрыксам, з доўгім каўняром, панталоны, шаўковая камбінацыя ружовага колеру, станік, панчохі, газавы шарф блакітнага колеру — усё, што трэба ў дарогу. Не хапала толькі абутку.

Рамейка праверыў у шафе яшчэ раз і знайшоў на дне кардонную каробку, перавязаную шпагатам. У каробцы аказаліся чорныя туфлі на паўслупку, якраз на яе нагу, можна было і не мераць, яе нагу ён ведаў.

Яны вярнуліся да нябожчыцы, рэчы склалі асобна, каб іх узяць з сабою, і тут прарэзліва зазвінеў званок у дзвярах. Рамейка ажно ўздрыгнуў, пайшоў на сігнал. Дзверы былі па-ранейшаму прачыненыя, ён расчыніў іх шырэй — і ўбачыў мужчыну сярэдніх гадоў, з вусікамі, у кепцы, у світэры бардовага колеру.

— З медэкспертызы, машына чакае ўнізе. Вазьміце пашпарт і даведку аб смерці. Як прозвішча?

— Рамейка... Гэта мая жонка, — адказаў ён.

Мужчына павярнуўся, выклікаў ліфт і паехаў уніз. Рамейка толькі развёў рукамі: хоць бы спытаў, ці патрэбна дапамога. Як ён адзін спусціць Марыну ўніз?

— Хто там быў? — спыталася суседка, калі ён вярнуўся.

— Прыехала машына з морга. Не ведаю, як адзін спраўлюся...

— Зараз праверу, можа, мой Кутузаў прачнуўся. Быў у начной змене...

Яна выйшла, а Рамейка падумаў, што Кутузаў мо яго і выручыць. Кутузаў... Гістарычнае прозвішча ў былога суседа, а вось не сабраўся спытаць, адкуль яно ў яго, ці адкуль ён сам... Сімпатычная сям'я, маюць двух хлопцаў-школьнікаў, яшчэ невялікіх.

Суседка вярнулася хутка, сказала:

— Зараз апранецца, дапаможа. А той, што званіў, не мог бы?

— Нешта не азваўся, паехаў уніз. А я не здагадаўся яго папрасіць. Сказаў узяць пашпарт і даведку аб смерці.

— Даведка на століку, пры мне доктар выпісваў. І пашпарт.

— Дзякую, — сказаў Рамейка. — Каб не вы, што я рабіў бы...

Праз хвілін колькі зайшоў і Кутузаў, апрануты ў трэніровачны сіні касцюм, нібы збіраўся на трэніроўку. Ён падаў Рамейку руку, моцна паціснуў, сказаў: «Прыміце спачуванне», стаў ля ложка з нябожчыцаю, пасуравеў тварам.

— Дык што ж, панясём? — спытаўся ў Рамейкі.

— Панясём, браце-суседзе...

Машына стаяла ля самых сходкаў. Вадзіцель адчыніў заднія дзверцы насцеж. Мужчыны паднеслі цела, узнялі вышэй. Шафёр узяў у Рамейкі з рук канцы посцілкі і па дне кузава пасунуў цела далей, да самай кабіны, накрыў з галавой, пайшоў у кабіну.

Рамейка і сусед Кутузаў селі па абодва бакі кузава на кароценькіх лаўках, а цела Марыны ляжала ў іх нагах, прыкрытае сіняю дзяружкаю.

Услед за імі суседка Жэня прынесла і падала шафёру ў кабіну пакунак з вопраткаю, закручаны ў нейкую белую полачку, мо нават ручнічок з кухні.

Машына кранулася, яе падкідала на калдобінах, яна скрыпела на паваротах, тармазіла, зноў зрывалася з месца, пакуль выбраліся на шырокую вуліцу. Рамейка пазіраў на загорнутае ў дзяружку цела Марыны, і яму рабілася балюча за яе. Не ўтрымаўся і адкрыў твар, каб бачыць яе, каб гаварыць з ёю хоць пасля смерці. Усё тое, што рабілася зараз вакол Марыны, здавалася дробным і непатрэбным, хоць без гэтага нельга было абысціся. Вось яны вязуць яе ў морг, там будзе нейкая экспертыза. Хіба гэта патрэбна, хіба гэта важна — для яе?

Нейкія думкі, мо недарэчныя, а мо значныя, наляталі на яго шквалам, ён глядзеў на яе бледны твар, такі абыякавы да ўсяго — і нават да таго, што яна ляжыць на цвёрдым дне кузава, а яны сядзяць і глядзяць на яе зверху, зверху ўніз. Яны жывыя, яна — нябожчыца, таму так выходзіць? Нябожчыкам месца бліжэй да зямлі, у самой зямлі. Яны сальюцца з зямлёю назаўсёды... Але чаму, Марына, так рана? Ты яшчэ не дажыла нават да пенсіі, не аддала замуж дачок, не прычакала ўнукаў — і вось пакінула гэты свет, які так любіла... Божа, дзе справядлівасць? Навошта асірацелі дзеці?

Вось цяпер, у гэтыя хвіліны, яго ахапіў жаль, якога яшчэ ніколі не адчуваў у сваім сэрцы. Гатовы быў заплакаць, як дзіця, заліцца слязамі і прасіць у яе прабачэння за ўсё, што зрабіў ёй дрэннага, балючага, за ўсе грубыя словы і нялюдскія дзеі, якія былі ўчынены ім за гады іх сумеснага жыцця. «Даруй мне, я не хацеў! Я не думаў, што раню Тваё сэрца, што яно баліць, што яно надрываецца! Я не хацеў! Я не хацеў, каб Ты сёння ляжала ля маіх ног, а я пазіраў на Цябе зверху! Даруй мне, я не хацеў! Я ніколі не хацеў Тваe смерці, я жадаў Табе толькі дабра, таму што Ты была маці маіх дзяцей, нашых дзяцей, а я не Цябе любіў, я кахаў Цябе — датуль, пакуль Ты не сказала сабе, што не можаш мяне больш бачыць побач з сабою... Ты адпусціла мяне на волю, Ты думала, што і сама ўздыхнеш свабодна, што Табе стане лягчэй на душы. Але, відаць, Ты памылілася, сэрца Тваё не змірылася з Тваім розумам, яно запратэставала — і аднойчы, гэта значыць, сёння ноччу, сказала: годзе!

І вось Ты ўжо ляжыш на мулкім дне кузава, галава Твая, як у жывое, часам паварочваецца, калі машына робіць круты паварот, і мне здаецца, што Ты ачнулася і скажаш зараз: чаму я тут ляжу на гэтым халодным дне кузава, куды вы мяне везяце? І што мы адкажам? Па чалавечым абавязку, па абавязку сэрца, мы павінны адвезці Цябе туды, дзе правяраюць, што

ў чалавека не вытрымала, што зламалася, як у той машыне. Яны толькі канстатуюць, але не робяць вывадаў, не даюць рэкамендацый жывым, што рабіць, каб з чалавекам не здарылася бяда, калі ён яшчэ ў сіле, калі ён мог бы жыць, каб яго даглядалі як трэба, каб з ім абыходзіліся па-людску, каб не рвалі яму нервы і сэрца: і дома, і на працы, і на вуліцы, і ў любой установе, дзе яму трэба бываць — па абавязку, па жаданні, па неабходнасці, бо з гэтага складаецца яго жыццё. Але ён аддае сябе так шмат, такімі вялікімі дозамі, што, не пражыўшы і палову свайго веку, не прайшоўшы і палову свае дарогі, ужо траціць усю сваю сілу — і падае, далёка не дайшоўшы да фінішу.

Даруй мне, Марына, я не хацеў! Я не лічыў, што Ты такая далікатная, такая ранімая, Ты не паказвала на слабую, Ты была моцнаю, цягавітаю, Ты не хавалася ў цень, калі трэба было прыкласці сілу і вывезці цяжкі воз з гразі на роўнае месца. Ты ўпрагалася, як вол, і цягнула, і выцягвала, хоць Табе гэта шмат каштавала — здароўя, нерваў, сэрца... Вось чаго Ты не шкадавала — свайго сэрца! Ты яго раздавала людзям, Ты яго дзяліла на часткі і абдорвала ўсіх, хто быў побач з Табою і прасіў дапамогі...

Ты не шкадавала сябе для іншых, Ты хацела, каб і ўсе былі такія, каб кідаліся ў агонь ратаваць тых, каму пагражае небяспека. Ты як той плывец, які ратаваў іншых, а сам утануў, патраціўшы апошнія сілы. Чаму, чаму Ты не думала пра сябе, хіба Ты не адчувала свайго сэрца — якое яно падношанае, са слабымі перагародкамі, з патанчэлымі клапанамі?

Ты не думала пра сябе, а мо лічыла, што яшчэ рана гэта рабіць, што вось яшчэ трохі — і ўжо тады вазьмуся за сябе, за свае здароўе: адпачну, ад'емся, паезджу па курортах, пагрэюся на паўднёвым сонцы, як белыя людзі, пакупаюся ў моры, пакаштую масандраўскіх вінаў. Мо нават завяду з якім старым халасцяком пляжны раман...

Можа, і такія думкі залятаслі ў Тваю светлую галаву, мо яшчэ і больш ружовыя, вясёлкавыя, залацістыя, ды не суджана ім было збыцца, бо рэальнасць заставалася непрыязнаю да цябе, не абяцала палёгкі. Ты ішла ўвесь час супраць ветру, выбілася з сіл, стамілася і ўпала на паўдарозе да свае такое блізкае мэты, пра якую Ты ведала толькі адна...

Даруй мне, Марына, даруй, што я не мог быць такім, якім Ты хацела мяне бачыць, што сурёзнасць Тваіх намераў я прымаў за капрыз, а Тваю беражлівасць — за скупасць. Няўжо наша драма ў тым, што я не падабраў ключа да Твайго сэрца, а Ты — да майго? І што мы абое спазніліся — трагічна спазніліся?»

Машына скрыганула тармазамі, павярнула налева, яны заехалі ў двор, падрулілі да пяціпавярховага дома і сталі.

У руках у яго быў клунак, той, што перадала суседка Жэня.

Рамейка і Кутузаў спусцілі нябожчыцу з машыны і, асцярожна ступаючы, панеслі ўніз, проста ў адчыненыя дзверы. Гэта і быў морг — некалькі радоў нізкіх гранітных сталоў, некаторыя з якіх былі заняты нябожчыкамі, прыкрытымі белымі прасцінамі.

Яны, задыханыя, паклалі сваю ношу на адзін са сталоў, на які паказаў дзяжурны доктар у белым халаце, невысокі і таўсматы. Ён адкінуў дзяружку з твару нябожчыцы, які момант глядзеў, а потым закрыў. Рамейка паказаў яму Марынін пашпарт і даведку аб смерці. Дзяжурны зрабіў запіс у тоўстую кнігу рэгістрацыі. Потым перайшоў да практычнага боку справы, кошт за паслугі, дамавіну і ўсякія іншыя рэчы, як макіяж. Паклікаў пажылую жанчыну, таксама ў белым халаце, але ўжо не першай свежасці,

якая забрала клунак з вопраткаю і спытала менавіта пра макіяж, на што Рамейка адразу згадзіўся.

— Вось і ўсё, — падвёў вынік дзяжурны. — Даю вам наш тэлефон, пазваніце ў гадзін шаснаццаць, не раней.

Мужчыны развіталіся і выйшлі з сутарэння, узняліся па сходках наверх, на вольнае паветра. Само сабою выйшла, што яны ўздыхнулі на поўныя грудзі, выпрасталіся і пaглядзелі на неба.

«Даруй, Марына, што мы Цябе пакінулі адну, пакінулі Тваё цела», — сказаў у думках Рамейка. След нейкай палёгкі ён адчуў у сваім сэрцы, але толькі нязначны, мізэрны: усё яшчэ было наперадзе.

## 28

Прайшоў і дзень, і два, і тыдзень, а малюнкі тых двух чорных дзён усё ніяк не маглі вывятрыцца з яго галавы, з яго памяці. Трэба было нечым іх засланіць, змыць ці сцерці, але нічога такога не траплялася, а дробязі жыцця ніяк не маглі зафарбаваць тую чорную паласу, якую пакінула пасля сябе гэтая падзея.

Прадумаўшы, перабраўшы ўсе варыянты, Рамейка прыйшоў да высновы, што вінавата больш за ўсё так званая «хуткая дапамога». Больш як паўгадзіны чакала яе Марына, спадзявалася, што выратаванне прыйдзе, а яно спазнілася. Больш як паўгадзіны чакалі «хуткую»! А на добры лад яна павінна была прымчацца за пятнаццаць хвілін. І чалавек застаўся б жыць. Як тады, калі яны яшчэ былі разам, і ў яе здарыўся сардэчны прыступ. Тады «хуткая» прыехала за дваццаць хвілін. І ўсё паставіла ў норму, Марына паправілася, праз некалькі дзён пайшла на працу... Калі ўзяць гэты факт за аснову, дык на «хуткую» можна падаваць у суд, і яны павінны будуць несці адказнасць за дачасную чалавечую смерць. Нават кампенсаваць дзецям страту карміцелькі, аплаціць маральную шкоду, нанесеную ім. Але... Але ж паспрабуй у нас знайсці вінаватых, дакажы, што ты пацярпеў з-за дрэннай работы дзяржаўнага механізма, які павінен быў спрацаваць належна і ў час, а па нейкіх прычынах замарудзіў свой ход, разладзіўся — і за гэта чалавек паплаціўся жыццём, засталіся сіротамі дзеці...

Не, такога ты ў нас, Рамейка, ніколі не дачакаешся, вінаватых няма, вінаваты хто хочаш, толькі не дзяржаўная ўстанова. Маглі знайсці якога стрэлачніка, які не ладзіць з начальствам, і спісаць на яго, такое ў нас могуць. А так — марная трата часу і нерваў. Вінаватых няма, вінавата яна сама, што не ведала меры ў працы, хацела выканаць і перавыканаць, брала працу дадому, сядзела вечарамі, а калі і начамі, некаму нешта рабіла, дапамагала пісаць «вучоныя» працы, наводзіла не толькі стыль, але і папраўляла звычайную непісьменнасць. Смех спытаць, а чаго гэта іх дачка Лена апынулася ў Віцебскім медінстытуце, а не ў сталічным? Ды тут у яе не знайшлося ніякай падтрымкі, не прайшла б па конкурсе ці па якіх іншых прычынах, а прычыны знайшліся б. А ў Віцебску ў Марыны былі добрыя сябры з ветэрынарнага, якім яна адрэдагавала не адзін рукапіс, давяла да ладу, а за гэта яны памаглі ўладкаваць дачку ў медыцынскі: рука руку мые. І Лена здала і прайшла, стала вучыцца, і нават няблага, канчае трэці курс. Трэба будзе пераводзіцца ў медінстытут у Мінск, па сямейных абставінах яе павінны перавесці. Хоць і могуць сказаць: няма месца. І ўсё, рабі, што хочаш. Вучыся там, жыві ў інтэрнаце, а тут у яе кватэра з трох пакояў, у якой цяпер застаецца адна малодшая сястра. Але не можа такога быць, каб казёншчына перамагла чалавечнасць...

Такія думкі не выходзілі ў Рамейкі з галавы, калі сядзеў ля Марынінай дамавіны. Ён прабыў тут усё ноч разам з яе роднымі, што прыехалі, каб праводзіць дачку і сястру Марыну. І матку — з Віцебска прыехала дачка Лена, заплаканая, прыбітая горам, пахудзелая.

Прыехаў і стары бацька з-пад Коханава, Павел Петрыкевіч, з дваюрадным братам Марыны Лёнем Храбрым, быў і малодшы Марынін брат Яўген з жонкаю з Жодзіна, малодшая сястра Вольга з мужам прыехала з Оршы. Выдавецкія работнікі, Марыніны супрацоўнікі, вечарам пайшлі дадому, каб заўтра, а палове дня, праводзіць Марыну ў апошнюю дарогу. Знясіленых дачок адправілі спаць, хоць яны і хацелі застацца нанач.

Рамейка, стомлены мітрэнгаю за дзень: паездка ў морг, потым дастаўка Марынінай дамавіны сюды, на кватэру, сустрэча з Марынінымі сваякамі, якія пазіралі на яго непрыязна, а то і варожа, гутарка не гутарка, а абмен словамі з дочкамі, — спачатку таксама хацеў адправіцца да свайго новага дому, але перадумаў: трэба застацца. Хай гэта будзе ноч развітання з Марынаю, апошняя іх ноч.

Ён сядзеў зусім блізка ад Марыны, побач з яе бацькам, сваім былым цесцем, яны часам нават датыкаліся локцямі, уздыхалі, думалі, кожны свае, невясёлыя думкі.

Пахла хвояю ад вянкоў, пахла воскам, патрэсквала свечка, што стаяла на століку пры дамавіне, у галавах. Сяды-тады ўзнікала кароткая адрывістая гамонка, часам плач, усхліпванне, прастудны кашаль, затым усё зноў заціхала. Рамейка глядзеў то на Марыну, то на яе партрэт, які вісеў на сцяне насупраць дамавіны, дзе яна была яшчэ маладою, з ледзь прыкметнаю ўсмешкай на вуснах, а вочы пазіралі даверліва і цёпла. Ён не знаходзіў вялікай розніцы паміж партрэтам і самой Марынаю, сёння яна выглядала маладзей за свае гады і вельмі блізка падыходзіла да свайго партрэта з маладосці. Знешне з гадамі чалавек мяняецца, а вось ці мяняецца ён душою, і як, у які бок: лепш ці горш? Ён то асуджаў сябе і апраўдваў Марыну, то асуджаў Марыну і апраўдваў сябе, але ніяк не мог знайсці сярэдзіны: хто больш вінаваты ў тым, што так здарылася?

Асуджаць, вінаваціць Марыну можна было за тое, што яна надта сур'ёзна ставілася да сваіх абавязкаў, да школьнага задання, калі можна так сказаць: мала смяялася, рэдка жартавала і весялілася, нібы на гэта не хапала часу. Яна была больш сабранаю, задуманаю, як бы засяроджанаю на нейкай адной думцы, мо нават ідэі-фікс, пра якую ніхто не ведаў, нават ён, Рамейка, які жыў з ёю дваццаць гадоў і павінен быў бы ведаць усе яе плюсы і мінусы, усе яе думкі, нават самыя патаемныя. Аднак жа — не ведаў, бо яна не хацела пускаць яго ў свае таямніцы: ці не давярала, ці баялася, што выдасць яе сакрэт некаму іншаму, а мо проста баялася яго насмешкі.

А можа, усё так здавалася Рамейку, і дарэмна ён шукаў таго, чаго няма? Думаў — і зноў вяртаўся да таго, што нешта было, але схаванае глыбока, мо каб жыццё яе не абарвалася так нечакана, адкрыла б яму сваю душу, сказала б усё — аб сабе, аб ім: што думае пра яго, чаго ён варты і што ад яго можна чакаць. А хутчэй за ўсё, што яна збіралася пісаць прозу, бо Рамейка не раз бачыў на стале накіды ці ўрыўкі нейкіх як аповесцяў, асобныя эпізоды. Нешта невялікае — як апавяданні пра жывёл — яна чытала яшчэ малым дочкам, і слухалі яе тыя з вялікай цікавасцю, нават плакалі. Гэта было, здаецца, апавяданне пра ваўчаня, якое прыручыў адзін ляснік...

Дарэмна тады Рамейка прапусціў усё міма вушэй, не прыдаў вялікага значэння. Можа, і Марына вінавата, што не занялася сур'ёзна творчасцю, а траціла ўвесь свой вольны час на чужыя рэчы — рэдагавала і нават перакладала. Да таго ж яна магла сказаць свайму Рамейку: «Дапамажы, падкажы, ты ж рэдагуеш прозу, ты ведаеш, як пішацца твор, ты бачыш яго навылет, спелы ён ці сыры... Я хацела б напісаць нешта пра сябе, пра сваю маладосць: школу, акупацыю, вучобу ў Маскве. У мяне ў галаве ўсё ўжо складзена, трэба перавесці на паперу...»

На вялікі жаль, такое гутаркі між імі не адбылося, Марына займалася сваімі будзённымі і надзённымі справамі, на літаратурны занятак бракавала часу.

Бачачы яе сур'ёзнасць, ён і сам рабіўся сур'ёзны, надзьмуты, займаўся сваімі клопатамі — садзіўся за рабочы стол і што-небудзь чытаў ці браўся за пераклад, які ў яго заўсёды быў пад рукою: канчаўся адзін, пачынаўся другі, а ці зможа іх надрукаваць — яшчэ невядома. Урэшце, выдавалі не яго, выдавалі таго ці іншага аўтара, а перакладчык там недзе значыўся дробнымі літарамі, а для чытача ён увогуле нічога не значыў. Бо калі аўтар цікавы, калі нам спачувае, яго можна выдаць. А як не зусім надзейны, тады яго кніжка свету божага не ўбачыць, хоць яна і цікавая. На гэтым Рамейка не раз гарэў — і які год працы, а то і болей, у яго прападала.

Ён лічыў Марыну чалавекам асаблівым, трохі не такім, як усе, і ў гэтым не было нічога новага, бо кожны чалавек не падобны да іншага не толькі знешне, але і натураю, складам думак, паводзінамі, а гэта не ўсім падабаецца, мы хочам, каб людзі нічым не вылучаліся, нічым не адрозніваліся ад іншых і нават думалі аднолькава, каб былі алавянымі салдацікамі.

Але дзіўна тое, што Марына, пры ўсёй яе дэмакратычнасці, не хацела бачыць у ім, Рамейку, *самога сябе,* відаць, лічыла, што ён знарок выкідвае нейкія конікі, каб пазлаваць яе, часам пазубаскаліць, паказацца арыгінальным, а не сур'ёзным, такім, як яна.

А здаецца, простая рэч: ты будзь, якая хочаш, а я — якім я ёсць, і мяняцца не збіраюся, хоць каму-небудзь магу не спадабацца. Але бяда ў тым, што ў адной сям'і такім розным людзям бывае калі не цесна, дык няўтульна, яны могуць увесь час натыкацца на нейкія калючкі то з аднаго, то з другога боку. І канфлікт з малога можа перарасці ў вялікі і скончыцца невядома чым. Невядома? А чым ён скончыўся ў іх? Разводам... А развод, па ўсім відаць, стаў такім моцным ударам для яе, што сэрца не вытрымала — і спыніла свой ход.

«Марына, дарагая, даруй, што я не прыняў сур'ёзна Твае сур'ёзнасці, не здагадаўся, што пад ёю хаваўся боль, недавер, чаканне чагосьці такога, што можа разбурыць сям'ю. Ты баялася за нашу сям'ю, а я быў пэўны, што яна ў нас моцная, што нічога такога няма, каб прынесці ёй шкоду. Я верыў у Цябе, спадзяваўся на Твой жыццёвы вопыт, на цвярозы Твой розум і Тваю працавітасць — і быў спакойны, думкі мае не білі трывогі, бо мне здавалася, што ўсё ў нас нармальна. Мо не так ужо вельмі-надта, але ўсё ў нас ішло як належыць: мы працавалі, гадавалі дзяцей, мелі кватэру, хоць да ўсяго гэтага мы ішлі няпроста і нялёгка, бо хто мы былі такія? Пачыналі ўсё на голым месцы, з нуля, нам ніхто не дапамагаў, ніякага добрага дзядзькі мы не мелі, прабівалі сабе дарогу самі, сваімі ўласнымі рукамі. І зарплата ў нас не такая высокая, каб на яе можна было жыць на шырокую нагу, яе хапала, каб апрануцца, каб пракарміць сябе і дзяцей, якія раслі хоць і не ў вялікім дастатку, але мелі тое, што належыць мець дзецям сярэдняй савецкай сям'і.

Мы нават сяды-тады, у тры гады раз, за пазычаныя грошы ездзілі на мора, часам у Юрмалу, часам у Крым, у Ялту ці Кактэбель, грэлі свае косці, купаліся ў моры, дыхалі марскім брызам, плавалі ў моры на катэры...

Гэта вяртала нам растрачаныя сілы, амалоджвала нас, мы адчувалі палёгку ў целе і на душы, але хутка зноў упрагаліся ў працу — і ад усяе тае экзотыкі заставаўся толькі прыемны ўспамін, які ўсё аддаляўся і раставаў, як паўднёвы загар.

Мы жылі як большасць, у эліту праравацца не маглі, бо заставаліся беспартыйнымі, і нам суджана было маршыраваць у масе, цярпліва цягнуць свой воз і не надта думаць пра нейкі там вялікі дабрабыт, хоць па сваіх здольнасцях мы з табою маглі б мець і нешта большае. Але за большае трэба было больш і плаціць, а мы плаціць не хацелі, сваё сумленне на кар'еру не хацелі мяняць.

Дарагая Марына, даруй мне, што я не быў прынцыповы, што дазваляў Табе браць на сябе больш, чым належыць жанчыне, шмат чаго ў сям'і я давяраў Табе, спадзеючыся, што Ты гэта зробіш лепш за мяне. Ды нават каб я хацеў стаць першы, Ты па законе лідэрства не дала б мне гэтага месца, і канфлікт паміж намі яшчэ больш разрастаўся б. Проста Ты не ўмела спыніцца на паўдарозе, не ўмела азірнуцца, адпачыць, каб потым зноў узяць належны тэмп, але з улікам таго, што сілы патрачана шмат і трэба яе ашчаджаць, не кідаць на вецер. Ты была ўпэўнена, што сілы ў Цябе хопіць да канца дарогі, таму і не берагла.

Яшчэ мне здаецца, што Ты дакарала сябе за тое, што паддалася нейкаму часоваму імпульсу гневу, які цябе ахапіў, і не магла стрымаць сябе; паказала мне дарогу на выхад, замест таго каб сказаць: «Давай разбярэмся, чаму ты такі, што табе замінае ў нашым жыцці, што трэба зрабіць, каб наладзіць нашы стасункі. Мо вінаватая і я, давай разам шукаць дарогу да паразумення...»

Не, Ты так не зрабіла, а я таксама сказаў табе: раз Ты так хочаш, хай так і будзе... І я пайшоў, хоць мог бы і не згадзіцца, мог бы знайсці доказы, што я не такі ўжо вінаваты, якім Ты мяне выстаўляла перад сабою. Ты малявала мяне вельмі гратэскна, я такі ніколі не быў і не апускаўся так нізка, як Ты лічыла... А мо Ты чакала, што я першы папрашу пардону і пакаюся ў сваіх грахах? Можа, і так, і я вінаваты, што не разгадаў Твайго намеру?..»

Такія цяжкія думкі не пакідалі Рамейку, разрывалі сэрца, не давалі спакою і раніцай наступнага дня, калі ён пакідаў на некалькі гадзін сваю былую кватэру і ўсіх, хто там заставаўся. Ён пайшоў, каб вярнуцца сюды недзе ў дванаццаць, калі пачнецца паніхіда.

Было шэсць гадзін з хвілінамі, калі ён прыехаў на сваю новую кватэру. Ларыса мела начную змену, і ён нават узрадаваўся, што яе няма. Распрануўся і лёг, каб паспаць некалькі гадзін. Але заснуць хутка не мог, малюнкі мінулага дня, жорсткія і цяжкія ў сваёй суровай рэальнасці, праходзілі ў яго перад унутраным зрокам, як у нямым кіно, здаваліся яшчэ больш рэзкія, чым былі на яве, — менавіта на мяжы цярпення, як ён у думках ацэньваў усю сітуацыю ўчарашняга і пачатку гэтага дня. Не давала спакою гутарка з Марыніным братам Яўгенам, калі разам забіралі дамавіну з морга. Ён сказаў свайму былому швагру з пагрозай у голасе, каб ён нават і не думаў вяртацца да дзяцей — адзін ці са сваёю новаю жонкай, не мае значэння. Дочкі застануцца адны, і каб ён не меў да іх ніякіх прэтэнзій. На што Рамейка адказаў: а як дочкі захочуць, каб ён вярнуўся? Што тады?

Яўген глянуў на яго са злосцю і адказаў: «Ты прадаў сваю жонку, прадаў і дзяцей, табе там не месца».

Вось такі яму быў швуграў прысуд, адна праблема вяла за сабою другую. І выплыў з памяці той учарашні сон, калі ён перахапіў Марыніну руку і забраў у яе два яйкі, і ўсё ў ім для яго праяснілася: яна перадала яму, мо таго і не хацеўшы, іх дачок. А тут ужо хочуць іх забраць, яму не аддаць. Ён лічыў, што яны не адмовяцца ад яго. А потым падумаў: ён сам адмовіўся ад іх, пакінуў іх матку, пакінуў іх, дачок. Так могуць сказаць яму дочкі. І дадаць, маўляў, ты разбурыў нашу сям'ю, давёў да магілы нашу матку. Мы маем права цябе не любіць, ты адвярнуўся ад нас, мы — ад цябе.

І на такое ён нічога не скажа, хоць прыняць на сябе ўсю віну за смерць іх маці не можа, бо вінаваты яны абое — ён і яна, і можа, нават у роўнай меры. Але ж так лічыць ён сам, а яны з ім могуць не згадзіцца, у іх свая асабістая думка...

Заснуў непрыкметна, а прачнуўся ад таго, што ў пакой ціха зайшла Ларыса, няйначай, вярнулася з дзяжурства.

— Я цябе разбудзіла? — спыталася. — Табе трэба ісці?

— Якраз добра, што разбудзіла. У дванаццаць мне трэба быць там.

Ён устаў, апрануўся, расправіў коўдру. Нейкае незнаёмае пачуццё ўзнікла сёння ў яго сэрцы да Ларысы, нібы і яна ў нечым вінавата, а не толькі ён. Бо гэта яна забрала ці прыняла беглага мужа і зрабіла яго сваім. А мо каб не прыняла, дык ён, пабадзяўшыся па чужых кутках, вярнуўся б у сваю старую сям'ю і ўсё пайшло б ладам? Гаварыць пра гэта ён не збіраўся, ды і не вінаваціў Ларысу ні ў чым, а вось жа нейкі цень прамільгнуў і лёг непрыкметна паміж імі. Рамейка ў нечым лічыў сябе вінаватым перад ёю, а яна, пэўна, лічыла сябе вінаватай яшчэ больш перад ім, а мо перад яго першаю жонкаю, якая вось так нечакана пакінула гэты свет, пакінуўшы яшчэ не даведзеных да ладу дзяцей.

І такі ўнутраны душэўны разлад паміж імі будзе, відаць, яшчэ доўга адгукацца глухім болем...

Рамейка памыўся, трохі перакусіў, хоць і не хацелася, і сабраўся ісці.

— Ларыса, ты прабач, што сёння я нейкі як разбіты. Ты мяне зразумееш, бо нешта падобнае перажыла і сама. — Ён абняў яе, прытуліў да сябе, яна гатова была заплакаць. — Вярнуся, відаць, позна. Ты чакай. І не хвалюйся за мяне, я таксама цярплівы. — І ён пацалаваў яе ў шчаку.

Яна перахрысціла яго на дарогу, і ён пайшоў. На прыпынку сеў у аўтобус і праз дваццаць хвілін быў на месцы. Народу сабралася шмат: родныя, блізкія, суседзі, выдавецкія супрацоўнікі — сябры па рабоце. Многія стаялі ўнізе, ля пад'езда, чакалі, пакуль дамавіну з нябожчыцай знясуць і паставяць тут, на выхадзе.

Цяжка развітвацца з чалавекам, якога любіў, пражыў з ім два дзесяткі гадоў, з якім пусціў на свет двое дзяцей. Ён, Рамейка, развітваўся з Марынай яшчэ жывою, гэта было адно, другое развітанне, сёняшняе — нешта зусім іншае, іх нават нельга і параўнаць. Першы раз ён пакідаў яе і быў пэўны, што не надта тут нешта зменіцца, не стане толькі яго, а яны ўсе жывуць амаль так, як з ім. У нечым ім будзе горш, у нечым мо нават лепш, а сёння раўнавага парушылася — выбыла Марына і ўтварылася пустата, якую нічым нельга запоўніць. Трэба ўжо рабіць нейкія перастаноўкі, будаваць новую мадэль, з дзвюх сем'яў ляпіць адну ці яшчэ нешта іншае, каб страчаную раўнавагу неяк аднавіць. Калі нават не аднавіць, дык знайсці варыянт, які прымірыў бы абодва нядаўна варожыя бакі, зрабіў іх саюзнікамі, каб яны маглі памагаць адно другому ў цяжкую гадзіну.

Перш за ўсё памагаць яшчэ не акрэплым на ногі дзяўчынкам, усякія іншыя дробязі не прымаюцца ў разлік.

...Вось паказалася з пад'езда маладая жанчына з партрэтам Марыны ў руках, за ёю выйшлі жанчыны з вянкамі і кветкамі, яны станавіліся кругам вакол пляцоўкі, на якой стаялі дзве табурэткі, засланыя дыванком, куды паставяць дамавіну.

Праз колькі хвілін дужыя выдавецкія хлопцы вынеслі дамавіну з нябожчыцай і паставілі на прыгатаванае месца, па народным звычаі нагамі наперад. Зверху спусціліся сваякі, родныя, суседзі — усе, хто ў гэтыя хвіліны знаходзіўся ў кватэры. Цяжкаю паходкай падышоў і стаў ля дамавіны дачкі і яе бацька, пастарэлы за адну ноч, пахудзелы і зняможаны — нейкі зусім не такі, якім бачыў яго Рамейка ўчора, калі яны побач сядзелі ля дамавіны, а ў яго круцілася ў галаве пытанне да цесця-бацькі: а што гэта значыць перажыць свае роднае дзіця, якое ты гадаваў і спадзяваўся, што яно дагледзіць цябе на старасці год і правядзе ў апошнюю дарогу, як гэта робіцца з веку ў век? Што перажывае, што думае яе бацька, які так любіў дачку, так ганарыўся ёю?.. Пэўна ж, у яго душы жыла крыўда на Рамейку, свайго зяця, ужо былога, ужо страчанага для іх роду, на якога ён спадзяваўся як на надзейнага паплечніка яго дачкі, з якім яна не прападзе, а будзе жыць па-чалавечы, як і належыць усім добрым людзям. А сёння ён хавае сваю дачку, сваю надзею, і сэрца абліваецца крывёю, а розум бунтуе: што гэта робіцца, чаму такая несправядлівасць — каб бацька хаваў сваё дзіця?

Надышла цішыня, усе чакалі пачатку жалобнага мітынгу. І вось ад грамады аддзяліўся высокі хударлявы мужчына ў чорным плашчы, з трохі пасівелаю галавою і падышоў да дамавіны, памаўчаў, узіраючыся ў твар нябожчыцы, і загаварыў як прастуджаным голасам:

— Мы ўсе, супрацоўнікі выдавецтва, глыбока смуткуем і схіляем галовы ў жалобе, што ад нас пайшла без пары Марына Рамейка, выдатны працаўнік, разумны і прынцыповы чалавек, у якога можна было шмат чаму павучыцца. Я выказваю шчырае спачуванне родным і блізкім Марыны, перш за ўсё бацьку Паўлу Петрыкевічу, і хачу ад усяго сэрца падзякаваць яму, што ён выгадаваў і выхаваў такую слаўную дачку Марыну. Вечная ёй хвала, мы яе ніколі не забудзем...

Шмат хто плакаў, асабліва жанчыны, а бацька Павел выціраў скамечанаю хусцінкай вочы, ківаў галавою, нібы кажучы: што ж ты нарабіла, дачушка? Чаго ж ты ад нас пайшла?

У Рамейкі вочы былі таксама поўныя слёз, хоць дзяжурныя словы намесніка дырэктара, здавалася б, не павінны былі выклікаць такіх эмоцый. Аднак жа ў такую хвіліну яны набывалі нейкую асаблівую, ці не магічную сілу, і дзейнічалі на кожнага, пранікалі ў самае сэрца, кранаді балючыя струны і абуджалі жаль.

Затым гаварыла загадчыца рэдакцыі, у якой працавала Марына, і таксама не шкадавала добрых слоў, хваліла за працавітасць, за сур'ёзныя адносіны да абавязкаў, выдзеліўшы з усяго, што Марына была вельмі патрабавальным чалавекам — і перш за ўсё да сябе, але і да ўсіх, хто яе акружаў і з кім яна працавала. Яна патрабавала сумленнасці, шчырасці, яе абурала несправядлівасць, хамства, панібрацтва, чаго ў нашым жыцці аж занадта шмат. Мо гэта ўсё і падарвала яе здароўе, яе чулае сэрца не вытрымала — і спынілася на паўдарозе.

«Шкода, — падумаў Рамейка, — што на паніхідзе не пляскаюць у ладкі. Такія словы заслугоўваюць апладысментаў. А вось Марына гаварыла, што

ты, шаноўная загадчыца, не была такою сумленнаю і шчыраю ў адносінах да яе, як хацелася б ці як належала б быць. І што шмат яна рвала свайго сэрца менавіта з-за таго, што ты была несправядліваю і неаб'ектыўнаю. Але няхай Бог бачыць праўду і крыўду».

Потым гаварылі яшчэ дзве жанчыны з рэдакцыі, таксама хвалілі Марыну за прынцыповасць, за смеласць: яна магла сказаць праўду ў вочы нават самому міністру сельскай гаспадаркі, не тое што якому навукоўцу, які пісаў ружоваю фарбаю, а на практыцы, у жыцці, усе выглядала зусім іначай — пераважала чорная. Яна была супраць лакіроўкі і ўсякага прыхарошвання нашага жыцця. Калі мы ўсе станем такімі, мы зможам перарабіць наша жыццё на лепшае, інакш мы так і будзем ісці па абочыне прагрэсу...

Рамейка, як цэнзар, слухаў і рабіў свае заключэнні: «Вось чаму вы не паставілі яе загадчыцай рэдакцыі. Яна была беспартыйная — раз, а другое — яна была прынцыповая, казала праўду ў вочы кожнаму, хто рабіў не па правілах, хто думаў, як дагадзіць высокаму начальству, хто са свае пасады рабіў кармушку. Не, у наш час не магла яна стаць начальнікам, яна выглядала б белаю варонаю, і яе задзяўблі б. А мо так яно і сталася? А можа... Хоць яна і не хадзіла ў начальстве? Такіх не любяць нідзе — ні ўверсе, ні ўнізе. Жыцця ім няма... Іх лёгка аб'явіць экстрэмістамі, як раней, да вайны — ворагамі народа... Не, такіх людзей начальства не любіць... менавіта такіх можна хваліць толькі пасля смерці — як вось хваляць Марыну». Жывая яна не чула падобных слоў ад свайго начальства, аб гэтым Рамейка ведаў і мог бы паспрачацца з кожным, хто тут выступаў... Выходзіць, што каб пачуць, як цябе хваляць, трэба памерці? Нішто сабе задача...

Сказана шмат цёплых і прачулых слоў пра чалавека, які зараз ляжаў у дамавіне і нічога гэтага не чуў, можа, толькі чула яе душа і плакала, аблівалася слязьмі, што яе хваляць так шмат і так шчодра, як ніколі пры жыцці. Нават ён, Рамейка, яе былы муж, калі яшчэ не стаў былым, ніколі не хваліў яе так шчодра, не адпускаў такіх эпітэтаў, якія гучалі сёння. Чаму? Над гэтым трэба падумаць, — зазначыў сабе Рамейка.

...А цяпер — развітанне з Марынай — для тых, хто застаецца тут, а для астатніх, хто паедзе на могілкі, адбудзецца там.

Ля Марынінай труны прайшло мо чалавек сто розных людзей, рознага веку і ўзросту, мужчын, жанчын і дзяцей, падлеткаў-школьнікаў з навакольных дамоў і бліжэйшых пад'ездаў.

Дамавіну закрылі, паставілі ў катафалк, туды селі сваякі і родныя, хто хацеў, садзіліся ў два аўтобусы, людзей набралася шмат. Ехаць няблізка, на Паўночныя могілкі, там Рамейку даводзілася бываць, не так даўно хавалі яго настаўніка, выкладчыка інстытута, прафесара, кніжку якога ён рэдагаваў некалькі гадоў назад. Сумнае месца, журботнае, слёзнае, што і казаць. Колькі тут спачывае людзей — не пералічыць. Вось і ў Рамейкі будзе тут месца, да якога сяды-тады можна — ці нават трэба — наведацца, прынесці кветкі, схіліць у жалобе галаву, пастаяць, паўспамінаць і падумаць. Гэта месца, дзе добра думаецца, — над сэнсам жыцця, над сённяшнім днём, над сваім лёсам. Тут можна прыйсці да нечаканай думкі, да рашэння складанай задачы, якая не давалася доўгі час, а тут развязалася неяк адразу. Тут можна паплакаць, і ніхто не ўбачыць тваіх слёз, а калі і ўбачыць, дык не здзівіцца, бо тут месца жалю і плачу...

Два аўтобусы засталіся ля галоўных варот, а катафалк паехаў далей, па сцежцы справа пры агароджы. Вось і свежая магіла, варушацца грабары, папраўляюць краі, паглыбляюць. Урэшце ўсё скончына, труну ставяць на

спецыяльны памост, людзі акружаюць нябожчыцу, слова развітання гаворыць адна з сяброўак Марыны — Таццяна, маладжавая, прыемная з твару жанчына. Яна звяртаецца да Марыны як да жывое:

— Што ж ты так рана ад нас пайшла, дарагая наша Марына? Мы думалі, што ты яшчэ папрацуеш з намі да пенсіі, мы цябе правядзём і ўшануем твой працоўны шлях, а ты раптоўна, не дачакаўшыся гэтага часу, пайшла назаўсёды... Ты, як тая кветка мальва, што расла і цвіла на клумбе, давала радасць усім, хто жыў побач, чые вочы лашчыла і цешыла хараство тваіх сонечных кветак... Ды раптоўны віхор жыцця ломіць тваё стройнае цела, яно становіцца бездапаможным, траціць сувязь з глебаю, якая яго жывіла, і на вачах засыхае... Нам балюча гэта бачыць, мы плачам, і смутак наш бязмежны... Адзінае нам усім суцяшэнне — што застаюцца твае дзве кветкі — твае дзеткі, дзве цудоўныя дзяўчынкі, якія прадоўжаць твой шлях па жыцці, яны панясуць у сэрцы тыя ўсе светлыя думкі і пачуцці, якімі жыла ты і якімі шчодра дзялілася з усімі, хто жыў побач з табою... Бывай, дарагая Марына. Няхай пухам табе будзе наша беларуская зямля...

Рамейка, слухаючы, падумаў, што і гэтай жанчыне варта было б апладзіраваць, каб гэта не лічылася парушэннем рытуалу. Яму самому сказаць развітальнае слова не прапаноўвалі, і мо нават і добра, хоць ён знайшоў бы што сказаць, але потым гаварылі б, што стараўся выгарадзіць сябе, замаліць свае старыя грахі, хваліў яе, а што ж ты яе кінуў, калі яна такая для цябе мілая і добрая? Значыць, ты сам вінаваты ва ўсім, і ў смерці яе таксама. Ці мала яшчэ што гаварылі б людзі?

А ён мог бы сказаць нешта такое, што не спадабалася б Марынінаму бацьку Паўлу, ці яе брату Яўгену, ці сястры Вользе. Ды магло б нават не спадабацца і яму самому, бо без паперкі гаварыць няпроста, ён гэта ведаў: можна сказаць такое, што потым будзеш здзіўляцца, адкуль што ўзялося. Ён мог сказаць так: «Дарагая Марына, Ты павер, што я не хацеў Табе зла, тым больш не хацеў Твае смерці, я спадзяваўся на Цябе, як на каменную сцяну, што дагледзіш і выведзеш у людзі нашых дачок, і гэта было б тое, што трэба. Ты спрашчала мне задачу майго жыцця, я пайшоў у другую сям'ю і яшчэ не ведаў, як я спраўлюся са сваімі новымі абавязкамі. Я не стану апраўдваць сябе, тым больш хваліць. Так, я не анёл, але і не чорны дэман, якім мяне некаторыя малююць, я звычайны чалавек, якому ўласцівы слабасці і памылкі, але я сумленны чалавек, гэта я кажу табе, Марына, тут, ля Твайго смяротнага ложа, і таму не маю права хлусіць, браць грэх на сваю душу... Я здрадзіў Табе зусім выпадкова, і то пасля таго, як пераканаўся, што Ты мне не верыш і лічыш хлусам і здраднікам. Ты потым сказала мне: «Пакінь нас, я не магу цябе бачыць.» І я пакінуў вас, хоць мог бы і не пайсці, але я пабаяўся, што Ты, Марына, зробіш нешта такое, што потым будзе горка ўсім нам. Таму я пайшоў... Я нейкі час заставаўся паміж небам і зямлёю, я думаў, што Ты адумаешся і вернеш мяне, і мо я і вярнуўся б. Але Ты гэтага не зрабіла, і я пайшоў у чужую сям'ю да жанчыны, даўняй знаёмай, але ў мяне не было з ёю ніякіх блізкіх адносін. Яна мяне не адбівала ў Цябе, Марына, яна сама не ведала, што ёй рабіць, бо ў яе быў выбар, і неблагі. І каб Ты, Марына, сказала мне «вярніся», усё магло б вярнуцца на кругі свае, і мая цяперашняя жонка стала б жонкаю іншага чалавека. Але ты не сказала мне таго слова, якога я чакаў, усё парвалася, пайшло прахам, і мы засталіся на розных берагах ракі жыцця... І твой бумеранг, пушчаны ў мяне, вярнуўся і стукнуў Табе ў самае сэрца... Мне балюча, што так сталася, я гэтага не хацеў, я хацеў, каб Ты жыла доўга-доўга, каб

прычакала ўнукаў, праўнукаў... А выйшла вось так: мы праводзім Цябе, дарагая Марына, у апошнюю дарогу, мы плачам, нам баліць, крывавяць нашы сэрцы, і мы молім у Бога аднаго — каб ён прыняў Цябе ў неба. Ты гэтага заслужыла... А зямля наша хай Табе будзе пухам. Я схіляю галаву перад Табою. Я не пакіну Тваіх і маіх, нашых дзяцей. Будзь спакойная за іх. Бывай назаўсёды».

Так, Рамейка мог сказаць нешта падобнае, але не сказаў...

Намеснік дырэктара аб'явіў паніхіду скончанай, надышоў момант развітання з нябожчыцай, родныя і блізкія развітваюцца першыя...

Пацягнуўся ланцужок людзей, спачатку падышоў і пацалаваў дачку бацька, потым сястра з мужам, брат з жонкаю, за імі — дочкі Лена і Геня, а ўслед за імі — Рамейка. Усе плакалі, гаварылі развітальныя словы — і было ў іх шмат пяшчоты, ласкі, болю і крыўды на лёс, на несправядлівасць. У Рамейкі слёз чамусьці не было, яму толькі горка было бачыць забітых горам сваіх дачок, якія плакалі і ламалі рукі над маткаю, якая ляжала безуважная да ўсяго і спакойная, што ў жыцці рэдка хто мог убачыць, а тым болей — яны.

Рамейка, падышоўшы да дамавіны, нахіліўся і пацалаваў Марыну ў лоб. Лоб быў халодны, як ледзяны. А твар яе меў выгляд свежы, нават здаровы, калі так можна сказаць пра нябожчыкаў твар. То быў нармальны твар чалавека, які памёр не хварэючы, калі хвароба яшчэ не высмактала з яго ўсіх сокаў і крыві. Менавіта было ўражанне, што яна спіць. І макіяж, пра які гаварыла жанчына ў моргу, яшчэ больш падкрэсліваў яе рысы твару: чорныя бровы дужкамі, чорныя вейкі, цені-паўцені пад вачыма, на павеках, чырвоныя, амаль фіялетавыя спакойна самкнутыя вусны, падружоўленыя шчокі, — усё гэта рабіла яе нават прыгажэйшай, чым яна выглядала ў жыцці, такі макіяж на яе твары Рамейка бачыў рэдка: бракавала ці часу, ці настрою, ці яшчэ чаго... А валасы былі наплоеныя, кучараваліся над высокім лбом і спадалі хвалямі ўніз да плячэй, завіваючыся ў кольцы, хоць у жыцці валасы ў яе былі прамыя, русыя і не надта густыя. Яна пакідала гэты свет абноўленаю, у лепшай сваёй форме.

— Бывай, дарагая Марына, — сказаў Рамейка не сваім голасам. — Даруй мне... за ўсё... даруй...

Апусціў галаву на грудзі, пакланіўся і адышоў, даючы дарогу іншым. Слёзы стаялі зусім блізка, яны казыталі ў носе, прасіліся вонкі, але трымаліся, нешта як не пускала іх ліцца, цячы свабодна. Няўжо вінавата сэрца? Яно неяк сціснулася, на ім адчуваўся нібы абруч, і дыханне пачало збівацца. «Каб толькі не ўпасці, каб не пайсці за Марынаю, — падумалася яму. — З кім жа тады застануцца дзеці?..»

Але хутка ўсё прайшло. Паступова вярталася сіла ў мускулы, ногі ступалі цвёрда і не падгіналіся, як колькі хвілінаў назад, а сэрца запрацавала ў сваім ранейшым рытме.

## 29

Калі потым Рамейка ўспамінаў тыя чорныя дні, гадзіны, часіны, яны як бы падзяліліся ў яго свядомасці на тры часткі. Першая, самая цяжкая — гэта вестка, што Марына памерла, нейкі ўнутраны пратэст, нязгода з тым, што адбылося так раптоўна, так трагічна-нечакана: не можа такога быць!

Але рэчаіснасць няўмольная: Марыніна цела трэба адвезці ў морг, потым яе забраць ужо ў дамавіне, святочна, у дарогу, апошнюю сваю

дарогу, апранутую, потым «усяночная» пры ёй, думкі, цяжкія, як валуны, горкія, як палын, чорныя, як сажа — асуджэнне сябе, потым яе, апраўданне — сябе і яе. Прымірэнне, хоць і пасля яе смерці, і светлая палоска ў канцы — іх дзеці, іх далейшы лёс і надзея на доўгія леты...

Другая частка — самая-самая цяжкая, а Рамейку здавалася, што «самая» ўжо мінулася... Не, развітанне і пахаванне — вось што трэба было вынесці, то была мяжа цярпення і выпрабавання сілы, і Рамейка баяўся, што можа ўпасці і не ўзняцца, і пойдзе-паляціць следам за Марынаю, якая ўжо аддалялася, хоць цела яе было тут, перад імі, яны яго бачылі, яшчэ гаварылі з ім — а не з ёю! — як з жывою істотаю, маглі дакрануцца да яе халоднай рукі ці твару. А душа яе адлятае, адплывае ў нязведаныя вышыні, за шырокія далягляды, да якіх жывыя могуць дастаць толькі ва ўяўленні.

Найцяжэй перажыць развітанне, калі бачыш чалавека апошні раз, калі больш ніколі-ніколі не ўгледзіш, не спаткаеш, не пагаворыш, а ён можа прысніцца толькі ў сне... Калі гэта чужы чалавек — не так моцна баліць, а як свой, родны, з якім жыў побач гадамі, дзяліў хлеб і соль, гора і радасць, надзеі і спадзяванні, — што тады? Боль невыносны — нібы ў цябе забіраюць, адрываюць частку твайго сэрца.

А некаторыя з тых, што былі побач, маглі падумаць, што Рамейка радуецца, бо цяпер становіцца гаспадаром на дзве сям'і, што яго дочкі без ніякіх перашкод вернуцца да яго ці ён да іх. Так-так, Рамейка тут быў нейкім асаблівым персанажам, не такім, як усе. Калі б ён быў яе мужам, ён успрымаўся б нармальна, так як і трэба. А ён быў ужо не свой, але і не чужы — ён стаяў на мяжы паміж былым і сённяшнім, якое ён павінен злучыць, аб'яднаць у адно цэлае, зноў напоўніць яго жывым зместам. Ці зможа ён гэта зрабіць, праўдзівей, ці дазволена яму будзе заняць тое месца, якое займаў нядаўна?..

Трэцяя частка здавалася яму лягчэйшай за першыя дзве. Усе яны развіталіся з Марынай назаўсёды, сыпанулі па тры жмені пяску на яе дамавіну, пусцілі развітальную слязу перад яе партрэтам і паехалі ў горад. Сам Рамейка адчуваў нейкую палёгку, ён як бы скінуў з сябе нешта нябачнае, але цяжкае, што яго прыгнятала, гнула да зямлі. А тут раптам — палёгка. Па прымаўцы: з вачэй — як з плячэй, адразу стала лягчэй... Можа, і так, бо адна рэч бачыць пакуты, а другая — іх уяўляць...

Яны ўсе, хто вярнуўся з могілак, памылі рукі, занялі месца за састаўленымі разам трыма сталамі, бацька Павел згаварыў малітву «Ойча наш» на старaславянскай мове, узнялі першую горкую чарку за светлую душу рабы Божай Марыны: каб ёй спакойна спалася, каб пухам ёй была наша родная зямліца...

Каб заглушыць узрушэнне, хваляванне, чалавеку трэба перакусіць, і першая чарка, а за ёю закуска — гэта якраз тое, што трэба арганізму. Медыкі кажуць, што кроў ад галавы прылівае ў страўнік, чалавек адчувае палёгку — і здымаецца стрэс. Мо яно і не зусім так, але пасля першай чаркі звычайна пануе маўчанне — прачынаецца апетыт, і яго трэба супакоіць, даць яму занятак, а сам чалавек хай расслабіць напятыя струны нерваў, каб яны не парваліся.

Потым пайшла другая чарка, трэцяя, людзі паступова адыходзілі ад нядаўняй скаванасці, гаварылі спакайней, стараліся як бы згладзіць вострыя вуглы: чалавека ўжо не вернеш, трэба жыць далей і думаць, як ладкаваць новы парадак. Завязвалася гаворка між суседзямі за сталом, некаторыя расказвалі забаўныя гісторыі з пахаваннем, з могілкамі. Адну такую гісторыю

распавёў бацька Павел — як у іх там, ля Коханава, далакопы капалі магілу, а побач аказалася труна, яшчэ здаровая, над ёю як бы невялікая ніша, зямля не засыпала яе да адказу, і адзін з далакопаў захацеў паглядзець, а што ж там у дамавіне. Лязом рыдлёўкі ён прыўзняў века труны — і ўбачыў, што там ляжыць маладая жанчына, ну проста як жывая. Ён ажно пахаладзеў, няўдала павярнуў рыдлёўку — і дамавіна, бразнуўшы векам, закрылася. Ён паклікаў сваіх напарнікаў, якія курылі наверсе, і сказаў, што пакажа ім цуд — узняў другі раз века — і ахнуў: замест прыгожай маладзіцы ўбачыў адзін прах, парахню...

А малады сусед Кутузаў расказаў, што пачынае будавацца крэматорый у Мінску, бо Паўночныя могілкі не паспяваюць ці проста не могуць прыняць усіх нябожчыкаў, разрастаецца горад, а значыць, больш паміpae людзей. Да такой навіны людзі за сталом аднесліся як хто, пачыналіся нават спрэчкі.

Нечакана брат нябожчыцы Яўген кінуў рэпліку, што мы аддаляемся ад пратакола, што ёсць важныя пытанні, якія трэба вырашаць.

— Няхай скажа сваё слова былы Марынін муж — якія ў яго думкі і меркаванні, а мы паслухаем, — закончыў ён суха і рэзка.

У яго голасе адчувалася прыхаваная злосць і непрыязнасць да яго, Рамейкі, і ён адчуў гэта адразу: непрыемны халадок прайшоў у яго каля сэрца, нібы яму трэба было скакаць у ледзяную ваду. Ён устаў, кінуў позірк на свайго апанента, агледзеў людзей, што сядзелі перад ім, як бы шукаючы падтрымкі ў іх позірках, і пачаў:

— Я не хачу казаць, як мне баліць, вы можаце не паверыць. Я скажу толькі, што нас пакінуў чалавек, які заслугоўвае самай высокай пахвалы...

— Што ж ты кінуў гэтага чалавека ў бядзе? — спытаўся Яўген з адкрытай непрыязнасцю.

— Бяды не было, і я не кідаў Марыны, гэта яна кінула мяне, — спакойна адказаў Рамейка.

— Яна выгнала цябе, бо ты гэтага заслужыў, — у такім жа тоне працягваў Яўген. —І ты не апраўдвайся, табе ніхто не паверыць.

— Я не на судзе і апраўдвацца не збіраюся. Мне толькі хацелася б, каб вы ўсе, хто тут за гэтым жалобным сталом, ведалі праўду. Я хачу абараніць свой чалавечы гонар ад несправядлівых выпадаў.

— Маўчаў бы ўжо пра гонар, — зноў загарэўся Яўген. — Яго ў цябе мо зроду не было!

Рамейкава выступленне, ці тост, ператвараўся ў спрэчку, якая ўжо выходзіла за рамкі элементарнай прыстойнасці, і яе трэба было канчаць.

— Калі я тое ж самае скажу пра цябе, ты абвінаваціш мяне ў хлусні і будзеш мець рацыю, — адказаў Рамейка. — Тое ж самае кажу і я на твае словы. Так што не трэба кідаць камяні ў агарод адзін другому... Мы тут не для гэтага сабраліся. Паспрачацца можам і пасля, не трэба траўміраваць людзей, яны і так шмат перажылі за гэтыя дні. Калі коратка, то скажу, што свае віны з сябе не здымаю, я вінаваты, і я хачу загладзіць сваю віну, я хачу дагледзець нашых дзяцей і паставіць іх на ногі. Гэта мой святы абавязак. — І тут Рамейка расказаў пра свой сон, які прысніўся яму ўчора — як ён прыняў з Марынінай рукі два яечкі і адправіў іх сабе ў рот. — Яе жэст і мой працяг гэтага жэста гаворыць за тое, што яна перадае мне клопат пра далейшы лёс нашых дзяцей, і я ад яго не адступлюся, што б вы ні гаварылі...

— У цябе і пытаць ніхто не будзе, гэта вырашаюць дочкі, — усё так жа зацята сцвердзіў Яўген.

Рамейка хацеў не згадзіцца, але тут цяжка ўзняўся бацька Павел, паглядзеў на сына, паглядзеў на былога зяця, уздыхнуў і сказаў:

— Хлопцы, ужо не маладыя, перастаньце дзяцінець, не трэба за жалобным сталом ніякае злосці. Тут павінен быць мір і згода, любоў і давер. Праўда, што не трэба кідаць камяні адзін у другога... Успомнім добрым словам маю дачку Марыну, вытрам слёзы, памолімся Богу... Гэта адно... А другое... Ты зяць, былы зяць, ты мне падабаўся, ёсць у цябе шмат добрага... Але мая дачка чамусьці не давярала табе. І мо мела на гэта нейкія, ну, як тут сказаць, доказы ці факты... Яна перажывала, пакутавала, надрывала сэрца. Вось яно і не вытрымала, парвалася... І ўжо тут нічога не паправіш, трэба жыць без яе... Мы параіліся, усе Петрыкевічы, і прыйшлі да згоды, што дзеці не павінны вяртацца да бацькі ці бацька да іх. Няхай яны жывуць тут адны. І дзеці таксама з гэтым згадзіліся, можаш спытаць у іх сам. І нават суд табе нічога не паможа, бо дзіця пасля дзесяці гадоў мае права само вырашыць з кім яму быць. Так мне сказаў знаёмы юрыст...

— Праўда, праўда, ёсць такі артыкул у адміністрацыйным кодэксе, я чуў таксама, — пацвердзіў малады мужчына з выдавецтва, адзін з тых, што прыходзілі да Рамейкі на працу ўчора раніцай.

Рамейка гэтага не ведаў, але яму не верылася, што дочкі не захацелі, каб бацька вяртаўся да іх.

— Я лічу, што, калі яны і рашылі не прымаць мяне, дык зрабілі гэта не падумаўшы, бо апека ім патрэбна, яны вучацца, самастойна жыць яны яшчэ не ўмеюць, іх лёгка можна ашукаць, збіць з правільнай дарогі. І як бацька я павінен рабіць так, каб яны жылі без усякіх пагроз, спакус, пад бацькоўскім прыглядам. Даваць ім поўную волю ў такім узросце я лічу вельмі рызыкоўна і нават небяспечна, — не згадзіўся з цесцем Рамейка.

Яго нечакана падтрымаў Віктар, муж Марынінай сястры Вольгі:

— Мне здаецца, што Рамейка разважае правільна, што дзяцей яшчэ нельга пакідаць адных, яны могуць...

Яго тут жа перабіла ўласная жонка Вольга, накрычала на яго, як крычаць базарныя цёткі:

— Што ты трэплеш сваім языком, як памялом, лепш памаўчы, ніхто ў цябе не пытаецца, разбяромся і без цябе, заткніся!

Бедны Віктар, хударлявы, вастраносы мужчына сярэдніх гадоў, ніякавата павёў плячыма, апусціў галаву і замоўк.

«Бунт на караблі задушаны ў зародку, — падумаў сам сабе Рамейка. — Усё ўжо зроблена на іх капыл. Відаць, нідзе не дзецца, саступіць давядзецца». Ён не стаў спасылацца на голас у сваю абарону, каб не нашкодзіць чалавеку, а сказаў тое, што яшчэ не паспеў сказаць:

— А калі я падам у суд, то мяне могуць прызначыць іх апекуном, а не каго-небудзь іншага — Ён не хацеў называць прозвішча Петрыкевічаў. — Што вы на гэта скажаце, мае апаненты?

— Мілы чалавек, ты і без суда павінен быць апекуном сваіх дзяцей, — падаў голас бацька Павел, які ўжо сядзеў на сваім месцы, але нічога не еў і не піў, нібы забыўшыся на ўсё. — Цяпер ты адзіны іх апякун, хоць мы таксама будзем іх даглядаць і памагаць.

Усе міжволі паглядзелі на трэці стол, пры дзвярах, за якім побач з іншымі гасцямі сядзелі дзве сястры — Лена і Геня, пра якіх тут ішла спрэчка. Яны знешне выглядалі зусім спакойнымі, трохі ружавашчокімі, мо нават і ад выпітага віна. А што рабілася ў іх душах, дык можна толькі здагадвацца: жыла крыўда на бацьку, боль за матку, на будучае — надзея і страх, страх і надзея.

— І ім будзе не горш, чым было пры табе, такім клапатлівым бацьку! — зноў кінуў камень у Рамейкаў агарод швагер Яўген.

— Як будзе, мы пабачым, а як было — ім лепш ведаць, чым нам з табою, шаноўны швагер, — адказаў на рэпліку Рамейка. — І ці не здаецца табе, што дзеці, якія засталіся без маткі, яшчэ не круглыя сіроты, а вось як адгарадзіць іх яшчэ і ад бацькі, дык кім яны стануць? І вы хочаце сказаць, што жадаеце ім дабра? Па-мойму, большага зла нельга і прыдумаць. — Рамейка ўзмахнуў рукамі і сеў. Адчуваў, што твар яго гарыць, а сэрца ў грудзях стукала моцна, але рытмічна, без усякіх збояў.

Было падобна на тое, што ён трапіў Петрыкевічам у балючае месца. Ускочыў брат Яўген, потым сястра Вольга, не выбіраючы слоў, сталі паліваць яго, як ледзяною вадою, крыўднымі эпітэтамі, ад якіх можна было схапіць спачатку прастуду, а потым — гарачку: што ён жорсткі, бессардэчны, грубы і нахабны, што ён нікога і ніколі не любіў і не глядзеў не толькі сваю жонку, але і родных дзяцей, — і яшчэ шмат чаго было яму выліта на галаву.

Усярэдзіне ў Рамейкі ўсё кіпела, але стрымліваўся як мог, бо каб даў сабе волю, дык і ён знайшоў бы ім што адказаць або проста выйсці з пакоя і не слухаць.

Бацька Павел, угнуўшы галаву, слухаў, часам кідаў позірк на Рамейку, які сядзеў насупраць яго, і як нечага чакаў. Ці не канца слоўнага вадаспаду яго родных дзяцей, якія выступалі гарачымі абаронцамі яго ўнучак і груба таптаді іх бацьку. Каб яны толькі не перастараліся, каб дзеці не сказалі ім: «Гэта наш бацька, і калі ён нават і дрэнны, але ўсё роўна ён наш, ён адзін у нас застаўся, і мы яго ў крыўду не дамо».

Таму стары зноў стаў на свае нетрывалыя ногі, узняў правую руку з прыгнутымі спрацаванымі пальцамі і сказаў усхвалявана:

— Дзеці, хопіць з вас, замаўчыце! Трэба і меру знаць! Паглядзіце на людзей, хіба ім прыемна вас слухаць? Яны не таго сюды прыйшлі, і вы таксама. Не трэба распальваць агонь... Хай дзеці жывуць адны, а потым пабачым... Я думаю, што бацька павінен з гэтым згадзіцца... хоць яму і крыўдна. Хай пацярпіць, хай абдумае свае жыццё... У яго другая сям'я, новыя клопаты... А цяпер я хачу, каб мы выпілі чарку за здароўе ўсіх, хто за гэтым жалобным сталом, за здароўе ўсіх, хто прыйшоў раздзяліць наша гора, хто дапамагаў нам, асабліва суседзі, зрабіць усё так, як трэба... Мы без вашай дапамогі проста былі б... Ну як той цяжкі воз на гразкай дарозе. Адны мы не справіліся б... Дзякуй вам усім, асабліва кіраўніцтву з выдавецтва, як яно? «Ураджай» і ўсім людзям, якія працавалі разам з маёю дачкою Марынаю... — тут голас яго заглух, абарваўся, утварылася пауза. — Даруйце старому, што зробіш? Яшчэ раз: дзякуем вам усім, хай вам Бог пасылае здароўе! Дык вып'ем да дна, а то мы нешта слаба рухаемся ў гэтым кірунку...

Усе заўсміхаліся, мо першы раз за цэлы дзень, дружна выпілі, сталі закусваць. Надышоў момант нейкага як прасвятлення, застолле скінула з сябе скаванасць, напружанасць — як чаканне нечага непрыстойнага, што магло тут адбыцца, каб стары бацька не супакоіў спрэчнікаў, не даў ім разысціся на ўсю шырыню натуры. Людзі ажывіліся, гаварылі між сабою групамі, абмяркоўвалі нейкія свае праблемы, часам чуўся стрыманы смех.

Збіліся на тэму, што значыць для чалавека радзіма, яго роднае месца, дзе ён нарадзіўся і вырас, і Марынін бацька расказаў пра сябе, як ён маладым хлопцам пасля службы ў войску з адным сваім сябрам паехаў на Украіну,

у Данбас, у прамысловы горад Макееўку, цяпер, здаецца, Днепрапятроўск, уладкаваўся на металургічны завод. Папрацаваў месяц, другі, трэці — і адчуў, што слабее, хоць работа сама па сабе і не была ўжо такою цяжкаю. Пайшоў да доктара, раз і другі, але нічога ў яго не знаходзяць, далі нейкіх кропель, парашку ад сэрца — і ўсё. А папраўкі ніякай няма, ужо нават ідучы на працу, нейкія там дзве вярсты, павінен быў рабіць перадышкі, прысесці, бо ногі не трымалі. Параілі яму схадзіць да аднаго прыватніка, ужо старога чалавека. Той абслухаў яго, распытаў: хто, адкуль, дый кажа, што трэба табе, хлопча, мяняць клімат, гэты табе не падыходзіць, ты тут засохнеш. Едзь ты дадому, у сваю Беларусь, і ўсё ў цябе стане на месца. Што заставалася рабіць? Паехаў дадому...

— І што вы думаеце? Праз некалькі месяцаў я як на свет нарадзіўся, куды мая хворасць падзелася! Тут я ўжо ажаніўся, знайшоў сабе добрую дзеўку Юстынку, яна нам і першую дачку прывяла, Марынкаю назвалі. Радасці было колькі!.. А вось жа давялося дажыць да такога... Праводзіць Марынку... Апярэдзіла яна сваіх бацькоў, апярэдзіла... Вечная ёй памяць...

І ў старога Петрыкевіча пакаціліся слёзы па шчоках, ён дастаў хусцінку, прачысціў нос, выцер вочы, папрасіў прабачэння і змоўк.

Тут прапанавалі тост за яго здароўе, усе зноў ажывіліся, нагаварылі яму шмат шчырых і цёплых слоў, добрых пажаданняў, не забыліся пра Марыніну матку Юстыну, якая не змагла прыехаць з-за хваробы, пажадалі і ёй шмат гадоў і здароўя.

У душы Рамейка быў рады, што ўсё пайшло ў добрым кірунку, што стары Петрыкевіч паміры̆ў ці хоць бы прымірыў абодва бакі, гэта значыць, яго, Рамейку, і сваіх дзяцей, якія так груба і галаслоўна звальвалі на яго ўсю віну за трагедыю з Марынай.

Вячэра зацягнулася, усе былі злёгку падпітыя, трагізм падзеі неяк адсунуўся на задні план, відаць, так, як і ў Рамейкі: з вачэй — як з плячэй, адразу стала лягчэй.

Рамейка развітаўся з цесцем, цяпер ён ужо называў яго ў думках не «былым», яны абняліся — як у знак прымірэння, потым паціснуў руку непрымірымаму швагру Яўгену, яго жонцы-таўстусе Галіне, крыклівай Марынінай сятры Вользе і яе хударляваму мужу Віктару, які так нечакана падтрымаў яго; яны перакінуліся словамі ўжо без усякай злосці, а прыязна, як сваякі, як і належыць добрым людзям. Тое ж самае было і з дочкамі. Яны праводзілі яго сумнымі ўсмешкамі, але неяк па-новаму пазіралі на яго, мо нават з надзеяй. Па прынцыпе, што смерць раз'ядноўвае, але яна і прымірае самых непрымірымых.

А да тралейбуснага прыпынку ён ішоў з Таняю, Марынінаю сяброўкай, яны разам працавалі ў Інстытуце жывёлагадоўлі, здаецца, нават разам вучыліся. Таццяна трохі накульгвала, і гэтая вада, няйначай, стала прычынаю таго, што яна засталася адзінокаю, хоць і з твару, і па характары была прывабнаю жанчынаю, у яе мог бы знайсціся спадарожнік жыцця, аднак жа... Урэшце, мо яна сама не захацела мець сям'і, хто ведае? Сядытады яна прыходзіла да іх, прыносіла дзецям цукерак, якую-небудзь цацку ці кніжку, яны ўсёй сям'ёю пілі каву, а часам і што мацнейшае, а потым Рамейка праводзіў яе да транспарту, як вось сёння...

Яны ішлі, асцярожна ступаючы, ужо было цёмна, Рамейка падтрымліваў Таню пад руку, яна гаварыла пра Марыну, сваю сяброўку. Яна сказала якраз тое, што ў Марыне не зусім падабалася і самому Рамейку: яе баявітасць, непрымірымасць, часам нават сварлівасць. Калі яна па нейкіх пры-

чынах неўзлюбіла чалавека, то ставілася да яго адкрытым — не апанентам, а ворагам, і гэтага яна не хавала. У яе быў, як яна сказала, партызанскі характар, нездарма ў вайну стала партызанскаю сувязною. Тое ж самае было і ў яе адносінах з начальствам, яна не хавала фігі ў кішэні, яна яе магла паказаць пры ўсіх: вось глядзіце, вы гэтага заслужылі. Не скажаш, што яна не разбіралася ў справе, ведала яе дасканала, але хацела, каб яе ведалі такжа дасканала і ўсе астатнія, а калі яны недзе ў нечым хібілі, яна пачынала з імі вайну. Часам настройвала супраць сябе ледзь не ўсіх, а часам магла настроіць ледзь не ўсіх супраць начальства. А начальства, як вядома, такіх людзей не любіць. Начальства любіць, каб з ім згаджаліся, каб яго пахвальвалі.

«Вось гэтым яна мне і падабалася — сваей непрымірымасцю да недахопаў, да ўсяго нечалавечага ў нашым жыцці, у нашых адносінах. Я па натуры не такі чалавек, я люблю спакой і цішыню, але я сябе за гэта часам і дакараю, і лаю, што я не такая. Мне падабаюцца людзі тыпу вашай Марыны, думаю, што і вы не раз адчувалі на сабе яе выбуховы характар, я вам спачуваю... Але не трэба забываць, што яна траціла шмат душэўнай энергіі, яна гарэла, як свечка на ветры, кожную хвіліну яна магла пагаснуць, і вось пагасла, подых ветру быў надта моцны. Яна страціла вас... А, наколькі я ведаю, яна вас кахала... таму і пайшла на разрыў... А потым аб гэтым шкадавала... Але не магла вярнуцца назад. Яна была прынцыповая, мо нават занадта... І яшчэ... Я не паверу ў тое, што вы былі прычынаю яе смерці. Сваё сэрца яна надрывала ўжо даўно, яна яго не шкадавала, жыла без аглядкі... Шмат курыла, не абмінала і чаркі... Мне здаецца, вам цяжка было ў тым сэнсе, што яна лідзіравала ў сям'і, а не кожны мужчына хоча аддаць лідэрства ў жаночыя рукі. Яго мужчынскае самалюбства пачынае пратэставаць, бунтаваць, даходзіць да канфліктаў. Ці не так? Нездарма я чула, што Марына вас біла, хоць я ў гэта не веру, бо трохі ведаю вас... Вы прабачце, што я гэтулькі вам нагаварыла... Мо я хацела б сказаць усё за жалобным сталом, але гэта нетактоўна, пра нябожчыкаў гавораць або добрае, або маўчаць».

«Якраз вы гаварылі пра яе добрае, — адказаў Рамейка на яе доўгі маналог. — І на могілках, і цяпер, для мяне... У кожным характары ёсць нейкія недаробкі ці перагібы... Вы вельмі глыбока яе зразумелі, і думаю, правільна. Нешта падобнае пра яе мог бы сказаць і я, тым больш, што я пражыў з ёю два дзесяткі гадоў, з'еў разам не адзін пуд солі. З ёю было нялёгка, яна надта патрабавальная, а часам адгароджвалася ад усяго... Яна была чалавекам няпростым, як кажуць, не ў адну столку. Але дзякуй ёй за гэта. А вам таксама дзякую, што наведалі нас у цяжкую часіну. Усяго вам самага лепшага, Таня».

Рамейка пацалаваў ей ручку, яна села ў тралейбус і паехала. І тут жа пашкадаваў, што не спытаўся ў яе тэлефона, ён не ведаў нават — ці забыўся — яе прозвішча. Міронч\u044bк? Нешта падобнае...

Хоць было ўжо і позна, ён пайшоў пехатою, хацелася асвяжыць галаву, каб выветрыўся хмель, каб абдумаць-абмеркаваць тое, што сёння, за ўвесь доўгі дзень, адбылося. Самае цяжкае — пахаванне, самае цяжкае — развітанне. Але, дзякаваць Богу, усё прайшло ў добрым стылі, лепш сказаць, у жалобным стылі. Ён баяўся за цесця, каб не зайшоўся ад жалю, каб вытрымала яго старое, падношанае сэрца. Яшчэ баяўся за дачок, яны вельмі балюча прынялі да сэрца страту, бо не чакалі такога ўдару лёсу, але яны — адна падлетак, другая — дзяўчо, мо не так глыбока ўспрымалі

трагедыю, яна была для іх свайго роду няўдачай, велічыні якой яны яшчэ не ўмелі вымераць, у іх не было таго жыццёвага вопыту, які прыходзіць з гадамі, калі чалавек разумее і адчувае аднachасова, што ён страціў, і страціў назаўсёды. Яны ўспрынялі няшчасце як падзею сённяшняга дня, а заўтра будзе тое, што было раней. Мо нават успрымалі ўсё як сон, які скончыцца, — і ўсё застанецца такім, як дагэтуль...

Хоць, падумаўшы, Рамейка не мог упэўнена сказаць, што яны ўспрынялі падзею менавіта так, як ён меркаваў. У адным не сумняваўся, што яны глыбока параненыя нечаканасцю трагедыі: іх маці, мама, мамка здавалася такою моцнаю, такою ўпэўненаю ў сабе, што яны нават дапусціць не маглі, што яна вось так раптоўна можа пакінуць іх... Назаўсёды.

Пра сябе ён мала што думаў. Адзінае, як і тыя дзеці, не мог змірыцца з тым, што яго жонка, няхай і былая, раптам упадзе на паўдарозе, не паспее вывесці ў людзі сваіх дачок, што гэтую нялёгкую ношу давядзецца браць на сябе яму, Рамейку, які таксама, як і яго дочкі, не быў гатовы да такога трагічнага павароту падзей. Перад ім раптоўна вырас на дарозе новы цяжкі перавал, і невядома, ці хопіць у яго сілы і спрыту, каб адолець яго, вынесці сваю пацяжэлую ўдвая ношку на роўнае месца, не спатыкнуцца, не ўпасці. Не спатыкнуцца і не ўпасці...

Ён і цяпер ішоў неасцярожна, пад ногі не глядзеў, зрок яго быў нібы павернуты ўсярэдзіну і назад, перад ім праходзіў доўгі, балючы малюнак сённяшняга дня, укарочаны — пахаванне, і расцягнуты — жалобная вячэра, застолле. Мо і дарэмна ён уступаў у спрэчкі са шваграм, шукаў нейкіх, як яму здавалася, трапных адказаў на яго закіды, разлічаных на публіку. Яму цяжка сказаць, як успрынялі іх спрэчку людзі, што сядзелі за сталом і слухалі ўсю тую недарэчную лухту, інакш яе і не назавеш. І слухаць ім не хацелася, гэта чыталася на іх тварах, некаторыя нават пазяхалі. А швагры распіналіся, як клоуны, і мо каб застолле не было жалобным, з іх смяяліся б не горш, чым смяюцца ў цырку.

Вельмі тактоўна і вельмі разумна паводзіў сябе цесць Паўлюк, каб не ён, невядома чым усё скончылася б. Ва ўсякім разе, быў бы сапраўдны цырк на дроце, як цяпер кажуць. А так усё неяк згладзілася, закруглілася і пад канец стала на месца, і разышліся яны спакойна і мірна, як культурныя людзі. Малайчына, стары Петрыкевіч, аўтарытэт у яго ёсць, і галава варыць таксама адпаведна. Мо і дачка Марына ў яго ўдалася, толькі з твару яна была больш падобна да маткі Юстыны, і скупаватая такая, хай даруе нябожчыца. Ці мо лепш сказаць — ашчадная. Каб не раскідаць, каб не перадаць, каб зэканоміць, пакінуць назаўтра...

Што яшчэ ўсплыло яму ў памяці? Мо мала ён даў грошай на ўсе расходы? Палову той сумы, якую яму адвалілі на дапамогу, як ведалі, што грошы яму прыдадуцца... Усёй не асмеліўся, а што потым самому? Лапу смактаць? Паколькі ён былы, дык што з яго возьмеш? Што дасць, тое і возьмеш... Мо і пакрыўдзяцца Петрыкевічы, але няхай, усё роўна іх крыўда на яго не паменшае, колькі ні дай, хутчэй пабольшае...

Вось і яго дом... Толькі цяпер яму стукнула у галаву, што ён не думаў пра яго гэтыя два дні, а сёння нават ні разу ў думках не заляцеў сюды, не ўспомніў пра Ларысу: дзе яна, што з ёю? Ці думае яна пра яго? Напэўна ж, яна перажывае, хвалюецца і чакае, а яму проста не было вольнай часіны, ні вольнага месца ў галаве, каб пабыць з ёю, яна нібы выветрылася з галавы, а ўсё вольнае месца засланіла тое, што рабілася перад вачыма: могілкі, дамавіна адкрытая, з Марыніным целам, а потым засыпаная магіла, магіл-

ка, уся закрытая вянкамі і кветкамі, хоць у канцы другога месяца вясны іх яшчэ не выгадавалі ў агародах і клумбах... Цёплы, з прыхаванаю ўсмешкаю на вуснах, развітальны позірк з партрэта, які застаецца вартаваць яе магілку... Бывай, дарагая Марына, я Цябе не забуду ніколі... Мала я Цябе шкадаваў...

А жалобная вячэра выглядала такою тлумнаю, што пра Ларысу яму не давялося нават успомніць, нібы яе наогул не існавала на свеце. Ён там быў — і жыў тым, чым жыў яшчэ нядаўна, паўгода назад, калі яго душа і цела поўнасцю належала гэтаму месцу, яно адно яго цікавіла, і прыцягвала, і больш нічога не існавала. Так і сёння: былі такія свойскія сцены, паліцы з кнігамі, сталы, за якімі сядзелі знаёмыя і незнаёмыя людзі, якія пілі, елі, гаварылі, плакалі, але зноў жа былі прывязаныя да гэтага месца, да той трагічнай падзеі, якая тут адбылася, а яе адгалоскі гучаць няспынна, як працяглая музыка арганаў, у якой, здаецца, не было пачатку і не будзе канца, а застануцца гучаць толькі пералівы мелодыі.

І нават калі ён выйшаў са свайго былога дома і правёў Таццяну, ён не падумаў, куды ідзе і чаго: галава поўнілася тым, што адбывалася хвіліну назад. Толькі ўбачыўшы дом, ён як нехаця, памяняў кірунак сваіх думак, нібы памяняў кружэлку на дыску. Нават здзівіўся: як так можна? Усё рабілася само сабою, нібы ён стаў на момант якім аўтаматам.

Вось і яго новы — як яго цяпер называць? — дом, тут трэба ісці асцярожна, каб не сутыкнуцца з якім п'яным, якіх вечарам шмат, нібы яны п'янеюць проста ад цемры, хоць і не такой густой, як у вёсцы. Яны могуць папрасіць закурыць, могуць папрасіць рубель-два на чарніла, могуць і палезці цалавацца ці біцца — ім усё роўна, абы разладаваць сваю нерастрачаную энергію.

Але ён сваю дарогу да пад'езда прайшоў спакойна, ні з кім не сутыкнуўся, у вестыбюлі было, як заўсёды, насмечана за працоўны — сёння суботні — дзень, у ліфце таксама валяліся недакуркі і луска ад сланечкікаў. Засмечаны ліфт узнімае яго на сёмы паверх. Ключы ён пераблытаў, доўга важдаўся, пакуль знайшоў памылку. Там ключ адзін, тут — другі, нешта падобнае як з чалавечымі сэрцамі: не да кожнага хутка знойдзеш патрэбны ключык, мо каб хіба залаты...

Ён увайшоў у прыхожую, да яго першай кінулася Магда, ткнулася носам у калена. Тут жа паказалася Ларыса ў халаце, устрывожаная, як спалоханая, засыпала яго пытаннямі:

— Чаму так доўга? Як жа ты? Як там усё прайшло? Расказвай! Я цябе так чакала...

Рамейка распрануўся, быў нейкі запаволены, як сонны.

— Пахавалі чалавека... Нічога новага і цікавага... Усё прайшло ў рамках, хоць часам і выходзіла за іх... Была вячэра, усе хвалілі нябожчыцу... Трохі плакалі... Трохі сварыліся...

— Нейк ты гаворыш, як п'яны: пахавалі чалавека, нічога тут новага... Ад цябе такое пачуць — нейк нязвычна... Гэта ж твая жонка. Як ты так гаворыш? — здзівілася Ларыса.

— Ну і што, калі жонка? У мяне ўсё ўжо адбалела, слёз няма. Пустата... Ведаеш, як з калодзезя вычарпаюць усю ваду? Патрэбен час, каб яна найшла зноў...

— Можа, твая праўда, не ведаю. Хадзем на кухню. Ты мо галодны?

— З памінкаў галоднымі не вяртаюцца, гэта не з вяселля, — адказаў Рамейка. — Мо ты не вячэрала, тады пайшлі.

— Не, мы вячэралі. Змітрок ужо спіць. А я ўсё цябе чакала, не магла заснуць, аж галава разбалелася.

— І ў мяне цяжкая галава, як чыгун з вадою. Піў у жывот, а пайшло ў галаву.

Ён разумеў, што гаворыць абы-што, зусім не тое, чаго чакала ад яго Ларыса. Але чамусьці патрэбных слоў не знаходзіў, была нейкая верхаводка, а мо проста не хапала сілы вярнуцца ў тое асяроддзе, у тую атмасферу, у якой ён нядаўна варыўся. А мо нават быў нейкі падсвядомы пратэст арганізма — не націскаць на балючую кропку, а ўцячы ад яе як мага далей, выкінуць з галавы тыя думкі і вобразы, якія панавалі ў ім тады, — балючыя, цяжкія, нават невыносныя, на мяжы цярпення, каб яны не мучылі болей, хоць ён разумеў, што патрэбен час, каб нешта новае выцесніла, сцерла малюнкі былога. Але тое, што нядаўна адбылося, што там засела глыбока, набыло надта цяжкую масу, трывалую аснову, каб ад яго нельга было пазбыцца так лёгка...

— Ты даруй, Ларыса, што я гавару не тое, і не таму, што п'яны, а таму, што цяжка ўзнаўляць тое, што балела, што яшчэ баліць. А баліць мне, апрача ўсяго іншага, тое, што дзеці застаюцца адны, ім дадзена вольная воля...

— Будуць жыць адны, без нікога болей? — здзівілася Ларыса. — Нешта не надта разумна вы прыдумалі.

— Ты кажаш «вы»... І я так лічу, але мяне і слухаць не сталі. І дзеці прынялі іх варыянт, хоць мо і пад ціскам усіх Петрыкевічаў, іх там шмат... Праўда, бацька Петрыкевічаў разумны чалавек, ён прымірыў абодва бакі, сказаў так: няхай будуць покуль што адны, а там будзе відаць — у сэнсе, што не трэба далёка загадваць. Лічу, што з такім меркаваннем можна згадзіцца. Паглядзім, як дзеці змогуць карыстацца сваёю вольнаю воляй. Калі што не так, — будзем прымаць меры. Як ты на гэта глядзіш?

— Можа, так і добра. Час пакажа, — коратка сказала Ларыса.

Яны пасядзелі яшчэ на кухні, пагаварылі, пабедавалі разам і пайшлі спаць. Была гадзіна ночы.

## 30

Чамусьці да Рамейкі ў галаву ўбілася адно параўнанне, якое ну ніяк не хацела адтуль выбавіцца.

Ёсць у кожнага чалавека, а нават народа, нейкая важная кропка адліку, нейкая мяжа, нейкая печка, ад якое ён пачынае свае скокі. Звычайна гэта землятрусы, патопы, войны, якія пакідаюць на зямлі і ў свядомасці людзей глыбокія ці менш глыбокія змены, бо, як правіла, не абыходзіцца без ахвяраў: сям'я можа страціць сваіх сямейнікаў — бацьку, сыноў, нават малых дзяцей, а дзяржава, народ часам траціць тысячы і нават мільёны сваіх грамадзян, доўта залечвае раны, аднаўляе страты, а людзі, што пержылі ліхалецце, ужо не могуць яго забыць ніколі, перадаючы памяць пра яго сваім дзецям і ўнукам. Таму народ ніколі не забудзе войнаў, што агнём пажараў і разбурэнняў пракочваюцца па зямлі, пакідаючы руіны і папялішчы. А людзі не забудуць тых сваіх сыноў і дачок, што сталі на дарозе гэтай бесчалавечнай стыхіі, а кожная сям'я доўга яшчэ будзе аплакваць сваіх сямейнікаў, што загінулі самі, ратуючы жывых. «Гэта было да вайны, я толькі пайшла ў школу», — скажа якая цётка, апавядаючы ўнуку нейкую гісторыю са свайго жыцця. «Гэта было пасля вайны, я вярнуўся дадому інвалідам,

хата згарэла, усё трэба было пачынаць на голым месцы», — скажа барадаты дзед сваёй унучцы, успамінаючы цяжкі і галодны пасляваенны час і пастукваючы пучкамі пальцаў па сваёй драўлянай назе...

Цяпер сам Рамейка, успамінаючы што-небудзь, гаварыў сабе: «Гэта было да разводу» або «Гэта было пасля смерці Марыны»... Усё неяк змясцілася ў адно непарыўнае, яго «хатняя вайна» стала той кропкаю адліку, які ў яго памяці і свядомасці застанецца да канца, пакуль ён жывы. Застанецца калі не ваенным асколкам, то цвіком, тым цвіком, які забівалі ў Марыніну дамавіну.

І чым больш адрэзак часу аддзяляў яго ад тое чорнае даты, тым больш ён усведамляў, што страціў і каго страціў. Дзіўная рэч! Калі жыў побач, калі разам гадавалі дзяцей, хадзіў на працу, прыносіў у хату нейкія грошы, купляў у краме хлеб, малако і іншыя патрэбныя рэчы, усё здавалася надта звычайным, шэрым і будзённым, ад чаго часам хацелася ўцячы. Ён мо толькі цяпер зразумеў, што Марына таксама хавалася ад будзённасці свайго жыцця ў працу, што яна ўвесь свой вольны час траціла на нейкі занятак, замест таго каб схадзіць у кіно ці ў тэатр, у госці да сяброў па працы, да суседзяў па пляцоўцы. Нельга сказаць, што яна, што яны гэтага не рабілі, але то была кропля ў моры іхняга жыцця, яна не рабіла пагоды, не афарбоўвала яго ў светлыя фарбы, а заставалася шэрым і будзённым. А трэба было, каб яно засвяцілася ўсімі колерамі вясёлкі — можа, тады ў іх не ўзнікла б гэтая «хатняя вайна», якая прывяла да ахвяраў, праўдзівей, да ахвяры. І як вялікая вайна яшчэ доўга адбіваецца на лёсах людскіх, як яшчэ доўга не знікаюць беды і пакуты, так і ў Рамейкі — яшчэ гэтая вайна не скончылася, бо яе адгалоскі яшчэ чуваць, яшчэ адбіваюцца нават на ім, а яшчэ больш — на яго дзецях, і ўскосна — на яго новай сям'і, асабліва на Ларысе.

Паступова, але няўхільна, Ларыса ўцягвалася ў гэтую кругаверць, у яе свядомасці ўжо напэўна ўзнік асобны куток, які збіраў разам усе Рамейкавы сямейныя дзеі таго часу, калі ён жыў да разводу, і ўжо новыя, пасля смерці першай жонкі, сартавала іх, раскладвала па палічках, рабіла нейкія свае высновы і нават прагнозы на будучае. Яна пра гэта яму не скажа, мо некалі пасля, ці, як не зможа ўтрымацца — параіць, папярэдзіць ад памылкі, сказаць, што так няможна рабіць, бо гэта грэх, ці яшчэ нешта падобнае.

Рамейка рабіўся маўклівым, менш гаварыў, мала смяяўся, на лбе, над пераносіцай, прарэзалася маршчына, падобная на клічнік, і стала нібы працягам яго і так доўгага носа, а вочы яшчэ больш пахаладнелі. Май выдаўся непрыветлівы, з нізкаю тэмператураю і начнымі замаразкамі, што турбавала вясковага па натуры Рамейку, які хоць і жыў даўно ў горадзе, а не забываўся, як важна для селяніна, для зямлі і прыроды цяпло ў час, дождж у пару, — каб і трава вырасла, і грады не засушыла, каб і збажына не палегла, і ўмалотная была. Жыў ён у горадзе, а душою хварэў за вёску, за яе працавітых і цярплівых людзей. Здавалася б, што для яго халодны май? А вось жа на сэрцы было неспакойна. Яшчэ было неспакойна за дзяцей. У малодшай пачаліся канікулы, вясёлая пара, а для яе весялосці не было, яна перажывала за матку мацней за старэйшую, якая цяпер здавала экзамены, канчала трэці курс і павінна была пераводзіцца ў сталіцу. Калі яны стануць жыць разам, тады Рамейка ўздыхне вальней, хоць па гадах яны не гадзяцца ў адну кампанію — розніца ў пяць гадоў нешта ды значыць як у фізічным сэнсе, так і ў духоўным, сябраваць яны будуць як сёстры, як дзеці адной маткі, а духоўнага, душэўнага яднання можа не адбыцца...

К сярэдзіне май-травень выраўняўся, пацяплеў, а другая палова набліжалася ўжо да лета — тэмпература за дваццаць, сонца грэе па-летняму, часам пройдзе дождж, а то ліне і спорны — любата.

Тым часам старэйшая дачка здала сесію паспяхова, на «чатыры» і «пяць», стыпендыю сабе зарабіла. Дзядзька Яўген Петрыкевіч пастараўся з пераводам, аказалася, што трэба стос усякіх даведак, асабліва тут, у Мінску. Добра, што знайшлося вольнае месца на чацвёртым курсе, бо, як правіла, студэнты адсяваюцца па розным прычынах, часта па сямейных, як вось Рамейкава Алена адсеялася з Віцебска.

У Рамейкі лета прайшло ў горадзе, толькі на тыдзень паехаў да сваіх у вёску, і то адзін, бо Ларысе адпачынак абяцалі даць у верасні ці пазней, покуль адпачнуць усе іншыя, сямейныя, а яе яшчэ па інерцыі лічылі адзіночкаю, маткаю, у якое дарослыя дзеці, яна можа і пачакаць.

Неяк у канцы жніўня Рамейка рашыў зайсці да дзяцей, паглядзець, што ў іх там робіцца, як яны — ці гатовы да новага навучальнага года. Выбраў суботу, раніцу, мо яшчэ будуць дома, да таго ж да іх далучылася і іх стрыечная сястра Светка, дачка дзядзькі Яўгена Петрыкевіча, яна стала студэнткаю Інстытута замежных моў. Сапраўды, падумаў Рамейка, лішні чалавек, ды яшчэ сваяк, ім не зашкодзіць, будзе і весялей, і смялей.

Калі ён адамкнуў дзверы і зайшоў у кватэру, яны ўсе трое папалохаліся, выскачылі з кухні і глядзелі на яго як на нечаканае дзіва, у іх, відаць, узніклі нейкія асацыяцыі, нешта звязанае з матчынаю асобай — нібы яе дух адамкнуў дзверы і асцярожна-далікатна зайшоў да іх, каб паглядзець, як яны тут жывуць без маткі.

— Добрай раніцы, — спакойна і роўна, без усякай рысоўкі і лішніх эмоцый павітаўся Рамейка з дзецьмі, якія ўжо трохі асмялелі і заўсміхаліся, як свайму чалавеку. Яны былі ў лёгкіх халацiках, загарэлыя, басаногія, з ускудлачанымі русымі прычоскамі, усе трое рослыя і хударлявыя, трошкі падобныя між сабою.

— Добрай раніцы, — адказала за ўсіх старэйшая дачка, — ты нас напалохаў. Мы ўжо падумалі...

— Што якія дамушнікі? — апярэдзіў яе Рамейка. — Не бойцеся, ключ толькі ў мяне.

— Добра, але ты лепш звані, як будзеш заходзіць. Так неяк смялей — спытаеш хто там, і ўжо ведаеш — свой ці не свой.

— Трэба ўлічыць тваю заўвагу, — згадзіўся Рамейка. — Як ідзе падрыхтоўка да новага вучэбнага года?

— Ідзе поўным ходам, — адказала з усмешкаю старэйшая, малодшыя маўчалі. — Гатовыя хоць сёння...

— Малайчыны дзяўчаты, віншую з пачаткам, каб добры быў і канчатак... Вось вам падмацунак: бананы, памідоры, вінаград...

— Ой, дзякуем! Хадзем на кухню, мы якраз снедаем, — сказала старэйшая. — Можа, ты з намі прысядзеш?

Яны расселіся за столікам, перад кожнаю стаяла талерка, філіжанка з каваю, побач каўбаса, сыр, вараныя яйкі. У вазе на высокай ножцы ляжалі ружова-паласатыя яблыкі.

— Я паснедаў, дзякую, — адказаў Рамейка. — Вы давайце без мяне. Я на хвіліну, паглядзець... Як фінансы? Пяюць рамансы? — спытаўся жартам.

— Ты адгадаў, бацька, — падхапіла яго жарт старэйшая. — Нейкія яны вельмі галасістыя. Чуць што — і пяюць...

— Нам спаць не даюць, — дадала малодшая, першыя яе словы пачуў сёння Рамейка, нейкая яна яшчэ маркотная, маўклівая.

— Неяк мы ўсе ў рыфму гаворым, — заўважыў Рамейка. — А што спаць не даюць, дык гэта і добра. Больш будзеце варушыцца. Пад ляжачы камень вада не цячэ, — супакоіў іх Рамейка. Ён ведаў, што яны будуць мець нейкую дапамогу — са стратай карміцеля, але што яна значыць? — Стыпендыя будзе? І ў цябе, Света?

— Будзе і ў мяне, і ў яе, — адказала старэйшая, а Света кіўнула галавою. — Але хіба гэта грошы? Капейкі...

— Усё ж такі... Бацькі падкінуць, галодныя не будзеце...

Раптоўна азваўся званок у дзвярах. Усе насцярожыліся, старэйшая Лена ўстала, глянула на бацьку і пайшла ў прыхожую, за ёю падаўся і Рамейка.

Пазванілі яшчэ раз, даўжэй, чым першы.

— Хто там? — спыталася Лена ўстрывожана.

— Гэта Наташа, ад цёткі Вольгі, з Оршы. Памятаеш, мы дамаўляліся пра кватэру? — сказаў малады голас з-за дзвярэй.

— Памятаю, — і Лена адамкнула дзверы: — Заходзь...

Ля парога стаяла высокая маладая дзяўчына ў светлай сукенцы, з пышнаю прычоскай, чарнявая, няйначай, студэнтка.

— Не, я зараз схаджу па маму, бацька прывёз мяне на машыне, забяром рэчы. Добра? — яна ўсміхнулася, як бы чакаючы згоды.

— Добра, — сказала Лена, — дзверы будуць адамкнёныя, мы чакаем.

— Баявое папаўненне? — спытаўся жартам Рамейка ў дачкі. — Нешта хутка яны вас абсядаюць...

— А што? Нам будзе весялей. І плата сякая-такая. А месца хопіць. Як ты лічыш?

— Яно так... Але каб толькі яны вас у кут не загналі. Помніш казачку пра лісу, якая папрасілася яе хвост падвезці? Каб і ў вас так не атрымалася.

— Нічога, яны ў мяне не разгуляюцца, пабачыш.

— Пажывём — пабачым, — адказаў Рамейка з недаверам. І як успомніў, спытаўся: — Ну як Віцебск, спадабаўся?

— Спадабаўся лепш за Мінск. Я па ім буду сумаваць.

— Бач ты! Можа, сэрца там пакінула?

— Ты, бацька, адгадаў, пакінула, — прызналася дачка, сумная ўсмешка заблукала ў яе на вуснах.

Пакуль яны гаварылі і чакалі, ліфт спыніўся на іхнім паверсе, пачуліся крокі некалькіх чалавек. Рамейка адчыніў дзверы. Ля парога стаялі трое: першая ўжо знаёмая студэнтка, а ў яе за плячыма жанчына гадоў сарака, няйначай маці, таксама высокая і мажная, і мужчына ў паласатым цельніку з кароткім рукавом, з магутнымі біцэпсамі, ружавашчокі, з каротка стрыжанаю галавою мацак, трохі ніжэйшы за жанчыну.

— Заходзьце, — запрасіў іх Рамейка.

— Добры дзень у хату, — павіталася жанчына. І звярнулася да Рамейкі: — Вы бацька Лены і Гені? Я так і падумала. Вы ўжо прабачце, што мы ў вас не спыталіся, толькі з Вольгаю Петрыкевічаваю і вось з імі перагаварылі... Мо вы і супраць?

— Ведаеце, яны цяпер павінны рашаць самі свае праблемы. А я... ну, як сказаць? Буду глядзець, каб усё ішло ў рамках... Вы згодны са мною? — адказаў Рамейка.

Жанчына паклала на падлогу зялёны рэчмяшок, мацак паставіў вялікі

карычневы чамадан, іх дачка Наташа скінула з пляча ёмкую шэрую сумку з мноствам усякіх кішэняў і кішэнек — усё вольнае месца адразу прапала.

— Я згодна, што тут казаць? Дзеці, хоць ужо і дарослыя, але павінны азірацца на бацькоў, раіцца з імі, слухаць. Але ж якія цяперашнія дзеці?

— Як некалешнія чэрці, — адказаў на гэта мацак. — Але падрастуць, то паразумеюць... Як свая вош укусіць — казаў мой дзед.

Рамейка здзівіўся, што яшчэ даволі малады мужчына так добра засвоіў народную мудрасць. І не стрымаўся, каб не спытаць, хто ён па прафесіі.

— Ды я настаўнік, фізкультуру і спорт праводжу ў масы, а яны не надта да яго ласы, — адказаў пад рыфму госць. — Маё прозвішча Жучкевіч, да вашых паслугаў. А жонка мая таксама настаўніца, біялогію і хімію выкладае, Галінаю зваць. — І ён моцна пацiснуў Рамейкаву руку. — Вы ўжо прабачце, што нас тут шмат аказалася.

— Мо якраз гэта і добра, — адказаў Рамейка. — Дык я пайду... З вашага дазволу. Віншую вас усіх з новым навучальным годам, жадаю поспехаў, сказаў ён да нечакана шматлікай публіцы, што заставалася ў кватэры.

— Шчыра дзякуем, — адказаў за ўсіх настаўнік фізкультуры. — Будзем старацца, каб дарма хлеб не пераводзіць.

Рамейка развітаўся. Дзяўчаты заўсміхаліся, памахалі яму рукамі, запрашалі заходзіць. Трэба сказаць, што яго не надта шакіравала тое, што ён убачыў і пачуў на сваёй былой кватэры. Можа, так і лепш, адны дзеці проста засохлі б ад адзіноты, ад страху, ад цяжкіх успамінаў, а тут сабралася такая капэла! Чатыры дзеўкі! Тут можна арганізаваць што хочаш: і добры квартэт, і несусветны балаган. Трэба будзе вока з іх не спускаць, шмон рабіць нечакана і перыядычна, каб яны не заставаліся без кантролю. Вось забыўся сказаць, каб зарубілі сабе на носе: ніякіх хлопцаў сюды не вадзіць!

Хоць яны не надта цябе, Рамейка, паслухаюць, і свае, і чужыя. Яны тут будуць як дома, дай толькі час. Але пабачым! «Я вас прыцісну, козы-стракозы, вы ў мяне не раз пакаштуеце бярозавай кашы!» — страшыў у думках Рамейка і сваіх дочак, і наезджых студэнтак.

Чым далей адыходзіла назад тая чорная дата, тым хутчэй пачынаў ісці час для Рамейкі, а ён паступова рабіўся сам сабою, праўдзівей, тым, кім быў заўсёды. На працы ўсё як быццам ладзілася, сутычак з начальствам ён не меў, з аўтарамі — тым болей, якраз з аўтарамі ў яго часта завязваліся сяброўскія стасункі, і мо таму, што Рамейка, як правіла, станавіўся на іх бок, абараняў ад крытыкі высокага начальства, якое часам бачыла крамолу там, дзе яе зусім не было. Так званая крамола для начальства была страшней, чым для Рамейкі, бо яно магло ў выпадку чаго страціць свае мяккае, цёплае і выгаднае крэсла. А страціць крэсла — гэта страціць усё, загубіць кар'еру, на якую патрачана гэтулькі сіл і здароўя. Ды з-за чаго, ды з-за каго? З-за нейкага там аўтара, які напісаў нейкую ахінею, а рэдактар яго яшчэ і абараняе. Можна падумаць, што яны сааўтары і потым будуць дзяліць ганарар, калі выйдзе кніжка, пасмейвацца са свайго начальства, якое яны абвялі вакол пальца. То добра, як усё пройдзе ціха і гладка, а як пільны пенсіянер прачытае тую кніжку ды напіша ліст у форме даносу самому сакратару вышэйшай установы, а той дасць каманду свайму рэферэнту разабрацца і далажыць? А разбірацца яны ўмеюць, на гэтым зубы з'елі, пастараюцца да сёмага поту, каб дагадзіць высокаму начальству. І заварыць такую кашу, што вунь як доўга давядзецца яе расхлёбваць. І добра яшчэ,

як усё скончыцца вымоваю, гэта паўбяды, можна жыць і цярпець, а вось як з працы папросяць? Вось дзе загвоздка! Так што тут лепш перабраць, чым недабраць — і каб тае крамолы і следу не засталося! А рэдактару, што недагледзеў — вымову, каб ведаў другім разам, як глядзець...

Гэта што датычыць працы... А ў жыцці Рамейка нечакана атрымаў удар пад дых. Не так ён, як яго Ларыса. У яе старэйшага сына пачалася сямейная драма: нявестка падала на развод. Мала гэтага, яна адсудзіла ў мужа той пакойчык, у якім яны жылі дагэтуль. Але жыць там не стала, перабралася ў Маладзечна, знайшла там жанчыну і абмяняла свой мінскі пакой на кватэру ў Маладзечне. І цяпер у іх кватэры пасялілася незнаёмая жанчына, а старэйшы сын перабраўся ў пакой да малодшага.

Лёгка падзеі пераказваць, а ўсё ішло доўга, пакутліва, са сваркамі і слязьмі, жаночаю істэрыкай, заняло не менш як паўгода, і Ларыса перажыла новую драму сына мо нават цяжэй, чым ён сам, Віталь. Як здалося Рамейку, ён не надта шкадаваў сваю жонку, мо нават радаваўся, што яе тут няма, а вось за дачушку перажываў моцна і каб пабачыць яе, павінен быў ездзіць у тое Маладзечна.

У дзяцей на Усходняй усё ішло добра і гладка, студэнткі слухалі лекцыі, здавалі сесіі, вучаніца Геня хадзіла ў восьмы клас, старалася, але з матэматыкай спраўлялася туга, студэнткі часам памагалі, іншы раз займалася з ёю школьная сяброўка.

Але адразу пасля Новага года спакой іх быў парушаны, прыехала з Оршы дачка цёткі Вольгі Нэля, якая нядаўна кінула школу, а сюды прыехала радзіць, бо была ўжо на апошнім месяцы цяжарнасці. Такога сюрпрызу дзяўчаты не чакалі, але што заставалася рабіць? Рашылі памагчы дзяўчыне ў цяжкую часіну, да таго ж ім было цікава і нават карысна паглядзець на ўласныя вочы, як гэта няпроста выношваць дзіцятка, калі яшчэ і ўзрост твой не дабраў да нормы, калі ты не замужам, а ужо станеш маткаю, ды яшчэ адзіночкаю, а хто табе аліменты стане плаціць на дзіця, калі той, што яго пусціў на свет разам з табою, такі ж самы вучань, які са страху перад карaю можа адмовіцца ад свайго бацькоўства і сказаць, што ён тут ні пры чым.

Наглядная агітацыя сама сабою атрымалася выключная!

Адзінага, чаго не хапала, — гэта вольнага ложка, і яе паклалі на раскладушку, але потым пашкадавалі, і яе сястра Светка з Жодзіна аддала ёй свой ложак.

Роды прайшлі нармальна, нарадзіўся хлопчык, і маладая мама прабыла ў гасцях яшчэ цэлы месяц, пакуль малы набраўся сілы і яго можна было везці ў вагоне да свае Оршы.

Не паспелі дзяўчаткі аддыхацца ад госці з дзіцем, як прыехала яшчэ адна, таксама з Оршы, ад цёткі Волькі, і таксама з дзіцем, але ўжо на сваіх ножках, на гады два, і папрасілася пажыць у іх па нейкай важнай прычыне, а якой — ніхто не ведаў.

Дазнаўшыся пра ўсё гэта, Рамейка горка ўсміхнуўся сам сабе: вось чаго ты, Волька, так крычала на свайго мужа, калі ён сказаў, што бацька павінен жыць з дзецьмі. Каб ён, Рамейка, тут застаўся, не было б табе тут прахаднога двара, дарагая швагерка.

...Аднойчы Рамейку спатрэбілася па рабоце адна кніжка, ён ведаў, дзе яна ляжыць, на якой паліцы, доўга не думаючы, у абед адправіўся на Усходнюю. Не званіў, бо падумаў, што дзяцей няма дома, усе на занятках. Але памыліўся: у кватэры аказалася Геня. Яна апраўдвалася, што пра-

спала, учора позна сядзелі, круцілі прайгравальнік, спявалі і танцавалі, пілі піва...

Рамейку хацелася накрычаць на яе, але стрымаўся, сказаў толькі, што танцы — рэч карысная, але на ўсё трэба мера і свой час, і калі яны і далей будуць працягваць у такім кірунку, то далёка зойдуць і дрэнна скончаць, з чым яна не магла не згадзіцца. Ён знайшоў патрэбную кніжку, якая стаяла на верхняй паліцы трэцяе секцыі, і заўважыў, што побач, у другой секцыі, дзе ўверсе стаяла рэпрадукцыя карціны «Апошні дзень Пампеі», нешта як бы няма апоры, і рэпрадукцыя прагнулася ўсярэдзіну. Ён пасунуў табурэтку, стаў і праверыў: сапраўды, там была пустата, кніжак дваццаць, а то і болей, прапалі невядома калі і куды. Ва ўсякім разе, гэта адбылося нядаўна, так палічыў Рамейка. Цікава, чыя гэта псота? Хутчэй за ўсё, што не студэнтак. Можа, гэтая, што з дзіцем? Недзе яна ўвесь час прападае, нейкія ў яе падазроныя справы...

Геня была здзіўлена таксама, сказала, што першы раз бачыць. Рамейка зрабіў ёй вымову, што ў кватэры беспарадак: ложкі не засланыя, параскідана вопратка, падлога засмечана, на пісьмовых сталах кавардак, на кухні таксама. У канцы сказаў: «Аказваецца, волю вам даваць яшчэ рана».

Ехаў на працу з невясёлымі думкамі. Нешта трэба рабіць, але што? Сварыцца, часцей правяраць? Гэта так, але пойдзеш, а яны за сваё... Трэба будзіць у іх душах сумленне, інакш недалёка да бяды. Каб яны бралі на сябе адказнасць за будучае: што з іх вырасце, хто з іх выйдзе, што яны будуць вартыя і як іх ацэніць грамадства?

Неяк казённа выходзіла, але сэнс ясны: чалавек — аснова, на якой трымаецца ўсё жывое на зямлі, значыць, ён павінен быць моцны і разумны, homo sapiens, інакш — не пазбегнуць катастрофы. Дзеці — наша будучыня, і дрэнна, калі яна ўцякае з нашых рук. А яшчэ лепш сказаў адзін дасціпнік: дзеці — кветкі жыцця, але кепска, як яны распускаюцца. І смехам, і жартам, а сур'ёзна...

Такімі думкамі ён жыў некалькі дзён, пакуль нешта новае не наплывала, не адсоўвала далей, а потым вяртаўся зноў. Часам яны гаварылі пра гэта з Ларысаю, і паступова ў іх складваўся план: кватэру, у якой цяпер жывуць яго дочкі, трэба размяняць, даць ім два пакоі, а сабе ўзяць пакой — ды абмяняць яго з гэтаю вось жанчынаю, што стала іх суседкаю, Антанінаю Пятроўнай, цяпер ужо пенсіянеркаю, а да пенсіі — настаўніцай рускай мовы. Паступова яны больш і больш збліжаліся, яна была, як усе настаўнікі, камунікабельнаю, любіла пагаварыць, абмеркаваць якую падзею, разбіралася ў палітыцы, чытала газеты, глядзела тэлевізар.

Адным словам, яны хутка паразумеліся і сталі добрымі суседзямі. А ўжо калі далей, то высветлілася, што яе бацька быў рэпрэсіраваны, а маці адна гадавала іх, траіх дачок, і іх маладое жыццё было беднае і цяжкае, аднак яны, усе тры сястры, вывучыліся і выйшлі ў людзі. І што здзіўляла: яна, Антаніна Пятроўна, неяк надта спакойна гаварыла пра тое, што яе бацька загінуў недзе ў сталінскім лагеры ў далёкай Сібіры, і ні разу з яе вуснаў яны не пачулі слова, каб яна асуджала той час і тую бесчалавечную сістэму. Можна было падумаць, што яна баялася гаварыць такое, помнячы той страх, які вісеў над ёю гадамі. А з другога боку, дакуль баяцца гаварыць праўду, калі яе ўжо гавораць усе? А мо яна проста не хацела пускаць у сваю душу чужых людзей: гэта маё, і, як я хачу, так і буду ім карыстацца. Мая вось такая думка, а якая — вам не скажу...

І вось Антаніна Пятроўна ўключылася ў кампанію па абмене-размене.

Паколькі часу ў яе было больш, чым у Рамейкі і Ларысы, яна даволі хутка падабрала каманду зацікаўленых асобаў, якія могуць дабіцца патрэбных для сябе выгодаў.

Паскорыў працэс яшчэ адзін выпадак на Усходняй: дзяўчаты з іх кватэры на дзевятым паверсе залілі вадою кватэру на восьмым, і нават на сёмым. Тут іх віна была адноснай, бо ў той вечар адключылі ваду, ці проста яна не дайшла да дзевятага паверха. Кран на кухні застаўся адкрыты, ваду падалі недзе ноччу — і здарыўся цэлы патоп, а маладыя спалі моцна і нічога не пачулі...

Рамейка дамовіўся з пацярпелымі суседзямі, заплаціў за рамонт, а з сёмага паверха ў яго грошай нават не ўзялі, сляды там аказаліся нязначныя.

Відаць, гэта і было тою кропляю, якая перапоўніла чашу Рамейкавага цярпення. Ён аб'явіў студэнткам з правінцыі, каб яны, як скончаць сесію, шукалі сабе месца ў інтэрнаце ці дзе, а ён вернецца да дзяцей, бо бачыць, што так далей жыць нельга.

Студэнткі не пратэставалі і не прасіліся застацца, яны, відаць, і самі разумелі, што іхняе прыстанішча надта перагружана, да таго ж стала неспакойным і нават небяспечным. І свае дочкі згадзіліся з яго планам, бо за год такога, як у цыганскім табары, жыцця, яны сталі да сябе не падобныя: тут ужо можна было звіхнуцца, дайсці да чорцікаў.

Далей усё разыгралася як па нотах. За лета, калі госці ачысцілі кватэру на Усходняй, пачаўся размен. Рамейка атрымаў пакой ад Антаніны Пятроўны, яна атрымала аднапакаёўку ад нейкага там чалавека, дочкі займалі двухпакаёўку-хрушчоўку зусім недалёка ад таго месца, дзе жылі, на трэцім паверсе ў блочным доме, з вокнамі на ўсход. Іхняя трохпакаёўка перайшла да маладой сям'і, якая брала яшчэ матку і бацьку з нейкай там аднапакаёўкі.

Пераезд заняў не так шмат часу, як кештаваў нерваў. Што ўзяць, а што аддаць, Рамейка ўжо вырашыў: пісьмовы стол, дзве кніжныя шафы-этажэркі, дыван на сценку, кніжак, хоць і дзецям пакіне нямала — поўную шафу. Халадзільнік, кухонны гарнітур, швейную машынку, канапу, ложак забіраюць сабе дзеці. Так што яны не павінны крыўдаваць на бацьку, на мачыху таксама.

Пераезд — працэс па-свойму цікавы, хоць і турботны: на свае вочы бачыш, як усталёўваецца новае жытло, новае жыццё. Увачавідкі з тваёй душы спадае вялізны груз, развязваюцца вузлы, якія здаваліся вунь як цесна завязаныя і моцна заблытаныя.

Антаніна Пятроўна рассталася з імі, як з добрымі прыяцелямі. Рамейка і Ларыса ўрачыста вярнулі сыну Віталю яго страчаны пакой. У іх сям'і аб'явіліся два халасцякі — адзін бывалы, другі малады. У Рамейкі былі, можна сказаць, дзве дачкі на выданні.

Пройдзе некалькі гадоў — і адны пажэняцца, другія выйдуць замуж. Жыццё, як імклівая рака, не спыняецца. Яно дае новыя і новыя сюжэты. Ды яшчэ якія...

**1981—82, 2006 гг.**





Алена БАГАМОЛАВА

# «НАС БОГ НАТХНЯЕ ЖЫЦЬ...»

* * *

Цудоўны летні настрой —
Рамантычна-ўзнёслы...
Мы змянілі крылы
На вёслы,
І шлях наш у будучыню
Бясконцы!
Мы днём палюем
На зоры,
А ноччу плывём
Па Сонца!

* * *

Вужыкам бяскрыўдным
Жыве ў сэрцы жаданне:
Нікога не крыўдзіць!..
Не атрутнае...
Такое чорненькае, такое блішчастае,
З жоўтай каронаю,
Абвіло маё сэрца стамлёнае,
І замоўкла яно, няшчаснае...

* * *

Чырвоным макам сонца
У люстраных азёрных хвалях
Купае перад сном пялёсткі,
Палошча іх і... засынае...
Дзень твой закончыцца так,
Як ты яго пражывеш.
...І, мусіць, жывеш недарма...
Калі напісаўся верш...

* * *

Пярэстая жыццёвая палітра...
Шматзначнасць яе фарбаў...
Гармонія гарэзлівай вясёлкі...
І многа Бог усім нам
Дорыць скарбаў,
Ды кожны выбірае столькі,
Колькі
Яго натхненне можа скарыстаць —
На тое,
Каб жыць...

---

*__Багамолава Алена Міхайлаўна__ нарадзілася 20 сакавіка 1966 года ў вёсцы Лучазарная Сенненскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1988), аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце (1994). Кандыдат філалагічных навук. Працавала ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя П. М. Машэрава. Цяпер — дацэнт кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў.*

*Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Полымя».*

* * *

Дождж-нечаканка,
Дождж сляпы, ці асляпляльны!
Час, калі сябруюць сонца і аблокі —
Час найдзіўны, санцавокі!

Час, калі яднаюцца зямля і неба,
Час, калі вадзіцу п'е
Сасмяглая, скупая глеба, —
Жыццядайны час!

Дождж сляпы — дождж асляпляльны,
Дробненькі, нядоўгі, вертыкальны,
Нібы нітачкамі шые цішу, —
Ён на небе
Нам вясёлку вышыў!

* * *

Светлыні нябёснай
Не зайздросце...
Там лётаць лёгка,
А жыць няпроста...
Таму цябе я запрашаю
Толькі
Ў госці...

* * *

Мне дасняцца сны зорныя,
Выльюцца на зямлю
Дажджасыпамі спорнымі —
Стануць яваю!..
І парою шарай
Ласкаваю
Там, дзе мятліца
Млява раскінула стрэшкі,
Зноў сустрэнуцца,
Сцішацца нашыя сцежкі...

* * *

Калі дзень на зыходзе —
Не запальвай свечку...

Дай душы загарэцца
І не бойся згарэць...
Лепш згарэць за гадзіну,
Чым вечнасць нявечную
Тлець...

* * *

Не самотная мая ціша
Ідзе лабірынтамі вуліц,
Узлятае над зямнымі
Сузор'ямі ліхтароў,
Сігае аж да Млечнага Шляху
І ўсюды шукае
Сугучча слоў...

Не самотная мая ціша
Вершы піша...

* * *

Нічога сёння не кажы:
Сярод нявыспелых ажын
Так лёгка зраніцца...

Мая душа такая здрадніца:
Раскрыла вокны
І сарвала аканіцы,
Ды словы не знайшла,
Каб памірыцца...

* * *

Партрэты-замалёўкі дня.
Аповесці-аповеды начы...
Наўмысная нязмушанасць настрою,
Бо ад дажджу мне ў жніўні не ўцячы,
Але бягу... і зноў
Цябе бяру з сабою...

З сабою — сум тваіх вачэй,
З сабою — смутак тваіх вуснаў,
З сабой — журбу тваёй душы,
З сабой — самоту твайго цела.
Дык, мусіць, ад дажджу
Я збегчы не хацела?..

* * *

Спраўляюць баляванне чысцюткія нябёсы
Вясёлкамі, маланкамі, дажджом ці градам
І сцелюць на палі густыя туманы,
Хаваюць далеч белазорным снегападам
І на лугі ссыпаюць пацеркамі росы.

Балююць так заўжды нябёсы,
Калі ў путы-пасткі
Трапляе зноў і зноў
Зямное зло...

Так у жыцці (не толькі ў казцы!)
Павек было...
І ёсць,
І будзе...

* * *

Прыйшла рабаўніцаю здрада...
Скрыла святое...
За што? А за тое,
Што грушкі гадавала на вярбе,
Што слухала сяброўак — не цябе!..
За тое іх парада
Пабіла слоўным градам
Душу на часткі:

Каханне трапіла ў пастку
І зараклося жыць...

* * *

Мядовы спас — мядовае ўратаванне!
Мядовы час, мядовы дзень —
Мядовае спатканне
І ратавала, і дасылала
У летні хмарны дзень
Не дажджапад, а зарапад,
Што вокамгненна...
Спраўджваў жаданні...

* * *

З нябёсаў
На празрыстых промнях сонца
Адразу ў мора
Ты саслізні і напалохай
Сумневы дня
І беспрытульнасць ночы...

І плаўнікі, як вадзяныя крылы,
Не спыняць твой палёт,
Не выкінуць на бераг стылы.

Нас Бог натхняе жыць,
І нам дарue сілы Бог!

* * *

Цягнік «Віцебск—Мінск» —
Цягнік «Вясна—Восень».
Праз неба вясновую просінь,
І праз салодкі водар бэзу
І праз карункі зялёнае лістоты,
Праз спелы яблыневы сад —
У жоўты церам адзіноты,
Дзе завяршае баль
Чароўны лістапад...





**Іван ШАМЯКІН**

# З ДЗЁННІКАЎ

**24 ліпеня 2003 года**

Дзесяць дзён на дачы. Стараюся хадзіць, але не далей, як метраў сто, па двары. Нагам не лепш. Няўтульна. <...>

У суботу—нядзелю прыязджалі Алеся і Сяргей з Ванечкам. Самыя радасныя дні — як Ваня пазнаваў дачу, гарод, лес. Сяргей добра папрацаваў, выграб і вынес завалы. Гаспадар. <...>

Учора пасля спякоты пайшоў дождж. Ішоў раніцай. Змрочна на дварэ. Змрочна на душы. Паясніца мая і ногі баляць больш звычайнага, чуць поўзаю. Пісаць хочацца. Але што?... «Начныя ўспаміны». З'явілася жаданне напісаць пахаванне П. М. Машэрава і пра сваю высокую ўзнагароду — Героя С.[ацыялістычнай] П.[рацы] — чым яна скончылася для мяне. Не верыў у «дурное вока». У старасці раблюся «забабонны». Мабыць, ёсць злая энергія: «дурное вока» на абедзе, які я даваў на радасцях. Не адно. Зайздроснікаў за сталом хапала.

**30 ліпеня 2003 года**

Трывога і страх. Аглушу сябе снатворным і сплю, што сню — не помню. Дрэнна адчувае сябе В.[ольга] Ф[ілатаўна] — 89. Баюся за яе. Баюся за сябе. Старая ўпартая: унізе сыра (уся сістэма размарожана) — яна лезе па крутой лесвіцы на гарышча, дзе спякотна. Мёрзне. Скардзіцца на галавакружэнне, але нікога не слухае. Сёння, здаецца, ёй трохі лепш. Я стараюся хадзіць. Як раяць усе мудрыя лекары, прафесійныя і самавукі. Але за два тыдні мой апорна-рухальны апарат не стаў мацнейшым, наадварот, поўзаю ўсё цяжэй і цяжэй: першыя дні хадзіў па вуліцы, цяпер далей двара свайго не вылажу.

Была радасць: 26—27 прыязджалі Алеся, Сяргей і Ваня. Радасць — Ванечка. Як ён гойсаў тут! Але паджыгаў крапівой ножкі (ці камары?), і на другі дзень у яго паднялася t. Цяпер ён баіцца дачы. <...>

У мінулую пятніцу наведалі Мачульскі, Пашкевіч, наш старшыня СП, і Чарказян. Прывёз трохі грошай. Парадавала, што не забываюць старога. Але размова была невясёлая — пра смерць і пахаванне Быкава. <...>

Зараз чакаю Валянціну Новікаву (дачку Івана Рыгоравіча, якога я паважаў — Камуніст і Баец), яна едзе ад «Мінскага кур'ера», дзе робіць, з фотакар. А ў мяне на носе гула, і я сарваў стручок. Які ў мяне будзе выгляд! Жах. Ах, старасць! Якая ты гадасць! Больш, чым у горадзе, думаю пра смерць, падаграе Вольга выглядам сваім і словамі аб жаданні памерці. А я хачу яшчэ

трохі пажыць. Трывожыць почырк. Хоць сёння ён, здаецца, нічога — можна прачытаць. <…>

Званіў Мачульскаму. Ён: «Можа, не будзем даваць «Тайну драмы»?» Узбунтаваў. Не, дамо!

**1 жніўня 2003 года, пятніца**

Забыў, успомніў. Так было ў мяне ўчора. Сярод часопісаў, рукапісаў — папка. Тытул першай рэчы на рускай мове: «Иван Шамякин. Не оставлю брата». Драма в двух частях. Перевела с белорусского Ирина Шостак».

Не было ў мяне такой назвы. І Шостак, тэатральная крытыкеса, масквічка, але наша зямлячка, ніколі нічога майго не перакладала, хоць наведвалася ў Мінск часта.

Перачытаў герояў — не помню. Таццяна даказвае, што гэта мая п'еса. Адмаўляю. Спрачаемся. Заела. Учора ўзяўся чытаць. Старонка — не помню, чужое, другая — цёмная ноч... І нарэшце... Рэпліка мастака Віктара: «Я напішу танец п'яных камароў». І — як прамень пражэктара: дык гэта ж «Экзамен на восень». Андрэева ініцыятыва: даць Шостак, якая ездзіць па ўсіх тэатрах Саюза, няхай парэкамендуе нейкаму рускаму тэатру. І я (чырванею зараз!), славалюбец (мала з мяне было славы!), даў Таццяне перакласці, а каб Шостак (ах, Андрэй! ачмурыла яна цябе) матэрыяльна зацікавіць (хто не любіць грошы!), зрабіць яе аўтарам перакладу. Адзіны бадай мой ганебны ўчынак. Сорамна і зараз. Тані не кажу, як усё было, толькі прызнаў, што драма мая. Нідзе ветраніца Шостак яе не паставіла. А назва... яна казала, што ў рускіх няма такога разумення — «экзамен на восень». Сапраўды не было і няма? Дагэтуль не высветліў. Спытаю ў Сяргея, зяця майго, кандыдата навук.

Вось як усплываюць і добрыя ўспаміны і грахоўныя. Сюжэт, але пры жыцці агаляць сваё сумленне не буду. Зараз гутарыў з Вольгай. Ёй трохі лепей (але ж 89!). Без працы сядзець не можа, усё жыццё працавала... Просіць у Бога смерці. Я кажу: гэта грэшна — прасіць смерці. І я сапраўды перакананы: нельга прасіць смерці! Няўжо і я дажыву да такога стану? Не дай Бог! Хачу жыць! Учора была радасць: размова з Ванечкам па тэлефоне, доўгая, мінут 10. Хлопчык разважае, як філосаф.

— Прыедзеш у суботу ці нядзелю?

— Не знаю. Буду думаць. Калі я захачу, можа, і прыедзем. <…>

**5 жніўня 2003 года, аўторак**

Сёння, пасля даўняга перапынку, сніў Машу. Дзіўна. З гаража выгналі машыну, я — за рулём. Трэба ўз'ехаць на крутую горку. Я паехаў, а яна засталася — паглядзець, як я ўз'еду. Уз'ехаў — спыніўся. Вылез з машыны. Маша знакамі паказвае: усё добра. Крычу ёй: «Паднімайся!» Не скранулася. І я прачнуўся — без сэрцабіцця, якое бывае пасля некаторых сноў.

Маючы дачу, хоць і старую, засмечаную, размарожаную, недарэчна было не прыехаць хоць на які месяц, дыхнуць сасновым паветрам. Можа, апошні сезон — для мяне, дачны. Жыву тры тыдні. Паветра хапае. Цёпла... У выхадныя прыязджалі Ванечка, Алеся, Сяргей. Адзіная радасць — Ванечка. Сяргей падключыў Алёшу і трохі пачысцілі ўчастак. Але якія завалы ў доме! Часопісы, кнігі 50-гадовай даўнасці, адзенне — за гадоў 20. <…>

**7 жніўня 2003 года, серада**

Фізкультура ўмацоўвае мышцы, магчыма, павышае тонус. Ці прадаўжае жыццё — гэта спрэчна. Не ведаю вядомых спартсменаў, якія дажылі б да 90—100 год.

Літаратура расшырае і ўглыбляе мысліцельны орган. А галоўнае пакідае нашчадкам вобразы сучаснікаў, вядомых дзеячаў: палітыкаў, вучоных, мастакоў. Гэта выдатна разумела вялікая німфаманка больш 200 гадоў назад. Прыжыццёвую славу Каці стварылі Вальтэр і Дзідро. Сама пісала і дала харч сучасным гісторыкам. Эдвард Радзінскі захлынаецца, разказваючы тэлегледачам пра запіскі Кацярыны. Лічыцца, што другую частку запісак сын яе, Павел, знішчыў. Веру. Думаю пра нашу літаратуру. Плачу над яе лёсам. Зменіцца што? <...>

Пахаладала. Дыхнула восенню. А Таццяна і Славяна паехалі ў санаторый. Раіў «Юность». Таццяна чамусьці выбрала «Рудню» ў Лагойскім раёне. Чый ён? Прафсаюзны? <нрзб>, відаць, як «Крыніца». Дык можна было б і ў «Крыніцы». І дома і замужам.

Маша паехала на «Літаратурны квартал» пры «ЛіМе». Раскрытыкуюць як мадэрнісцкія вершы. Няхай гартуецца.

**9 жніўня 2003 года, субота**

Учора завіталі госці — Васіль Якавенка і Георгій Ліхтаровіч. Васіля я прымаў у СП, выбіваў кватэру... Ліхтаровіча ведаў як фотакора, ён яшчэ пры мне рабіў фатографам у БелСЭ. Але не ведаў, што ў 50 ён, малады паэт, выпусціў першую кнігу вершаў «Агульны сшытак». Падараваў. Паэт. Ёсць іскра. <...>

**11 жніўня 2003 года, панядзелак**

Сёння Машы 27. <...> Паколькі дзень нараджэння ў панядзелак, яна на ўчарашнюю нядзелю планавала пікнік у лесе каля «мора». Прыехалі яе сябры. Дождж. Мусілі застацца на дачы, на верандзе, у Таніным пакоі. Тры пары. Думаў, усе муж і жонка. Не, толькі адна — Ірына і Дзяніс, у якіх Маша штодня сядзела зімой, што Таццяну хвалявала і абурала, бо часам позна вярталася. У наш крымінальны час.

Пазаўчора Маша цэлы дзень пякла піцу. Любіць піцу. Ёй госці закусвалі... Я зайшоў, пасядзеў паўгадзіны. <...>

Пішу, хоць бытавое, — жыву. Маё жыццё. На аповесць не замахваюся. Чарговыя навелы «НУ» не даюць заснуць. А на паперу не пераношу. Адцягваю. Да якога часу? На тым свеце не напішу.

Не разбіраю ўласны почырк. Чаму ён драбнее? Пры маім адным воку, пры слабой руцэ. Здавалася б, трэба пісаць буйна. Не! Ад чаго залежыць? Ад дробных думак?

Маша дала абагравацель — трохі пацяплела. Хачу ў горад. Але як пакінуць Вольгу, якая просіць у Бога смерці? Нявольнік я, прывязаны да галеры. Эгаістам, напэўна, жыць лягчэй.

На дварэ 16°. Не пацяплее — не вытрымаю. А ў Францыі — 40. Карае Бог людзей.

**17 жніўня 2003 года**

Закрыў дачны сезон: учора вярнуўся ў горад...Угаварвала В.[ольга] Ф.[ілатаўна] пабыць яшчэ. Прыехалі Алеся, Ваня, Сяргей. <...> Сыра, ногі мёрзлі, калі на дварэ было 25° і дзверы наўсцяж... Сяргей тры разы прыязджаў і займаўся ўборкай, учора — у лазні, многа гадзін насіў старыя, 20—30 гадовай даўнасці, газеты і часопісы. Скарб! Але куды яго дзяваць? Куды здаць? У бібліятэкі? Ці трэба яны там? Ды хто адбярэ, хто адвязе? Макулатура. Раней збіралі школьнікі. Цяпер хто займаецца зборам? Але не фізічны дыскамфорт прыгнятаў, маральны больш. В.[ольга]



*Сярод супрацоўнікаў выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя».*

Ф.[ілатаўна] просіць у Бога смерці. Я не мог гэта чуць. Мне рабілася жудасна. Разумеў: эгаістычна пакінуць двух старых адных. Але чым я нямоглы мог ім памагчы? Памерці разам. Не гатовы. Не магу. Хачу жыць. <...>

Учора Браніславу Спрынчану было 75. Пазваніў. Павіншаваў. Я яго з «Гомсельмаша» прыцягнуў у літаратуру.

— Якія навіны?

— Сенсацыя — дзённікі Адамчыка, якія друкуе «Маладосць».

Хто такі Адамчык? Гогаль? Дастаеўскі? Сярэдні бытаапісальнік. А што дазваляў сабе ў дзённіку? Закрэсліў Панчанку як паэта, плюнуў на Максіма Танка, плюнуў на Алеся Адамовіча. Дасталося і мне, і Брылю, і многім іншым. <...>

Сёння прачнуўся ў 12 — нікога няма. Гуляюць. Чакаю. Гадзіны ў 2 звоніць Ліна: Ваня, Алеся, Сяргей на дачы, зноў паехалі, Ванечку падабаецца на дачы. Дай Бог, мой дарагі ўнучак, каб ты ўлетку жыў там! З мамай і бацькам. <...>

Хопіць. Стаміўся. Буду чытаць «ЛіМ», там Л. Галубовіч — пра дзённікі Адамчыка. Хваліць? Напэўна.

**22 жніўня 2003 года, пятніца**

Дажываю. З'явілася такое нядобрае адчуванне. І не спалохала. Іду на эшафот без страху, без жудасці. <...>

Начныя чытанні спыніў. Мінулую ноч лёг у гадзіну. Падняла... ў 5.30. Праз дзве гадзіны ці тры прыйшла сястра ўзяць аналіз крыві. Толькі адзін урач гематолаг Таргоўцава Людміла Сцяпанаўна праяўляе ўвагу і клопат пра сваіх хворых. Праспаў да 13. 30. Цяжка паднімаюся.

Прачытаў Галубовіча пра дзённікі Адамчыка. Піша ён хлёстка. Цытуе тыя мясціны, дзе А.[дамчык] аплёўвае ўсіх, хто вышэй за яго. Галубовіч яўна смакуе гэтыя пляўкі. Знікае вера ў яго шчырасць. Ды Бог ім суддзя, і нябожчыку, і жывому.

Л. Талстой так калег не аплёўваў, цаніў іх творчасць, і ўсяго: «Прочитал роман... Плохо (ці хорошо)». Гэта інтэлігентна.

**24 жніўня 2003 года**

Алеся купіла «Маладосць», № 6. Прачытаў дзённікі Адамчыка за 1999 г. Пасля вусных расказаў і артыкула Л. Галубовіча змяніў свае адносіны да дзённіка калегі-нябожчыка. Гэта крык душы! Стогн роспачы! Кліч: памажыце! Ніхто не чуе. <...> Але я чытаю крык яго стомленай хваробай душы. Сама форма дзённіка — карабельны журнал судна, якое тоне. Не толькі даты, але і гадзіны запісу. І якія! 4.15 ночы, 6, 7, 8.10 раніцы. А я ведаю, што гэта такое: бяссонніца пакутлівая! Я помню, як я пісаў раманы! Раманы! Да трох ночы. А потым круціў у галаве — як запісаў? А праз гадзіну з'яўляецца новы сюжэтны ход, новая характарыстыка героя. Запісаць, каб не забыць! Вось і 4.15 і 5. І зноў бяссонніца.

Так пакутаваў Вячаслаў. Толькі прырода яго хвалявала? Мода пад Буніна. А ў 1999 былі, кіпелі страсці Дастаеўскага — і ў палітыцы, і ў СП... <...>

Не вычытаў пра Танка і Адамовіча. Відаць, Галубовіч узяў гэтыя цытаты з карэктуры <нрзб> нумара. Але пра Гілевіча Галубовіч не заўважыў. Пабаяўся? <...>

Кожны запіс — пякучы фізічны і душэўны боль. «Пан. 19 ліп. 4.50. Прачнуўся ў чатыры... Боль сціскае галаву. У роце гаркага, нібы я, як <нрзб> Хрыстос, знемагаючы пад цяжарам крыжа, выпіў жоўці».<...>

Паспяшаліся «мудрыя» аўтары публікацыі надрукаваць пра сучаснікаў Чэся. Думалі, не ўмеюць чытаць. Не, яшчэ не развучыліся. Ах, каб я быў маладзейшы! Які сюжэт нашага часу! Які лёс героя, які вітаў развал СССР... Цікава: чаму так мала пра свае палітычныя погляды? Расчараваўся ў новым ладзе? Многа — пра Польшчу. Верыў, што там рай? Не, дарагі Вячаслаў, на зямлі няма раю. Яго шукаюць за акіянам. Не знойдуць!

**27 жніўня 2003 года**

Ул. Гніламёдаў даў «Звяздзе» вялікае і разумнае інтэрв'ю аб рамане і сваіх раманах. Літаратуразнаўца пад старасць стаў раманістам. Подзвіг. Я чытаў частку першага рамана — «Беларусы ў Амерыцы». Амерыка мне падалася «кніжнай». А дзе ён мог узяць «жывую», не пабыўшы там? З расказаў тых, хто сербануў замежнага шчасця? Расказы сваіх на сваёй зямлі могуць даць і праўдзівы сюжэт, і яркія характары. Чужое, як ні старайся, будзе кніжным — пад Лондана, Мана, Фолкнера ці Хемінгуэя.

Я пазваніў яму, Ул.[адзіміру] Вас.[ільевічу]. Добра пагутарылі. Ён сказаў: даюць акадэмічныя ажно за 8 м-цаў. <...>

**5 верасня 2003 года**

Восень. Пахаладала. Малы Ваня ходзіць у майцы, а ў мяне ў кватэры ў цёплых насках (не люблю слова шкарпэткі) мёрзнуць ногі. Парушаны кровазварот. Нізкі гемаглабін. Гематолаг Людміла Сцяп.[анаўна] Таргоўцава прапанавала легчы ў стацыянар. Пабаяўся, упадзе t, а грэць да кастрычніка нават бальніцу не будуць, і я буду замярзаць. Якое лячэнне ў холадзе? Папрасіў пакалоць $B_{12}$ дома. Не колюць вітаміны, толькі антыбіётыкі, эканомяць бензін. Ганьба! Слабею з кожным днём, бываюць вельмі цяжкія дні. <...>

За тыдзень напісаў 19 старонак чарговай навелы «Начных успамінаў» — «Злое вока». З адступленнямі ў маленства, у вайну — план рамана, тэзісы. Але старасць вучыць сціпласці. Не пазначыў, калі пачаў, учора скончыў. Вызначаю «прадукцыйнасць» па дзённіку, у гэтыя дні дзённік не даставаў з шуфляды. Тры старонкі ў дзень! Маеш яшчэ моц, дзед. Не стагні! Не стагну, але і не танцую.

Сёння чытаю «ЛіМ». З цікавасцю. Адчуваю, чую плач калег па мове. З смуткам прачытаў пра Толю Грачанікава. Любіў я гэтага чалавека. Я амаль усіх любіў, мяне некаторыя «класікі» не любілі. Пра гэта «Злое вока». З цікавасцю прачытаў грунтоўны артыкул Янкі Саламевіча пра Міхала Хведароўскага. Тамы «Люду беларускага» — подзвіг...

**6 верасня 2003 года**

У «Народнай волі» (газета апазіцыі) Гілевіч надрукаваў вялізны — на ўсю паласу — артыкул «Як быў напісаны «Сказ пра Лысую гару». Нарэшце прызнаўся, што аўтар ён. Нарэшце. А то крытыкі столькі папсавалі паперы — хто? Ну, прызнаўся і добра, сціхнуць спрэчкі. <…>

8 верасня — дзень нараджэння Сашы. Пры Машы заўсёды ездзілі на могілкі. А потым — і да Сашы, і да Машы. Вольга Філатаўна не прапускае ні дзён іх нараджэння, ні дзён смерці. Папрасіла Алёшу заўтра звазіць на могілкі (8 — панядзелак). Трэба ехаць і мне! А я баюся са сваімі нагамі — ледзьве соваюся. І не толькі стан здароўя. Страх перад могілкамі. Ён і раней быў, але з кожнай паездкай рос. І вось вырас, што я мушу адмовіцца ад паездкі. І моцна перажываю, мучае сумленне: 89-гадовая Вольга паедзе, а я — жалкий трус. <…>

Вось так жыву. Колькі яшчэ працягну? Пісанне ўспамінаў супакойвала. І дзённік супакойвае. Але пасля позняга — у 12 — снедання заснуў у крэсле. Слабасць. Ці праглынутае ў гадзіну ночы снатворнае дзейнічае? А без яго не заснуў бы да раніцы. А гэта — пакута. Якія толькі думкі не лезуць у старую галаву!

На двор не выходжу. Не магу паказваць людзям сваю нямогласць, баюся, што хтось парадуецца. Не, у двары няма Гілевіча. Ёсць добры сябра — Алесь Савіцкі. У 80 (будзе ў студзені 2004) — моцны. Дай Бог яму здароўя!

**10 верасня 2003 года**

Зноў пра «Сказ...». Перачытаў «паэму». Ні на адным радку не ўсміхнуўся. Старое і нуднае. Калі яшчэ першыя раздзелы «Дзяльба», «Праблема», «Будаўніцтва» даюць сатырычную карціну стварэння каапэратыва, то «Мужчынскі страх» — зарыфмаваны сялянскі анекдот. Калісь да бацькі майго заходзіў краўцоўскі Дубадзел, ён быў канавал, і ён палохаў нас: «Я вам выражу яйцы», «Я вас злягаю», і мы яго баяліся. Пісьменнікі баяцца Марылі са скальпелем? Глупства! А як аплёўвае калег! Брыдка чытаць. Ды і каму гэта цікава, што рабілі Ставер ці Мыслівец? Крыўдна за добрых людзей, даўно ўжо нябожчыкаў. <…>

У Янкі Брыля памёрла жонка — Ніна Міхайлаўна. Шчыра спачуваю яму. Яна мая равесніца. Мы былі суседзямі па кватэрах. Сябравалі. Я пісаў пра гэтае сяброўства.<…>

Ніну я паважаў — разумная жанчына. Але з Машай яны не сышліся. Не помню, каб у госці да Брылёў мы хадзілі ўдваіх, і не помню, каб Ніна сядзела ў нас. Праўда, і адна і другая ўвогуле не любілі хадзіць у госці. На святы ў СП (Новы год, Перамога) я рэдка зацягваў Машу, і Янка, як правіла, прыходзіў адзін.

Смерць малодшых не так кранае, як равеснікаў. Вечная Вам памяць, Ніна Міхайлаўна! <…>

Чытаю Арыядну Тыркову-Вільямс «Пушкін». Як мэтр, настаўнік царскіх дзяцей Жукоўскі ставіўся да 18—20-гадовага Пушкіна (ды і да трагічнай смерці яго)! Па-бацькоўску. Было высакародства ў дваран. У нашай інтэлігенцыі яго няма. Праўда, у палітыцы і тады з'ядалі адзін аднаго, не толькі маральна — фізічна. З часоў Калігулы і Нерона (раней!) чалавецтва не стала дабрэйшым, больш гуманным...

**13 верасня 2003 года**

Глядзеў учора «Три тополя на Плющихе». Даўно не меў такой асалоды, такога захаплення. Якая Таццяна Дароніна! Як я люблю гэтую актрысу, хоць на сцэне бачыў яе разы два. Геніяльная актрыса! А якая жанчына! Якая абаяльнасць! Які незвычайны голас! Сёння позна падключыўся да Алесі, якая глядзела «Мачаху». Наплакаўся ад замілавання Даронінай, ад зачаравання яе гераіняй, ад радасці, што ёсць у нас (у нас!) такія акцёры, такія фільмы. Ніводны галівудаўскі так не кранаў. Хіба італьянскія, неарэалістычныя; цяпер і італьянцы, і французы амерыканізаваліся. Сорамна глядзець сексуальную галімаццю.

Са слязамі пашкадаваў, што Даронінай ужо 70. О, няўмольны, бязлітасны час! Якія скарбы чалавечай душы, творчасці, проста партрэтнай прыгажосці ён забірае — закопвае ў зямлю.

Учора правіў «Злое вока» (што лепш злое ці дурное? У народзе чамусьці кажуць дурное). Сёння сядзеў перад тэлевізарам. Навошта мне дэтэктыў «Возвращение резидента». Ад прагнасці?

Званіў учора Наталлі Брыль-Семашкевіч (яна рэдактар майго збору; Брылю не дазваніўся). Калега яе сказала, што усе яны, Брылі, паехалі на радзіму ў Карэлічы, каб там адзначыць 9 дзён з дня смерці Ніны Міхайлаўны. Лагічна.

Ніна Чайка (гал. «Нёмана») прынесла мне пералік тэм, на якія я павінен выказацца ў размове з ёй (для «Нёмана»). Суцэльная палітыка. А я не хачу палітыкі! Не хачу нікога чапаць з калег маіх. Я стаў непрацаўленцам. Не хачу, каб хтось пляваў на магілу маю. Ды ўвогуле не хачу даваць ніякіх інтэрв'ю. Хопіць!

**15 верасня 2003 года**

Учора напісаў пісьмо ў Пракопаўскую школу. Ад іх атрымаў у чэрвені, але падумаў, што пачаліся канікулы, і не адказваў. Згубяць пісьмо да збору вучняў. Цяпер не магу знайсці іх пісьмо. Хачу паслаць кнігі. Трэба індэкс. Дойдзе без індэкса? Мець музейчык я хацеў бы не ў Карме, а ў Пракопаўцы ці ў Церусе. Чаго захацеў! Ці думаў Лёва (Л. М. Талстой. — **А. Ш.**) пра музей. У дзённіках няма. Але яму можна было не турбавацца, ён спадзяваўся не на цара, а на дзяцей і грамадскасць. Наша грамадскасць успомніць летапісца В[ялікай]А[йчыннай] в[айны] і паўсотні пасляваенных гадоў? Забудзе ў тлуме капіталізацыі. Каму будзе да Адамчыка, Брыля, Шамякіна!

*Публікацыя Алесі ШАМЯКІНАЙ.*







## Юля НОВІК

* * *

Тры кветкі шыпшыны
Ля дома старога,
Пад позіркам Бога:
Адна, бы дзяўчо маладое,
Яшчэ расцвітае,
Звініць ёй вясёлую песню
Пчала залатая.
Другая дадолу глядзіць,
Не ўтрымаўшы
Сваёй прыгажосці цяжар,
І пялёсткі губляе.
А трэцяй хіба што
З цікавасці тут заставацца:
Зжаўцела і ссохла,
Ды пахам сваім ап'яняе.

* * *

Сонца болю,
Якое ты светлае!
Ты адзіна ўладарыш над нетрамі.
І вятрамі, што душы схалоджваюць,
Ты кіруеш — ты іх улагоджваеш.
Сонца болю,
Спалі мае думкі,
Тыя, за якія сорамна.
Ты аплоціш мае рахункі,
І голуб не стане воранам.
Сонца болю!
Адвечнае,
Ты свеціш ад рання да рання.
Тым, хто прымае цябе,
Узыходзіш ты, ведаю,
Сонцам Кахання.

* * *

Не спявай —
Ўсе вокны насцеж,
Знікні ў восеньскай імжы.
Гэты голас
Не для шчасця,
А для гора зберажы.

Чорны лес рыхтуе змову.
Чорных коней прывязаць!
Срэбра чорнае гатова
Зброю чорную каваць.

Песню чорную папросяць —
Узбунтуе голас твой,
Запляце паветра ў косы.
Выйдзе светлаю ракой —
Знікне чорная дуброва,
Застанецца светлым слова.

---

***Новік Юлія Анатольеўна** нарадзілася 1 студзеня 1985 года ў горадзе Салігорску. З'яўляецца студэнткай IV курса Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта.*

*Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Маладосць», «Полымя», «Вожык».*

## ЗАДЗІНОЧАННЕ

Сотні разоў паўторыцца,
Перш чым створыцца,
Задзіночанне перад Словамі.
Праз дым адзінока свеціцца
І праз імжу праглядвае
Задзіночанне змрочна-вішнёвае,
Вінаграднае.
Задзіночанне каляровае,
Выспявае ад цяжкай працы,
Паспявае не ўсім сустрэцца.
Крывінка да крывінкі будуць брацца
Толькі ім паяднаныя сэрцы.

* * *

«Горад адзін на дваіх».
Пачынаем дзяліць. Шум аціх.
Вечар і скверы — табе,
З півам шумлівым гібець.
Плошчы і крамы — мне ўдзень,
Сонца ў трывожнай вадзе.

Гора адно на дваіх —
Выдых мой,
Твой уздых.

## СЛОВЫ БЕЛАРУСКІЯ

Станьце, любімыя, дзіўнымі-дзіўнымі,
Станьце гадзінамі, станьце хвілінамі.
Самыя родныя, самыя моцныя,
Станьце маленькімі крэўнымі сонцамі.
Кожны куток вы надзеяй азорыце.
Сэрцу збалеламу — радасць падорыце.

## СУСТРЭЧА

Стрэць бы цябе на світанку — там,
Дзе гушкае лес калыханку вятрам,
Дзе сосны таемна маўчаць чужым,
Дзе сонейка сцеле сабе кілім,
Дзе нельга ў прыроды не скрасці верш,
Дзе кожным уздыхам у рай плывеш.
Стрэць — і ў ваду паглядзець на лёс:
Сон з салаўёў і шчаслівых слёз.
Стрэць — і ўзляцець.
А то й проста — стрэць.



# ДА КАЛЫСКІ КУПАЛЫ

*(«Круглы стол» часопіса «Полымя» ў Вязынцы)*

**11 мая 2007 года на радзіме Янкі Купалы, у Вязынцы, адбыўся «круглы стол» на тэму «Да калыскі Янкі Купалы», дзе абмяркоўваліся пытанні развіцця беларускай літаратуры ў купалаўскіх традыцыях. Арганізатарам яго правядзення выступіла рэдакцыя часопіса «Полымя». На сустрэчу былі запрошаны прадстаўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, кафедры беларускай літаратуры і культуры Белдзяржуніверсітэта.**

**У пасяджэнні прынялі ўдзел акадэмік НАН Беларусі, доктар філалагічных навук, вядомы празаік і крытык Уладзімір Гніламёдаў, дырэктар музея Янкі Купалы Алена Мацевасян, галоўны рэдактар часопіса «Гаспадыня» пісьменнік Зіновій Прыгодзіч, кандыдат філалагічных навук, крытык Яўген Гарадніцкі, навуковыя супрацоўнікі музея Алена Бурбоўская і Людміла Давідоўская, кандыдат філалагічных навук, выкладчык БДУ Ганна Мятліцкая, а таксама Мікола Мятліцкі, Уладзімір Марук, Анатоль Зэкаў, Вадзім Спрынчан — супрацоўнікі часопіса «Полымя».**

**Удзельнікі «круглага стала» ўсклалі кветкі да помніка Янкі Купалы, з хвалюючым пачуццём духоўнай святасці пабывалі ў хаце, дзе нарадзіўся народны паэт Беларусі, і сталі ўдзельнікамі экскурсіі, якую правяла загадчыца філіяла «Вязынка» Ірына Уладзіміраўна Трутнева.**

За «круглым сталом» да прысутных звярнуўся галоўны рэдактар часопіса «Полымя», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы, паэт **Мікола Мятліцкі:**

Сёння мы сабраліся тут, на зямлі, па якой 125 год назад ступала простая беларуская жанчына Бянігна Іванаўна Луцэвіч. Пад сэрцам яна ўжо чула штуршкі будучага свайго дзіцяці. Думаю, маці прадчувала і солад, і шчасце, і спадзеўку, але яна не ведала толькі аднаго — што лёсам ёй наканавана нарадзіць прарока, генія Беларусі, светача для чалавецтва. Тут будзе першы ўздых, першы глыток паветра таго чалавека, якому кланяемся сёння мы і ўвесь свет, бо цеплынёй і святлом свайго сэрца ён сагрэў наш народ. Ён даў веру, надзею і прыкладам свайго лёсу паказаў, як гэтаму народу павінен служыць творца.

Наперадзе будзе Бяларуцкае народнае вучылішча ў 1898 годзе і агульнаадукацыйныя курсы Чарняева ў Пецярбургу ў 1909—1913 гадах. І Народны універсітэт у Маскве 1915 года. Будзе і горкая дата смерці бацькі ў 1902 годзе. Але ўсё гэта будзе па-за Вязынкай, бо мы ведаем: тут Купала застанецца ў гісторыі толькі гадавалым дзіцём. Ён больш ніколі сюды не вернецца.

Лёс класіка склаўся так, каб як мага больш дарог Бацькаўшчыны ён адмераў сваімі крокамі.

Хатні дарэктар, пісар у судовага следчага ў Радашковічах у 1903 годзе, малодшы прыказчык у памешчыка ў 1904 годзе, практыкант і памочнік вінакура на броварах у 1905—1908 гадах. Гэтыя гады для нас найбольш хвалюючыя, бо менавіта 1905—1908 сталі гадамі нараджэння Паэта. 1905 — год публікацыі першага верша «Мужык» у газеце «Северо-Западный край», і 1908 — выхад у свет «Жалейкі» — першага зборніка Янкі Купалы.

Потым Купала — супрацоўнік газеты «Наша Ніва» і адначасна бібліятэкар бібліятэкі Даніловіча ў Вільні (1908—1909 гады), супрацоўнік беларускага выдавецкага таварыства (1913 год), рэдактар «Нашай Нівы» (1914—1915 гады).

Студзень 1916-га. Масква. Жаніцьба на Уладзіславе Францаўне Станкевіч. Яшчэ на адну выбітную асобу, на адно чулае беларускае сэрца прыбыло пад нашым небам. Служба ў арміі — 1916 год. Дарожна-будаўнічы атрад Варшаўскай акругі. З ліпеня 1918-га — агент аддзялення забеспячэння Заходняй вобласці.

21 студзеня 1921 года — пераезд у Мінск. Вось ён — купалаўскі шлях. Шлях да Мінска праз вандроўкі па ўсёй Беларусі, па-за ёй, па свеце.

Гэта і шлях да існасці паэта, да вышынь, якія яму ўдалося дасягнуць, да сэрца кожнага беларуса.

22 лістапада 1930 года — змрочны, чорны дзень у лёсе паэта і ўсяго народа. Спроба скончыць жыццё самагубствам з-за праследаванняў рэпрэсіўнымі органамі, з-за абвінавачанняў у кіраўніцтве так званай нацдэмаўшчынай.

Лёс Купалы да сумна вядомага лесвічнага пралёта ў Маскве. Лёс чалавека і прарока, лёс беларуса — ён з вечнасці сёння кіруе духам кожнага нашчадка. І яго паэтычны, літаратурны космас неабсяжны. Спасціжэнне таго космасу — задача для будучых пакаленняў.

На пераломе эпох заўсёды новымі гранямі высвечваецца геній. Купала не застаўся ў XX стагоддзі. Ён пераступіў у XXI стагоддзе і ў Трэцяе тысячагоддзе. І яно будзе азорана яго светачам, яго геніем — таму што для нас у спадчыну засталося тое, што ён адчуў сэрцам і апеў. Гэта наша зямля, гэта Вязынскія прасторы, якія выпраменьваюць вялікую энергетыку, робяць сапраўднымі беларусамі маладых грамадзян і нагадваюць сталым, што ў нас ёсць Бацькаўшчына і яна паяднана лёсам песняра з кожным чалавечым сэрцам.

Сёння мы прыйшлі да калыскі Купалы. Мы прыйшлі пагаварыць пра тыя вялікія нязменныя традыцыі, якія ўнаследавала беларуская літаратура ад генія, ад прарока. Якімі яна абавязана сённяшняму поспеху ў сваім развіцці.

Нялёгка, драматычна здабывала наша літаратура сваю славу. Часцей за ўсё — у пякельных віхурах. І ў адной з такіх віхур — у Вялікай Айчыннай вайне — захлынулася сэрца Купалы, не дапеўшы гімн велічы і мужнасці Радзіме.



*Удзельнікі «круглага стала» каля хаты, дзе нарадзіўся Янка Купала.*

Я думаю, наступнае пакаленне пісьменнікаў падхапіла гэтую эстафету мужнасці, і ў нас з'явіліся цудоўнай мастацкай сілы проза, паэзія, драматургія. Наша літаратура багатая шэрагам імёнаў наступнікаў Купалы, яны не патрабуюць агалошання, бо кожнаму з нас яны вядомыя. І мне як галоўнаму рэдактару «Полымя» ўсцешна, што ўсе яны спалучаны, змітаваны з нашым выданнем, якому ў снежні бягучага года будзе 85 гадоў. Для «Полымя» працавалі сапраўдныя майстры слова. Многія творы, якія ўпершыню ўбачылі свет на старонках нашага часопіса, сталі хрэстаматыйнымі. І гэта заслуга творцаў, якія жылі з клопатам пра глыбіню і прыгажосць мастацкага слова.

Я заклікаю вас да шчырай, праніклівай гаворкі. Давайце паразважаем сёння пра нашы духоўныя каштоўнасці. Пагаворым пра тое сутнаснае, што павінна мець у сваім полі зроку наша айчынная літаратура. Пагаворым пра тое, дзе яна недабірае і чаму. Мне думаецца, таму, што занялася часам фармальнай гульнёй. У ёй мала грамадзянскай страснасці, малавата абароны духоўнасці. Разам з тым багата бульварных спакус і танных забавак. І сёння на зямлі вялікага Купалы ўсё гэта прасейваецца, як праз сіта.

Наш «круглы стол» асвятляе традыцыі Купалы ў беларускай літаратуры. Ён прывабіць увагу тых, каму тварыць літаратуру заўтрашняга дня. Традыцыі Купалы — іх арыенцір, іх компас. Нам неабходна зрабіць прагноз на будучае, і гэты прагноз будзе выверан традыцыямі.

Мы ведаем, перад якімі пагрозамі стаіць чалавецтва. На шляху да будучага важна не страціць сваю адметнасць, культурныя здабыткі свайго народа.

*Я хачу прадаставіць слова нашаму слыннаму навукоўцу і пісьменніку, акадэміку Нацыянальнай акадэміі навук Уладзіміру Васільевічу Гніламёдаву.*

**Уладзімір Гніламёдаў.** Сёння ёсць што сказаць новае пра Купалу. Але ў юбілейны год вельмі добра таксама ўзгадаць ужо вядомае, успомніць пра значэнне спадчыны Купалы.

Так, Купала пакінуў свайму народу вялікую, неацэнную спадчыну. І перад усімі намі стаіць задача далейшай яе папулярызацыі і даследавання. Гэта задача літаратуразнаўцаў, навукоўцаў, работнікаў культуры, супрацоўнікаў музеяў. І, зразумела, гэта абавязак літаратараў, пісьменнікаў. Спадчына класікаў павінна




*У хаце Купалы. Музейная экспазіцыя.*

ўваходзіць у наша жыццё шырэй і шырэй. Яе трэба даносіць да людзей, распрацоўваць, бо Купала прыняў удзел у народатворчасці. Літаратура XIX — пачатку XX стагоддзя была скіравана на духоўнае абуджэнне народа, яго нацыянальнае выхаванне. Гэта быў сапраўдны час народатворчасці, і здабыткі яго вельмі карысныя нам сёння.

У сусвеце пануе няўхільны фізічны закон — закон энтрапіі. Яго сутнасць у тым, што любая з'ява, якая не падтрымліваецца, згасае і ў выніку перастае існаваць. Гэты закон справядлівы і для духоўнай спадчыны, у прыватнасці, для літаратуры. Тое, што не выдаецца, не даследуецца, не абмяркоўваецца, — паступова забываецца, сыходзіць у нябыт. Закон энтрапіі ўсёахопны, і гуманітарыям таксама не трэба на яго забывацца.

Вядома, зроблена нямала, выдадзены руплівымі намаганнямі Інстытута літаратуры і Літаратурнага музея Янкі Купалы Поўны збор твораў нашага класіка. Гэта падзея не толькі для купалазнаўства — значэнне яе цяжка пераацаніць у маштабах нацыянальнай культуры.

Да 1990-х гадоў мы не маглі ў поўнай меры пазнаёміцца са спадчынай Купалы. Тое-сёе выдавалася, былі разрозненыя публікацыі, але пра існаванне шматлікіх твораў чытачы проста не ведалі. Мы не мелі магчымасці дакрануцца да многіх твораў Купалы і ў галіне паэзіі, і ў галіне драматургіі, публіцыстыкі. Нарэшце, пры гарманічным саўдзеле навукоўцаў і супрацоўнікаў музея з'явіўся Поўны збор твораў Купалы ў дзевяці тамах.

Вялікае значэнне дадзенага выдання яшчэ і ў тым, што цяпер кожны можа скласці сваё ўражанне пра творчасць класіка. Можа даведацца, які наш творца, калі ён не ўрэзаны, не рэгламентаваны. Мы можам на ўласныя вочы ўбачыць і вышыні яго як мастака, і вышыні яго смеласці ў паказе многіх тагачасных падзей, яго душэўнасць і духоўнасць.

Цяпер наспеў час зрабіць наступны крок — стварыць навуковую біяграфію Янкі Купалы. У нас няма такой біяграфіі, населенай тымі асобамі, з якімі Купала сустракаўся, якія маглі так ці інакш на яго паўплываць і на якіх уплываў ён сам.

Некалі Міхась Мушынскі выдаў кнігу «Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці». Нам неабходна адпаведная кніга і пра Купалу.

Стварэнне навуковай біяграфіі Янкі Купалы — адна з самых актуальных задач, якая стаіць перад сучасным купалазнаўствам. Выхад такой кнігі стане вялікай перамогаю над праявамі энтрапіі ў культуры. Над той фізічнай з'явай, калі час працуе супраць нас, калі ён працуе на забыццё і разбурэнне самага галоўнага, істотнага для існавання нацыі.

Ёсць і іншыя праблемы. У прыватнасці, праблемы падыходу да творчасці таго ці іншага пісьменніка. Добра, што мы цэласна падыходзім да творчасці Купалы, разглядаем яго як мастака, які сінтэзаваў у сабе час, закрануў розныя эпохі.

Купалу параўноўваюць з Аляксандрам Пушкіным, Тарасам Шаўчэнкам, але трэба ўсведамляць, што гэта людзі аднаго, так бы мовіць, маналітнага часу — XIX стагоддзя. Купала — паэт двух часоў — XIX і XX стагоддзяў. І праз яго творчасць прайшлі ўсе сацыяльныя і культурныя змены, пануючыя светапогляды.

Мы ведаем, XIX стагоддзе — гэта этычныя пошукі Багушэвіча, Дуніна-Марцінкевіча. І яны адбіліся на творчасці Купалы. Тое заўважыў яшчэ Максім Багдановіч, адзначаючы, што Купала часам піша «пад Бурачка». Сёння многія гэта ўспрымаюць адмоўна. Але гэта толькі адзін бок Купалы. Трэба ўсведамляць, што ў той жа час ён вельмі мадэрны мастак, мастак XX стагоддзя. Ён не толькі вясковы. Купала здолеў падпарадкаваць сабе вялікі арсенал мастацкіх сродкаў, пачынаючы ад народнай міфалогіі, фальклору і да самых новых дасягненняў польскіх і рускіх пісьменнікаў. У тым ліку сімвалістаў, дэкадэнтаў, якія былі вялікімі майстрамі ў плане фармальных пошукаў.

Купала надзвычай шматгранны. Яго творчасць звязана і з Бібліяй, і з духоўнымі пошукамі сярэбранага веку. Ён працягваў развіццё беларускай паэзіі ва ўсіх яе жанрах. Дарэчы, да гэтага часу ў нас няма кнігі пра інтымную лірыку Купалы. А

гэта не менш важны здабытак, чым яго грамадзянская лірыка. Даследавання патрабуе і пейзажная лірыка Купалы. Пейзаж, карціны прыроды ў яго творах надзвычай яркія, шляхетныя, своеасаблівыя, характэрныя для цэнтральнай часткі Беларусі.

Не створана пакуль і грунтоўная праца па паэтыцы Янкі Купалы. Гэты бок, фармальны бок яго творчасці, яшчэ чакае свайго даследчыка. А кожны фрагмент карціны свету Купалы надзвычай важны, нам трэба гэта вывучаць.

Усё не так проста. Усё патрабуе доказу. У сённяшнім свеце трэба аргументавана даказваць многія рэчы. Нават геніяльнасць Купалы патрабуе сёння доказаў. Напрыклад, нядаўна я сустрэў такія радкі, цытую: *«Янка Купала не быў той веліччу, якая нам уяўляецца, з мізэрнай адукацыяй, нядбайным пяром, з засцянковай ненаеднасцю, лёгка куплены Саветамі і штучна ўзвышаны імі. Тармазіў таленты, напрыклад, Багдановіча, Арла. З перапевамі Млоды Польскі».*

У літаратуры, у крытыцы трэба быць аб'ектыўнымі. Чалавек няроўны, ён падвержаны розным настроям, але нам трэба зразумець, чаму ў аўтара прыведзеных радкоў узнік такі настрой. Можа, яго напаткала пэўнае расчараванне? Мы павінны звяртацца да лёсу, да асобы Купалы, каб адшукаць адказы на нашы пытанні.

Скажам, ці быў Купала малаадукаваным? А колькі кніг ён прачытаў? У яго была вялікая прага ведаў, ён усім цікавіўся. Пры гэтым кола яго інтарэсаў уключала не толькі літаратуру. Ён цікавіўся і грамадскімі падзеямі. Ён быў вялікім філосафам і назіральнікам. Мы павінны ўспрымаць Купалу такім, а не абмяжоўвацца старонкамі школьных падручнікаў.

Купалу трэба палюбіць. Нават нягледзячы на тое, што ў яго ёсць вершы, што выклікаюць пэўную нязгоду ў сучаснага чытача. Кшталту: «Я — калгасніца // Маладая, // Жыву весела, // Ані дбаю…». Быў такі час, і Купала — паэт свайго часу, выказнік таго асяроддзя, у якім жыў. Але гэта не ўвесь Купала.

Трэба ўзгадаць і яшчэ адзін момант. У канцы 1920-х гадоў спецыялізаваная камісія правярала ідэалагічную работу на тэрыторыі Беларусі. Яе старшыня Затонскі ў сваёй службовай запісцы па выніках гэтай праверкі пісаў, што амаль у кожнай беларускай хаце вісіць партрэт Купалы. Для беларусаў ён — прарок: партрэт Купалы вісіць у покуце. Маўляў, не кожнаму з партыйных правадыроў знаходзілася ў хаце такое месца.

Нам трэба глыбей даследаваць жыццё і творчасць Купалы, погляды, філасофію і грамадскую пазіцыю, каб больш поўна і аб'ектыўна ацаніць вартасць яго мастацкіх здабыткаў.

**Мікола Мятліцкі.** Мы сёння сабраліся тут і наведалі хату, дзе нарадзіўся Купала. Мы дакрануліся рукой і душой да яго калыскі, да калыскі, якой 125 гадоў. Мы падышлі да дзвюх галоўных думак. Купала сёння — гэта літаратурная спадчына, гэта космас, акіян творчасці, у многім не спасцігнуты. Купала сёння — гэта і вялікая музейная справа Беларусі. Гэта дзейсная памяць і крок насустрач кожнаму пакаленню.

Мы наблізіліся да Купалы, дакрануліся да самага святога. І мне думаецца, музейная справа сёння набывае моц. Яна глядзіць на жыццё і творчасць генія ў новым ракурсе, паказвае яго не забранзавелым, а чалавечным. Музейная справа дае кожнаму беларусу адчуць, што чалавек праз намаганні сваёй душы можа стаць для свайго народа светачам.

Лёс Купалы падняты да нацыянальнай сімволікі. Мы ведаем яго праўджаны жыццём трагізм.

Думаецца, Купала з'яўляецца своеасаблівым компасам для кожнага беларуса.

*Учора музей дачакаўся свайго новага дырэктара. Ім стала Алена Раманаўна Мацевасян. Сёння мы ў праве павіншаваць яе з гэтым жыццёвым выбарам. Пажадаць плёну ў працы на купалаўскай ніве. Гэта ніва не зарослая, не запушчаная. Яна дагледжаная творчай інтэлігенцыяй Беларусі. Спадзяёмся, што яна стане яшчэ больш ураллівай.*



*Супрацоўнікі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Л. Давідоўская, І. Трутнева, А. Бурбоўская, дырэктар А. Мацевасян.*

**Алена Мацевасян.** Мне вельмі прыемна вітаць сённяшняе мерапрыемства ў мемарыяльным купалаўскім запаведніку Вязынка. Гэта тое месца, дзе нарадзіўся паэт. Прыгожы, маляўнічы куток нашай Міншчыны, тут сканцэнтравана духоўная веліч і моц нашага народа. Кожны з нас павінен сюды імкнуцца. Многія паэты і пісьменнікі чэрпалі натхненне ў гэтых мясцінах, і мне вельмі прыемна, што я пачынаю сваю працу на пасадзе дырэктара купалаўскага музея з такога мерапрыемства. Наш «круглы стол» адкрывае шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню 125-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы. Я буду лічыць для сябе гэта добрым знакам.

Усе мы робім адну справу — справу захавання і ўшанавання купалаўскай спадчыны. Учора, калі я сустракалася з калектывам музея, мне запалі ў душу словы нашага вучонага сакратара Алены Уладзіміраўны Бурбоўскай, якая сказала, што Купалу падзяліць нельга, ён належыць усяму народу. І гэта абсалютна правільна, Купала з'яўляецца спадчынай, агульнай для нас усіх. І я бачу задачу музея ў тым, каб прапагандаваць гэтую спадчыну, далучаць да яе як мага большае кола людзей, і перш за ўсё падрастаючае пакаленне. Бо моладзь створыць шчаслівае будучае нашай краіны. Я спадзяюся на плённае супрацоўніцтва і з часопісам «Полымя», і з навукоўцамі, і з пісьменнікамі.

**Мікола Мятліцкі.** Думаю, на нашай беларускай зямлі даўно ўжо адбылося паяднанне вакол Купалы лепшых творчых сіл. Не толькі пісьменніцкіх, а сіл майстроў самых розных відаў мастацтва. Бо генія Купалы хапае, каб запаліць творчую энергію ў многіх сэрцах. Сапраўды, Купала непадзельны, ён належыць усім, нават тым, хто яшчэ толькі народзіцца на гэтай зямлі. Ён — багацце многіх пакаленняў, і былых і будучых. Будзем спадзявацца, што заўсёды знойдуцца настаўнікі, якія навучаць маладых любіць сваю зямлю і людзей, далучаць іх — праз Купалу — да нашых спрадвечных каштоўнасцей.

*Мы ў творчым клопаце. Мы думаем аб тым, каб наблізіць Купалу да чытачоў, да ўсіх людзей. Сваімі развагамі пра творчасць Купалы, пра шляхі яе даследавання і актуалізацыі з намі падзеліцца Яўген Андрэевіч Гарадніцкі.*

**Яўген Гарадніцкі.** У нашага «круглага стала» павінны быць практычныя вынікі. Уладзімір Васільевіч Гніламёдаў падаў цудоўную ідэю стварэння наву-

ковай біяграфіі Янкі Купалы. Неабходнасць у такой кнізе ёсць, купалазнаўцы і наогул літаратуразнаўцы чакаюць з'яўлення менавіта навуковай біяграфіі Купалы, бо белетрызаваная біяграфія ёсць, яе напісаў Алег Антонавіч Лойка. Цікавая, разлічаная на шырокае кола чытачоў. Але стварэнне спецыялізаванай навуковай біяграфіі — наша пачэсная задача.

Пры выкананні гэтай працы мы, зразумела, будзем шырока супрацоўнічаць з музеем Янкі Купалы.

У гэты Купалаўскі год я перачытваю творы Купалы, працы купалазнаўцаў. У прыватнасці, фундаментальную працу «Янка Купала. Жыццё і творчасць» акадэміка Гніламёдава. У хуткім часе чакаецца яе перавыданне. Чым важная нам дадзеная праца? Справа ў тым, што ў ёй з новых пазіцый, з прыцягненнем лепшых здабыткаў айчыннага літаратуразнаўства разглядаецца творчасць нашага класіка.

Купалаўскае можна знайсці ў творчасці кожнага беларускага пісьменніка, паэта і празаіка. Купалаўскія настроі, яго паэтыка сказваюцца на іх творчасці. Існуюць таксама асаблівыя лініі, вузлы, якія аказваюць найбольш моцны ўплыў на ўвесь літаратурны працэс, і на сённяшні яго стан таксама. Да таго ж творчасць Купалы — крыніца, з якой можна чэрпаць тыя ж вобразы, матывы, своеасаблівую паэтыку, якой вельмі не стае нашай сённяшняй літаратуры.

Адна з важнейшых купалаўскіх традыцый, неабходнасць якой асабліва востра адчуваецца сёння, — сінтэтызм. Сучаснай літаратуры якраз не хапае гэтага сінтэтызму, шматпланавасці.

Касмічнасць, шырыня погляду спалучаецца ў творах Купалы з разуменнем чалавека, з яго душэўным светам. Што такое мастацкі светапогляд? Гэта разуменне жыцця, бачанне свету праз прызму мастацтва. У вялікага паэта такое светаўспрыняцце набывае асаблівую праніклівасць. Ён раскрывае ў сваіх творах самыя глыбінныя архетыпы народнага, нацыянальнага светапогляду — мастацкага па сваёй сутнасці. У працы Уладзіміра Гніламёдава сказана пра гэта так: «Моўнымі карэннямі, вобразнасцю, унутранай формай купалаўская паэзія ўвабрала ў сябе гістарычныя асацыяцыі, паданні, песні, казкі, павер'і роднага краю, глыбока ўваходзіць у нацыянальную глебу». Так аўтар вызначае гэтую тэндэнцыю як дамінантную ў развіцці беларускай літаратуры. Для нашай літаратуры характэрна сувязь з народным жыццём, побытам, народным светапоглядам і эстэтыкай.

Гэтую дамінантную лінію можна прадоўжыць і да сённяшняга дня. Думаецца, яна будзе вызначаць адметнасць айчыннай літаратуры ў далейшым. Народная эстэтыка, светабачанне, мараль — у аснове асноў, у самой мастацкай сутнасці беларускай літаратуры. І гэты напрамак у літаратурным і эстэтычным развіцці прадвызначыла творчасць Янкі Купалы.

Глыбей зразумець Купалу азначае глыбей зразумець і ўсю беларускую літаратуру ў цэлым. У тым ліку і сучасную. Разуменне здабыткаў Купалы дапаможа таксама вызначыць і асноўныя напрамкі, у якіх варта рухацца нашай літаратуры ў новым стагоддзі.

**Мікола Мятліцкі.** Для нас, творчых людзей, Купала — настаўнік. Ён вучыў маё пакаленне і папярэднія пакаленні мужнасці, вернасці слову і зямлі. Я памятаю, з якім клопатам і шчырасцю адносіўся да Купалы Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін, тагачасны загадчык аддзела паэзіі часопіса «Полымя». Нам, маладым, ён даваў свой купалаўскі ўрок — і гэта потым сталася радкамі верша «Урок Анатоля Вялюгіна»:

— Чытайце Купалу
сябрынаю шчыльнай услых,
І мала-памалу
не стане паэтаў глухіх, —

Так майстар прызнаны
са скронню сівою, як дым,

Казаў, узлаваны кульготай радкоў,
маладым.
І пільнасцю вока
настаўніку ўвагай плачу:
Чытаю Прарока,
агністыя строфы шапчу,
І музыку слова
прыносіць дыханне радка.
Магутна, вяснова
гайдаецца духу рака.
— Пасеўшы сябрынай,
чытайце Купалу услых.
Ён мовы адзіны
віры-таямніцы спасціг…
І слова святлынна
вядзе чараванне ў цішы,
Займае Айчына
шырокія гоні душы.
Праносяцца шквалы,
узрушныя стынуць грамы,
Я чую ў Купалы,
адкуль і па што выйшлі мы.
Скрозь лёсу прагалы
ды вецер астудны ў лісці
Пытаю ў Купалы:
а колькі яшчэ нам ісці?
І, яснячы вочы,
мне кожны гаворыць радок:
Ты дойдзеш аднойчы,
калі ты сапраўдны хадок.
Разветрыцца скрусе,
як дыму ля родных прысад.
Тваёй Беларусі
заняць свой пачэсны пасад.
Цвярдзей ад металу
яе санцалікая раць.
Чытаю Купалу,
і кажа Купала: не здрадзь!

Саступяць слабыя,
забыўшы і мову і род.
Іх думкі рабыя
абрынуцца смеццем на звод.
Па вечнай пуціне,
забыўшы на слоту і ноч,
Насустрач айчыне
з нязломнаю дужасцю кроч.

Сёння наш клопат купалаўскі працягваецца. На старонках часопіса мы імкнёмся даваць толькі лепшае з прозы, паэзіі, крытыкі, драматургіі. Мы дбаем пра тое, каб літаратура набывала новыя вышыні, служыла надзейным духоўным арыенцірам усім насельнікам беларускай зямлі. Каб мы былі такімі, якімі бачыў нас Купала, калі глядзеў у будучыню, заклікаў «людзьмі звацца».

*Слова прадастаўляецца намесніку галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», паэту Уладзіміру Антонавічу Маруку.*

**Уладзімір Марук.** Раскажу аб тым, як я падступаўся да Янкі Купалы. Як ён уваходзіў у маю душу і нарэшце ў маю творчасць. Дарэчы, у маёй школе, у інтэрнаце, не было прыстойнай бібліятэкі, і я, атрымаўшы ад бацькоў грошы, выкупіў усе кнігі на беларускай мове, якія знайшоў. Было іх у краме ўсяго з

дзесятак, грошай хапіла. Сярод тых кніг былі зборнікі Купалы і Багдановіча. Былі і кнігі сучасных на той момант паэтаў. Такім стаўся пачатак назапашвання маіх ведаў пра Купалу. То быў VIII клас, і я не мог цалкам увайсці ў свет Купалы. Гэта свет глыбокі, аб'ёмны, адразу прасякнуцца ім маладому чалавеку цяжка. Але такім быў пачатак.

Працяг быў ва універсітэце, на філфаку. Менавіта тады Купала ўвайшоў у мой свет напоўніцу. Я не захапляўся грамадзянскімі матывамі ў Купалы. Так, вершы гэтыя я любіў, але любіць і захапляцца — розныя рэчы.

Напачатку больш за ўсё я захапляўся міфалагічнымі матывамі ў класіка. Гэта было для мяне нешта новае. На той час кніг па міфалогіі я не чытаў. А ў Купалы і Багдановіча я знаходзіў тыя глыбінныя міфалагічныя матывы, якія мяне цікавілі.

Купала шмат даў мне ў разуменні перш за ўсё Красы. У мяне ёсць толькі адзін верш, прысвечаны Купалу, і там я ўзгадваю, што тут нарадзілася Вера, якая ўвайшла пасля і ў маю душу. Тая Вера была саткана з Гневу і Красы. Але мне больш прыйшлася да душы Краса. Тая Краса, якую я знаходзіў у паэзіі Купалы. (Верш будзе надрукаваны ў маёй вершаванай падборцы ў гэтым жа нумары нашага часопіса.)

У мяне ёсць стужка, відэазапіс. У 1982 годзе я прыехаў на свята паэзіі з сынам Алесем, яму было тады 2 гады. Мы спыніліся ля помніка, і я сказаў яму: «Паглядзі. Гэта Янка Купала». Я не стаў тлумачыць яму, хто такі Купала, пра тое ён даведаўся пазней, але пасля таго, як ён вымавіў: «Купала», умацавалася мая вера ў тое, што Купала не проста жыў сярод нас. Ён жыве, і яму заўсёды будзе месца ў сэрцах усіх беларусаў. Не толькі тых, хто па родзе сваёй дзейнасці сутыкаецца з літаратуразнаўствам. Сын мой цяпер будаўнік, але Купала блізкі яму, ён чытае яго.

**Мікола Мятліцкі.** Купала ідзе не з мінулага — ён ідзе з будучыні. Крочыць насустрач кожнаму пакаленню. Купала не за намі, мы не пакінулі яго за спінай. Ён перад намі заўсёды, наперадзе, як пуцяводная зорка.

*Спадчына Купалы з'яўляецца крыніцай натхнення не толькі для паэтаў, але і для празаікаў. Пра шляхі да разумення Купалы сёння раскажа рэдактар аддзела прозы нашага часопіса Анатоль Мікалаевіч Зэкаў.*

**Анатоль Зэкаў.** Я трымаю ў руках рэкламны праспект пра музей песняра «Святло Купалавага дома». У ёй ёсць мой верш, з якога хацеў бы пачаць:

Прыйдзі, пясняр, к нам на Купалле,
Прыйдзі, паглянь на нас і час.
А ці такімі сёння сталі,
Якімі марыў бачыць нас?

Прыйдзі, паглянь на нашы кніжкі,
І нам па шчырасці скажы:
Ці так, пясняр, мы сёння пішам?
Ці ўсё, што пішам, будзе жыць?

Прыйдзі, пясняр, на момант нейкі,
Прыйдзі, агледзь хоць нейкі год.
Ці ўсе жывём трывогай веку?
Ці ўсе мы дбаем пра народ?

Гэтыя радкі нарадзіліся даўно, але і сёння такія пытанні ўзнікаюць у кожнага. Мы звяртаемся да Купалы ў пошуку адказу на такія пытанні, бо менавіта іх ставіў Купала перад сабой і перад грамадой, ён імкнуўся даць на іх адказы. Так і мы сёння, звяртаючыся да Купалы і яго спадчыны, шукаем рашэння праблем надзённых. І бачым, што многія пытанні, зададзеныя яшчэ Купалам, не маюць адказу і цяпер.

Мне блізкая не толькі паэзія Купалы, але і яго публіцыстыка. Некалі выйшаў томік яго публіцыстыкі, зразумела, там было не ўсё. Пазней мне даводзілася знаёміцца і з іншымі яго публіцыстычнымі творамі. Я заўважаў — наколькі надзённа гучаць развагі Купалы сёння. Нібыта Купала з таго часу глядзіць у наш час і дапамагае нам у будаўніцтве нашай дзяржавы. Ён і цяпер клапоціцца аб тым, каб Беларусь была вольнай. Каб на нашай зямлі гучала наша беларускае слова, стваралася беларуская літаратура.

Мы ўсе памятаем яшчэ са школьнай хрэстаматыі, як рускі паэт Уладзімір Маякоўскі сказаў: «Я себя под Лениным чищу». Так мы, беларусы, чысцім сябе пад Купалам, бо гэта быў і Паэт, і Грамадзянін, і Беларус з вялікай літары, на якога кожны з нас жадае быць падобным.

Мала казаць: Купала жыве сёння. Трэба, каб кожны беларус адчуваў і ўсведамляў, што Купала побач з ім, ён жыве ў сэрцах, у душах.

Разважаючы пра часопіс «Полымя», важна звярнуць увагу на такую акалічнасць, як недахоп твораў, прысвечаных Купалу. Уладзімір Васільевіч казаў, што мы не маем навуковай біяграфіі нашага класіка, грунтоўных даследаванняў асобных напрамкаў яго творчасці. Але няма і мастацкіх твораў. Пакуль што мы маем раман Алега Лойкі, які ўяўляе сабой па-мастацку выкладзены, надзвычай цікавы жыццяпіс Янкі Купалы.

Я лічу, што пісьменнікам варта звярнуцца да біяграфіі песняра, да асобных яе старонак. Няхай гэта будуць невялікія апавяданні, аповесці, але разлічаныя на шырокае кола чытачоў.

Нашы паэты ў значна большай ступені дакрануліся да імя Янкі Купалы. У нас існуе своеасаблівая купаліяна ў паэзіі. Але адпаведныя творы патрэбныя і ў прозе. Няхай лепшыя з іх увойдуць у хрэстаматыі, у падручнікі для пазакласнага чытання.

Нядаўна я атрымаў часопіс «Бібліятэка прапануе», дзе ёсць літаратурна-музычная кампазіцыя, прысвечаная творчасці Купалы і Коласа. Яе можна выкарыстоўваць у школах для правядзення не толькі юбілейных мерапрыемстваў, але і штогадовых.

Чым больш будзе гучаць Купала ў нашых навучальных установах, чым часцей мы будзем узгадваць яго на мерапрыемствах, тым больш будзе ўваходзіць



*А. Зэкаў, В. Спрынчан, З. Прыгодзіч.*

купалаўскае слова ў душы падрастаючага пакалення. Такім чынам бліжэй яно зробіцца для нашых дзяцей, нашых унукаў.

Даследуючы, перажываючы Купалу, мы ў рэшце рэшт зможам адшукаць не толькі адказы на тыя пытанні, якія ён ставіў перад намі. Мы здолеем вырашыць іх.

**Мікола Мятліцкі.** Неўзабаве мы надрукуем аповесць Уладзіміра Ліпскага «Янкаў вянок», якая пашырае адраснасць нашага выдання. Адрас яе — юныя чалавечыя сэрцы, у якіх мы павінны пасеяць любоў да радзімы.

*Беларускія паэты ўвесь час звяртаюцца да творчасці і асобы Купалы. Беларуская паэзія ў лепшых сваіх узорах — гэта творчасць, арыентаваная на набыткі класікаў нацыянальнай літаратуры. Аддзел паэзіі часопіса «Полымя» ўзначальвае паэт Вадзім Браніслававіч Спрынчан. Слова яму.*

**Вадзім Спрынчан.** Кожны дзень мы сустракаем на парозе нашай рэдакцыі паэтаў. Многія з іх працягваюць традыцыі класічнай беларускай паэзіі, рухаюцца ў рэчышчы, распрацаваным Купалам, Коласам, Багдановічам. Гэта нашы арыенціры. Паэтычная тройца, тры зоркі першай велічыні ў беларускім паэтычным космасе. Пуцяводныя зоркі для беларускай паэзіі на ўсе часы. Сучаснік Купалы, ягоны равеснік Аляксандр Блок пісаў, што паэт — велічыня нязменная. Могуць састарэць яго мова, яго прыёмы, але сутнасць яго справы не састарэе. І нам, ідучы наперад, не абавязкова азірацца назад, бо пуцяводная зорка заўсёды наперадзе.

Прызнаюся шчыра, што забяспечваць пераемнасць нашай паэзіі, трымаць паэтычную планку ў наш час вельмі складана. Але мы робім усё, каб падтрымаць высокі ўзровень паэзіі часопіса «Полымя». Сярод нашых аўтараў такія паэты, як Мікола Маляўка, Мар'ян Дукса, Казімір Камейша. Зразумела, на нашых старонках друкуюцца Мікола Мятліцкі, Уладзімір Марук, Анатоль Зэкаў. Ёсць надзвычай цікавыя маладыя лірыкі: Рагнед Малахоўскі, Валерыя Кустава. І зусім маладыя, напрыклад, вучань дзевятага класа Павел Барахвостаў, некалькі вершаў якога мы друкавалі ў трэцім нумары. Адзін з іх, прысвечаны Янку Купалу, мне хацелася б працытаваць.

Ты ў маскоўскую гінуў спякоту —
Ля Крамля след пакутлівы стыне.
І да нас прыйдзе цень твой употай:
Заспявае наўзрыд аб Айчыне.
Не сумуй пра пакуты зямлі,
Што пакінуў тады тэрмінова.
Цераз боль продкі нашы прайшлі —
І ўзбуяла іх родная мова.
Ў беларусаў Радзіма адна,
І не быць тваёй творчасці марнай:
Адраджэнская ўспыхне вясна
З тваёй першае іскры ахвярнай.
Бы святочны купальскі вянок,
Што па шклістай вадзе плысці мусіць
Ты вандруй жа, Купала-прарок,
Па няспыннай рацэ Беларусі.

Моладзь працягвае купалаўскую традыцыю. Не толькі ў душы, свядомасці маладых, але і ў іх творчасці прысутнічае Купала. І гэта дае спадзеў на будучае і нашай мове, і літаратуры, і культуры ў цэлым.

**Мікола Мятліцкі.** Вельмі важнай для любой нацыі з'яўляецца пераемнасць пакаленняў, пераемнасць традыцый. Сёння мы ставім нямала злабадзённых пытанняў, пытанняў, якія патрабуюць адказу ў наш пераломны час.

*Сваімі развагамі на гэты конт з удзельнікамі «круглага стала» і чытачамі падзеліцца Зіновій Кірылавіч Прыгодзіч.*

**Зіновій Прыгодзіч.** Творчасць Янкі Купалы, безумоўна, была запатрабавана ва ўсе часы. Гэта аксіёма. Але мне здаецца, што сёння, калі токі нашай беларушчыны аслаблі, гэтая запатрабаванасць як ніколі высокая.

На мой погляд, з усіх беларускіх паэтаў Купала — самы нацыянальны. Ён ярка выражаны нацыянальны творца, прычым не толькі ў вершах, але і ў драматургіі, публіцыстыцы. Вельмі хораша, што мы, скарыстаўшы нагоду юбілею, зноў і зноў звяртаемся да спадчыны нашага нацыянальнага генія.

Часам здаецца, што ўсё ўжо вывучана, прааналізавана, пракаменціравана. Але ў гэтым неабсяжным паэтычным космасе застаюцца астраўкі, якія патрабуюць даследавання, росшуку.

Надзвычай важнай мне падаецца тэма ўзаемаадносін Купалы і Багдановіча. Сапраўды, гэта былі не простыя адносіны. Паміж імі не асабістыя сутыкненні, а сутыкненні канцэптуальных падыходаў да паэзіі. Купала як паэт сацыяльна-нацыянальны лічыў, што немагчыма маўчаць пра тое, як пакутуе просты чалавек, беларус, «пан сахі і касы». Трэба гаварыць пра гэта, біць у званы. Багдановіч са свайго боку лічыў, што не трэба сыпаць соль на раны. Лепш гаварыць людзям пра красу, духоўна ўзбагачаць іх, а не нагадваць лішні раз пра гаротнае становішча простага люду.

Здавалася б, два супрацьлеглыя пункты погляду, але на самай справе яны дыялектычна звязаныя. Калі прасачыць, то і Купала аказаў уплыў на паэзію Багдановіча, і Багдановіч сваім імкненнем да эстэтыкі паўплываў на Купалу. Гэта цікавая тэма для доследу.

Купалава творчасць непадзельная. Яна належыць не проста ўсяму беларускаму народу, а ўсяму свету. Пацвярджэннем гэтаму стала тое, што праз супрацоўніцтва з таварыствам культурных сувязей з замежнымі краінамі нямецкі бок ладзіць у Патсдаме канферэнцыю, прысвечаную творчасці Янкі Купалы. І я маю гонар быць запрошаным на гэтую канферэнцыю. Я ўважліва прыслухоўваюся да таго, што гаварылася тут, каб падзяліцца нашымі напрацоўкамі і планамі з нямецкімі сябрамі. Я лічу, што той, хто любіць Купалу, — наш сябра.

**Мікола Мятліцкі.** Мы абавязаны памятаць аб тым, што класічная спадчына — той адзіны падмурак, на якім могуць вырасці і годна ўсталявацца і наша дзяржаўнасць, і культура, і ўсе віды мастацтва. Таму Купала з намі. Ён — будаўнік. На ўсе часы будаўнік. Сёння мы адкрываем іншыя пласты яго творчасці, знаходзім у ім новыя актуальныя ракурсы. Прайшлі часы заідэалагізаванасці, зашоранасці ва ўспрыняцці Купалы. Мы маем магчымасць дакрануцца да ўсяго багацця яго спадчыны, пераасэнсаваць яе з пункту гледжання сучаснасці.

*Я запрашаю паразважаць аб гэтым навуковага сакратара музея Янкі Купалы Алену Уладзіміраўну Бурбоўскую.*

**Алена Бурбоўская.** Я прыйшла ў музей якраз тады, калі пачалася грунтоўная работа над выданнем дзевяцітомніка Янкі Купалы ў дзесяці кнігах. Гэта быў час асабліва моцнага супрацоўніцтва музея і Інстытута літаратуры. Мне запомніўся вечар прэзентацыі дзевяцітомніка, бо гэта сапраўды было свята, падзея.

Сёння тое, што мы недастаткова добра ведаем Купалу, — гэта не наша віна, хутчэй — аб'ектыўная рэальнасць, у якой мы жывём. Але музейныя сховы, музейныя набыткі сцвярджаюць, што ў нас надзвычай шырокае поле для працы, для даследавання.

Напрыклад, публіцыстычная спадчына Купалы. Мы ведаем Купалу-паэта. Дарэчы, і паэзію яго не проста спасцігнуць, у яе трэба ўчытацца. Літаральна ў 1910 годзе Купала становіцца публіцыстам і на працягу ўсяго жыцця плённа працуе на гэтай ніве. Прычым ён вельмі часта ставіў глыбокія пытанні, на якія сам

шукаў адказу дзесяткі гадоў. Даследаваць публіцыстычны бок творчасці Янкі Купалы вельмі важна, дарэчы, магчымасці для гэтага ёсць. Адкрыты Нацыянальны архіў, Музей-архіў, і ў нашым музеі таксама шмат матэрыялаў па дадзенай тэматыцы.

Хацелася б зазначыць і тое, што недастатковая ўвага звернута на перапіску Янкі Купалы. Лісты Янкі Купалы — значная крыніца інфармацыі і аб самім творцы, і аб часе, у якім ён жыў. Неаднаразова Купала падкрэсліваў, што палітыкай не займаецца. Але ён меў сваю акрэсленую грамадзянскую пазіцыю, часам гэта ставіла яго ў канфліктную сітуацыю з тагачаснымі палітычнымі ўмовамі. І тое не яго віна, а аб'ектыўная рэальнасць.

Наступны момант, на які трэба звярнуць увагу, — філасофія Янкі Купалы. Мала даследавана яго прыхільнасць да філасофіі Андрэева. Гаварылі многа пра Купалу-прарока, але важна ўсвядоміць, што ён сапраўды чалавек неба і нам, зямным людзям, нялёгка поўнасцю яго спазнаць.

Мяне балюча закранулі словы, якія працытаваў Уладзімір Васільевіч. Радкі аб тым, што Купала быццам бы лёгка прадаўся савецкай уладзе. Але жыццё яго было вельмі і вельмі нялёгкім. Ён многае прадчуваў. У прыватнасці, тое рассяляньванне селяніна, земляроба ён паказаў у сваім «Раскіданым гняздзе». А ў 1930 годзе ён адкрыта пратэставаў сам. Спроба самагубства — хіба гэта лёгкі продаж? Гэта жыццёвая драма, не драма нават — сапраўдная трагедыя. І таму псіхалагічны аспект яго творчасці таксама патрабуе даследавання, разумення. Гэта варта не адной манаграфіі і не аднаго мастацкага твора.

І я далучаюся да думкі аб тым, што нам неабходна большая колькасць твораў, прысвечаных Купалу. Мы павінны далучаць да купалаўскай тэмы як мага больш чытачоў, людзей самых розных узростаў. Хто, як не пісьменнікі, можа зрабіць гэта?

І, нарэшце, яшчэ адно пытанне — Купала і навука. Чаму пра Купалу кажуць, што ён неадукаваны або малаадукаваны чалавек? Хіба наяўнасць дыплома ў кішэні робіць чалавека адукаваным? Адукацыя — набытак усяго чалавечага жыцця, штодзённая праца, самаадукацыя ў першую чаргу. Трэба прачытаць столькі, колькі Купала, каб мець такую пазіцыю, як у яго. Хачу тут спаслацца на нашага педагога і навукоўца Вячаслава Пятровіча Рагойшу, аўтара «Паэтычнага слоўніка», слоўніка, які тройчы перавыдаваўся. І ўсе тры разы прэзентаваўся менавіта ў нашым музеі. Рагойша аддаў гэтай працы больш за 25 гадоў, але калі яму сказалі, што ён першапраходзец, ён сказаў: «Не. Першапраходзец Янка Купала».

Успомнім верш Купалы «А хто там ідзе?». Хрэстаматыйны твор, вядомы ўсім. Але ці мы задумваемся над тым, чаму Горкі, які ў жыцці пераклаў толькі два вершы, адным з іх абраў «А хто там ідзе?». Верш гэты напісаны па законах старажытнагрэчаскай драмы. Гэта твор-праграма. Неардынарны ён і ў паэтыцы. У ім выкарыстаны і сілаба-танічны і танічны верш — так званы лагаэт.

Можна ствараць манаграфіі, пісаць кнігі, карыстаючыся скарбамі нашага музея. Здаўна ляжыць у нас работа, напісаная Клейнбартам. Гэта адзін з першых біёграфаў Янкі Купалы. Прычым усё стваралася ў цесным супрацоўніцтве. Купала адрасаваў 13 пісем Клейнбарту. Многія з іх аўтабіяграфічныя. Манаграфію Клейнбарта Купала сам пачытаў, даў ёй высокую ацэнку.

Паэтыка Купалы даследавалася Ачынскім. Ляжыць у нас яго двухтомнік. Аналізуюцца купалаўскія вершы, паэмы. Сёння ён не саступіць нашым сучасным даследчыкам. Мы нават не ведаем, як трапіла праца ў музей. Відаць, дзякуючы Уладзіславе Францаўне. У яе была зайздросная здольнасць узбагачаць купалаўскія архівы.

Яўген Хлябцэвіч... Яго ўспаміны пра Янку Купалу нам вельмі дарагія, бо ахопліваюць той перыяд, калі пясняр вучыўся ў Пецярбургу. Тады студэнты-песімісты збіралі народную творчасць, каб яна не загінула (з 1910-га па 1913-ты гады), а аптымісты заглыбляліся ў навуку. Хлябцэвіч узначальваў

аб'яднанне беларусаў, з імі кантактавала прафесура Пецярбургскага універсітэта. Мяне асабіста да глыбіні душы кранула, што на студэнтаў-беларусаў выйшаў Шахматаў з прапановай распрацаваць граматыку новай беларускай мовы. Сапраўды, сёння мы не задумваемся, але ж нашы класікі — Купала, Колас, Багдановіч пачыналі творчасць без граматыкі. Шахматаў прапанаваў кандыдатуру Багдановіча. Не прайшла. І тады Купала называе Тарашкевіча, які скончыў Віленскую гімназію і заканчваў трэці курс Пецярбургскага універсітэта. Трэба сказаць, што, супрацоўнічаючы з Тарашкевічам, Шахматаў прапанаваў яму застацца на кафедры рускай мовы Пецярбургскага універсітэта. І калі той адмовіўся, засцярог: «А цяпер я табе дам бацькоўскую параду — не лезь у палітыку». Вось якія цікавыя стасункі, моманты не абнародаваны да гэтага часу. Яны працягваюць чакаць свайго таленавітага пісьменніка-даследчыка. Сабраць усе малавядомыя факты ў адно і прапанаваць людзям — цікавасць будзе надзвычайная. Расказваеш пра гэта на экскурсіях — усе слухаюць, затаіўшы дыханне.

Ну, а цяпер Купала і Багдановіч. Ёсць у музеі і такая захаванка. Калі 13-гадовы Багдановіч прыслаў свой сшытачак у «Нашу Ніву», то Уласаў, пачытаўшы вершы з яго, напісаў: «У архіў». І не таму, што быў рэтраград. Проста Багдановіч ішоў ад высокага мастацтва, а Купала, Колас — ад народа. І трэба сказаць, што Купала і Палуян, якія супрацоўнічалі з «Нашай Нівай», пазнаёміўшыся з адхіленымі вершамі маладога паэта, ідуць да Уласава і гавораць, што наш народ здольны зразумець і высокую паэтычную тэхніку. Пераканалі. Такім чынам Багдановіч становіцца аўтарам «Нашай Нівы».

Купала — адзін з першых у XX стагоддзі аўтар санетаў, твораў, для якіх абавязковай з'яўляецца дасканаласць формы. І тут таксама цэлыя ледзь кранутыя гоні для даследчыцкай працы.

Трэба сказаць, Купалу хвалявала тое ж, што і нас сёння хвалюе, — каб наша Беларусь была вольнай, незалежнай, самастойнай, каб наш народ меў высокі інтэлектуальны ўзровень, на які, безумоўна, ён здольны. Невыпадкова нашу Беларусь называюць інтэлектуальным донарам. Заўважце, у якой толькі краіне няма нашых вучоных, мастакоў, артыстаў, здольнейшых людзей. Але, на вялікі жаль, аб'ектыўныя ўмовы для нашага народа, у тым ліку і для Янкі Купалы, складваліся не заўсёды спрыяльна. Не сказаць, што і сёння, калі слухаеш палітычныя звесткі, у нас усё проста. Я рада, што наш Прэзідэнт, пускаючы ў ход больш дыпламатыі, разумее, што мы павінны выжыць. Хочацца, каб гэткі ж клопат быў уласцівы і ўсім нам. У такім выпадку нам трэба часцей успамінаць Купалу, яго аўтарытэт і значнасць у свеце, бо ад таго, як мы будзем ставіцца да свайго песняра, залежыць, як да нас будуць ставіцца народы. Мне асабіста вельмі імпануе тое, што Купалу глыбока ведалі за мяжой яшчэ ў перадрэвалюцыйны час. У якасці прыклада звернемся да нямецкага прафесара Абеля. Ён, перакладаючы Купалу для свайго народа, настолькі захапіўся ім, што вывучыў беларускую мову і ў 1916 годзе выкладаў яе нам, беларусам, у Свіслацкай прагімназіі. Магу вас запэўніць, што і сёння ў Еўропе Купалу чытаюць, цікавяцца ім. А што ўжо казаць пра нас? Проста сорам не ведаць, не цаніць свайго нацыянальнага генія, прарока, паэта з сусветным імем.

**Мікола Мятліцкі.** Дзякуй, Алена Уладзіміраўна, вам за такія глыбокія словы. Сапраўды — цэлая дзялянка працы наперадзе. Янка Купала нашымі крокамі пераступіў мяжу стагоддзяў. Не застаецца ніякіх сумніваў у яго геніяльнасці, а калі яны раней у каго-небудзь і ўзнікалі, то ад гэтага карабель мастацтва, літаратуры не расхістала, ён на хвалях жыцця больш упэўнена плыве ў будучыню.

*Я з прыемнасцю перадаю слова загадчыцы навукова-асветніцкага аддзела Людміле Сцяпанаўне Давідоўскай.*

**Людміла Давідоўская.** Вы невыпадкова прыехалі ў Вязынку. Таму што яна ва ўсе часы з'яўляецца жывой крыніцай духоўнасці і натхнення. Мне ўсё жыццё будзе помніцца 1972 год, калі я толькі пачала тут працаваць і сюды завітала руская паэтэса Марыя Іванаўна Камісарава. Тады не было на гэтым месцы садова-паркавай утульнасці, але шмат расло рамонкаў. І вось гэтая жанчына, якой споўнілася 70, ступіла на рамонкавае поле, потым не стрымалася — пабегла і, замілавана, раскінуўшы рукі, упала і адчувала сябе як на сваіх уваскрошынах. Неўзабаве ў яе нарадзіўся верш, які праслаўляў Янку Купалу на ўсю Расію. Вось ён, паслухайце, калі ласка.

Ты далёко, ты близко, ты рядом —
Здесь живое дыханье твое.
Небывалым купаловским ладом
Надо мною жалейка поет.

Припаду к твоей светлой кринице,
К тем словам, что гортань обожгли.
Я пришла, чтобы вновь поклониться
Каждой строчке твоей до земли.

Поклониться безвестным дорогам,
По которым ты шел босиком,
Поклониться слезам и тревогам,
Что делил пополам с мужиком.

С бедной хатой твоей повстречаться,
Постоять, помолчать… Ты прости.
Может быть, невзначай разрыдаться
И земли взять на память в горсти?

И рассказывать русскому полю
О девчатах твоих золотых,
Что поют про счастливую долю
На вечерках, на свадьбах своих.

Встань, баян, и послушай, послушай
То ли это поют соловьи,
То ли это про милую душу
Соловьям вторят песни твои.

Незабыўная, непаўторная сустрэча адбылася тут са Стэльмашонкам, Героем Савецкага Саюза Палтарацкай, з лаўрэатам Купалаўскай прэміі Язэпам Семяжонам. Ён прыехаў сюды з Уолтэрам Мэем. І вось той піша верш на англійскай мове, а Язэп Семяжон адразу ж яго і перакладае.

Прымі маю падзяку, шчодры лёс,
Што ты прывёз мяне з канца Еўропы
У гэты кут пад засень вербалоз
З настоем агурочніка і кропу,

Што тут, пад саламянаю страхой,
Нібы дыханне краю ўчуўшы зблізку,
Я скалыхнуў удзячнаю рукой —
Далёкі пілігрым — яго калыску.

Купала свята верыў — пакуль жыве хоць адзін беларус, будзе жыць беларуская мова. Стан мовы, жыццё мовы, праблема мовы, дзяржаўнасць мовы — вось гэта наш вялікі Купала і Беларусь, повязь часу. Над гэтым сёння ўдзячна працуе «Полымя» і, безумоўна, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы.

**Мікола Мятліцкі.** На старце XXI стагоддзя знойдуцца маладыя, яны ўжо ёсць — і даследчыкі, і паэты, якія шануюць і будуць шанаваць Купалу, яго геній, яго светач.

*Я перадаю слова маладой даследчыцы спадчыны Купалы Ганне Мятліцкай.*

**Ганна Мятліцкая.** Хачу сказаць аб тым, што лягло ў аснову творчасці Купалы, як складвалася купалаўская традыцыя беларускай літаратуры. Найперш была фальклорная крыніца, набліжанасць да народнага жыцця. Купала — сын арандатара, добра ведаў жыццё сялян, сам спазнаў беднасць, вымушанасць пераездаў з месца на месца. Яго светапогляд фарміраваўся пад уплывам народных казак, песень, вясковага жыцця і, канечне ж, прыгажосці беларускай прыроды. Акрамя таго, Янка Купала ўпарта займаўся самаадукацыяй. І да вучобы на агульнаадукацыйных курсах Чарняева ў Пецярбургу і пасля іх. Гэта таксама спрыяла раскрыццю таленту паэта. Трэба ўлічыць яшчэ і літаратурную традыцыю, якую па сутнасці ён працягваў. Пазнаёміўшыся з беларускамоўнымі творамі, пясняр вырашыў пісаць па-беларуску, хаця пачынаў — па-польску. Нацыянальнае паходжанне і жаданне быць пачутым сваім абяздоленым народам кіравала ім.

Тэмы, вобразы, матывы арганічна ўпляталіся ў літаратурныя набыткі папярэднікаў — Багушэвіча, Дуніна-Марцінкевіча, Каганца і іншых. Пачатак XX стагоддзя, калі дух адраджэння быў асабліва на ўздыме, абумовіў найперш сацыяльную тэматыку з вобразамі-сімваламі, іншаказаннямі па прынцыпе «нашаніўцаў».

Раннія творы Янкі Купалы яшчэ не вызначаліся прафесійнасцю. Паэт сам прызнаваўся, што пачаткоўцам не быў упэўнены ў сваіх паэтычных здольнасцях. Але паступова адбываецца пералом як у ягонай свядомасці, так і ў творчасці. Сацыяльная няроўнасць, несправядлівасць, прыгнечанае становішча сялян выклікаюць у душы рашучы, гнеўны пратэст, і ён імкнецца выказаць яго вершавана, бо лічыць, што гэта самы дзейсны сродак уплыву як на ўладу трымаючых, так і на народ. Кожны новы верш — гэта яшчэ адзін спорны крок да спасціжэння паэтычнага майстэрства, авалодання магутнай сілай яго ўздзеяння. Затым з'яўляюцца выдатныя паэмы, драматычныя творы. Іх нельга чытаць без хвалявання, бо, па вялікім рахунку, у іх душа паэта моцна знітаваная з душой свайго народа.

Творы класікаў захоўваюць нямала таямніц, якія яшчэ будуць даследавацца і асэнсоўвацца. Само адраджэнне сваёй гісторыі, сваіх каранёў, сваёй нацыянальнай літаратуры, лепшых нацыянальных узораў і традыцый. А творы класікаў, іх вывучэнне — менавіта глыбокае, з разуменнем і раскрыццём іх таямніц, іх падтэксту, іх ідэй і вобразаў — дазваляе якасна засвойваць усё лепшае, што створана беларусамі пры дапамозе мастацкага слова.

Знаёмячыся з творамі сённяшніх маладых аўтараў, хацелася б бачыць у іх грамадзянскую непахіснасць, глыбокі змест, шчырасць, агульначалавечую і нацыянальную значнасць тэм і вобразаў, уменне памнажаць духоўны скарб народа, глыбока адчуваць і шанаваць Купалаву мову.

**Мікола Мятліцкі.** Свае пранікнёныя радкі прысвячаюць бессмяротнаму Янку Купалу і прадстаўнікі новага паэтычнага пакалення.

*Адзін з маладых паэтаў, які працуе ў рэчышчы нашых класічных традыцый, прысутнічае сёння тут. Гэта Рагнед Малахоўскі. Яму слова.*

**Рагнед Малахоўскі.** Я родам з Нарачы, і мне было надзвычай прыемна даведацца, што няхай нядоўга, праездам, але быў Купала ў нашым краі. Гэтай падзеі, наведванню Купалам Нарачы, я прысвяціў верш.

Ружы хваляў, паэзіі водар…
Ноч купальская свет ахінала,
І гучала мінуўшчыны ода —
Крочыў берагам Янка Купала.

Перашэптваў чарот яго крокі,
Здані вогнішчаў смутна ўздыхалі.
А паэта натхнялі аблокі,
Што паданне пра Нарач шапталі.

Задуменная поўня-каханка
Рыбакам торны шлях асвятляла.
У прыроды свая калыханка —
Захапляўся Нароччам Купала.

Прытуліліся сонныя сосны
Да загадкавай бездані млявай.
Ткалі вершы нябёсныя кросны,
І паэзія сталася явай.

Песню даўнюю голасам горкім
Беражніца на выспе спявала.
Над пачуццямі ўспыхвалі зоркі,
І шчаслівы быў Янка Купала.

**Мікола Мятліцкі.** У нашай маладой дзяржавы трывалы духоўны падмурак. У былыя зашораныя, ідэалагічна звужаныя гады багата што ляжала ў запасніках, пылілася ў архівах. Сёння гэта павінна ўсплысці, прыйсці да чалавека, чытача. І таму часопіс «Полымя» працягвае руку супрацоўніцтва музею Янкі Купалы. Беларусь шчодрая зямля. Мы ўсе пад крылом, мужным зрокам генія Купалы. І, я думаю, крок Купалы ў XXI стагоддзі будзе вельмі чутным. Таму што мы, беларусы, урэшце здзейснілі тую мару, якую Купала выношваў, якую ахвяраваў нам, патраціўшы багата дзён і начэй, поту і крыві. Мы сталі суверэннай незалежнай дзяржавай. І тое, як мы распарадзімся яе лёсам, цалкам залежыць ад нас сучасных і ад нас будучых. Таму калі Купала — будаўнік гэтай дзяржавы — будзе мудра прысутнічаць сярод нас, усё будзе ў нашым доме ў парадку. Дзякуй усім і да новай сустрэчы ля калыскі Якуба Коласа.

*Падрыхтоўка да друку*
*П. Сабіны і М. Шамякінай.*



**Анатоль ЗЭКАЎ**

# ТУТ — ДЫХАННЕ КУПАЛЫ

Маё знаёмства з Мінскам адбылося дзякуючы Янку Купалу. Гэта ён паклікаў нас, студэнтаў-філолагаў Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, у беларускую сталіцу і правёў па яе вуліцах і праспектах. Каб чытач не здзіўляўся, зірнуўшы ў біяграфію аўтара гэтых радкоў, народжанага праз трынаццаць гадоў пасля смерці першага народнага паэта Беларусі, прызнаюся адразу, што было тое знаёмства з Мінскам нашмат пазней пасля сумнавядомай даты, калі не стала песняра, — у сярэдзіне мінулагодніх 70-х. І прывёз нас у музей Янкі Купалы тагачасны загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ, доктар філалагічных навук, прафесар Мікалай Міхайлавіч Грынчык. Прывёз з вядомай мэтай, каб мы, будучыя настаўнікі, сэрцам і душой дакрануліся да неўміручага слова вялікага Паэта там, дзе асабліва руплівa сабраны багацейшыя матэрыялы з яго не менш багатай спадчыны. Наведалі мы тады, безумоўна, і Вязынку, пад небам якой беларускі хлапчук Янка, сын Дамініка і Бянігны Луцэвічаў, вымавіў свае першыя немаўлячыя гукі, што перараслі праз гады ў чароўныя гукі паэзіі.




Я ўжо, вядома ж, не помню дэталей тае далёкай паездкі, а калі нешта і згадваецца, то пераважна не звязанае з Купалам: што ж, «маладыя гады, маладыя жаданні», як пісаў іншы класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч, затое дакладна памятаю, што ў свой прыезд на сталае жыхарства ў Мінск — у 1982 годзе, якраз у стогадовы юбілей паэта — у думках перш-наперш вярнуўся менавіта да яе. Тым больш так сталася, што першыя тры гады маёй працы ў сталіцы прайшлі непадалёк ад Купалаўскага парку і таго двухпавярховага дома ў ім, які завецца музеем песняра.

Прыехаўшы пасля вучобы з Масквы, я як бы міжволі звязваў сваё жыццё з Купалавым, якому, на вялікі жаль, адтуль не ўдалося вярнуцца ў Мінск і ўбачыць пабачыць любімую таполю, што стаяла вартавой ля зруйнаванага дома, у якім паэт правёў апошнія беларускія гады свайго жыцця — з 1927 да 1941-га.

Я гуляў па парку, у цэнтры якога велічна ўзвышаўся манументальны помнік народнаму паэту, а на памяць прыходзіў верш «Топаль» другога народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, напісаны ў красавіку 1945 года і прысвечаны «памяці друга»:

Каля купалавай пасады
Упёрся топаль у вароты.
І думаў Янка, як даць рады,
Каб не было яму згрызотаў.

Пад тапалёваю паветкай
Ляжалі градкі, ззялі ружы,
Расціў на клумбах Янка кветкі,
Пясняр наш дбалы і дасужы.

«А топаль грузны і гузасты,
І жыць яму, як бачна, мала:
Яму даўно ўжо гадоў за сто», —
Так разважаў з сабой Купала.

І страх часамі браў паэта,
Што вецер дрэва ў сад паваліць
І будзе кветкам песня спета
У шуме-громе смертнай хвалі.

І вось прыйшлі дні злой навалы:
Асірацелі паркі, плошчы,
Згарэлі сад і дом Купалы,
І сам ён — блізкі нам — нябожчык.

І Мінск, як труп, адны руіны,
Дзе ў мёртвых сценах вецер свішча.
А топаль, волат-сірацiна,
Стаіць на варце папялішча.

Ды горад мы з руін падымем,
Успыхне радасць зноў над краем,
І песняра святое імя
Навекі ў сэрцы захаваем.

«Песняра святое імя» і насамрэч захоўваецца ў нашых сэрцах, нашай памяці. Думаю, не перабольшу, калі скажу, што галоўныя яго захавальнікі працуюць менавіта тут, у Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Неяк пацікавіўся, колькі ж іх, гэтых самых шчырых улюбёнцаў у вялікага песняра, чыё жыццё штодня праходзіць ягонымі сцежкамі, праходзіць для таго, каб выводзіць на іх і ўсіх нас, асабліва тых, хто ўступае ў гэтае жыццё. Пачуў лічбу — і здзівіўся: аказваецца, без уліку гаспадарчага персаналу (няхай гэтыя людзі даруюць мне: у кожнага з іх таксама не менш адказная служба ў музеі) усяго 19. Гэта тыя 19, што з'яўляюцца навуковымі супрацоўнікамі трох музейных аддзелаў — экспазіцыйнага, навукова-асветніцкага і фондаў — ды яго чатырох філіялаў: у Вязынцы, Ляўках, Акопах і Яхімоўшчыне. І захацелася назваць усіх іх пайменна, аднак толькі выключна з-за эканоміі не такой і вялікай, а з гэтага нумара і без таго ўрэзанай часопіснай плошчы (о Божа, і тут эканомія!) абмяжуюся адно што прозвішчамі загадчыкаў аддзелаў: гэта Глафіра Васільеўна Кушаль, Людміла Сцяпанаўна Давідоўская і Марыя Кандратаўна Чабатарэвіч. Ды ім і самім варта помнікі ставіць за штодзённую крапатлівую і, здавалася б, такую будзённую, не заўсёды бачную звычайным вокам працу! Як і ўсім, хто шчырые поруч.

А вось помнікам-сімвалам жонкі паэта без сумневу з'яўляецца вобраз незабыўнай Уладзіславы Францаўны Луцэвіч. Менавіта ёй, як згадваецца ў матэрыялах па гісторыі музея, «за вельмі кароткі тэрмін (менш як год) яшчэ ў ліхалетнім 43-м удалося сабраць многае з параскіданай вайной спадчыны песняра. Гэта кнігі Янкі Купалы розных гадоў выдання і на розных мовах, рукапісы і выступленні паэта на з'ездах, пленумах, мітынгах, ацалелыя фотаздымкі, лісты, аўтографы, успаміны пра паэта, яго творы, пакладзеныя на музыку, урадавыя пастановы СССР і БССР, што тычыліся ўшанавання памяці паэта, і многія іншыя дакументы». І рабіла Уладзіслава Францаўна гэта, бадай, не толькі па абавязку адказнага сакратара камісіі па літаратурнай спадчыне мужа, нават, асмелюся сказаць, не па абавязку жонкі, а хутчэй за ўсё таму, што была ўлюбёная ў Беларусь, для якой, ведала, постаць Янкі

Купалы стане знакавай на ўсе гады, пакуль яна і будзе існаваць на свеце.

Уладзіслава Францаўна стала і першым дырэктарам музея, які быў адкрыты для наведвання 20 верасня 1945 года. Спачатку ён размяшчаўся ў будынку Дома прафсаюзаў, а 14 кастрычніка 1950 года пераехаў у новае памяшканне па вуліцы Энгельса, дзе потым будзе месціцца пад адным дахам з Саюзам пісьменнікаў. 9 лістапада 1959 года Літаратурны музей атрымаў адрас, па якім знаходзіцца і сёння: вул. Янкі Купалы, дом 4.



*Янка Купала з жонкай Уладзіславай Францаўнай, першым дырэктарам музея.*

Гэта толькі скупыя радкі музейнай гісторыі, а колькі за імі тытанічнай працы, якая не спынялася ні на дзень, ні на гадзіну. У архівах — дзяржаўных і ўласных — адшукваліся новыя дакументы, вялася перапіска з тымі людзьмі, хто ведаў паэта, запісваліся іх успаміны, ствараліся новыя экспазіцыі, была арганізавана агромністая навукова-даследчая работа. Зрэшты, апошняе не дзіва, бо і сам музей да 1962 года, калі ім стала апекавацца Міністэрства культуры, падпарадкоўваўся Акадэміі навук.

Безумоўна, у музейцаў напачатку было нямала праблем. І асноўная з іх заключалася ў тым, што па архіве паэта цяжкім колам пракацілася вайна. Многія каштоўныя дакументы, у тым ліку і багатая бібліятэка, назаўсёды засталіся пад дахам зруйнаванага дома; іншыя архіўныя матэрыялы былі вывезены з рэспублікі і раскіданы па ўсім свеце. Сляды іх і сёння можна знайсці не толькі на прасторах былога СССР, а і ў далёкім замежжы, у прыватнасці, у Польшчы, Германіі, Англіі і нават ЗША.

Па крупінках збіралася каштоўная спадчына Янкі Купалы. У музеі ганарацца, што маюць большасць рукапісаў і першадрукаў паэта, у тым ліку і рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», падрыхтаваны аўтарам да друку ў 1913 годзе. Ёсць і унікальныя прыжыццёвыя выданні першых паэтычных кніжак песняра. З асаблівай удзячнасцю згадваюць тут украінскіх сяброў: Нацыянальная акадэмія навук суседняй рэспублікі ў 1960 годзе прыняла пастанову аб перадачы рукапісаў Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі.

Сёння ў фондах музея звыш 30 тысяч каштоўных дакументаў і экспанатаў. Значную частку з іх можна ўбачыць у сённяшняй экспазіцыі. Зрэшты, у год тут праводзіцца амаль 2,5 тысячы экскурсій, дзейнічаюць перасоўныя выставы (цяпер іх шэсць). Апошнія змаглі пабачыць не толькі ў Беларусі, але і на Украіне і ў Польшчы. А яшчэ ж ладзяцца творчыя вечарыны, Міжнародныя Купалаўскія чытанні. Сёлетнія, восьмыя па ліку, з назвай «Мастацкі свет Янкі Купалы: класічна-анталагічнае і непаўторна-індывідуальнае», адбыліся якраз у пярэдадзень 125-годдзя з дня нараджэння паэта.

Праўда, супрацоўнікі музея шкадуюць, што з распадам СССР да іх амаль перасталі прыязджаць на экскурсіі прадстаўнікі іншых рэспублік былой краіны. Ды што граху таіць, значна паменела груп і з нашых абласцей: фінансавыя магчымасці не дазваляюць ці нешта тут іншае віной? Турагенцтвы таксама мінаюць

музей, а музейцы могуць жа правесці экскурсіі і на англійскай мове. Рэдкімі гасцямі тут, на жаль, сталі і пісьменнікі.

...Сядзім з вучоным сакратаром Купалаўскага музея Аленай Уладзіміраўнай Бурбоўскай у яе рабочым кабінеце, жанчына захоплена распавядае пра Янку Купалу, этапы яго жыцця і творчасці, адкрывае перада мной многія яшчэ мала ці зусім не даследаваныя старонкі, а я сяджу, слухаю і ведаю, што ні пра што гэта ў сваіх нататках не напішу. Бо бегла — наўрад ці варта, а так кожная тэма патрабуе свайго грунтоўнага артыкула. І пецярбургскі перыяд жыцця Янкі Купалы, і яго праца ў «Нашай Ніве», і стасункі з многімі пісьменнікамі і дзеячамі культуры, і з уладай, дарэчы... Усё гэта я пакідаю іншым даследчыкам купалазнаўства — дасць Бог, святкаванне 125-гадовага юбілею класіка беларускай літаратуры прыдасць ім імпульс у гэтым.

...А новым дырэктарам Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы нядаўна прызначана Алена Раманаўна Мацевасян. Родам яна з Даўгінава. Ага, таго самага, купалаўскага. Так што Даўгінаўскі тракт доўжыцца.

## *Візітныя карткі філіялаў музея*



ВЯЗЫНКА (Маладзечанскі раён). Гэта самы прыцягальны для турыстаў куточак з усіх купалаўскіх мясцін. Тут 7 ліпеня 1882 года ў сям'і Дамініка і Бянігны Луцэвічаў нарадзіўся будучы паэт.

З усіх філіялаў Літаратурнага музея Янкі Купалы «Вязынка» — самы старэйшы. Ён быў адкрыты 20 чэрвеня 1948 года.

У красавіку 1972 года Савет Міністраў прыняў рашэнне аб стварэнні літаратурна-мемарыяльнага запаведніка «Вязынка» з плошчай амаль у 22 гектары.

На базе навуковага апісання, успамінаў старажылаў вёскі, чарцяжоў адноўлена хата ў такім выглядзе, калі ў ёй жылі Луцэвічы. У будыніне — і тагачаснае абсталяванне, і прадметы вясковага ўжытку: печ, стол, калыска, хадунок, лыжкі... У двух пакоях размешчана гісторыка-літаратурная экспазіцыя жыццяпісу і творчасці Янкі Купалы. У адноўленым будынку свірна створана літаратурна-этнаграфічная сезонная экспазіцыя, прысвечаная народным святам і абрадам, якія знайшлі адлюстраванне ў творах паэта.

На галоўнай алеі — бюст Янкі Купалы (скульптар Заір Азгур).

Па рашэнні ЮНЕСКА Вязынка ўключана ў міжнародны маршрут турызму.

Загадчыца філіяла — Ірына Уладзіміраўна Трутнева.



ЛЯЎКІ (Аршанскі раён). Упершыню сюды Янка Купала завітаў у красавіку 1935 года на чале групы беларускіх пісьменнікаў. Ляўкі былі выбраны і месцам, дзе на выдзеленыя дзяржавай грошы — у сувязі з 30-годдзем яго творчай дзейнасці паэт пабудаваў дачу.

З 1935 да 1941 года Янка Купала прыязджаў у Ляўкі штогод на пачатку вясны і ад'язджаў з іх позняй восенню. Тут створаны вядомы «Ляўкоўскі цыкл», у які ўваходзяць

вершы «Алеся», «Дзве дзяўчынкі», «Лён», «Старыя акопы», «Сосны», «Сыны», «Хлопчык і лётчык».

Адсюль 30 чэрвеня 1941 года Янка Купала выехаў у Маскву. Праз колькі дзён дача згарэла пад артабстрэлам.

У 1962 годзе ў будынку былой канторы Копыскага лясніцтва на грамадскіх пачатках быў створаны філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы. З 1977 года ўстанова набыла статус дзяржаўнай, а з наступнага года — гэта Купалаўскі мемарыяльны запаведнік «Ляўкі» плошчай 19 гектараў. Адноўлены дачны дом паэта і гараж, у якім экспануецца падораны яму ўрадам у 1935 годзе аўтамабіль «Шэўрале».

Цэнтральнае месца ў мемарыяльным комплексе «Ляўкі» займае скульптурная кампазіцыя А. Анікейчыка «Восень паэта».

Загадчыца філіяла — Тамара Мікалаеўна Крына.



АКОПЫ (Лагойскі раён). У 1909 годзе хутар Акопы пачала арандаваць маці паэта. Сюды яна пераехала разам з трыма дочкамі: Ганнай, Марыяй і Леакадзіяй. У 1911 годзе, вярнуўшыся з Пецярбурга, у Акопы ўпершыню завітаў і сам паэт.

Тут, на Лагойскай зямлі, Янка Купала напісаў больш за 80 вершаў, паэмы «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», п’есы «Паўлінка», «Прымакі», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя», драматычную паэму «Сон на кургане», зрабіў пераклад «Слова пра паход Ігаравы».

Філіял «Акопы» адкрыты ў 1992 годзе да 110-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы і складаецца з дзвюх частак: першая, літаратурная, знаходзіцца ў вёсцы Харужынцы; другая, мемарыяльная, — за 2 кіламетры ад яе, на месцы колішняга хутара Акопы. На хутары ад даўніх пабудоў засталіся толькі падмуркі, сімвалічны зруб на месцы былой студні ды агромністы камень-валун са страфой Янкі Купалы з верша «З кутка жаданняў».

Ля музейнага будынка ў 1992 годзе пастаўлены помнік «Малады Купала» (скульптары — А. Заспіцкі і Г. Мурамцаў).

Загадчык філіяла — Валянцін Аляксандравіч Журко.



ЯХІМОЎШЧЫНА (Маладзечанскі раён). Тут, за 20 кіламетраў ад Маладзечна ў напрамку Ліды, у 1906—1907 гадах Янка Купала працаваў памочнікам вінакура на бровары ў маёнтку пана Любанскага. У Яхімоўшчыне былі напісаны паэма «Нікому», вершы «А хто там ідзе?», «Ворагам беларушчыны», «З песень нядолі», «Дайце мне волю», «Не тужы», «Што ты спіш?». Гэтыя і іншыя творы склалі потым першы зборнік паэта «Жалейка».

Філіял размешчаны ў тым самым доме, дзе жыў Янка Купала. Дарэчы, гэта адзіны прытулак паэта, які захаваўся. Намаганнямі тагачаснага старшыні тамтэйшага калгаса Генадзя Іванавіча Бошкі яго сучасным жыхарам былі прадстаўлены асобныя кватэры, а ў доме стала магчымым весці рэстаўрацыйныя работы, стварыць экспазіцыю, якая адлюстроўвае нашаніўскі перыяд у творчасці Янкі Купалы.

Філіял «Яхімоўшчына» адкрыты 30 мая 2001 года.

Загадчыца філіяла — Святлана Уладзіміраўна Ціс.

Іван ЧАРОТА

# ЯНКА КУПАЛА Ў СЛАВАКІІ

Маючы сталыя кантакты са славацкай філіяй Міжнароднага Форуму «Паслы славянства», актыў якога складаюць члены Саюза пісьменнікаў Славакіі на чале з Янам Тужынскім і Паўлам Янікам, я ўжо некалькі гадоў запар езджу на мерапрыемствы Форума ў Браціславу — туды, дзе братоў-славян славяць. Апошняе з гэтых мерапрыемстваў адбывалася 23—25 лістапада мінулага года ў клубе Саюза пісьменнікаў. І там я — з дакладам на тэму беларуска-славацкіх літаратурных сувязей ва ўмовах глабалізацыі — меў ганаровую функцыю адкрыць сімпозіум. Даклад быў прыняты вельмі добра, тым болей што значная частка прысутных змест яго ўжо ведала па публікацыі ў загадзя выдадзеным зборніку. А пасля майго выступлення да мяне падышла жанчына сталага веку, прадставілася: «Я — Вольга Кухтава», і па-руску, амаль без акцэнту, ухвальна выказалася пра даклад і дакладчыка. Я падзякаваў, з ветлівасці падтрымаў размову, хоць, прызнаюся, быў збянтэжаны. Перш за ўсё вось ад чаго: у кампліменце прагучала параўнанне маёй маленькасці з Янкам Купалам. А тое, што згадваецца Купала, я сабе вытлумачыў так: дама, відаць, мае філалагічную адукацыю і нейкія агульныя веды пра беларускую літаратуру, запамятала імя нашага класіка... Уласна, і гэта ўжо нетыпова для іншаземцаў, якія жывуць далей за Беласток ці Смаленск. Таму, зноў-такі больш дзеля ветлівасці, спытаўся, адкуль яна ведае пра нашага Песняра. І пачуў: «Ды я ведаю не толькі пра яго, але знаёма і з яго творчасцю, і з ім самім...» Затым — бадай, каб доказна пацвердзіць сказанае, развеяць мае сумненні, а на самай справе бянтэжачы мяне канчаткова, — мая суразмоўца на памяць прачытала верш «А хто там ідзе?..»

Натуральна, мяне ўразіла дасведчанасць суразмоўніцы, яе здольнасць ацэньваць літаратурны твор, як цяпер гаворыцца, «у шырокім кантэксце». Аднак прыняць на веру словы пра знаёмства з самім Купалам я ўнутрана быў нязгодны, трымаючыся нармальнай логікі і разважаючы так: «Ужо мінула амаль шэсцьдзят пяць гадоў з той пары, як Купала адышоў у лепшы свет. А гэтая жанчына сцвярджае, быццам бы ведала яго асабіста?! Ды такога не можа быць, таму што проста не можа быць!» І калі ў далейшай размове пачуў, што мая новая знаёмая працавала рэдактарам у часопісе, вырашыў: «Ну вось, нешта праясняецца ў гэтым густатуманным — можна сказаць, сюррэалістычным — сюжэце! Да яе, відаць, як літаратурнай супрацоўніцы, траплялі нейкія матэрыялы беларускай тэматыкі, у тым ліку верш «А хто там ідзе?..». Яна ўважліва чытала і, маючы добрую памяць, запомніла імя Купалы, а таксама яго твор». Паспрабаваў знайсці пацвярджэнне сваім здагадкам, задаў удакладняльнае пытанне, але пачуў тое ж самае ў адназначнай форме: «Не, Купалу я ведала асабіста. Сустракалася з ім».

Я ж па-ранейшаму не мог паверыць, што гэта праўда, хоць выказваць сумненні свае, з палітэснай далікатнасці, не адважваўся. А мая суразмоўніца тым часам дала Купалу характарыстыку, якую практычна немагчыма знайсці ў публікацыях агульнага характару, прызначаных для масавага чытача: «Гэта

быў мужчына знешне элегантны і ў манерах з відавочнай інтэлігентнасцю, далікатнасцю... Выгляд у яго спакойны, але нейкі сумны. Пры сустрэчы, размове паводзіў сябе асцярожна. Мабыць, таму, што за мяжою знаходзіўся першы раз... Ён быў ці не першым беларусам, якога тут бачылі». І тут у мяне ўжо з'явіліся прычыны для сумненняў іншага плана: «Ці ж магчыма так дакладна ахарактарызаваць Купалу без непасрэдных назіранняў і асабістых уражанняў? Асабліва калі ўлічыць, што гэтыя ацэнкі дае не беларуска і не асоба, прафесійна занятая купалазнаўствам...»

Я завагаўся, хілячыся на другі бок. Тым больш, што пані Вольга Кухтава акрамя вышэйзгаданага мне дэтальна расказвала пра справы даўно мінулых дзён. Сярод іншага наступнае: «Апынуўся ваш класік тут з дэлегацыяй савецкіх пісьменнікаў і журналістаў, якая наведвала Славакію ўвосень 1935 года і прыём якой забяспечваў мой бацька. У складзе той дэлегацыі былі Аляксей Талстой, Аляксандр Фадзееў, Міхаіл Кальцоў і шэраг іншых вядомых асоб. Але з беларускім пісьменнікам у майго бацькі склаліся асабліва шчырыя і даверлівыя адносіны. Яны хутка знайшлі агульную мову. Таму, калі ўся дэлегацыя адправілася на нейкую экскурсію, засталіся паразмаўляць, а потым удвух прагульваліся па Браціславе, абмяркоўваючы важныя для абодвух пытанні. Вось тады я і напаткала іх, і бацька прадставіў мяне Янку Купалу... У мяне ёсць фатаграфіі, на якіх зняты Купала, мой бацька, уся савецкая дэлегацыя з групамі. А яшчэ з Купалам быў добра знаёмы і сябраваў мой першы муж. Яны, між іншым, павінны былі разам эвакуіравацца з Масквы ў Ташкент. Прычым бачыліся і зусім незадоўга да раптоўнай смерці Купалы. Мне муж пра гэта расказваў... З Расіяй і СССР у нашай сям'і даўнія повязі. Мая бабуля па матчынай лініі жыла ў Варонежы...» Паколькі мне даводзілася ўспрымаць чым далей, тым усё больш інфармацыі невядомай, а ў сувязі з Янкам Купалам, можна сказаць, проста неймавернай, то я пачаў сёе-тое занатоўваць. У прыватнасці, запісаў асноўныя звесткі пра падзеі, асабліва іх даты і асобныя дэталі, вылучаныя моманты і названыя імёны — каб потым хоць нешта высветліць. Бо сумненні ўсё роўна заставаліся.

А ў хуткім часе мне прыйшла бандэроль з Браціславы, ад маёй (і Купалавай!) знаёмай, пані Вольгі Кухтавай. У бандэролі той — вялікае пісьмо, ксеракопія газетнага артыкула і ... ажно цэлы дзесятак фатаграфій.

Адна з публікацый суправаджаецца трыма здымкамі, а пад тэкстам артыкула зроблена заўвага — мяркуючы па ўсім, ад рэдакцыі, — што здымкі архіўныя. Між тым адзін з гэтых здымкаў — вядомы і шматразова рэпрадукаваны партрэт Янкі Купалы 1908 года. І ён, верагодна, перазняты з нейкага беларускага выдання — хутчэй за ўсё, альбома ці буклета. А вось два іншых (пад якімі стаяць, адпаведна, подпісы «Група савецкіх пісьменнікаў у Празе» і «Дэлегацыя савецкіх пісьменнікаў і журналістаў на беразе Дуная ў Браціславе») сапраўды з асабістага архіва аўтаркі. Адказна сведчу гэта, бо цяпер яны прыйшлі да мяне як дар з ласкі, мною не заслужанай, і шчодрасці пані Вольгі Кухтавай. А на падставе якраз гэтых фатаграфій і расказвалася чытачам «Славацкага народа» пра нашага песняра. У прыватнасці, наступнае: «Янка Купала ведаў нашу краіну, быў тут з дэлегацыяй савецкіх пісьменнікаў і журналістаў яшчэ да вайны, восенню 1935 года. Яны агледзелі Браціславу, пасядзелі перад гасцініцай «Карлтан», схадзілі да Зімовай прыстані. Пабывалі ў Святым Юры, месцы абавязковага прыпынку замежных пісьменнікаў (ах, ці толькі захаваецца гэтая традыцыя надалей?), наведалі Модранскае керамічнае прадпрыемства і Пешчаны». Акрамя Купалы аўтарка называе некаторых пісьменнікаў з савецкай дэлегацыі (А. Фадзеева, М. Кальцова, І. Мікіценку, С. Траццякова) і прадстаўнікоў славацкай грамадскасці, якія дэлегацыю прымалі — Эла Шандара і Міхала Кормана. Але гэта не столь-

кі дзеля інфармацыі пра сам візіт савецкай дэлегацыі, колькі дзеля таго, каб праз такую падзею зірнуць на эпоху, асэнсаваць яе з дыстанцыі немалога ўжо часу, з вышыні набытага вопыту. І невыпадкова згадваюцца яшчэ Сяргей Ясенін і Уладзімір Маякоўскі, а таксама прысутныя тады пасол СССР у Чэхаславакіі Сяргей Александроўскі і вядомы славацкі дзеяч Уладзімір Клеменціс — асобы, якіх напаткала смерць «у імя вышэйшых інтарэсаў, прычым не ад кулі ворага».

Што ж датычыцца ўласна пісьма, то, як і абяцалася мне пры сустрэчы, асноўны змест яго — падрабязней выкладзеныя ўспаміны пра знаходжанне Янкі Купалы з савецкай дэлегацыяй у Браціславе і каментарыі да прысланых здымкаў.

Прыводзіць тут усё, што пані Вольга аднавіла па памяці, бадай, няма патрэбы. Таму паспрабую выкласці самае істотнае, прычым удакладненае ў пісьме наступным, пасля таго, як я звярнуўся да яе з дадатковымі пытаннямі.

І цяпер у больш-менш завершаным выглядзе мой пераказ можа быць такім:

«Увосень 1935 года Браціславу ўпершыню наведала група савецкіх пісьменнікаў і журналістаў. Незадоўга перад гэтым (16 мая 1935 года. — **І. Ч.**) СССР і Чэхаславакія падпісалі дагавор аб узаемадапамозе, што, натуральна, дало адпаведныя стымулы супрацоўніцтву паміж краінамі як у эканамічнай, так і ў культурнай сферы. Тады і разгарнулася дзейнасць Таварыства культурных і эканамічных сувязей з Савецкім Саюзам. Засноўвала Таварыства інтэлігенцыя, якая мела ў асноўным прарускую арыентацыю, выражаючы настроі калі не пераважнай, то, у любым выпадку, вельмі значнай, часткі грамадства. Як народ невялікі колькасна і падлеглы асіміляцыйным уплывам з розных бакоў славакі ў большасці сваёй да рускага народа ставіліся як да старэйшага брата, укладаючы ў гэтае паняцце адназначна станоўчы сэнс. Пры гэтым сімпатыі да рускіх не абавязкова спалучаліся з сімпатыямі да бальшавікоў, і далёка не ўсе, хто ўвайшоў у Таварыства, належалі да кампартыі. У шэрагу актыўна дзейсных членаў гэтай грамады былі інжынер-эканаміст Міхал Корман, доктар-бальнеолаг Гейза Вамош; дарэчы, сакратаром Таварыства нейкі час быў доктар Густаў Гусак, будучы прэзідэнт Чэхаславакіі. Значную частку актыву складалі прадстаўнікі творчых прафесій — напрыклад, артыст Ян Ямніцкі, мастак Янка Алексы, асабліва ж пісьменнікі — Ян Понічан і Эміл Балеслаў Лукач, Янка Краль... І на чале Таварыства спачатку была пісьменніца Гана Грэгарава, але паколькі міжнародная сітуацыя абвастралася, то ў функцыі старшыні спатрэбіўся рашучы, з цвёрдай пазіцыяй, мужчына. Тады Таварыства ўзначаліў мой бацька, Эла Шандар. Ён таксама быў пісьменнікам і актыўным грамадскім дзеячам, па перакананнях славянафілам, але пры гэтым і намеснікам дырэктара інвестыцыйнага банка. А мая мама, Вольга Шандар, мастачка па прафесіі, загадвала ў Таварыстве бібліятэкай.

Для гасцей з СССР Таварыства старалася зрабіць усё як мага лепш і падрыхтавала багатую праграму.

Тады трымалася яшчэ даволі цёплае надвор'е. Хоць і пераваліла на другую палову кастрычніка, не было не толькі снегу, але і дажджу, і халоднага ветру. Карацей кажучы, меліся спрыяльныя ўмовы, каб наведаць горад-курорт Пешцяны, да якога ад Браціславы прыкладна паўтары гадзіны язды, так што ўвечары госці маглі вярнуцца назад. А там у гонар дэлегацыі быў наладжаны банкет. Было гэта 16 кастрычніка 1935 года...»

Найперш прывядзём з пісьма тую частку ўспамінаў пані Вольгі Кухтавай, дзе даюцца тлумачэнні да захаваных і перададзеных нам фатаграфій (усе здымкі з яе асабістага архіва).



Зроблены ў Пешцянах. Паперадзе сядзяць: першы злева — дырэктар курорта, трэці злева — кіраўнік групы савецкіх пісьменнікаў Міхаіл Кальцоў, чацвёрты — Аляксей Талстой, далей — жонка М. Кальцова, Анна Караваева і Сяргей Траццякоў; за Траццяковым стаіць Янка Алексы, вядомы славацкі мастак. Янка Купала стаіць пасярэдзіне другога рада, за Аляксеем Талстым; па правую руку ад яго — Аляксандр Фадзееў, побач з якім мой бацька, Эла Шандар, а поплеч з бацькам — Міхал Корман, які дапамагаў бацьку, будучы членам аргкамітэта мерапрыемства.



Таксама ў Пешцянах — непасрэдна падчас абеду ў банкетнай зале гасцініцы «Раял». Побач з Янкам Купалам сядзіць доктар-бальнеолаг Гейза Вамош, а насупраць, у белай кофтачцы, — мая маці, Вольга Шандар; па баках яе — здаецца, Аляксандр Фадзееў і Іван Мікіценка.



Сфатаграфаваліся яшчэ раз у Св. Юры. Верагодна, перад ад'ездам, бо настрой адпаведны — відаць, што многія ўсміхаюцца, а некаторыя спяваюць. Падобна, усё прайшло як трэба. На пярэднім плане злева — Мікіценка, а побач з ім Клеменціс і Купала (стаіць бокам, з капелюшом у руцэ). Кальцоў ажыўлена размаўляе. Корман і Шандар (бацька) побач.

(Унізе — надпіс, зроблены бацькам. Ён, як чыноўнік, любіў парадак у дакументах.)



Развітанне з Дунаем. (Група савецкіх пісьменнікаў і журналістаў павінна яшчэ вярнуцца ў Прагу.) Лёгка пазнаць Янку Купалу і А. Фадзеева.



Члены дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў і журналістаў у Празе перад Домам Тырша, заснавальніка арганізацыі «Сокал». На адвароце надпіс: 19/X.35.

**Вольга КАЗЛОВА**

# У АГНІ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ

22 чэрвеня 1941 года полымя Другой сусветнай вайны ахапіла заходнія граніцы нашай дзяржавы. Гэта страшная падзея застала Янку Купалу ў Каўнасе, дзе ён знаходзіўся па запрашэнні літоўскіх сяброў-пісьменнікаў. Праз агонь вайны ляжаў яго шлях у Беларусь. Мінск сустрэў паэта жахамі бамбёжкі, артылерыйскіх абстрэлаў, пажарышчамі. Усё, што выпала на долю нашых народаў у Вялікую Айчынную вайну, зведаў і Янка Купала: гэта і горыч росстаней з зямлёй, дзе нарадзіўся, смерць блізкіх і родных, трагедыя варожых бамбёжак, пажары і знішчэнні. Але «як ні цяжка бывае на душы, а творчая думка і пачуццё мацнейшыя за боль сэрца!..» — піша ў сваім артыкуле пра Янку Купалу Ганна Караваева.

Журналіст Барыс Емяльянаў успамінае, што, як толькі Купала пасля страшнай дарогі пад бамбёжкай і абстрэлам апынуўся ў Маскве, ён пазваніў і папрасіў тэрміновай сустрэчы, а ў час гутаркі паведаміў: «Народ узнімаць трэба. Ён сам узнімаецца, але ў гэты гарачы час усе людзі, якім народ верыў, павінны быць разам з ім. Купала зараз маўчаць не можа... Да цябе просьба: пісаць мне зараз і цяжка і няма дзе. Я буду гаварыць, а ты запішы. Так проста і будзем звяртацца да народа: «Стане Беларусь магілай для немцаў. Захацеў, пракляты, нашай зямлі, прымусім грызці зямлю, няхай удавіцца нашай зямлёй і накрыецца ёю...»

Так распачаў сваю новую творчую старонку Янка Купала. Яго творы аб вайне з’явіліся ў перыядычным друку ў першыя ж дні, калі Савецкая Армія вяла цяжкія абарончыя баі, калі вораг спусташаў акупіраваныя гарады і вёскі і крывавымі лапамі цягнуўся да Масквы. Творы Купалы змяшчаліся на старонках газет «Правда», «Известия», «Красная звезда», «Красный флот», «Савецкая Беларусь», «За свабодную Беларусь», «Партызанская дубінка», «Раздавім фашысцкую гадзіну», а таксама ў зборніках «Беларускім партызанам», выходзілі асобным выданнем у брашуры «Народ-мсцівец».

Янка Купала напружана працаваў і як паэт і як публіцыст. У вершах «Беларускім партызанам», «Грабежнік», «Паўстаў народ», «Зноў будзем шчасце мець і волю», у артыкулах «Узнялася Беларусь», «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа», «Народная вайна», «Прывітанне беларускаму слову», «Беларускі народ не пойдзе ў рабства», «Вышэй сцяг барацьбы за свабоду і незалежнасць» ён ставіў мэтай хутчэйшую мабілізацыю і загартоўку ўсіх нашых сіл для барацьбы з фашысцкімі ордамі. Кіруючыся гэтым, Купала звяртаўся ў першую чаргу да выкрыцця аблічча нямецкага фашызму, яго ідэалогіі, стратэгіі і тактыкі.

Так, у вершах «Беларускім партызанам», «Грабежнік», «Зноў будзем шчасце мець і волю» пяром Янкі Купалы быў намаляваны тыповы псіхалагічны партрэт фашызму з рысамі «вырадка-драпежніка», якога свет не бачыў, — «прысяжнага вешацеля», драпежнага звера, страшылішча, якое «пасцель сабе і трон свой жудасны хаўтурны з касцей і чэрапаў пастроіў чалавечых».

Для раскрыцця антычалавечай сутнасці фашызму паэт скарыстоўвае народныя ідыёмы, характарыстыкі і азначэнні: «звер звяроў», «сыты быў людскім ён жырам»; эпітэты-прастарэччы, блізкія да вульгарызмаў: «Гітлер-ліхадзей», «людаед», «кат», «фюрэр прускі, трупаед, грабежнік», а фашысты — «людарэзы», «род сабачы», «зброд смярдзячы». Псіхалагічнай дакладнасці ў характарыстыцы фашызму Янка Купала дасягае праз паказ іх дзейнасці. Так, у артыкуле «Кліч да беларускага наро-

да» ён піша: «...фашысцкія зграі ўварваліся ў нашу зямлю і топчуцца па ёй. Яны выцягваюць з нашага народа жылы, яны сеюць агонь і смерць, яны кідаюць у агонь нашых дзяцей і адбіраюць жыццё ў матак».

Пафасам напоўнены заклік Купалы да помсты: «За няволю, за кайданы // Рэжце гітлерцаў паганых, // Каб не ўскрэслі век яны», «Кроў — за кроў, а смерць — за смерць», «Вока — за вока, зуб — за зуб!..» Апафеозам творчасці Купалы ваеннага часу гучыць гуманістычная ідэя аб міры і шчасці людзей на зямлі: «Клічу вас я на пабеду, // Хай вам шчасцем свецяць дні... // Ваша чыстая дарога // Да свабоды давядзе». У купалаўскіх закліках адбіваюцца мужнасць і аптымізм і тыя гістарычныя задачы, якія павінен быў вырашыць народ у Вялікай Айчыннай вайне.

Купала папярэджваў, на што нацэліўся нямецкі фашызм: «Лютуе Гітлер ашалелы, // Яму ў Германіі зацесна, // Яму пад ногі дай свет цэлы, // Хай гіне ў муках свет балесных» («Зноў будзем шчасце мець і волю»). Народны пясняр даў красамоўную характарыстыку таго шляху, якім фашызм прайшоў па Еўропе. «Аграбіўшы, пусціў з жабрацкай торбай Польшчу, // Чэхаславакію, як ястраб, раскляваў на часці, // На Францыю грабеж свой зверскі растапоршчыў // І сонечную Грэцыю у цемру запрапасціў. // Нарвежскія крывёй нарвежскай зліў фіёрды, // Як ліпу, Бельгію й Галандыю абчысціў, // Ў ярмо запрог харватаў мірных, сербаў гордых, — // Усё для сваёй разбойніцкай грабежніцкай карысці» («Грабежнік»). Паэт-грамадзянін папярэджваў народы свету аб фашысцкай чуме, якая распаўзлася па Еўропе і пагражала іншым кантынентам.

Янка Купала праяўляў выключную аператыўнасць у адлюстраванні гераічнага змагання беларускага народа на часова акупіраванай тэрыторыі. Так, 11 ліпеня 1941 года ў газеце «Известия» (№ 162) быў змешчаны яго артыкул «Узнялася Беларусь» аб магутным партызанскім руху, які разгарнуўся ў яго родным куце, усенароднай барацьбе з акупантамі. «Вартую сустрэчу падрыхтавала Беларусь фашысцкім варварам у кожным сваім сяле, у кожным сваім лесе... У занятых ворагам раёнах ствараюцца партызанскія атрады — конныя і пешыя. Вока — за вока, зуб — за зуб адкажам фашыстам, не дадзім ім ні адпачынку, ні тэрміну. Паляцяць у паветра масты, склады і абозы... Пакуль будзе жывы хоць адзін беларус, не будзе на беларускай зямлі спакою фашысцкім захопнікам, горкае іх будзе жыццё — з кожнага дрэва, з кожнага яра будзе сачыць за імі зоркае партызанскае вока».

18 ліпеня ў газеце «Правда» змешчаны артыкул Янкі Купалы «Германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа». «Лясы і пералескі Беларусі апранаюцца штыхамі, па непрыкметных сцяжынках прабіраюцца ў тыл ворага партызаны, спальваючы масты, пераразаючы правады, падрываюць ніткі чыгунак».

У артыкуле «Партызанскі ўдар» Янка Купала дае разгорнуты матэрыял аб партызанскім руху на Беларусі. Ён прыводзіць прыклады гераічнай барацьбы савецкіх патрыётаў — сям'і Шаўцовых, якія ахвяравалі сваім жыццём за справу народную, партызанскай разведчыцы з Палесся Марыі, піянераў Яўгена Жыхінскага і Паўла Скрайко, сабраўшых для Савецкай Арміі каштоўныя звесткі ў тыле ворага. Пісьменнік расказвае пра камандзіра атрада «Чырвоны Кастрычнік» Фёдара Іларыёнавіча Паўлоўскага і камісара Ціхана Піменавіча Бумажкова, якія разам са сваімі баявымі сябрамі ўтварылі засаду і ў жорсткім баі падбілі бутэлькамі з гаручай сумессю 18 нямецкіх танкаў, спынілі рух нямецкіх войск на стратэгічным напрамку. За гэту аперацыю абодва былі ўдастоены высокага звання Герояў Савецкага Саюза.

У брашуры «Народ — мсцівец» (выдавецтва НК БССР, 1941) Купала піша аб дзейнасці партызан Валодзі Кіркаўца, Валянціны Герасімавай, Ганны Шубенкі. У жніўні 1941 года газета «Красная звезда» змясціла артыкул Янкі Купалы «Народная вайна», у якім пісьменнік расказаў аб прыкладах гераізму беларускага народа ў тыле ворага.

У артыкулах Янкі Купалы аб партызанскім руху на Беларусі вызначан усенародны характар вайны, паказаны масавы гераізм, трываласць тылу і маральная стойкасць партызан як рашучыя фактары, якія забяспечылі перамогу нашага народа над фашызмам.

Бацькоўскія парады, патрыятычныя звароты-заклікі былі блізкія і родныя кожнаму беларусу, яны актыўна ўплывалі на свядомасць, гартавалі мужнасць народа. «Ні каплі вады, ні крошкі хлеба! Калі вораг сарве яблык, што паспеў у нашым садзе, ён разарвецца ў яго руках гранатай...» Слова, воля паэта знаходзілі водгук у народзе, станавіліся канкрэтнымі справамі, аб чым сведчыць наступнае пісьмо: «Дарагі таварыш Купала! Лістоўку Вашу атрымалі. Будзьце ўпэўнены... <...>З катамі народа адна расплата — смерць. <...> Ёсць у нас у атрадзе хлопчык Міхась. <...> Узяў ён з сабою дзве старыя гранаты, абразца 1933 г. ... Ноччу прабраўся ў хутарскі сад і прывязаў адну гранату кальцом да чаранка самага прыгожага яблыка. <...> Нейкі немец з нашыўкамі доўга хадзіў па сцежках, адзін яблык сарве, надкусіць, кіне. Яблыкі яшчэ не спелыя былі. Урэшце выглядзеў чырвоны яблык, над якім Міхась папрацаваў. Падышоў, сарваў... Цяпер таго немца памінай як звалі... Вось і выйшла Ваша праўда: «Калі захочуць яны сарваць яблык у нашым садзе, яблык абернецца гранатай і разарвецца ў іх руках».

Камандзір Мінскага партызанскага злучэння першы сакратар падпольнага абласнога камітэта партыі Герой Савецкага Саюза Васіль Іванавіч Казлоў у сваіх успамінах расказваў аб тым, што вершы, публіцыстычныя творы Янкі Купалы, адрасаваныя насельніцтву часова акупіраваных тэрыторый, партызанам і падпольшчыкам, адыгралі выключную ролю ў яднанні партызанскіх сіл, у развіцці партызанскага руху, ва ўсведамленні самімі партызанамі іх укладу ў агульную барацьбу нашага народа з фашызмам. Янка Купала, адзначаў В. І. Казлоў, успрымаўся як народны важак, што стаяў на чале ўсіх народных мсціўцаў. Радкі яго твораў выкарыстоўваліся ў якасці дэвіза, пароля, былі пашпартам пры пераходзе з адной баявой зоны ў другую, былі патрэбны людзям, як хлеб, як вада.

Партызанскі рух на Беларусі Янка Купала разглядаў як састаўную частку агульнай барацьбы народаў Савецкага Саюза з германскім фашызмам, як сілу, падпарадкаваную дзейнасці Савецкай Арміі: «Доблесная Чырвоная Армія навекі заваявала любоў беларускага народа. У нямецкім тыле агнём і.мячом беларусы памагаюць Чырвонай Арміі», — пісаў Купала. У артыкуле «Зямля гарыць пад нагамі фашыстаў», змешчаным у газеце «За честь Родины», ён падкрэсліваў думку аб тым, што наша сіла ў адзінстве арміі і народа, у маналітнай дружбе паміж народам рускім і беларускім.

Інтэрнацыянальная салідарнасць нашых народаў, адзначае паэт, праверана ў цяжкіх выпрабаваннях: «Ты ніколі не парываў сувязі з тваімі роднымі вялікімі братамі — рускім і ўкраінскім народамі, і гэта ў самыя цяжкія моманты тваёй гісторыі заўсёды давала табе сілу і ратавала цябе ад чужацкай навалы».

Пакуты, якія прынёс у наш край чужынец, ужо зведалі народы акупіраваных дзяржаў Еўропы, свет пільна сачыў за гераічнымі бітвамі нашай арміі з фашысцкімі ордамі. Паэт высока ацэньваў уклад славянскіх народаў у набліжэнне перамогі над фашызмам. У артыкуле «Вышэй сцяг барацьбы за свабоду і незалежнасць» пісьменнік пісаў: «Вялікай радасцю напаўняецца наша беларускае сэрца, калі мы чуем, што і палякі, і чэхі, і сербы з кожным днём усё больш грозна падымаюцца на барацьбу з агульным нашым ворагам — гітлерызмам». У артыкуле «Узнялася Беларусь» пісьменнік з пачуццём інтэрнацыянальнай годнасці звяртаецца да сваіх родных братоў: «Агляніцеся па баках, беларусы! Шырыцца і расце ў роднай па крыві Югаславіі сакаліны партызанскі рух». У гэтых словах гучыць радасць яднання славянскіх сіл, гонар за поспехі народнай барацьбы ў Югаславіі, упэўненасць у хуткім разгроме ворага.

Янка Купала неаднаразова падкрэсліваў думку, што толькі агульнымі намаганнямі мы наблізім хутчэй час перамогі, што ў агні барацьбы загартоўваецца славянскае адзінства. «У грозны час выпрабавання славянскія народы дружна падымаюцца на барацьбу з агульным ворагам, аб’яднаўшыся ў адну вялікую сям’ю, у якой ніхто не прэтэндуе на першынства і главенства... Агульнымі сіламі даб’емся поўнага разгрому фашызму».

У творах Янкі Купалы перыяду Вялікай Айчыннай вайны назіраецца далейшае развіццё характэрных для яго стылю мастацкіх асаблівасцей. Паэт шырока карыста-

ецца прыёмамі адухаўлення з'яў прыроды. Вобразы родных беларускіх краявідаў пад пяром мастака набылі пластычнасць дзякуючы метафарычнасці і адухаўленню. «Лясы і пералескі Беларусі апранаюцца штыхамі... У нашай барацьбе з заклятым ворагам ваюе кожны дом, кожнае дрэва, кожны ўзгорак. Каменні ўзнімаюцца, каб паразіць ворага, рэкі выходзяць з берагоў, каб патапіць яго, зямля расчыняецца, каб паглынуць яго». Непаўторны купалаўскі лірызм гучыць у пяшчотных бацькоўскіх зваротах: «Жыві ў сваёй сіле і славе, беларускі народ!» — у аптымістычных пераконаннях і вывадах: «Зноў будзем шчасце мець і волю», «шчаслівых перамог, свабодны мой народзе».

Лірычнае гучанне, патрыятычная ўзнёсласць, аўтарская эмацыянальнасць дасягаюцца за кошт пералічэння ратных подзвігаў нашага народа ва ўсе перыяды яго гісторыі. «Наша зямля ўкрыта курганамі і магіламі тых, хто калі-небудзь імкнуўся заўладаць ёю і падняволіць сабе наш народ. Ад Оршы і да Брэста, ад Мінска і да Гродна, ад Пінска і да Магілёва — усюды, усюды дзірванеюць магілы няпрошаных чужынцаў, якія ішлі сюды як заваёўнікі, а леглі ў магілы парыць зямлю як баязлівыя жулікі і зладзеі.

Па Нёмане і Сожы, па Дняпры і Бярозе, па Дзвіне і Прыпяці, на прыгожым нашым Палессі, на ўрадлівай Случчыне, на азёрнай Полаччыне, на Магілёўшчыне, на Міншчыне, на Навагрудчыне, на Піншчыне — усюды мы маем сляды таго, як клалі свае дурныя галавы ўсе тыя, каму не давала спакою думка ўладаць намі і нашай зямлёй... На векі вечныя яны асуджаны гніць у магілах, а наш народ, расправіўшыся з імі, жыў і мацнеў з стагоддзя ў стагоддзе, і жыла, квітнела і красавала родная зямля ва ўсім сваім беларускім харастве».

Паэт-трыбун утварае шэраг устойлівых словазлучэнняў, якія з цягам часу пачалі ўспрымацца як фразеалагізмы: «германскі фашызм — злейшы вораг беларускага народа»; «захопленая зямля — гэта яшчэ зямля не заваяваная»; «круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся» і інш. Сваю душу і сэрца, усяго сябе Купала аддаў змаганню з ненавісным ворагам.

Лёс твораў Янкі Купалы перыяду Вялікай Айчыннай вайны незвычайны. Вядомы літоўскі паэт А. Венцлава ў сваіх успамінах пісаў: «У першыя ж тыдні вайны ў маскоўскіх газетах з'явіліся гарачыя, поўныя нянавісці да фашысцкіх катаў артыкулы Янкі Купалы. Памятаю, як Саламея Нерыс, прачытаўшы артыкул Янкі Купалы «Нямецкі фашызм — злейшы вораг беларускага народа», адразу ж пераклала яго на літоўскую мову і аднесла на радыё, каб перадаць у акупіраваную фашысцкімі катамі Літву. Паэтэса была захоплена і глыбока ўзрушана словамі вялікага патрыёта і паэта.

Нас, літоўскіх пісьменнікаў, глыбока ўсхваляваў верш Янкі Купалы «Беларускім партызанам».

Пісьменніца Ганна Караваева пры сустрэчы з Купалам (чэрвень, 1942 года) паведаміла, што яго верш «Беларускім партызанам» набыў шырокую вядомасць, яна чула яго ў артыстычным выкананні, чула ў шпіталі з вуснаў байцоў. Пакладзены на музыку кампазітарам Анатолем Багатыровым купалаўскі верш стаў гімнам беларускіх партызан. Народнага мастака СССР Заіра Азгура творы Купалы натхнілі ў час вайны на стварэнне серыі скульптурных партрэтаў партызан (бацькі Міная, дзеда Талаша, Міхаіла Сільніцкага і інш.). Народны мастак СССР Міхаіл Савіцкі таксама звярнуўся да творчай спадчыны Купалы, стварыўшы для музея паэта шэраг палотнаў.

Творы Янкі Купалы перыяду Вяліка Айчыннай вайны нясуць чытачу веліч і боль свяшчэннай справядлівай бітвы і беларускага народа за свабоду і незалежнасць.



Ганна МЯТЛІЦКАЯ

# МІФАЛАГЕМА СУСВЕТНАГА ДРЭВА І СІМВОЛІКА РАСЛІН У ПАЭЗІІ ЯНКІ КУПАЛЫ НАШАНІЎСКАГА ПЕРЫЯДУ

Свет раслін складае значную частку вобразнасці ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы. Гэта не толькі часткі асобных раслін (ліст, галіна і інш.), але і такія паняцці, як бор, лес, гай, пушча, сад, гушчар, а таксама вобразы асобных дрэў, кветак, кустоў, збожжавых культур і г. д. Кожны асобна ўзяты вобраз расліны ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы так ці інакш адлюстроўвае міфалагічныя ўяўленні пра паняцце Сусветнага Дрэва, якое мае вялікую значнасць у міфалагічнай карціне свету розных народаў, у тым ліку славян. Кожны купалаўскі вобраз раслін адлюстроўвае значныя міфалагічныя суадносіны — з'яднанасць Неба і Зямлі, жыццястойкасць і моц усяго жывога, разнастайнасць праяў жыцця. Даследаванне вобразаў раслін, аб'яднаных у пэўную сістэму, дазваляе найбольш поўна зразумець выяўленне міфалагемы Сусветнага Дрэва ў творчасці класіка, у якой асобныя вобразы раслін дапаўняюць адзін аднаго, гарманічна суіснуюць, а праз сваю далучанасць да чалавечага жыцця — набываюць сімвалічнасць, выкарыстоўваюцца паэтам у алегорыях і іншых мастацкіх прыёмах.

Сусветнае Дрэва (arbor mundi), або Прадрэва, — характэрны для міфапаэтычнага разумення вобраз, увасабленне універсальнай канцэпцыі свету. «З дапамогай Сусветнага Дрэва ва ўсёй шматлікасці яго культурна-гістарычных варыянтаў [уключаючы і такія яго трансфармацыі або ізафункцыянальныя яму вобразы, як «вось свету» (axis mundi), «касмічны слуп», «сусветная гара», «касмічны чалавек» («першачалавек»), храм, трыумфальная арка, калона, абеліск, трон, лесвіца, крыж, ланцуг і г. д.] зводзяцца ў адзінства агульныя бінарныя сэнсавыя супрацьпастаўленні, якія служаць для апісання асноўных параметраў свету» (Мифы народов мира). Вобраз Сусветнага Дрэва выяўляецца або рэканструюецца на аснове міфалагічных, у прыватнасці касмалагічных уяўленняў, зафіксаваных у пісьмовых помніках розных жанраў, помніках выяўленчага мастацтва (жывапіс, арнамент, скульптура, вышыўка і інш.), архітэктурных помніках (найперш культавых), а таксама на посудзе, у рытуальных дзеяннях. Гэты вобраз выконваў асаблівую арганізуючую ролю ў адносінах да канкрэтных міфалагічных сістэм, вызначаючы іх унутраную структуру і ўсе іх асноўныя параметры, размяшчаўся ў сакральным цэнтры свету — у тым месцы прасторы і часу, дзе адбываўся акт тварэння, злучаючы зямлю, падзем'е і неба, робячы магчымай сувязь паміж імі і даючы доступ да сонечных сіл.

«Касмаганічныя міфы апісваюць станаўленне свету як вынік паслядоўнага ўвядзення асноўных бінарных семантычных апазіцый (неба — зямля і г. д.) і градуальных серый накшталт расліны — жывёлы — людзі і інш. і стварэння касмічнай апоры ў выглядзе Прадрэва ці яго эквівалентаў» (тамсама). Дрэва мадэлюе свет па вертыкалі, па гарызанталі і ў часавых адносінах. У. Тапароў адзначае: «З дапамогай Сусветнага Дрэва робяцца адрознымі асноўныя зоны

сусвету — верхняя (нябеснае царства), сярэдняя (зямля), ніжняя (падземнае царства) (прасторавая сфера); мінулае — сучаснае — будучае (дзень — ноч, спрыяльная — неспрыяльная пара года), у прыватнасці ў генеалагічным праламленні: продкі — цяперашняе пакаленне — нашчадкі (часавая сфера); прычына і вынік; спрыяльнае — нейтральнае — неспрыяльнае (этыялагічная сфера); тры часткі цела: галава, тулава, ногі (анатамічная сфера); тры віды элементаў стыхій: агонь, зямля, вада («элементная» сфера) і г. д.». Дрэва сімвалізуе поўную праяўленасць, дынамічнае жыццё ў супастаўленні са статычнасцю каменя; сінтэз неба, зямлі і вады; прыстанішча, ахову і падтрымку, якія забяспечвае Вялікая Маці. «Апушчанае карэннем у нетры зямлі, судакранаючыся з водамі ў яе цэнтры, дрэва расце ў свеце Часу, нарошчваючы кольцы як паказчык свайго ўзросту, а галіны яго дасягаюць нябёсаў і вечнасці, сімвалізуючы адрозненні паміж праявамі матэрыяльнага свету» (адзначае аўтар «Энциклопедии символов», Дж. Купер).

Значнасць вобраза Сусветнага Дрэва для міфапаэтычнай эпохі заключаецца ў тым, што яно выступае ў якасці прамежкавага звяна паміж сусветам (макракосмам) і чалавекам (мікракосмам) і з'яўляецца месцам іх перасячэння. Універсальнасць міфалагемы дрэва абумоўліваецца галоўнымі для яе сімвалічнымі значэннямі: Дрэва сімвалізуе любое цэлае, што складаецца з частак; імкненне ўвыш — да ідэалу, да сонца, да Бога; дрэва і жыццё чалавека цесна звязаны (дрэва роднаснае чалавеку па яго становішчы ў Сусвеце, сярэдзіннасці паміж небам і зямлёй) — тым, што яно дае надзею на бессмяротнасць, увасабляе гармонію і прыгажосць свету.

### *Сімвалічнасць вобразаў дрэў*

Распаўсюджанасць міфалагемы Сусветнага Дрэва звязана найперш з абагаўленнем прыроды ў эпоху міфалагічнага мыслення. У старажытнасці расліны, гэтаксама як і іншыя прыродныя з'явы, успрымаліся адухоўлена, шанаваліся, узнікалі культы асобных дрэў, з якіх найбольш пашыраным быў культ дуба. Як піша даследчык А. Афанасьеў: «Ідучы ўслед за ўнушэннямі метафарычнай мовы і цесна звязаных з ёй першабытных уяўленняў пра маці-прыроду, старажытны чалавек амаль не ведаў неадушаўлёных прадметаў; паўсюль знаходзіў ён і розум, і пачуцці, і волю. У шуме лясоў, у шалясценні лісця яму чуліся тыя загадкавыя размовы, якія вядуць паміж сабой дрэвы; у трэску зламанай галіны, у скрыпе расколатага дрэва ён пазнаваў хваравітыя стогны, у завяданні — гора, якое высушвае, і гэтак далей». Вобраз стогну дрэў у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы сустракаецца вельмі часта (вершы «Зваяваным», «Пры скаціне», «Па жыццёвай пуцявіне», паэма «У Пілінаўку» і інш.). Паводле старажытных уяўленняў ажыванне дрэў кожную вясну тлумачылася тым, што ў іх вяртаецца душа. Матыў ажывання дрэў, іх уваскрэсення да жыцця ўвесну сустракаем у вершах «Ідзе вясна», «З асенніх напеваў», «Коціцца крыніца...» і інш. Выяўляюцца таксама гармонія і ўзаемаразуменне паміж лірычным героем і раслінамі (напрыклад, у вершы «Па жыццёвай пуцявіне»), суаднесенасць чалавечага жыцця з дрэвам: «Як апаленае дрэва // Пастухамі ў полі роўным, // Адзінока хмар пaвеваў // Жду век з сэрцам неспакойным»* (паэма «Калека»). У вершы «З асенніх напеваў» знаходзім паэтычнае вызначэнне месцазнаходжання дрэў — паміж зямлёй і небам.

Распаўсюджаным вобразам у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы з'яўляецца дрэва, якое расце на кургане, што мае аналаг у міфалогіі — Сусветнае Дрэва

* Цытаты даюцца па выданні: Купала Я. Поўны збор твораў: У 9 т. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1995—2003.

таксама часта ўяўляецца растучым на вяршыні гары. У якасці гэтага дрэва ў паэме «Курган» выступае *дуб*: «Пацяклі, паплылі за гадамі гады... // На гусляравым наспе жвіровым // Палыны узышлі, вырас дуб малады, // Зашумеў непанятлівым словам».

У паэме «Сон на кургане» ўзгорак-курган, да якога прыходзіць Сам, знаходзіцца «паміж трох адвечных дубоў». У паэзіі Купалы гэтага перыяду ёсць два вершы з назвай «Дуб». У адным з іх, які мае падзагаловак «Распусціўшы сучча...», знаходзім апісанне дуба, які параўноўваецца з царом у кароне і «аб нічым не дбае», «стаіць і дрэмле». Акрамя сілы і велічы дуба, Купала адзначае яго мудрасць: дуб «многа казак знае, // Многа песень чуе». А ў вершы з падзагалоўкам «Калыханы ветрамі...» спачатку таксама ствараецца падобны малюнак-апісанне старога дуба, яго жыццёвых выпрабаванняў, а потым гэты вобраз набывае алегарычны сэнс — дуб рухне, і на кургане, на якім ён рос, з жалудоў паўстане дуброва, якая зашуміць «песняй новай». Працяг гэтай думкі можна адшукаць і ў вершы «Ты, зялёная дуброва...», напісаным у форме звароту паэта да дубровы, у якім выказваецца просьба «гаманіць, расходзіцца шумам», «уліць надзею вольным думам». Менавіта дуброва павінна скінуць сон, расцвісці, данесці свету весці пра сябе і іншае. Тлумачэнне гэтых алегарычных вобразаў магчыма толькі ў кантэксце важнай па значэнні для нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы ідэі свабоды, ідэі народнага абуджэння, імкнення да лепшай будучыні: паэт асацыятыўна суадносіць вобраз дубровы з беларускім народам, яе шум — з народным абуджэннем, а моц маладых дубкоў — з новым пакаленнем беларусаў або з героямі-змагарамі.

Святасць дуба, дубровы, што адпавядае славянскай традыцыі, знаходзім у вершах «З мінуўшых дзён», «Як я полем іду...». Дуброва называецца зялёнай (паэмы «Адвечная песня», «Сон на кургане» і інш.), лясістай (верш «Лета» («Эх ты, лета гарачае, бурнае!..»). Як правільна заўважыў М. Эпштэйн, ужыванне вобраза дуба — гэта той выпадак, калі вобраз мае адзінае, устойлівае значэнне, дуб «увасабляе сабой вышэйшую ступень цвёрдасці, мужнасці, сілы, велічы... выступае як вобраз жыццёвай моцы». Сіла дуба адзначаецца ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы даволі часта: дуб называецца няўсечным (паэма «Сон на кургане»), з ім параўноўваюцца героі паэм «У Піліпаўку» («крапячы, як дуб») і «Адвечная песня» («дуж, як той дуб векавы»). Пры дапамозе метафары ссякання дуба адлюстроўваецца сіла чалавека (верш «Зімой у лесе»), буры (верш «Будзь смелым!..»). Знаходзім у Купалы і народнае суаднясенне вобразаў дуба і хлопца (вершы «Плачуць мае песні», «Два браты»), з дубам і лілеяй параўноўваюцца маладыя ў вершы «Маладым на вяселлі». Дуб сімвалічна адлюстроўвае вынослівасць, моц, высакароднасць, «сілу, ахову... мужнасць, вернасць, мужчыну, чалавечае цела». У многіх традыцыях дуб звязваецца з багамі-грамаўнікамі, «таму можа таксама сімвалізаваць маланку і агонь». У хрысціянстве дуб сімвалізуе Хрыста як сілу, што праяўляецца ў бядзе, цвёрдасць у веры і дабрачыннасці, зазначае Дж. Купер. У традыцыйнай славянскай культуры дуб — гэта дрэва, якое найбольш шанавалася і было прысвечана Перуну. Дуб і бяроза ўвасабляюць мужчынскі і жаночы пачаткі ў прыродзе.

У адрозненне ад вобраза дуба вобраз *бярозы* ў Купалы мае значна больш эпітэтаў: ніцая (паэма «Яна і я»), белая (паэма «Бандароўна»), крывая (вершы «Гэта крык, што жыве Беларусь», «Чатыры крыжы»). Бярозы — шумныя (верш «З песень нядолі»), плакучыя, яны стогнуць (верш «Пад крыжам»), вольныя (верш «Як у лесе зацвіталі...»). Вобраз бярозы таксама, як і вобраз дуба, сустракаецца побач з вобразам кургана: бярозы растуць «на вечным кургане бадыльным», трасуцца на могілках над курганком (верш «Лірнік вясковы»). Звычайна бярозкі выкарыстоўваюцца ў якасці дэталяў пры апісанні вёскі, прысад (вершы «Я ад вас далёка...», «З песень аб сваёй старонцы», «Падарожны», паэма «Яна і я» і інш.), нават з'яўляюцца для паэта адной з прыкмет радзімы. У асобных творах узнікае матыў змагання бярозы з ветрам, які «лісты абівае з бяроз, // Аблам-

ляе галлё, не цярпіць, а гудзіць» (вершы «Дзе б і праўда жыла...», «Я бачыў»). Сустракаем і адваротны выпадак — у вершы «Па шляху»: вецер у гэтым творы адносіцца да бяроз, як да дзяўчат — «галубячы, цалуе іх, як дзеваў, // І кліча іх на радасны бязмер».

На Беларусі з бярозай звязана свята Сёмуха, падрыхтоўка да якога — ламанне *маю* — апісана паэтам у вершы «Перад Сёмухай». Пры дапамозе вобраза маю перадаецца мара лірычнага героя аб сваёй долі і долі радзімы: ён насячэ маю — бярозку, рабінку, клён, калінку, пасадзіць іх перад хатай. Шапаценне лістоў маю ўспрымаецца героем як размова дрэў: «І мне здасца ў хаце, // Што дрэўцы бясконца // Раяцца, як даці // Долю мне й старонцы»... Падобны вясновы абрад вядомы ў многіх народаў, май — «вясенняя эмблема ўрадлівасці і вяртання сонца, якая мае глыбокія традыцыі ў старажытных рытуалах, прысвечаных земляробству і ўваскрэсенню, а таксама Сусветнаму Дрэву, што звязвае неба і зямлю», падкрэслівае Дж. Трэсідэр у «Слоўніку сімвалаў», «майскае дрэва сімвалізуе сусветную вось, вакол якой абарочваецца Сусвет», дадае Дж. Купер. У славянскай міфалогіі згодна з Дж. Трэсідэрам, бяроза «сімвалізуе вясну і дзявоцтва, з'яўляецца эмблемай маладых жанчын». У народных уяўленнях назіраецца дваякае стаўленне да бярозы: яна абараняе ад злых сіл і, наадварот, прыносіць шкоду, звязваецца з духамі памерлых. Як піша Н. Шапарава, «бяроза паўсюдна лічылася дрэвам, звязаным са звышнатуральным светам. Яна была звязана не толькі з душамі памерлых, але і з нячыстымі духамі, і ў народных былічках, аповедах і г. д. часта выступала як атрыбут нячыстай сілы». У сусветнай міфалогіі бяроза мае станоўчую семантыку, сімвалізуе ўрадлівасць і святло, адганяе злых духаў. А ў шаманізме выступае нават у якасці Сусветнага Дрэва. У нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы гэты вобраз станоўчы, бяроза суадносіцца з дзяўчынай, што сведчыць пра набліжанасць у адлюстраванні гэтага вобраза да славянскіх уяўленняў.

*Ліпа* ў беларускіх замовах таксама з'яўляецца апякункай маці, дзяўчат «у іх спецыфічна жаночых праблемах, у пытаннях, звязаных са шлюбам і дзетанараджэннем». Ліпа надзялялася гаючымі і жыватворнымі якасцямі. «Вядомыя і апатрапеічныя функцыі ліпы, яе лыка, якое не толькі адганяла дэманаў, але і магло пазбавіць іх шкоднай сілы» (энцыклапедычны слоўнік «Беларуская міфалогія»). З гэтым, магчыма, звязана і тое, што ў беларусаў з ліпы зроблены многія прадметы сялянскага побыту: калыска (вершы «Да сваіх думак», «Лірнік вясковы», «Песні вайны»), лапці (вершы «Лапці», «Над калыскай»), скрыпка (верш «Забытая скрыпка»). Ліпа лічылася святым дрэвам, паўсюдна ў славян забаранялася чапаць ліпу, наносіць пашкоджанні, секчы, ламаць ліпавыя галіны.

Адухоўленасць ліп назіраецца ў вершы-песні «Зайшло ўжо сонейка, цень лёг на гонейка...», дзе ёсць радкі: «Казкамі дзіўнымі будуць галінамі // Ліпкі шумеці, дзівіцца». У вершы «Ліпа» паэт увасабляе гэта дрэва ў вобразе старой, якая ні аб чым не дбае, за сто год свайго жыцця бачыла рознае і многае, «ад віхраў і ад бураў // Не мела век патолі». Адзначаецца таксама, што ліпу паважаюць і шануюць.

Менавіта праз параўнанне з доляй ліпы Купала перадае пакуты зямлі з прыходам вясны 1915 года, якая прынесла вайну:

Дык вось жа як прыйшла вясна жаданая на свет,
Калоцячы, як ліпай, змучанай зямлёй да дна.
Крывёй, пажарам, пошасцяй — людзям яе прывет,
А напіс на яе агнёвым знамені: Вайна!

У паэме «Нікому» Купала стварае вобразы *клёна* і ліпы, якія выраслі на магіле Алены, як вобраз пары і сімвал вернасці ў каханні: «Людзі й тут па-свойму // Нейкі знак знайшлі: // Людскія назовы // Дзераўцам далі». На жаль, вобраз клёну падрабязна не раскрываецца ў нашаніўскай паэзіі Я. Купалы. Затое ў рускай паэзіі, што адзначыў пры даследаванні гэтага вобраза М. Эпштэйн,

клён персаніфікаваўся ў вобраз «хвацкага, крыху зухаватага хлопца, з буйной шавялюрай непрычасаных валасоў... Другі ўстойлівы вобразны матыў, звязаны з клёнам, — зубчатасць яго лістоў, якія аддалена нагадваюць форму сэрца, што робіць клён як бы апекуном кахання». Клён у славянскай міфалогіі — дрэва, якое выкарыстоўвалася як апатрапей і мела выключна станоўчую семантыку. «Галінам, насенню і лісцю клёна прыпісвалася магічная сіла абараняць чалавека і яго прастору ад усяго злога». Лічылася, што клён прыносіць шчасце, яшчэ яго называлі добрым і святым, бо ў яго не б'е маланка і на ім з'яўляецца Багародзіца; клён садзілі каля хаты, яго шанавалі, аберагалі і прыпісвалі яму гаючую сілу, адзначана ў слоўніку «Славянские древности». У. Дубоўка ў аўтабіяграфіі згадваў, што для беларусаў кляновыя лісты — «сімвал беднасці, бо яны дапамагалі эканоміць нейкую жменьку мукі пры выпечцы хлеба».

У пары з «жаночым» дрэвам у Купалы выступае і *явар*, «белы клён з сямейства псеўдаплатанавых, прыгожае, велічнае дрэва, улюбёнае дрэва беларускай вуснапаэтычнай спадчыны, хоць у прыродзе Беларусі яно адсутнічае. Важнае месца явара ў нашай духоўнай спадчыне тлумачыцца незвычайным яго паходжаннем. Явар — гэта моладзец, ператвораны ў дрэва праз праклён маці (часам бацькі) або па сваёй волі пад ціскам абставін ды інш.», — піша Л. Салавей. У вершы «Явар» Купала стварае вобраз адзінокага дрэва, якое церпіць крыўды, пакуты, — «за пакутнай за гарою // Плача хмурны, адзінокі». Паэт расказвае аб яго былой славе: явар быў «князем гэтых ніваў, // На ўсім свеце меў павагу», пра яго складалі і спявалі песні. Хутчэй за ўсё ў вобразе явара Купала алегарычна адлюстраваў Беларусь — яе мінулае і сучаснае (пачатак XX стагоддзя); явар плача аб ранейшай славе, ён стары, слабы, памірае:

Смуцен явар. Змагаць-біцца
Сіл замала з непагодай —
Па лісточку, па галінцы
Ўсё губляе з кожным годам.

У славянскай традыцыі *каліна* — расліна, якая надзялялася «сімволікай цнатлівасці; з-за ярка-чырвоных ягад асацыіруецца з крывёю; у некаторых традыцыях лічыцца нешчаслівым дрэвам, у іншых, наадварот, адносіцца да святых» (Славянские древности). Як адзначае І. Швед, у беларускім фальклоры каліна выступае сімвалам «нешчаслівай жанчыны ці яе горкай долі», што звязваецца з горыччу калінавых ягад, а таксама каліне ўласціва значэнне «надмагільнага дрэва, дрэва смерці».

У вершы «Явар і каліна» Купалам адлюстроўваецца гармонія пачуццяў явара і каліны, якія абудзіліся вясной — скінулі «зімнія чары». У вершы-песні «Каб была я перапёлкай...» з вобразам горкіх *ягад каліны* паэт суадносіць долю дзяўчыны на службе. У гэтым вершы праз мастацкі прыём параўнання з выкарыстаннем вобраза бярозы паэт стварае малюнак плачу дзяўчыны: «Ой, крывава паліюцца // Мае горкі слёзы, // Бы расіца ў летню ночку // З беленькай бярозы». Паралелізм жыцця каліны і жыцця дзяўчыны, адпаведны вобразнасці народных песень, знаходзім і ў вершы «Над ракою ў спакою».

*Сасна* (*хвоя*) сімвалізуе бессмяротнасць і даўгалецце. Гэта звязана з тым, што яна вечназялёнае дрэва. Таксама сасна ўвасабляе «адкрытасць, жыццёвую сілу, плоднасць, сілу характару, маўклівасць, адасобленасць» (Дж. Купер). Як заўважыў даследчык М. Эпштэйн, хвойныя дрэвы перадаюць «таемнае маўчанне, здранцвенне, паглыбленасць у сябе». Купала характарызуе сасну пры дапамозе наступных эпітэтаў: смалістая (паэма «Яна і я»), смутная (верш «Я нясу вам дар»), высокая (верш «Заручыны»). Праз вобраз сасонак ілюструецца прыгажосць дзяўчат: «Дружка ў дружку, як сасонкі, // Пазірай — дзівіся!» (верш «З нуды»). М. Малоха адзначае, што *елка* ад хвоі «адрозніваецца больш «светлымі» рысамі. Вечная зеляніна, спрыяльнае «біяполе» вакол яе сталі асновай сакра-

лізацыі і шанавання». У творах Купалы хвоі і елкі персаніфікаваныя: хвойкі баяць байкі (верш «Прывітанне»), «хвойка з хвойкаю талкуе, // Як дзе кума з кумой на рэчцы» (верш «Лес»), елкі, сасонкі слухаюць песню (верш «А як мы з хаткі выходзім...»). Матыў змагання хвойкі з бурай выкарыстоўваецца для паказу цяжкасцей у чалавечым жыцці (вершы «Доля ўдавы», «Ой, чаму на хаты гэтыя?..»). Разам з тым, па словах М. Малохі, наяўнасць вострых іголак «дазваляе далучаць хвойныя дрэвы да падземнага царства, свету памерлых», што стала прычынай аднясення іх да адмоўных вобразаў у славянскіх літаратурах. «Сімволіка елкі ў народнай культуры часцей негатыўная... як дрэва, што расце ў сырых, цёмных месцах, лічыцца нядобранадзейнай, чорнай, таму яе ніколі не садзяць блізка ля хаты. У міфалагічным плане «калючасць», «адмоўнасць» елкі адлюстраваліся ў сувязі яе з дэманалагічным светам», як падкрэсліваецца ў энцыклапедычным слоўніку «Беларуская міфалогія», а тое, што вечная зеляніна елкі асацыятыўна суадносіцца з вечнасцю жыцця, паслужыла асновай для выкарыстання яе галінак у пахавальных абрадах. У адпаведнасці са згаданымі ўсходнеславянскімі ўяўленнямі хвойныя дрэвы выкарыстоўваюцца Купалам пры апісанні могілак: крыжы яловыя (верш «Над магіламі»), на могілках хвойкі плачуць (раздзел «Радаўніца» з паэмы «Яна і я»), над магілай беззямельных вырасце сасонка, якая забядуе над імі «песняю нязвонкай» (верш «Беззямельныя»). З хвояй звязваюцца трагічныя, фатальныя здарэнні: хвойка калечыць («крыша») нагу лесніку, і ён вымушаны ісці жабраваць, бо перад гэтым на вайне згубіў руку (паэма «Калека»); на сасонцы павесілася Зося (паэма «Адплата кахання»); у паэме «Адвечная песня» Мужыка забівае таксама хвойка. Вобраз елкі ў вершы «За чужую елку» такі ж адмоўны; елка ў гэтым творы фактычна выступае як дрэва, з-за якога згубілі жыццё два чалавекі — селянін Мікіта і ляснік Валівода. Толькі ў адным творы пры дапамозе вобраза елкі Купала перадае людское неразуменне, адзіноту чалавека сярод людзей: «Каб здаецца, абняў елку, // Сагрэў бы сабой, // А з людзьмі так неяк зімна, // Жудка, Божа мой» (верш «Па жыццёвай пуцявіне»).

Сувязь з міфалагічнымі ўяўленнямі выразна праяўляецца ў купалаўскім вобразе *асіны*. У некаторых творах асіна — гэта дрэва, якое таксама расце ў сакральным цэнтры: на кургане пад асінай векавой іграе дудар (верш «Дудар»), паэт успамінае курган «з сухой асінаю» як дэталь у вершы «Мой дом». У народных уяўленнях усходніх і часткова заходніх славян асіна — «нячыстае» і праклятае дрэва; у абраднасці і магіі — універсальны абярэг» (Славянские древности). А. Афанасьеў адзначае роднаснасць назвы асіна (серб. јасика) са словам ясень; асіне, гэтаксама як і ясеню, надаецца сіла, ад якой дранцвеюць змеі. Галоўная асаблівасць асіны — трымценне яе лістоў, якое, як заўважана народам, адбываецца і ў бязветранае надвор'е. Гэта заўважыў і паэт: «лісць» трасецца на асіне (верш «Хохлік»), дрыжанне асіны сустракаем у паэме «Сон на кургане» і інш. Беларускі даследчык Я. Крук прыводзіць розныя версіі, чым маглі быць абумоўлены народныя ўяўленні пра дрыжанне асіны, і адпаведна — чаму яна праклятае дрэва: з асіны былі зроблены крыж і цвікі, на якіх адбылося распяцце Хрыста; пад асінай падчас уцёкаў у Егіпет хавалася Маці Божая, і асіна выдала яе; на асіне павесіўся Іуда. Таксама даследчык прыводзіць беларускае паданне пра бярозу і асіну, як пра пакараных Богам няверную жонку і яе палюбоўніка. Беларусы не выкарыстоўваюць асіну пры будаўніцтве хаты, не садзяць на падворку. Між тым асіна выкарыстоўвалася і як абярэг, і ў народнай медыцыне. Магчыма, у купалаўскім вершы «Грай жа, музыка...» рэмінісцэнцыяй на біблейскі сюжэт з'яўляецца выпадак, калі чалавек ідзе вешацца на асіне.

Асіна выкарыстоўвалася і падчас пахавальнага абраду: «Каб нябожчык, у якім падазраюць злога ведзьмака, вампіра або ведзьму, не мог выходзіць з магілы, — піша А. Афанасьеў, — сяляне ўбіваюць яму ў спіну асінавы кол... Паводле казак, ведзьмакам, якія выходзяць з магіл, убіваюць у сэрца асінавы кол, б'юць іх наводмаш асінавым паленам і спальваюць іх целы на асінавым кастры». Як

ворага-ведзьмака, які не павінен выходзіць з магілы, хаваюць гусляра і яго гуслі ў паэме «Курган»: «Закапалі, убілі асінавы кол, // Далі насып тры сажні высокі». Як прадвесце цяжкога жыцця і трагічнага лёсу Мужыка паэт у раздзеле «Хрэсьбіны» з паэмы «Адвечная песня» прыкмячае, што немаўля спіць у асінавых начоўках, калі над ім з'яўляюцца цені, якія спяваюць пра будучае жыццё дзіцяці. Некаторая адмоўнасць асін назіраецца і ў вершы «Бледныя буднія дні...»: у жыцці нічога не змяняецца, рабства цягнецца ад веку ў век — «асіны скрыпяць // Над уміраннем сяліб».

У народнай медыцыне і ў якасці прадмета-апатрапея славяне выкарыстоўваюць і *вольху*, дрэва, звязанае з замагільным светам, плачам і небяспекай. «Асаблівасць вольхі — на паветры яе сок, кара, сырая драўніна чырванеюць. Беларускія легенды звязваюць чырвоны колер кары вольхі з крывёй чорта, які ратаваўся на ёй ад ім жа створанага ваўка (чорт цкаваў ім Бога, аднак воўк паслухаўся апошняга і ўкусіў чорта)... Беларускія фраземы выкарыстоўваюць вобраз вольхі для характарыстыкі неадукаванага, цёмнага чалавека — «куст альховы», «пень альховы» (Беларуская міфалогія). У творах Купалы вольха заўсёды знаходзіцца ля рэчкі ці якой-небудзь вады (вершы «Летам», «Над Свіслачай» і інш.). У вершы «З летніх малюнкаў» ствараецца станоўчы вобраз вольхі праз адлюстраванне яе адносін да дзяўчыны, якая глядзіцца ў ваду. У вершы «Вольха» вобраз вольхі ў нечым нагадвае вобраз адзінокага явара з разгледжанага вышэй верша «Явар»: яе карэнні ўхутаны нечым небяспечным, а неба сее непрыветы. Жыццё вольхі — гэта розныя выпрабаванні, якія яна вытрымлівае. Падобны малюнак знаходзім і ў вершы «Коціцца крыніца...». У гэтым творы вольха апавядае пра сваё жыццё, у якім нябачна нічога светлага: скардзіцца рэчцы, што яна век прыкавана да зямелькі чорнай; ветру, бо той свабодны, а ёй трэба жыць у нядолі; чалавеку, што яна марнее. Выснова верша — чалавеку жыць усё ж цяжэй, чым вольсе, і таму на скаргу вольхі ён адказвае: «Ты хоць ажыўляеш // Выгляд свой вясною, — // Я сплю аднальkова // Летам і зімою».

У якасці апатрапея беларусы выкарыстоўвалі і *вярбу*: яна ўжывалася як лекавая расліна, галінкамі вярбы абтыкалі з ахоўнымі мэтамі палі і г. д. Вярба — куст або дрэва, якое ў славян сімвалізуе «хуткі рост, здароўе, жыццёвую сілу, урадлівасць» адзначана ў энцыклапедычным слоўніку «Славянские древности», а таксама — «вясенні росквіт прыроды» — згодна з Н. Шапаравай, што звязана з яе ўласцівасцямі хуткага прыжывання і хуткага росту і з яе раннім цвіценнем, як першай прыкметай вясны. У асноўным вярба расце па нізкіх мясцінах — над рэчкамі, ручаямі, каля вады, што адлюстравана, напрыклад, у няскончанай паэме «Гарыслава». «Вярба з'яўляецца атрыбутам хрысціянскага свята Пальмавая нядзеля, або Вербніца, у гонар уезду Ісуса ў Ерусалім, калі людзі віталі яго пальмавымі галінкамі» (Беларуская міфалогія). Галлё вярбы выкарыстоўваецца ў звычаях і абрадах. І разам з тым вярбе ў беларускіх павер'ях надаецца і адмоўнасць — з Вадохрышча да Вербнай нядзелі яна з'яўляецца прытулкам для чарцей. У вершы «Паліліся мае слёзы» сярод таго, на што паліліся слёзы лірычнага героя, называюцца жывыя вербалозы і сухія ачароты.

Уяўленні пра вярбу былі дваістымі: «з аднаго боку, яна ўспрымалася як расліна карысная, нават святая, аднак з другога, ёй нярэдка прыпісваліся і нядобрыя якасці, сувязь з нячыстай сілай і інш.; пры гэтым такі падзел нярэдка суадносіўся з узростам вярбы (так, у славян лічылася, што маладая вярба абараняе ад нячыстай сілы, стыхійных бедстваў, хвароб і г. д., у той час як старая служыць прыстанкам для чарцей, вадзянікоў і іншай «нечысці» і на яе можна адсылаць розныя хваробы)», піша Н. Шапарава.

Вобраз вярбы ў творах Купалы ў цэлым станоўчы, размежаванне яе семантыкі ў залежнасці ад узросту дрэва не назіраецца. Сваю адзіноту лірычны герой верша «На адвітанне» параўноўвае з вярбінкай: «Я ж адзін, як над рэчкай вярбінка, // Буду жыць і цябе ўспамінаць», пад шырокай вярбой, якая расце ў садзе,

сустракаюцца закаханыя (верш «У зялёным садочку»). Адухаўленне вярбы яскрава выяўляецца ў «Песнях вайны», дзе вярба і асака непакояцца, спрабуючы зразумець «варожбы» перад вайной.

Паводле народных паданняў, у вярбу ператварылася дзяўчына, каб уратавацца ад замужжа са старым, а ў павер'ях палешукоў вербы, што пахіліліся над вадой, — «гэта праклятыя Богам тыя мацеры, што страцілі сваіх дзяцей» (Беларуская міфалогія). У нечым адпавядае гэтым уяўленням вобраз сухой вярбы ў купалаўскім вершы «Вярба»: дрэва паказваецца адзінокім, пакутным, нямым, яно выклікае страх у птушак. Напрыканцы твора паэт тлумачыць, што ў гэтай сухой вярбе пакутуе грэшная душа.

Дрэва сямейства вярбовых — *таполя*. У сусветнай міфалогіі яна сімвалізуе дваістасць, што звязана з двума колерамі яе лістоў — цёмных зверху і светлых унізе. «Старажытныя грэкі спрабавалі растлумачыць гэту з'яву ў міфе пра Геракла... герой надзеў вянок з таполевых галін перад тым, як сысці ў падземнае царства. Дым закапціў верхні бок лістоў, а потым высветліў ніжні». З-за рознага колеру лісця вобраз таполі сімвалізуе ўсе бінарныя апазіцыі: інь і ян, месяцавае і сонечнае (у Кітаі) і інш. Вобразу таполі таксама ўласцівы жалобны сімвалізм, падкрэслівае Дж. Трэсідэр. Для стварэння алегорыі ў вершы «Дзве таполі» Купалам выкарыстоўваецца вобраз таполяў: яны растуць у полі, шумяць, спяваюць пра Усход і Захад, пануюць над дубамі, «начуюць... самаўладна», іх насцігае помста неба — і яны «навекі... заснулі». Паэт не тлумачыць, за які грэх іх напаткала помста неба: ці за думкі пра чужыну, ці за панаванне над іншымі дрэвамі. Магчыма, таполя ўспрымалася паэтам як панскае дрэва (аб гэтым сведчыць верш «Палац», у якім таполі растуць ля самых муроў палаца).

*Ясакар* — чорная таполя, разнавіднасць таполі. У творах Купалы гэты вобраз сустракаецца рэдка, у асноўным выяўляецца адухоўленасць гэтага дрэва: баяць байкі ясакоры (верш «Прывітанне»), ясакоры і дубы шэпчуць пра званара (верш «Песня званара»). Не раскрываецца падрабязна ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы і вобраз *вяза* — дрэва, якое суадносіцца па гучанню са словамі вязаць, вязнуць. Так, у вершы «У купальскую ноч» дух пушчы прапануе чалавеку запаліць сэрца і выйсці з ім, як з паходняй, выкарыстоўваючы для параўнання з беспрасветнасцю жыцця вобраз вяззя:

Чуеш гэта, зробіш гэтак?
Будзеш панам, слаўным князем;
А не зробіш — сотні летак
Выць так будзеш паміж вяззем.

Семантыкай адмоўнасці надзяляецца і вобраз *лазы* — кустоў некаторых парод вярбы, якія ў народнай традыцыі лічацца «пагранічнай прасторай паміж полем і лесам, нівай і возерам, вёскай і балотам. У фразеа- і парэміялагічнай спадчыне лаза настойліва і рэгулярна характарызуецца як дэманічны локус, прыстанішча чорта» (Беларуская міфалогія). Лозы ў Купалы зялёныя (верш «Летам») і найчасцей — дзікія, напрыклад: «Хістаюцца дзікія лозы, // Глухія, сухія кусты». «Дзікасць» вызначае і адмоўнасць гэтага вобраза: «Зноў зрастаюць гоні // Лазінаю дзікай» (паэма «За што?»). Селянін знайшоў прымяненне лазовай кары — робіць з яе лапці (вершы «Пашкадуй мужыка!», «Куды ты рвешся!..», «Сірочая доля», «З песень жыцця», паэма «Адвечная песня» і інш.). У паэме «Адвечная песня» лозы называюцца «кветкай на папары».

Такім чынам, у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы семантыка асобных вобразаў дрэў спалучае міфалагічнае і сацыяльнае. Пры гэтым сімвалічныя якасці дрэў выкарыстоўваюцца для ўзмацнення пэўных якасцей чалавека: моц, веліч, мудрасць дуба, адчай і неадукаванасць вольхі, станоўчасць (дабрыня) бярозы, ліпы і г. д. Міфалагічным уяўленням славян адпавядаюць купалаўскія вобразы асіны і хвойных дрэў. Стварэнне парных вобразаў дрэў (клёна і ліпы, явара і

каліны), адлюстраванне праз іх моцы і вернасці кахання — таксама супадаюць з народнай традыцыяй. Сутнасць таполі і вяза асэнсоўваецца паэтам у сацыяльным плане, вобразы гэтых дрэў набываюць адмоўную семантыку.

### *Вобразы саду, пладовых дрэў*

Сад у міфалогіі, як падкрэслівае аўтар «Слоўніка сімвалаў» Дж. Трэсідэр, — «вобраз ідэальнага свету, касмічнага парадку і гармоніі — страчанага і наноў адшуканага раю». Сад уяўляе сабой і бачнае зрокам Божае блаславенне, і здольнасць чалавека дасягаць душэўнай гармоніі. «Рай» — этымалагічны сінонім слова «сад». У адрозненне ад навакольнай прыроды сад — арганізаваная і ўпарадкаваная чалавекам прастора, таму ён — «сімвал душы і якасцей, культываваных у ёй, а таксама ўтаймаванай і ўпарадкаванай прыроды». Упарадкаванасць саду, яго дагледжанасць гаспадаром суадносяцца ў псіхалогіі са свядомасцю, як супрацьлегласць падсвядомасці, неахопнай і таемнай. Непарыўнасць саду з жыццём яго гаспадароў, узаемасувязь паміж імі адлюстравалася ў беларускіх павер'ях. Для паэта сад — найбольш прыдатны вобраз для перадачы гармоніі паміж чалавекам і навакольным светам, прыродай. Яму ўласціва адухоўленасць, з ім зnітаваны жыццё і праца купалаўскага селяніна (верш «Гэта крык, што жыве Беларусь»).

Звязанасць вобраза саду з гармоніяй пачуццяў закаханых, сувязь з маладосцю — парой светлых пачуццяў і мар можна адшукаць у некаторых творах, дзе сад становіцца вобразам-фонам спатканняў дзяўчыны і хлопца (два вершы пад назвай «У зялёным садочку»).

Купала называе сад маладжавым (верш «Ідзе вясна»). Вішнёвы сад за акном узнікае як вобраз-дэталь пры апісанні дзяцінства-юнацтва Машэкі і Наталькі (паэма «Магіла льва»). На думку паэта, сад павінен належаць прыгожай дзяўчынцы — жартоўнае развіццё сюжэту «Прыпеўкі», пабудаванай на кантрасце маладосць — старасць.

Вобраз саду часта «выкарыстоўваецца як метафара раю кахання, створанага закаханым» (Дж. Трэсідэр). Такую метафару сад-рай, якая сімвалізуе гармонію, з'яднанасць паміж чалавекам і прыродай і гармонію ў каханні, знаходзім у паэме «Яна і я», дзе ёсць радкі:

Раем на зямлі выглядываў нам сад,
Я ў ім — Адам, яна ў ім — Ева;
У раі гэтым вецер быў нам бог і сват,
Вяцьвямі шлюб давала дрэва.

У гэтым урыўку відавочна аналогія з біблейскім Эдэмам — згадваюцца Бог, Адам, Ева і дрэва.

Вобраз саду — як аналаг раю, які напоўнены «музыкай лісцястай», вабіць чалавека «ад бур і слёз» і можа даць адпачынак здарожанаму чалавеку-«бяспутніку», знаходзім і ў вершы «Сад». Аднак Купала ў некаторых вершах звяртае ўвагу, што сад-рай не заўсёды дасягальны для селяніна ці ўвогуле для простага чалавека: «Не для нас, не для нас распускаецца // Гэты сад, гэта вішня, чарэсня» (верш «Не для нас») або «Небагатыя і вёскі, // Садоў ў іх не знаць» (верш «З песень аб сваёй старонцы»).

Як бачна, семантыка купалаўскага вобраза саду цалкам адпавядае значэнню гэтага вобраза ў сусветнай міфалогіі, дзе сад выступае аналагам раю на Зямлі.

*Пладовыя дрэвы* паводле энцыклапедычнага слоўніка «Славянские древности» у народнай традыцыі лічацца «сканцэнтраваннем пладаноснай сілы, аб'ектам шанавання». У славян пладовыя дрэвы ўвасабляюць жаночы пачатак прыроды, а таму збліжаюцца з паняццямі жанчыны і немаўляці.

У вершах «Ідзе вясна», «Чужым», «Выйду, выйду...» і іншых раскрываюцца вобразы дрэў, якія растуць у садзе і да якіх звычайна адносяцца яблыні, вішні, чарэшні і грушы.

*Вішня* ў славян выкарыстоўваецца ў любоўнай варажбе. У сусветнай міфалогіі асаблівасць вішні цвісці раней, чым апранацца ў лісце, атрымала тлумачэнне, звязанае з тым, што чалавек нараджаецца голым і голым яго прымае зямля. У хрысціянстве вішня — гэта райскі плод, які сімвалізуе добрыя ўчынкі, пяшчоту (Дж. Купер). Вобразы вішнячку гусценькага і вішань, якімі дзяўчына будзе частаваць свайго хлопца, сустракаем у купалаўскай «Прыпеўцы».

Блізкі да вобраза вішні вобраз *чарэшні*. У Купалы чарэшні (чарэсні) туляць ценем у спякоту (верш «Чужым»), на іх верабей спявае песні аб шчасці (верш «Плачуць мае песні»).

У сусветнай міфалогіі *яблыня* атрымала шмат станоўчых сімвалічных значэнняў: яна сімвалізуе «любоў, шлюб, вясну, маладосць, урадлівасць, даўгалецце або бессмяротнасць», а таксама «радасць, веды, мудрасць, абагаўленне і раскошу». Грэчаская, кельцкая і скандынаўская міфалогіі апісваюць яблык як чароўны фрукт, які даваў багам іх сілу. Яблыневае дрэва асацыятыўна суадносілася са здароўем і бессмяротнасцю і ў грэчаскай міфалогіі было прысвечана Апалону. Разам з тым плод яблыні ў хрысціянскай традыцыі звязваўся са спакушэннем, адсюль некаторая дваістасць яе семантыкі — яблыня магла сімвалізаваць «падманнасць і смерць», піша Дж.Купер.

Як адзначае М. Малоха, у беларускіх казках яблыня «ўвасабляе ідэю дрэва-продка, падкрэслена сімвалізуе мацярынскі пачатак... У песеннай вобразнасці яблык станавіўся сімвалам кахання, а сама яблыня параўноўвалася з нявестай». Прыгажосць яблынь, іх цвету — белага, як снег, пуху — стварае ўрачысты малюнак у раздзеле «Яблыні цвітуць» паэмы «Яна і я». Купала заўважае, што ў гэтай паэме з дзічкі-яблыні «крамнястай» Ён стругае чаўнок, каб яго жонка ім ткала. Тое, што драўляныя прадметы здаўна ўвайшлі ў інтэр'ер чалавечага жыцця, сталі яго неад'емнай часткай, Купала паказвае ў гэтай паэме, калі кажа, што з дрэва зроблены не толькі чаўнок, але і іншыя прылады для кроснаў: набіліцы і панажы Ён майструе з клёну, ставы — з бярозы. У вершы «Саха» паэт прыгадвае, што і часткі сахі зроблены з розных дрэў: падсошнік — з дубу, плаха — з бярозы, рагач — яловы, а прызьмо — з дубцоў.

*Груша-дзічка* як элемент асвоенай і адначасова неасвоенай, варожай чалавеку прасторы сустракаецца ў раздзеле «Пажарышча» паэмы «Сон на кургане» — да яе прывязваюць Сама, абвінаваціўшы яго ў тым, што ён падпаліў вёску. У падобным значэнні дзікая груша як адзін з кампанентаў фону задзейнічана і ў паэме «Адвечная песня». У сусветнай міфалогіі груша сімвалізуе любоў і мацярынства, а таксама даўгалецце з-за таго, што грушавыя дрэвы доўга жывуць і доўга прыносяць плады. У антычнасці груша лічылася атрыбутам багінь Геры і Афрадыты. У хрысціянстве груша сімвалізуе «любоў Хрыста да чалавецтва». У славянскіх уяўленнях ігруша, з аднаго боку, гэта сімвал чысціні і святасці, а з другога — яна звязвалася з нячыстай сілай, «згодна з павер'ямі, у старых, скрыпучых дуплістых грушах жыў чорт». Між тым галлё і плады грушы выкарыстоўваліся ў якасці апатрапея, а ў прадукавальнай магіі праз іх перадавалася людзям і жывёлам жыватворная сіла. Адпаведна з ігрушай былі звязаны наступныя народныя ўяўленні: «грушавы напітак давалі парадзісе; каб зацяжарыць, маладзіца з'ядала грушу, якая даўжэй за іншыя павісіць на дрэве» (Беларуская міфалогія).

У творах Купалы адзначаюцца загартаванасць і даўгалецце грушы — яна «сталетняя» (верш «Груша»); яе сувязь з мацярынствам — з ігрушай параўноўваецца старая маці ў вершы «Адступнік»; яе адзінота (верш «З асенніх напеваў»). Вобраз ігрушы ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы ў цэлым адпавядае вобразу Сусветнага Дрэва: груша — адзін з цэнтральных, найбольш падрабязна раскрытых паэтам вобразаў дрэў, якія растуць у садзе. Спатканне адбываецца пад ігрушай (верш

«У зялёным садочку»), пад яе ідзе пасядзець лірычны герой верша «Выйду, выйду...» — дрэва разумее яго, успрымае яго ўнутраны боль. Найбольш відавочна рысы Сусветнага Дрэва праступаюць у вершы «Груша», у якім паэт дае наступнае апісанне дрэва — яго велічыні: «На ёй галінаў тысячы, // Лісткоў на ёй мільёны»; яго месцазнаходжання паміж зямлёй і небам, злучэння іх праз сябе: «Шуміць, заходзе ў гутарку // То з небам, то з зямлёю»; яго сувязі з рознымі стыхіямі, з прадстаўнікамі жывой прыроды, з усім навакольным светам: «Шпакі на ёй чырыкаюць, // І белкі часам скачуць, // І сонца дарыць спекамі, // І хмары дажджом плачуць»; яго сувязі з часам («даўнейшым, прайшоўшым»); яго «грушынай», «дзіўнай» мовы, якую хацелася б данесці да людзей. Паэт адчувае дарэмнасць гэтага памкнення, яго безвыходнасць і безвыніковасць: «Людзям не зразумеці». Праз гэты вобраз скандэнсавана перадаецца Сусвет у цэлым як складаная гарманічна арганізаваная сістэма, жыццё прыроды, яе мова, не пачутая людзьмі, і жыццё людзей, якое адчуваў і бачыў паэт. У адрозненне ад іншых вершаў, прысвечаных асобным дрэвам, Купала ў гэтым творы не звязвае з грушай сюжэтную лінію і не стварае праз гэты вобраз які-небудзь алегарычны малюнак. У вершы толькі два героі: груша (аб'ект) і лірычны герой-чалавек, які яе ўспрымае (суб'ект).

## *Вобразы дробнай раслiннасцi*

Згодна з міфалагічнымі ўяўленнямі, пад міфалагізацыю падпадаюць не толькі дрэвы і іншыя вялікія расліны, але і травы, мох і г. д. Міфалагізацыя травы, кветак у беларускай літаратуры заснавана як на іх уласцівасцях і ўяўленнях пра лекавую сілу (у Купалы гэта адлюстравалася найперш у вершы «Бабулька — прадаўчыца зёлак»), так і на тым, што тэма прарастання (падобна прарастанню парастка з зерня), адчування таго, што «ў маленькім зярнятку, кволым парастку закладзены неўміручая сутнасць прыроды, бессмяроцце цэлага народа», уласціва і класічнай беларускай паэзіі, і сучаснай, дзе прарастанне ўспрымаецца як «адвечны пачатак усяго жывога»: «у бясконцым прарастанні — кругаварот жыцця». На думку А. Бельскага, травы і кветкі сілкуюць паэзію «лірычнымі эмоцыямі, яны — вобразы духоўна значныя, здольныя выяўляць розныя погляды, думкі, настроі. Раслінны свет, акрамя ўсяго, увасабляе нацыянальна адметны каларыт радзімы». У паэзіі Я. Купалы з *травой*, зелянінай звязваецца прыход вясны: вясна «пускала на свет траву-мураву, // Адзявала у лісце бярозы» (паэма «Яна і я»), тое ж назіраем і ў вершы «Вясна» («Ой, вясна, ой, вясна!..») і іншых творах. Трава ўпрыгожвае навакольную прыроду, яна ўспрымаецца паэтам адухоўлена: «траўкай смяецца зямля» (верш «Сёмуха»), «Як я лугам іду, траўка сцелецца ў ног, // Абсыпае з сябе жыўчых росак ваду» (верш «Як я полем іду...»). У творах Купалы ўзнікае антыномія «каса — трава», у якой трава ўспрымаецца як вобраз, супраць якога трэба змагацца касцу (вершы «Касцу», «Касьба», «Касцам», «З асенніх напеваў»).

*Кветка* ў міфалогіі з'яўляецца сімвалам «прыгажосці (асабліва жаночай), духоўнай дасканаласці, прыроднай нявіннасці, божага благаславення, вясны, маладосці, дабрыні; але таксама і кароткасці жыцця, радасці раю. Кветка — лаканічны сімвал прыроды, бязмежнасці яе дасканаласці, эмблема кругавароту — нараджэння, жыцця, смерці і аднаўлення» (Слоўнік сімвалаў). Як заўважыў М. Макоўскі, значэнне слова «кветка» суадносіцца са значэннем 'рваць, рэзаць', літаральна — 'прарэзацца скрозь зямлю, раскрыцца'. Некаторыя кветкі здавён служылі сімвалам смерці, зла, нянавісці.

У нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы кветка выступае ў цэлым як станоўчы вобраз, галоўнае сімвалічнае значэнне якога — прыгажосць, пяшчота, жыццё: «Поле кветка здабіла» (верш «Шчасце» («Ты гаворыш, суседзе, што на свеце ўсё едзе...»), «Ўстрэлі вас ласкай нашага поля // Кветкі жывыя» (верш «Чужым»).

Краскамі ўсміхаецца ўся сенажаць,
Гараць урочнікі, румянкі і званкі,
Жоўтыя званцы зялёны луг жаўцяць,
На кветку з кветкі шыбка скачуць матылькі.

З кветкамі Купала атаясамлівае іншыя станоўчыя вобразы: зоранькі-кветкі (верш «Ночцы»), параўноўвае луг у кветках з зорным небам у раздзеле «На сенажаці» з паэмы «Яна і я», называе зоркі кветкамі нябеснымі (верш «Вячэрняя малітва»), азначае песні квяцістымі (верш «Памяці Мар'і Канапніцкай»), шчасце і некаторыя іншыя абстрактныя вобразы-паняцці часта суадносіць з цвіценнем кветак (напрыклад, у вершы «Як пайду я, пайду...»). Выпрабаванні ў чалавечым жыцці Купала таксама перадае праз вобраз кветкі: «Ён жыў, як кветка на мяжы, // Якую хвошча дождж і град» (верш «Светлай памяці Уладзіслава Эпімах-Шыпілы»), суадносіць вобраз беларускага народа з вобразам звяўшай кветкі (верш «Я люблю»).

У купалаўскіх творах нямала вобразаў розных кветак і іншых раслін, якія набываюць сімвалічны змест. Вясенняя кветка-*пралеска*, якая першай «збудзілася... ад сна», успрымаецца паэтам як сімвал надзеі на лепшае жыццё: «Дзе-нідзе глянула нясмелая // Пралеска вочкамі на божы двор, — // Людскіх слёз кветка сіне-белая // Шукае сонца днём, а ночкай — зор». Карона Маладой Беларусі сплецена з кветак-пралесак (верш «Маладая Беларусь» («Вольны вецер напеў вольных песень табе...»), бо пралеска сімвалізуе надзею і вясну, здзіўляе сваёй вынослівасцю і сілай. З кветкай-пралескай звязана народнае паданне аб тым, што аднойчы Зіма разам са Сцюжай і Ветрам вырашыла не пусціць на зямлю Вясну. С. Красікаў у сваёй працы «Кветкі ў паданнях» піша: «Усе кветкі спалохаліся Зімы і паніклі. Але пралеска выпрастала сваю сцяблінку і смела выпрастала пялёсткі. Сонца заўважыла пралеску, сагрэла зямлю і адкрыла дарогу Вясне».

Ранняй вясной зацвітае яшчэ адна расліна — *сон-трава*, якая таксама пачынае сваё жыццё пад снегам. З гэтай раслінай у народзе звязвалі розныя павер'і: калі кветку сон-травы на ноч пакласці пад галаву, яна і ўсыпіць, і прадкажа будучыню. Выкарыстоўвалі яе як абярэг, які насілі з сабой ад нячыстай сілы, падкладвалі пад кут хаты, калі распачыналі будаўніцтва, каб у доме былі спакой і згода. Разам з тым, паводле народных уяўленняў, расліну скарыстоўвалі і чараўнікі, якія з яе дапамогай «маглі насылаць сон на ўсё жывое і, карыстаючыся гэтым, здзяйсняць свае задумы» (Беларуская міфалогія). У Купалы вобраз сон-травы адмоўны, гэта кветка хутчэй за ўсё асацыятыўна суадносілася са сном беларускага краю і беларускага народа. «Сном-травою станем, глянем // На няўлады, на пасады...». У вершы «Каб я князем быў...» лірычны герой, калі б стаў рэчкай, то «чыстай, шклістаю вадзіцай // Змыў бы сон-траву».

Найбольш падрабязна раскрываецца ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы вобраз *папараці*, якая ў славянскай міфалогіі лічыцца кветкай шчасця. Цвіценне папараці адбываецца на народнае свята Купалле, у час якога набіраюць сілу ўсе расліны. Вершы «У купальскую ноч», «Заклятая кветка» прысвечаны апісанню пошукаў папараць-кветкі, марнасці і цяжкасці гэтых пошукаў. У народзе лічылася, што чалавек, які здабыў папараць-кветку, «набудзе магічныя веды і ўменні: навучыцца адгадваць думкі, а таксама разумець мову звяроў, птушак і раслін (з гэтых размоў ён, напрыклад, можа даведацца, якая расліна ад якой хваробы дапамагае, і г. д.); яму адкрыюцца схаваныя ў зямлі багацці і скарбы... будзе шчаслівым усё жыццё», піша Н. Шапарава. Для паэта знешні выгляд кветкі-папараці суадносіцца з сонцам: яна «як бы зорка, як бы сонца...» (верш «У купальскую ноч»), «кветка-папараць абходзе, // Зацвіла, як мак, прыгожа, // Як бы сонца на усходзе». Вобраз папараць-кветкі ўжываецца паэтам і для ўзмацнення паказу жыватворнай сілы песні Гусляра (паэма «Курган»).

Паводле народных паданняў лічыцца, што папараць-кветка цвіце толькі імгненне і, як толькі яна раскрыецца, яе зрывае нячыстая сіла і забірае з сабой. Пошук кветкі, шлях да кветкі і вяртанне дадому суправаджаюцца шаленствам нячыстай сілы вакол чалавека, яе спробамі яго напалохаць, зачараваць, выдурыць кветку. Паданні пра папараць-кветку, якая ў паэзіі Я. Купалы сімвалізавала найперш светлую будучыню роднага краю, ва ўсе часы прыцягваюць сваёй загадкавасцю, чароўнасцю. Здабыванне дзівоснай кветкі патрабуе ад чалавека смеласці, лепшых чалавечых якасцей (В. Каваленка падкрэсліў, што гэта патрабуе яшчэ і духоўнасці), з-за чаго героі купалаўскіх вершаў не могуць яе здабыць. У вершы «На Купалле» паэт змяняе фальклорны сюжэт здабывання «заклятай кветкі», трансфармуе яго — раіць гераіні твора (маці) нарваць зярнят папараці ноччу на Купалле, пасадзіць іх і паліваць слязамі: «Як узыдуць з зелля кветкі, — // Будуць шчасце меці дзеткі, // Будзеш, маці, меці ў хаце // Долю, згоду і багацце!..»

Фальклорнае паданне пра ўзнікненне кветкі «*братка і сястрыца*» Купала падае без сэнсавых змен (верш «Братка і сястрыца»). Цікава, што дзеянне ў вершы звязваецца яшчэ з адной раслінай — дубам, пад якім знаёмяцца героі твора (дзяўчына і хлопец) і пад якім іх потым пахаваюць. Як адзначае даследчык Д. Дудко: Іван (або Дажбог) і Мар'я ў купальскіх песнях — гэта «брат і сястра, якія зрабілі інцэст і ператварыліся ў жоўта-сінія кветкі... Іван — жоўты колер, Мар'я — сіні». Сімволіка колераў гэтай кветкі звязана з тым, што ў ёй «праглядае міфалагічная сістэма, падобная да кітайскай інь-ян. Мужчынскі, сонечна-вогненны пачатак супрацьстаіць жаночаму — водна-зямному. Ні адзін з іх пры гэтым не з'яўляецца злым», знаходзім у кнізе «Матерь Лада».

Станоўчым вобразам з'яўляецца вобраз *маліны*: з малінай суадносіцца дзяўчына (верш «Над ракою ў спакою», паэма «Адплата кахання»), параўноўваюцца яе вусны (верш «Мая дзяўчынка», паэма «Бандароўна»), яе твар (верш «Шуміць шумненька гаёк»); салодкі смак маліны — аналогія салодкага, шчаслівага жыцця: «А было, ой, было, як малінка жыццё» (верш «За чаркай»).

*Мох* «сімвалізуе нуду, у Японіі — старасць» (Мифы народов мира). У творах Купалы мох набывае адценне адмоўнасці: ён расце на стрэхах хат, як бы хаваючы іх ад святла сонца: «Мох у салому паўпіваўся» (верш «Вёска»), «На страсе, як на балоце, // Зрос зялёны мох» (верш «Мая хатка») і інш.; мох расце на могілках — на плітах і крыжах, акунаючы іх у няпамяць, даўніну (верш «Аб мужыцкай долі», «На могілках», раздзел «Радаўніца» паэмы «Яна і я»). У купалаўскіх творах падаецца вобраз змагання з мохам (напрыклад, у вершы «Прад світаннем»). Пры гэтым мох успрымаецца не толькі як нешта дрэннае, варожае селяніну, паэт адзначае і яго прыгажосць: вёска ўпрыгожана ў імхі (верш «Я люблю»), знаходзім і нейтральнае апісанне моху ў вершы «Заручыны»: «Спаў белы спляснелы пад шышкамі мох // Над цёмнай крыніцай».

Адмоўнымі вобразамі раслін у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы з'яўляюцца *зелле* (вершы «Беларушчына», «З мінуўшых дзён») і *палын* (верш «Песня мая»). Напрыклад: «беларушчына» зарастала «зеллем чужым, як лазой сенажаць». Што датычыцца палыну, то, магчыма, у нечым гэта супадае з сусветнай традыцыяй, дзе з-за сваёй горкасці палын абазначае расчараванне і пакуты, прысвечаны богу вайны Арэсу.

*Зерне* сімвалізуе ўрадлівасць, бясконцы кругаварот жыцця — здольнасць адраджацца і даваць жыццё іншым зярнятам. Зерне — гэта сімвал «ўрадлівасці зямлі, прабуджэння жыцця, якое ўзнікае са смерці, зараджэння і росту праз сілу Сонца, дастатку» («Энцыклапедыя сімвалаў»). «Ва ўсіх культурах, дзе збожжа з'яўлялася асноўным прадуктам, яно мае магічны, суцяшальны сімвалізм працягу жыцця пасля смерці» («Слоўнік сімвалаў»). Збожжа ў славянскіх народаў — сімвал «урадлівасці, адраджэння жыцця, бессмяротнасці, вечнага абнаўлення, здароўя, зародку новага жыцця; надзяляецца прадукавальнай і ахоўнай семантыкай; сярод іншых дробных сыпучых прадметаў выступае сімвалам

множнасці і багацця. Выкарыстоўваецца ў каляндарных і сямейных абрадах» (Славянские древности).

У адпаведнасці з гэтым сімвалізм *колаcа* таксама звязаны з урадлівасцю. У славянскіх народаў колас сімвалізуе «скандэнсаванасць вегетатыўнай сілы хлебных злакаў, сімвал урадлівасці, дастатку, багацця, шчасця, аб'ект шанавання і магічны сродак» (Славянские древности). Паэтызацыю каласоў і каласістай нівы знаходзім у многіх творах Янкі Купалы. Вобраз коласа выкарыстоўваецца не толькі ў апісаннях летняй прыроды, але і ў алегорыях, параўнаннях і іншых мастацкіх прыёмах, прычым, як слушна заўважае даследчык А. Бельскі, «колас у летняй лірыцы паэта — гэта не дэкаратыўны атрыбут, а жывая часцінка свету, сімвал красы, неўвядальнасці зямнога быцця. Спелае жыта, спелы колас вянчаюць лета, чарговы круг земляробчых клопатаў і чалавечага жыцця». Жыта спее, красуецца, наліваецца. Адпаведна — колас спачатку «шалясціць зялёны ... на саломцы» (верш «Ўсюды лета...»), потым — колас наспелы (верш «Поле»), ссівелы (верш «Жніво»): «Наспяліўся шнурок, // Б'е паклон каласок, // Спаважнеў, пасівеў, шалясціць» (верш «Зажынкі»). У гэтым вершы вобраз хлеба персаніфікаваны, гэтаксама як і ў вершы «Жніво», у якім паэт разбірае «сумнае шаптанне» коласа, яго просьбу-запытанне: «Дзе, жнеі мае вы?»; «Шопат нейкі плыве ад жытца. // Колас з коласам гутарку дзіўную // Завялі, бы на хмары злуюць». Пры апісанні Купалам сялянскага поля знаходзім і вобраз марнага коласа: «Шнур бядак пахаў да поту, — // Марны ж колас на саломцы, — // Ні красы той, ні ўмалоту... // Ці ты ўзойдзеш калі, сонца?»

Беднасць вяскоўцаў Купала перадае праз вобразы недароду жыта або спустошанай нівы, як, напрыклад, у вершы «Песня жнеяў»: «Шнур наш хаваецца ў гірсу, ў званец, // Зліча калоссе найменшы хлапец». У гэтым вершы з сялянскім полем кантрастуе панскае: «Дворны палетак з канца у канец // Пройдзе, схаваўшысь, высок маладзец». Матыў выжывання коласа ў суровых умовах — падчас яго змагання з бурай або зімавання ў полі — знаходзім у вершах «Замаўчыце, думы...», «Смутна мне, Божа!», «Над ніваю ў непагоду» і іншых, пры гэтым вобраз коласа, яго лёс і жыццё суадносяцца з лёсам лірычнага героя (вершы «З песень жыцця», «Замаўчыце, думы...») або ўдавы (верш «Доля ўдавы»). Вобраз калосся Купала выкарыстоўвае для параўнання з ім народа (верш «Станогае Ліха»); для абазначэння плёну, усяго станоўчага і патрэбнага (верш «Прафесару Б. Эпімах-Шыпілу з Новым 1910 годам»); як наказ (веды) продкаў (уступ да паэмы «Магіла льва»).

Сімвалічнасць у народных уяўленнях набылі і асобныя збожжавыя культуры, якія выкарыстоўваліся ў розных звычаях і абрадах. Пра жыта ў беларусаў ёсць некалькі міфалагічных сюжэтаў, паводле якіх яго даў людзям Бог. Жыта ў народнай свядомасці «раўназначна багаццю, раю, назва «рай» захавалася ў абрадзе дажынак і абрадавых зажыначных песнях», падае энцыклапедычны слоўнік «Беларуская міфалогія». Шнуры з жытам і аўсом з любоўю згадвае лірычны герой верша «Гэта крык, што жыве Беларусь». Як заўважае даследчыца В. Усачова, авёс у славян надзяляўся «мужчынскай» сімволікай сілы, урадлівасці, багацця і супастаўляўся з жытам, якое сімвалізавала жаночы пачатак. На жаль, гэты вобраз у творах Я. Купалы не раскрываецца падрабязна.

*Лён* у славянскай міфалогіі надзяляўся апатрапейнымі якасцямі. «Як і каноплі, лён звязаны з «тым светам»; паміраючы як расліна, адраджаецца, пераўтвараючыся пры дапамозе комплексу культурных дзеянняў у прадукт культуры — палатно; выступае ў ролі пасрэдніка паміж светам людзей і светам дэманічных істот» (Славянские древности). У паэме «Яна і я» станоўчасць вобраза лёну выяўляецца праз параўнанне з ім вясенняга святла.

Станоўчасць, нават сакральнасць вобразаў збожжавых культур у нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы выяўляюцца ва ўсіх выпадках іх выкарыстання: праз абрад асвячаць збожжа перад тым, як сеяць (верш «Перад вясной»), суаднясенне гэтых вобразаў з іншымі станоўчымі вобразамі: «Будзе песня красавацца, // Як жытцо ў красе» (верш «Усе разам»), ужыванне вобраза пшанічкі кахання (паэма «Яна і я») і інш.

## *Ідэнтычнасць семантыкі вобразаў лесу, бору і пушчы*

Для беларусаў *лес* — «адвечны, вузлавы архетып нацыянальнага мыслення», як піша А. Бельскі. У славянскай міфалогіі лес успрымаўся як локус, надзелены прыкметамі аддаленасці, непраходнасці, меў падабенства з іншасветам і разумеўся як месцажыхарства розных міфічных істот, найперш гаспадара лесу. У сусветнай міфалогіі лес «увасабляе псіхэ і жаночы прынцып. Месца ініцыяцыі, невядомых небяспек і цемры... уладанне смерці; сакрэты прыроды, у якія чалавек павінен пранікнуць, каб зразумець іх сэнс» (Энцыклапедыя сімвалаў). У псіхалогіі гэта сімвал падсвядомасці і яе небяспек, але ў некаторых традыцыях, асабліва ў будызме, лес — вобраз прыстанішча. На Беларусі «лясы займаюць прыкладна 32 працэнты... тэрыторыі і характарызуюцца наступным складам: сасна — 57,9 працэнта, елка — 10,3, бяроза — 13,6, вольха — 9,5, асіна — 3,8, дуб — 3,8, граб — 0,2, астатнія пароды (ясень, ліпа, клён) — 0,1 працэнта» (паводле: І. Чароты), што паспрыяла замацаванню вобраза лесу ў якасці нацыянальнага архетыпа. Пры гэтым «у беларускім паэтычным светаадлюстраванні лес — і дом, і крэпасць, ён увасабляе веліч і славу Радзімы. Часта лес паказваецца ў гераічным святле, параўноўваецца з непераможным волатам, называецца вартавым роднай зямлі» (А. Бельскі).

Поруч з паняццем лесу ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы сустракаюцца паняцці *пушча*, *бор*, *гай*, а таксама *хвойнік*, *дуброва*, якія фіксуюць склад лесу, *гушчар*, *глуш* — яго непраходнасць. У «Слоўніку мовы Янкі Купалы» слова «лес» мае значэнні: «1. Дрэвы; масіў, пакрыты дрэвамі. 2. Бярвенне, будаўнічы матэрыял», «пушча» — «вялікі масіў лесу // перан. Дрэвы на могілках», «бор» — «стары густы сасновы лес», «гай» — «невялікі лес, дуброва». Купала пры выкарыстанні вобразаў бору, лесу, пушчы, як аказалася, не прытрымліваўся межаў гэтых значэнняў, і згаданыя паняцці ўжываюцца ў нашаніўскай паэзіі Я. Купалы як сінонімы, накладаюцца адно на другое: напрыклад, знаходзім накладанне вобразаў лесу і пушчы ў вершах «Лес», «Згнаннік», «Як я полем іду...», лесу і бору — у вершах «Па жыццёвай пуцявіне», «Зімой у лесе», аб'яднанне ў адзін вобраз — бор-лес (верш «Вясна» («У вянку з пралесак...»), лес-бор (верш «Не шукай...»), лес-пушча (верш «Дудар»), пушча-лес (верш «Абнімі...»). Гэта сведчыць не толькі пра змяшэнне значэнняў, але і пра аднатыпнасць гэтых вобразаў для самога паэта.

Лесу ўласцівы азначэнні адвечны (верш «Летам»), задумны (верш «Запела вясна сваю песню»), цёмны, нямы і глухі, «як дно мора» (верш «Дарогай змучаны далёкай...»), разгуканы (верш «Зашумеў лес разгуканы»), цёмны, падгалы (верш «Лес»), думны (верш «Вясна» («Ой, вясна, ой, вясна!»). Вобраз лесу выкарыстоўваецца для паказу сілы мужыка, які «лес на пахань зрабіў» (верш «Я мужык-беларус...»), або ў паэме «Адвечная песня»:

Лясы ён аберне на поле,
Ўсялякія ўстроіць будоўлі:
Святыні пад неба зірнуць,
Цямніцы пабелай бліснуць.

І паралельна з гэтым паказваецца, што лес не належыць сялянам, гаворыцца, што ён панскі (напрыклад, у вершы «Пакуль сонца ўзыйдзе...», паэме «Нікому»).

Адухоўленасць лесу выразна выяўляецца ў вершах «Лясная царэўна», «Мой край» і інш., дзе вобраз лесу міфалагізуецца, яму ўласцівы чалавечыя перажыванні і ўчынкі. Лес паўстае прыгожым, велічным, загадкавым, ён захоўвае давераныя яму сакрэты, дапамагае людзям, размаўляе з імі, спачувае ім у час вайны (раздзел «Пабоішча» з «Песень вайны»). Паэт разумее мову лесу і імкнецца перадаць яе людзям. Як адзначае лірычны герой верша «Дарогай зму-

чаны далёкай...», да яго прыйшла песня з лірай у сне, і ён стаў разумець гоман лесу. Словы лесу, адрасаваныя чалавеку, знаходзім у вершы «Брату-беларусу», у якім лес абараняе духоўнасць чалавека, паўтарае яму прадзедавыя наказы, а чалавек як бяспамятны не паважае сваю мову, «пушчае» ў здзек. Словамі лесу паэт ушчувае беларуса: «Прывучан кланяцца, ўніжацца, // Паганіш скарб свой дарагі. // І знаеш толькі там смяяцца, // Дзе кроўю плакаў бы другі».

У вершы «Лес» раскрываецца «лясное» ў яго няспынным руху, гуках; лес паўстае як невялічкая дзівосная краіна са сваімі законамі і ладам:

Там звер туды-сюды шнуруе,
На галлі птушка там трасецца,
Там хвойка з хвойкаю талкуе,
Як дзе кума з кумой на рэчцы.

Гэтаксама, як і праз створаны ў легендзе «Паляўнічы і пара галубкоў» вобраз лесу-хаты (хаты для птушак і звяроў), у згаданым вершы «Лес» адлюстроўваюцца суладдзе душы лірычнага героя з прыродай, яго набліжанасць да яе. Лес успрымаецца як месца, дзе многаму можна навучыцца: «Цікавым вокам і душою // Шмат пераняць чаго там можна, // Як там усё само сабою // Жыве паважна, асцярожна».

Вобраз *бору* характарызуецца наступнымі эпітэтамі: зялёны (вершы «Маладая Беларусь», «Як у лесе зацвіталі...», «Вясна за вясною»), сіні (верш «Па захадзе...»), шумячы (верш «Па жыццёвай пуцявіне»), шумны (верш «Не шукай...»), гутарлівы (паэма «Зімою»), цёмны (вершы «Брату ў чужыне», «З думак маркотных», паэма «Зімою» і інш.), імглісты (верш «Адцвітанне»), высокі — «над усе бары» (верш «Песня жнеяў»), высокенькі (верш «Я мужык-беларус...»), адвечны (верш «Калі пачнуць»), векавечны (паэма «Сон на кургане»), вечны (верш «Ў вечным бора...»), панскі (верш «За чужую елку»).

У вершы «Бор» адлюстравана імкненне лірычнага героя падслухаць, зразумець бор, пагаварыць з ім. Вецер гаворыць з борам як «сувязны» паміж ім і людзьмі. Бор раскінуўся пустынна, горда, «З небам вядзе патайны разгавор». У гэтым творы яскрава выяўлена замкнёнасць бору на самім сабе, што ў нечым абумоўлівае яго таемнасць і велічнасць. У іншых творах, наадварот, паэт падкрэслівае здольнасць бору зразумець лірычнага героя, падтрымаць яго (вершы «Думкі перад вясной», «Па жыццёвай пуцявіне», «Спрасоння»).

Бор шуміць «песняй жаласнянай» (верш «Люлі, люлі, мужычок!»), яго шум — «пануры, глухі» (верш «Я люблю»), «адвечная жальба» (верш «Песня мая»). Бор спявае (верш «Аб мужыцкай долі»), стогне (вершы «З песень жыцця», «Да моладасці»), плача над доляй Алены і Тамаша (паэма «Нікому»), смяецца і плача (верш «Па захадзе...»). «Плакуча шумам стогне бор, // Пракляццем бор заводзе, // На тых нясе свой прыгавор, // Што спяць назло прыродзе», — лірычны герой разумее голас бору і ў сацыяльным кантэксце (верш «На полі тае»).

Пра адухоўленасць бору сведчаць наступныя антрапаморфныя рысы: вясной «зайгралі рэчкі, плечы выраўнаваў бор» (паэма «Яна і я»), бор успрымаецца ў вобразе дзеда-бора (верш «Заручыны»), яго вырубка перадаецца праз метафару смерці, вечнага сну (няскончаная паэма «Гарыслава»).

Калі бор увасабляецца паэтам у мужчынскім вобразе — «дзед-бор», то *пушча* ўвасабляецца ў жаночым — «пушча-старуха» (верш «Згнаннік»), маці (паэма «Сон на кургане»), але яна мае і мужчынскую іпастась — *пушчар* (напрыклад, у вершы «З табою...»). Пушча называецца паважнай (верш «Вясна» («Згінулі сцюжы, марозы, мяцеліцы...»), цёмнай (верш «У шынку»), амшалай (верш «Мой дом»), панскай (верш «Праступнік»). Белавежская пушча згадваецца ў вершы «Я ад вас далёка...». Пушча страшыць уночы (верш «Чатыры крыжы»), замірае, калоціцца (верш «З асенніх напеваў»). Пры параўнанні з вобразамі лесу і бору вобраз пушчы найбольш таямнічы — яна бароніць папараць-кветку

(верш «У купальскую ноч»), абараняе Машэку і гэтым як бы саўдзельнічае ў яго злачынствах (паэма «Магіла льва»), для русалак яна свая: «Пушча наша для нас — // Яе нашы пуці» (паэма «Сон на кургане»). Пушча сябруе з духам пушчы, «успамінкі ўспамінае» (верш «У купальскую ноч»). Радкі з верша «Песняру-беларусу»: «О, не хадзі к другім за радай, — // У пушчы сонца не шукай» перасцерагаюць ад марных учынкаў, у нечым пераклікаюцца з сюжэтам верша «У купальскую ноч», паводле зместу якога чалавек не можа ў пушчы адшукаць папараць-кветку. Наогул, пушча часцей чым бор і лес асацыятыўна ўспрымаецца ў нашаніўскай паэзіі Купалы як месца гулянняў «цемнатвораў»: «Зводы, чары бліжай, далей // Відны ў пушчы над крыніцай» (верш «У купальскую ноч»), «Смяяўся пушчар, а у смесе // За ценем цень новы снаваўся» (верш «З табою...»).

У некаторых творах створаны вобразы *гушчару* (вершы «Зашумеў лес разгуканы», «Згінула сонца...»), *гушчы* (верш «У купальскую ноч», паэма «Зімою»), *глушы*: глуш нямая (верш «Ў ночным царстве»), мярцвячая (верш «Восень» («Вось і па леце... Няма яснай гожасці...»). Нельга не згадзіцца з даследчыкам прыродных вобразаў у беларускай паэзіі А. Бельскім, па словах якога пушча паўстае ў беларускай паэзіі першародна-загадкавай і таямнічай, яна «намалявана як свет казкі, пракаветнай даўніны», а «лес у беларускай паэзіі вельмі часта выступае алегорыяй і сімвалам нашага народа». У Купалы таксама знаходзім параўнанне веснавога абуджэння людзей з шумам пушчы (верш «З вясной»).

Вобраз *гаю* ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы сустракаецца рэдка — найчасцей ён проста ўзгадваецца (вершы «Усе разам», «Гэта крык, што жыве Беларусь» і інш.). Для рытму, мелодыкі верша паэт выкарыстоўвае паўторы слова гай: «Гаю, гаю, гаю, // Схаджу да дубровы» (верш «Перад Сёмухай») або «Ой, гаю, ой, гаю» (верш «На жалейцы»), «Гаю, ой, гаю!» — вокліч у вершы «Лапці». Больш-менш разгорнутае ўжыванне вобраза гаю сустракаем у вершы «Падсякайце тое дрэва...»: «Ой, гадуйце, падлівайце // Гай жывы, зялёны: // Сэрцу добраму давайце // Добрыя паклоны».

Як бачна, вобразы лесу, бору і пушчы ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы персаніфікуюцца, ужываюцца як узаемазамяняльныя вобразы-паняцці. Купала падкрэслівае, што лес (гэтаксама як і бор) — панскі, але ён спачувае простым людзям, дапамагае ім. Лірычны герой імкнецца падслухаць, зразумець мову лесу. Праз зацікаўленыя адносіны да прыроды выяўляецца адзінства прыроды і чалавечай душы. Пушча паўстае ў жаночым вобразе, жыццё ў ёй таемнае, звязанае з дзейнасцю шматлікіх міфалагічных істот.

Расліна, расліннасць — усё тое, што расце, імкнецца ўвыш, дасягае вышынь... Расліна расце — дарасла да пэўнага ўзроўню і ўжо застаецца на гэтым узроўні, не можа вярнуцца назад, як чалавек, пачаць усё спачатку: з кожным кальцом на яе ствале яна становіцца больш мудрай, моцнай, прыгожай, велічнай. Расліна падобна да чалавека, блізкая да яго па месцазнаходжанні ў Сусвеце, яе лёс (нараджэнне — рост — смерць, перыяды замірання і аднаўлення, росквіту жыццёвых сіл) адпавядае чалавечаму, адсюль анімістычныя ўяўленні пра магічную сувязь чалавека і дрэва, пра тое, што душа чалавека можа пераходзіць у расліну пасля смерці цела, і інш. Дрэвы ўсе розныя, яны, як і людзі, адрозніваюцца паміж сабой і знешне і ўнутрана («характарам»). Расліна — свет дасканаласці, прыгажосці, звязаны з іншымі прыроднымі аб'ектамі — сонцам, вадой, зямлёй, яе ўстойлівасць — моц каранёў алегарычна адпавядае сувязі з мінулым, веданню сваіх продкаў, сваіх родавых асноў. Расліны дапамагаюць чалавеку, звязаны з ім на працягу яго жыцця, упрыгожваюць яго быццё, даюць прытулак (адпачынак) і плады (гэта найперш пасаджаны чалавекам сад), удзельнічаюць у розных абрадах, святах, робячы іх больш урачыстымі (кветкі як традыцыйны падарунак, елка на Новы год і інш.). Расліны ўключаны ў кола адносін з іншымі прыроднымі «жыхарамі»: птушкамі, жывёламі, гэта прынцып суладнага, гарманічнага

суіснавання іх з усім, што навокал, і чалавек павінен вучыцца ад іх гэтаму. Расліны — сімвал бясконцага абнаўлення, адраджэння жыцця і адначасова суладдзя з абставінамі, жыццястойкасці і выжывання ў самых розных умовах. Вобразы асобных раслін — універсальны спосаб перадачы іх лепшых якасцей (моц, бяскрыўднасць, прыгажосць і інш.) і сродак стварэння алегарычных малюнкаў пры дапамозе суаднясення раслін з людзьмі, іх думкамі і ўчынкамі. Самаахвярнасць раслін праяўляецца ў іх служэнні людзям — расліна ахвяруе сваім жыццём, дорачы цяпло і святло.

Літаратура

Афанасьев А. Н. Поэтические воззрения славян на природу: В 3 т. — М.: Совр. писатель, 1995, т. 2. — 400 с.

Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік. — Мн.: Беларусь, 2004. — 591 с.

Бельскі А. І. Свет ад травы да зор: Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу: Дапам. для настаўнікаў. — Мн.: Нар. асвета, 1998. — 223 с.

Красиков С. Цветы в преданиях: Новеллы. — Мн.: Юнацтва, 1989. — 222 с.

Крук Я. Сімволіка беларускай народнай культуры. 2-е выд., стэр. — Мн.: Ураджай, 2001. — 350 с.

Купер Дж. Энциклопедия символов. — М.: Издательство Ассоциации Духовного Единения «Золотой век», 1995. — 402 с.

Маковский М. М. Сравнительный словарь мифологической символики в индоевропейских языках. Образ мира и миры образов. — М.: Гуманитарный издательский центр ВЛАДОС, 1996. — 415 с.

Матерь Лада. Божественное родословие славян. Языческий пантеон. — М.: Изд-во Эксмо, 2003. — 432 с.

Мифы народов мира. Энциклопедия: В 2 т. / Гл. ред. С. А. Токарев. — М.: «Сов. Энцикл.», 1987 — 1988.

Славянские древности: Этнолингвистический словарь: В 5 т. / Под общ. ред. Н. И. Толстого. — М.: Международные отношения, 1995 — 2004, т. 1 — 3.

Тресиддер Дж. Словарь символов. М.: ФАИР-ПРЕСС, 1999. — 448 с.

Чарота І. А. Пошук спрадвечнай існасці. Беларуская літаратура XX стагоддзя ў працэсах нацыянальнага самавызначэння. — Мн.: Навука і тэхніка, 1995. — 159 с.

Шапарова Н. С. Краткая энциклопедия славянской мифологии. — М.: ООО «Изд-во АСТ»: ООО «Изд-во Астрель»: ООО «Русск. словари», 2001. — 624 с.

Эпштейн М. Н. «Природа, мир, тайник вселенной…»: Система пейзажных образов в русской поэзии. — М.: Высш. шк., 1990. — 303 с.



Пятро САБІНА

# ВАЧЫМА ЗЯМЛІ*

## *Па сонечным следзе*

Шлях да высокіх ураджаяў вызначае перш за ўсё селекцыя. Ніякія агратэхнічныя мерапрыемствы не дазволяць атрымліваць высокі ўраджай, калі гаспадарка працуе са старымі, неўрадлівымі па сваёй прыродзе гатункамі. І таксама нельга спадзявацца на поспех, калі самыя каштоўныя прадукцыйныя гатункі растуць на кволай глебе ўперамешку з пустазеллем.

Віктар Гюго аднойчы выказаўся так: «Чалавек працуе, уладкоўваючы свой дом, а дом яго — зямля».

Гісторыя захавала нямала імён людзей, якія з даўніны займаліся паляпшэннем раслін, удасканаленнем гатункаў. Гэта француз Ла-Кенціні; гэта кіева-пячорскія манахі на Русі: «в гряде копаху зелийного ради растения»; гэта пецярбуржац Эклебен у цараванне імператрыцы Елізаветы; немец Сакс — у сярэднія вякі праводзіў вопыты з адборам раслін; пакаленне Вільмарэнаў у Францыі; пецярбургскі агароднік Яфім Грачоў — стваральнік многіх гатункаў цыбулі, гароху, бульбы; у Беларусі — жыхары Давід-Гарадка, якія з пакалення ў пакаленне традыцыйна вырошчвалі на сваіх прысядзібных сотках кветакі, агародніння, збіралі з іх насенне і распаўсюджвалі ў глыбінках Расіі, Украіны, Польшчы і інш.

У XVIII стагоддзі першы расійскі аграном Андрэй Цімафеевіч Балотаў, зачынальнік многіх палявых вопытаў з раслінамі, паспеў за доўгае жыццё адабраць звыш 250 разнастайных злакавых, садовых і гароднінных культур.

Да пачатку XX стагоддзя колькасць гатункаў і разнастайнасцей акультураных чалавекам раслін налічвалася ўжо сотнямі. Нямала форм і разнавіднасцей паспелі «перасяліцца» разам з людзьмі з аднаго кантынента на другі — з Азіі ў Еўропу, з Еўропы ў Амерыку, а потым і з Новага Свету ў Стары, з усходу на захад, з поўдня на поўнач, куды ўсё ў большай колькасці мігрыравалі людзі ў пошуках зямлі, спакойнага і забяспечанага жыцця. Віды раслін, далёкія адзін ад аднаго, раптам аказваліся побач, і ўжо адно гэта прыводзіла да з'яўлення, нават без мэтавага ўдзелу людзей, новых гібрыдаў з небывалымі якасцямі. Ды і самі прышлыя мяняліся пад уплывам не толькі пераапылення, а і ўмоў жыцця.

Вось калі ўзнікла неабмежаванае поле дзейнасці для цікаўных людзей. Што за расліны вакол іх? Адкуль і як з'явіліся? Што могуць даць чалавецтву, самой прыродзе, як ужывуцца з мясцовымі відамі, што атрымаецца?

У батаніцы яўна не хапала чалавека дарвінскага кшталту, правідца, падобнага Мендзялееву ў хіміі, каб з разрозненных звестак і фактаў, гіпотэз і похапкам створаных тэорый, назапашаных за вякі чалавечай гісторыі, стварыць цэласную і стройную навуку. І ўжо на яе аснове паскорыць узнікненне высокапрадукцыйных раслін, так неабходных людзям на ўсёй Зямлі.

Такі чалавек з'явіўся ў Расіі — Мікалай Іванавіч Вавілаў. З гэтым імем звязана новая эра навукі — селекцыя і генетыка. Ніхто акрамя яго, на думку М. А. Кадырава, не абгрунтаваў так пераканаўча, што селекцыя заключае ў сабе тэорыю

* Заканчэнне. Пачатак у № 6, 2007 г.

(навуку), тэхналогію (майстэрства, рамяство, уменне) і вытворчы працэс (галіна). Селекцыя — самастойная, цэласная навуковая дысцыпліна і ў той жа час — гэта спецыфічная галіна па вывядзенні новых гатункаў.

Селекцыйная работа па стварэнні азімай пшаніцы Інстытутам сацыялістычнай сельскай гаспадаркі АН БССР пачалася з 1929 года і першаэтапна была накіравана на збор і вывучэнне мясцовых і замежных напрацовак у гэтай галіне. Па тым часе ўсе плошчы азімай пшаніцы былі заняты гатункамі, выведзенымі за межамі рэспублікі. Гэта Высокалітоўская мясцовая, Данькаўская гранятка, ПНГ-186, Міронаўская-808.

У 1960 годзе селекцыяй займаліся ўсяго два чалавекі — кандыдат сельскагаспадарчых навук І. Копцік і старшы лабарант Г. Лысакоўская. І заслуга іх у тым, што яны вызначылі шляхі, метады працы, сістэматызавалі багаты сабраны матэрыял. Пазней да іх падключыліся навуковыя супрацоўнікі М. Семяненка, А. Хайтовіч, лабаранты М. Астапенка, Г. Лепяшка і іншыя. Цяпер ужо можна было з упэўненасцю разлічваць на сур'ёзныя навуковыя пошукі і адкрыцці. І яны сапраўды з'яўляліся. Крок за крокам калектыў усё больш настойліва і з творчым імпэтам заяўляў пра сябе. Падзейным для яго стаў 1998 год, калі групе вучоных-селекцыянераў на чале з І. Копцікам за стварэнне сістэмы ўзаемадапаўняючых гатункаў была прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі.

З 1990 па 2004 год лабараторыю азімай пшаніцы ўзначальваў І. Копцік, на рахунку якога шмат укаранёных распрацовак. Эстафету кіраўніка ён перадаў кандыдату сельскагаспадарчых навук С. Кулінковічу, няўрымсліваму, творча апантанаму чалавеку.

Калектыў лабараторыі азімай пшаніцы НПЦ па земляробстве ў пастаянным пошуку. Асаблівы клопат — стварэнне кароткасцяблінных гатункаў з прадукцыйным шматкветкавым коласам і высокімі хлебапякарнымі якасцямі, што дазволіць павялічыць долю зерня на расліне. Радуе стварэнне адаптаванай сістэмы ўзаемадапаўняючых гатункаў азімай пшаніцы, якія займаюць у гаспадарках АПК рэспублікі 70 працэнтаў пасяўных плошчаў. Практыка паказвае, што па прадукцыйнасці і іншых паказчыках беларускія не ўступаюць замежным гатункам, а па асобных параметрах (зімастойкасць, хлебапякарныя якасці, адаптаванасць) і пераўзыходзяць іх.

Створаны і ўключаны ў Дзяржаўны рэестр РБ гатункі азімай пшаніцы: Беразіна, Надзея, Сузор'е, Пошук, Капылянка, Гармонія, Каравай, Быліна, Легенда, Саната, Шчара, Прэм'ера, Запавет, а таксама новыя гатункі Спектр, Узлёт, Фантазія, Сюіта. Чатыры новыя гатункі выпрабоўваюцца на ДСІ: Вынік, Водгук, Канвеер, Уздым. Гатункі, Быліна, Легенда і Капылянка занесены ў спіс найбольш каштоўных па якасці збожжагатункаў для хлебапякарнай прамысловасці.

Мае даўнія традыцыі селекцыя азімага жыта. За перыяд з 1969 па 2006 гады на дзяржаўным узроўні выпрабоўвалася 40 гатункаў НПЦ НАН Беларусі па земляробстве, з якіх 23 уключаны ў Дзяржаўны рэестр. Шэдэўрам селекцыйнай работы з'явілася стварэнне гатунку Белта (1969), які заняў плошчу больш як 1 мільён гектараў, што даказала перспектыўнасць метаду эксперыментальнай поліплодзіі ў селекцыі азімага жыта. Пазней былі створаны шырокавядомыя тэтраплоідныя гатункі Пухаўчанка (1985) і Верасень (1988). За дасягненні ў галіне селекцыі азімага жыта група селекцыянераў (М. Мухін, С. Лаўрыновіч, У. Рубан) удастоена звання лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі.

Няспынна ўдасканальваецца селекцыйна-насенняводчая работа. Вялікая заслуга ў гэтым кіраўніка лабараторыі азімага жыта, доктара сельскагаспадарчых навук Э. Урбана. Значны яго асабісты ўклад у стварэнне гатункаў і гібрыдаў азімага жыта, устойлівых да палягання, хвароб, з высокай якасцю зерня, прыстасаваных да глеба-кліматычных умоў рэспублікі.

У апошнія гады (2000—2006) калектывам лабараторыі выведзены і ўключаны ў Дзяржаўны рэестр новыя гатункі азімага жыта: тэтраплоідныя — Завея-2, Спадчына, Дубінская, Паўнаважкая; дзіплоідныя — Зарніца, Ніва, Талісман, Юбілейная, Лота, Біруза; гібрыд $F_1$-Ло Бел-103 з патэнцыяльнай ураджайнасцю да 107,8 цэнтнера з гектара.

Гатункі азімага жыта НПЦ па земляробстве займаюць больш за 97 працэнтаў пасяўных плошчаў, адведзеных пад азімае жыта ў Беларусі.

Стварэнне новых гатункаў набывае доўгае жыццё. Яны размнажаюцца па ўсёй рэспубліцы. Акрамя таго, больш за 60 працэнтаў зарэгістравана ў краінах бліжняга і далёкага замежжа. Іх плошчы толькі ў Расіі займаюць больш за мільён гектараў. Гэта ячмень Атаман, Гонар, Заазерскі-85, авёс Буг, пшаніца Дар'я — у два разы перавышае ўраджайнасць расійскіх гатункаў, азімае жыта Ісклач — яно таксама раяніравана на Украіне, два гатункі лубіну Мітран і Першацвет высяваюцца ў Германіі.

Зона выкарыстання гатункаў велізарная і ўсюды ажыццяўляецца насеннямводства не спантанна, а кожны год. Рэспубліка няўхільна падтрымлівае гатункі ў чыстаце, толькі ёй гэта дазволена як вытворцы. Усяго ў Беларусі задзейнічана 170 гатункаў НПЦ па земляробстве, селекцыйныя — 42 культуры. Здавалася б, адкуль яны бяруцца, аднак — такі вынік упартай працы.

Адрозніваюцца гатункі па выкарыстанні. Ячмень бывае піваварны і кармавы, пшаніца ідзе на хлебабулачныя, спіртавыя і кармавыя мэты, жыта прызначаецца для хлебапячэння — жытні хлеб найбольш запатрабаваны і для жывёлакорму. Авёс... Ёсць высакаякасныя гатункі для атрымання харчовых прадуктаў і ў той жа час існуе авёс зялёнаўкосны з вялікім назапашваннем кармавой масы. У сумесі з іншымі кармавымі культурамі яго вырошчваюць для зіманарыхтоўкі жывёле. Скарыстоўваецца рапс азімы і яравы тэхнічнага і харчовага прызначэння. Існуе масла тэхнічнае рапсавае для лака-фарбавай вытворчасці. І ў той жа час так званыя двухнулявыя гатункі можна прапаноўваць для атрымання харчовага масла. Яно па якасці абсалютна не ўступае сланечнікаваму. Наадварот, у ім утрымліваецца больш каштоўных тлуставых кіслот і пры смажанні на ім не назапашваюцца канцэрагенныя рэчывы. Сучасныя гатункі рапсавага масла, выведзеныя ў цэнтры, па аміна- і тлустакіслотнаму складу набліжаны па якасці да аліўкавага.

Далей. Акрамя якасці і прызначэння гатункі адрозніваюцца па вышыні. Кароткасцяблінныя прыстасаваны для інтэнсіўнай тэхналогіі і высокай ураджайнасці, доўгасцяблінныя — для гаспадарак з малаўрадлівымі глебамі.

Па просе і грэчцы створаны цэлы спектр гатункаў, якія можна вырошчваць пачынаючы з Верхнядзвінскага раёна і канчаючы Лоеўскім. Проса — адна з самых засухаўстойлівых культур. Не патрабуе клапатлівага догляду, слаба рэагуе на ўрадлівыя глебы і тэрміны высеву. Яго нават у сярэдзіне чэрвеня можна высяваць і атрымліваць багатыя ўраджаі. У мінулым годзе ў заходніх рэгіёнах рэспублікі была неймаверная засуха, калі збожжавыя знізілі ўраджайнасць амаль удвая, то проса на 15—20 працэнтаў. На жаль, сёння гэта каштоўная крупяная культура амаль знікла з нашых палеткаў. Чаму гаспадаркі не хочуць яе вырошчваць?

Спецыялісты НПЦ НАН Беларусі па земляробстве ўзяліся дэталёва вывучыць праблему і зрабіць сур'ёзныя высновы.

Другая крупяная культура, якая ў занядбанні і без якой сёння цяжка ўявіць наш харчовы стол, — гэта грэчка. Яна ў рэспубліцы займае ўсяго толькі 10—15 тысяч гектараў, хаця выведзена звыш дзесяці цудоўных гатункаў, якія здольныя даваць ураджай да 25—30 цэнтнераў з гектара. Хочацца ведаць: чым жа яна так незаслужана праштрафілася? Як высветлілася, Гомельскі камбінат, адзіны ў рэспубліцы вытворца грэчневай групы, адмаўляецца купляць культуру. Па той прычыне, што яму нявыгадна — трэба браць крэдыты, потым іх пагашаць. Прасцей заключыць дамову з расійскімі камерсантамі, якія самі і прывязуць сваё зерне, і заплацяць за яго перапрацоўку. Вінаваты яшчэ і невысокі ўраджай грэчкі ў параўнанні са збожжавымі, у разрад якіх яна да нядаўняга часу ўваходзіла і

тым самым зніжала агульны паказчык па іх ураджайнасці і ўплывала на агульную ацэнку працы. У той жа час грэчка — культура вельмі выгадная. Ужо пры дзесяці цэнтнерах з гектара яна рэнтабельная, поўнасцю сябе акупляе. Пэўна, гаспадаркі да гэтага часу пужае зласчасны «паказчык», і яны па старой звычцы адкрыжоўваюцца ад яе. А мажліва, яна не ў міласці яшчэ і таму, што ў значнай ступені залежыць ад надвор'я, паколькі насякомаапыляльная расліна. Ніяк без нектару не заманіць да сябе самых вялікіх рупліўцаў — пчол. А ён выдзяляецца ў вузкім дыяпазоне тэмператур — не ніжэй 18 і не вышэй 25 градусаў. Калі стаіць спёка, нектар не выдзяляецца, пры дажджы таксама, а значыць, апыленне немагчыма. Грэчка даволі часта можа трапляць, калі цвіце, у неспрыяльны перыяд. Але ёсць у яе і кампенсацыйныя моманты. У адрозненне ад ячменя, які ў адначассе выкаласіўся, на працягу тыдня адцвіў і пайшла завязь, грэчка значна даўжэй цвіце. У яе ўсё новыя і новыя зацвіўшыя гронкі з'яўляюцца з-пад пазух. Хаця страты па ўраджайнасці не пазбегнуць, але ўсё роўна культура па магчымасці сваё набярэ.

Грэчневае поле цяжка ўявіць без пчол. Грэх тым гаспадарам, якія маюць добрыя пасекі і не вырошчваюць грэчку. Дастаткова 5—7 вулляў паставіць на ўскрайку грэчневага палетка і ўзятак будзе забяспечаны адмысловы — гектар дасць 20 кілаграмаў мёду. Ды яшчэ якога. І грэчцы — любата. Падыме, дзякуючы божым стварэнням, ураджай на некалькі цэнтнераў. Чаму б не адрадзіць вось так промысел, які раней шырока практыкаваўся і дазваляў мець двайную даволі адчувальную выгаду. Не верыцца, што перавяліся сапраўдныя гаспадары на гэтай ніве дзейнасці.

Акрамя каштоўнага зерня, грэчка дае яшчэ і цудоўныя магчымасці павышэння ўрадлівасці — карнявыя яе выдзяленні пераводзяць цяжкаўсваяльныя злучэнні фосфару ў лёгкаўсваяльныя для раслін. А пры заворванні грэчневай саломы паляпшаецца фітасанітарыя. Пры гніенні адбываецца ачышчэнне глебы ад патагенных грыбкоў, якія выклікаюць захворванні, асабліва ў збожжавых культур.

Як адна з форм расліннасці травы ўзніклі намнога пазней дрэў і кустарнікаў, іх абмінулі доўгія і пакутлівыя змены, якія адбываліся з дрэвамі ў час усеагульнага пахаладання на планеце. З'яўленне травяных раслін можна разглядаць як ахоўны фактар захавання расліннасці наогул. Травы-аднагодкі, ды яшчэ вельмі невысокія, лепш выкарыстоўвалі больш цёплы, прыземны слой паветра; яны (большасць з іх) завяршаюць цыкл развіцця на працягу аднаго сезона, даюць патомства і адміраюць, каб узнавіцца вясной. Старажытныя дрэвы аказаліся безабароннымі ў суровыя часы, проста не змаглі хутка прыстасавацца да новых умоў асяроддзя. Ужо потым узніклі новыя формы.

Не затрачваючы шмат матэрыялу на пабудову сцяблін і лісцяў, травы змаглі стварыць больш насення, карнявішч і клубняў, якія дазволілі ім хутка размнажацца. Травяное супольніцтва за адзін сезон стварае намнога болей арганічнага рэчыва на адзінку плошчы, чым шматгадовыя дрэвы.

Гэта значыць, што травяністыя расліны з'явіліся самымі першымі і самымі лепшымі стваральнікамі цяперашніх глеб і тых глеб, якія загінулі ў час абледзянення.

Травы зрабілі зямлю зялёнай і квітнеючай, стараючыся не пакінуць на ёй ні адзінай прагаліны шэрасці і бруду. Цяжка ўявіць сабе зямлю без траў. Зялёны ліст — аснова жыцця. Гэта кісларод у атмасферы, рэактар энергіі сонца, першаснасць нашага харчавання.

Разам з дрэвамі і кустамі травы працягваюць трымаць свет у сваіх зялёных сяброўскіх абдымках. На карысць і радасць усіх яго жыхароў.

Сярод незлічонай разнастайнасці траў, бадай, кожнаму вядомы багаты і прыгожы куст з сямейства бабовых — канюшына. Густасцяблінная, цёмна-зялёная, разгалістая, з галоўкамі-суквеццямі белага, ружовага і цёмна-чырвонага колеру яна можа быць прыземленай, ледзь бачнай, калі апынецца на ўтаптанай і кволай зямлі, а можа падняцца амаль да пояса гэткім сакавітым кустом, цяжкаважкім і

пахучым, з паўсотняй чырвоных галовак, якія ў пару цвіцення прыцягваюць хмары чмялёў і пчол, якія заклапочана раскрываюць складаныя кветкі хабаткамі — і збоку, і зверху, — каб узяць салодкі нектар і, патупаўшы, абпыліць кветкі.

Бясконца карысны, дзівосны падарунак маці-прыроды! Пра канюшыну Клімент Аркадзьевіч Ціміразеў напісаў так: «Бадай у гісторыі не многа знойдзецца адкрыццяў, якія былі б такім жа дабрадзействам для чалавека, як уключэнне канюшыны, і наогул бабовых, у севазварот, якія так ашаламляльна павялічылі прадукцыйнасць працы земляроба». Дабавім: і так упрыгожылі лугі, палеткі на планеце, так высока паднялі іх урадлівасць.

У 80-я гады мінулага стагоддзя ўраджайнасць канюшыны складала на вопытных дзялянках 400 цэнтнераў з гектара, а ў гаспадарках — 200 ц/га. Стаяла задача стварэння гатунку з больш высокай кармавой прадукцыйнасцю, асабліва — стабільнай насеннай.

Для распрацоўкі мадэлі гатунку канюшыны лугавой у 1981—85 гадах у аддзеле фізіялогіі раслін Інстытута земляробства праводзіліся даследаванні пад кіраўніцтвам кандыдата біялагічных навук Пятра Васько. Яны паказалі, што канюшына лугавая, каб праявіць сябе належным чынам, павінна ўключаць расліны з абмежаваным галінаваннем трэцяга і чацвёртага парадку.

Кіруючыся гэтым заключэннем, у лабараторыі шматгадовых траў пад кіраўніцтвам кандыдата сельскагаспадарчых навук Яўгена Чэкеля быў створаны сярэдняспелы гатунак канюшыны лугавой Віцябчанін, які характарызуецца стабільнай і высокай прадукцыйнасцю насення.

У лабараторыі шматгадовых траў упартымі намаганнямі калектыву створана сістэма гатункаў канюшыны лугавой: Доўгалісцевая, Устойлівая, Бурштынавая (ранняспелыя), Віцябчанка (сярэдняспелая), Яскравая (сярэдняспелая). Познаспелы гатунак Мерэя — селекцыя БСГА.

Дзякуючы сістэме разначасова паспяваючых гатункаў канюшыны лугавой можна задзейнічаць сыравінны канвеер, які пашырыць аптымальныя тэрміны ўборкі, павысіць прадукцыйнасць і ўтрыманне бялку на 25—30 працэнтаў.

Нізкая эфектыўнасць пашаў (18 ц/га) у рэспубліцы абумоўлена недахопам насення канюшыны паўзучай. Для вырашэння гэтай праблемы пачаўся пошук па вывядзенні патрэбных гатункаў. У выніку былі раяніраваны высаказдольныя насеннікі канюшыны паўзучай Волат і Гомельская. Пад кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле П. Васько ствараецца сістэма разначасова паспяваючых гатункаў канюшыны паўзучай. Сярэдняпозні гатунак Духмяны раяніраваны ў 2000 годзе, ранняспелы Чарадзей — у 2005-м, сярэдняспелы Мацвей знаходзіцца ў Дзяржаўным гатункавыпрабаванні з 2006 года. Актыўны ўдзел у селекцыйным працэсе прымалі навуковы супрацоўнік А. Клыга і лабарант А. Зубрыцкая.

Прадукцыйнае даўгалецце гатункаў канюшыны паўзучай беларускай селекцыі ў пашавых травастоях складае чатыры гады з долевым утрыманнем канюшыны звыш 30 працэнтаў. Без ужывання мінеральнага азоту на працягу гэтага перыяду бабова-злакавыя даюць на суглінiстых глебах 70—75 ц/га кармавых адзінак, на супясчаных — 45—50 ц/га кармавых адзінак.

У лабараторыі, якой загадвае П. Васько, паспяхова вядзецца селекцыя па 12 відах злакавых траў. Сумесна з вучонымі Усерасійскага НДУ кармоў і з актыўным удзелам навуковых супрацоўнікаў НПЦ па земляробстве У. Сталепчанка, З. Казлоўскай, В. Сініцкага і Н. Альшэўскага створаны гатункі двукістачніка трыснявога Белрос-76 і кастраца безасцюковага Усходні, якія з'яўляюцца асноўнымі кампанентамі сярэдняспелых сенакосных травастояў.

З дапамогай біятэхналагічных метадаў створаны міжродавыя гібрыды райграсу і аўсяніц. Новы від названы Фестулоліум (фестка-аўсяніца, лоліум-райграс). Фестулоліум характарызуецца хуткімі тэрмінамі росту і высокімі паказчыкамі якасці прадукцыі. Беларускі гатунак фестулоліуму адрозніваецца пры гэтым і добрай зімаўстойлівасцю. Вялікая заслуга ў вывядзенні гатунку належыць З. Казлоўскай.

Шмат значыць распрацаваная сістэма гатункаў канюшыны лугавой — ранняй, сярэдняй і позняй спеласці. Скажам, засеяўшы ранняспелай 50 працэнтаў плошчы, сярэдняспелай — 30, позняспелай — 25, можна расцягнуць касавіцу ажно на 45 дзён, што немалаважна пры напружаных палявых работах.

Такая ж сістэма гатункаў і ў канюшыны паўзучай, з тым толькі адрозненнем, што выкарыстанне яе больш шырокае, яна сенакосна-пашавага тыпу.

У травастоі на пашы таксама павінны быць розныя па спеласці гатункі. Вясной ранняспелыя хутка пойдуць у рост, іх спасвяць, затым у травасумесі набярэ сілу позняспелы, а ранняспелы ў гэты час будзе іх назапашваць і праявіцца ўжо ў трэцім спашванні. Маючы такую сістэму, можна забяспечыць чырвонай канюшынай у сумесі з белай разнастайныя райграсавыя пашы. Яны сёння модныя. Называюць іх па-рознаму: еўрапейскія, дацкія, літоўскія, але прынцып адзін і той жа — шырокі спектр падбору і камбінавання траў.

Сёння ўжо не здзіўляе, калі пасля азімага жыта, якое скошваецца на корм або спасваецца, высяваюцца аднагадовыя травы — авёс, гарох, распялюшка з вікай з падсевам райграсу. Гэта дазваляе атрымліваць тры ўкосы за сезон на адным і тым жа палетку. Распрацаваны разнастайныя схемы з удзелам соя-суданкавых гібрыдаў. Ёсць і іншыя не меней эфектыўныя травасейныя камбінацыі.

Лубін жоўты — старая культура, якая спакон веку вырошчваецца ў рэспубліцы. Цяпер яна як бы і не існуе ў сувязі з захворваннем антрапозам. Але тым не менш генафонд застаецца. І як толькі будуць знойдзены вытокі ўстойлівасці да гэтага захворвання селекцыя ўзновіцца і адродзіцца лубін жоўты ў рэспубліцы — адна з каштоўнейшых бабовых культур.

Шматзначна і сімвалічна, што многія беларускія травяныя культуры сёння не ўступаюць еўрапейскім, а асобныя нават пераўзыходзяць іх. Вось толькі адзін з яскравых і пераканаўчых прыкладаў. Нядаўна ў Фінляндыі і Швецыі праходзілі выпрабаванні гатункі белай канюшыны. Па прадукцыйнасці беларускія ў паўтара раза «перашчагалялі» скандынаўскія. Для фінаў і шведаў гэта было сенсацыяй, бо яны лічылі сябе селекцыянерамі выдатнымі. Пасля такога канфузу перамаглі фанабэрыстасць і з вялікім аптымізмам і надзеяй выказалі жаданне на далейшае яшчэ больш цеснае супрацоўніцтва з беларусамі.

Кукуруза традыцыйна не наша культура. У Беларусі яна пачала вырошчвацца адносна нядаўна, хаця гістарычныя карані мае вельмі глыбокія і цікавая ўжо тым, што з'яўляецца цалкам тварэннем чалавечага розуму. Як і бульба. Як і цукровыя буракі. У тым выглядзе, якой мы ведаем кукурузу, прырода яе не стварала, яна выпіхнула ў свет раслін усяго толькі такі жывучы від, які нёс у сваёй спадчыннасці ледзь прыкметныя зачаткі вышэйшай прадукцыйнасці. Чалавек разумны ў старажытныя часы заўважыў гэтую асаблівасць расліны, развіваў і паляпшаў яе шмат вякоў, адбіраючы самае лепшае па сваім гусце і патрэбах. І кукуруза паддавалася, мянялася менавіта ў гэты бок, пакуль не ператварылася з ніштаватай расліны ў магутную культуру з багатым і шчодрым крухмальным зернем, з салодкім зяленівам ліста.

Такі лёс кукурузы, ці маісу, так называюць яе на радзіме.

Радзіма кукурузы — Цэнтральная і Паўднёвая Амерыка. Яшчэ сем-восем тысячагоддзяў назад, калі ў гэтых раёнах зямлі ўзніклі і ўмацаваліся першыя цывілізацыі, маіс быў паўсямесна распаўсюджаным злакам. Ацтэкі на поўдні Паўночнай Амерыкі, майя — у Цэнтральнай Амерыцы і інкі на тэрыторыі цяперашняга Перу ў Паўднёвай Амерыцы задоўга да Калумба, да заваёў гэтых дзяржаў партугальцамі і іспанцамі ўвесь свой дастатак грунтавалі на маісе.

Да трыццатых гадоў мінулага стагоддзя ЗША выпрацоўвалі кукурузнага зерня больш, чым пшаніцы. І выкормлівалі ім незлічоную колькасць свіней, бычкоў, авечак, птушкі, асабліва індыкоў. Пераканаўшыся, што ў кукурузных зярнятах шмат крухмалу, але мала бялкоў, вельмі патрэбных для стварэння мяса, фермеры знайшлі выйсце: сталі больш сеяць высокабялковай соі, атрымліваць яе

па дзесяць і больш мільёнаў тон у год. Соя з кукурузай у камбінаваных кармах ствараюць цудоўна збалансаваную ежу для жывёлы.

Што да Беларусі, то ў НПЦ па земляробстве створаны свае беларускія гібрыды кукурузы, якія здольны даваць у нашых, не надта каб спрыяльных умовах, высокія ўраджаі. І што вельмі важна — тут навучыліся атрымліваць кукурузнае насенне на тэрыторыі Гомельскай вобласці, высакаякаснае, не горш малдаўскага і расійскага. Немцы, якія пра гэта даведаліся, — з імі падтрымліваюцца даўнія сяброўска-галіновыя сувязі, не паверылі да таго часу, пакуль не наведалі вопытныя дзялянкі і сельскагаспадарчыя спецыялізаваныя пад кукурузу палеткі. Мала таго, нашы гібрыды здзівілі гасцей яшчэ і тым, што яны па масе не ўступаюць іхнім. Ну, а што меней устойлівыя да палягання, то тут немцы, трэба прызнаць, апераджаюць. У нашых гібрыдаў семянаводчага прызначэння пад цяжарам пачаткаў, калі яны паспяваюць, іншы раз «каленькі» не вытрымліваюць. Але трэба ўлічыць, што ў немцаў вопыт не раўня нашаму — 100 год займаюцца селекцыяй кукурузнага насення. Тым не менш яны ў свой час звярнулі ўвагу на вельмі важную асаблівасць нашых гібрыдаў — устойлівасць да холаду, і перадалі гэты прызнак сваім гатункам. Дзякуючы гэтаму, яны сёння занялі пустуючыя нішы і пастаўляюць высокаэлітнае раяніраванае насенне ў Расію, Літву, Польшчу і іншым. Што ж, на тое яно і ўзаемавыгаднае міжнароднае супрацоўніцтва, каб прыносіць плён. Селекцыянеры НПЦ па земляробстве толькі вітаюць яго і самі падтрымліваюць цесныя сяброўскія сувязі з названымі краінамі, уключаючы сюды Украіну, Сербію, тыя ж Швецыю, Фінляндыю, дзе выпрабоўваюцца айчынныя гатункі кукурузы. Праца па ўдасканаленні яе гібрыдаў не спыняецца ні на адзін дзень. Трэба ў першую чаргу надаць ёй устойлівасць да палягання і вывесці позняспелыя гатункі. Тады можна будзе смела і канчаткова сказаць, што кукуруза — наша ганаровая заваёва, і ёй будзе заўжды забяспечана належнае месца ў севазвароце як культуры, роўных якой няма.

Радуюць палеткі кармавымі буракамі Лада — даюць 1000 цэнтнераў карняплодаў з гектара, праходзіць выпрабаванні па прагнозах яшчэ больш перспектыўны гібрыд Ф-1. Утрыманне сухога рэчыва ў цукровых бураках звычайна ад 8 да 10 працэнтаў, а ў яго — да 12—16.

Кармавыя буракі — незаменная крыніца цукру ў рацыёнах буйнарагатай жывёлы. Без яго немагчыма атрымаць высокія надоі і прывагі і пераварыць вялікую колькасць клятчаткі, якая ўтрымліваецца ў сене, сенажы, сіласе.

У НПЦ па земляробстве створаны рэспубліканскі генафонд сельгасраслін, па-іншаму яго яшчэ называюць генбанкам. Гэта яркі прыклад Усерасійскага інстытута раслінаводства. Туды завозіцца элітнае насенне з усёй рэспублікі для доўгатэрміновага, сярэднетэрміновага і кароткатэрміновага захоўвання. Калекцыя вельмі багатая і ўвесь час папаўняецца — бясцэнны скарб, да якога ў любую хвіліну можна звярнуцца, каб узяць патрэбны экземпляр для селекцыйнай работы, эксперыментаў.

Шмат значыць фітатронна-цяплічны комплекс. Калісьці ён быў другім па значэнні ў Саюзе. Для таго, каб гібрыд, створаны ў полі, устаяўся, трэба яго вырошчваць аж да шостага пакалення — толькі тады ён генетычна стабілізуецца. Дык вось, цяплічны комплекс у два разы скарачае гэты тэрмін — вывядзенне гатунку. Што ні кажы, а тут адбываецца вялікае паскарэнне, вельмі важнае для селекцыянера і народнай гаспадаркі ў цэлым.

Дастаткова сказаць, што НПЦ па земляробстве пакрывае 80 працэнтаў усёй раслінаводчай галіны рэспублікі. У ім сканцэнтравана ўсё, акрамя бульбы, гароднiны і пладоў. І імя гэтаму — жыццядайнасць!

Пераканаўча даказана, што своечасовае і якаснае гатункаабнаўленне і гатунказамена — важныя фактары павышэння і стабільнасці ўраджайнасці. Такім чынам можна своечасова забяспечыць прыбаўку ад 3 да 5 ц/га.

Асноўныя пасяўныя плошчы ў рэспубліцы заняты гатункамі і гібрыдамі айчыннай селекцыі (у сярэднім 70 працэнтаў). Больш як 80 гатункаў беларускай селекцыі занесены ў Дзяржаўныя рэестры і дапушчаны да выкарыстання ў

Расіі (37 абласцей), Украіне, Літве, Эстоніі, Германіі, Швецыі. Па шасці гатунках заключаны ліцэнзійныя дамовы за межамі рэспублікі.

Так што ў распараджэнні гаспадарак дастаткова гатункаў як айчынных, так і замежных, здольных забяспечыць любую ўраджайнасць. Пры гэтым гатункі збожжавых замежнай селекцыі, асабліва германскія і польскія, для атрымання 80 ц/га патрабуюць высокага ўзроўню мінеральнай спажывы — 350—400 кілаграмаў NPK. З іх больш за 200 кілаграмаў азоту, які трэба ўносіць у 3—4 прыёмы за час вегетацыі. Акрамя таго, для атрымання высокага ўраджаю гэтыя гатункі патрабуюць 2—3 разовай апрацоўкі фунгіцыдамі, 1—2 разовай апрацоўкі рэтардантамі, а таксама выкарыстання дарагіх гербіцыдаў, мікраэлементаў і г. д.

Зразумела, што ні навука, ні Дзяржаўная камісія па гатункавыпрабаванні не могуць арыентаваць сваю работу на такія «капрызы». У сучасны момант і на бліжэйшую перспектыву (7—10 год) будзе праводзіцца работа па стварэнні і выяўленні гатункаў і гібрыдаў, здольных перш за ўсё забяспечыць стабільную ўраджайнасць 35—40 ц/га пры 220—250 кг NPK, пры пратраўліванні насення, ахове ад пустазелля і аднаразовым прымяненні фунгіцыдаў. Несумненна, генетычны патэнцыял ураджайнасці такіх гатункаў павінен дасягнуць 80—90 ц/га ў максімальна камфортных умовах вырошчвання. Як паказвае селекцыйная практыка і выпрабаванне гатункаў, спалучэнне ў адным генатыпе спецыяльных для гэтага ўласцівасцей хапае. Такі ўраджай будзе эканамічна апраўданы і дастатковы для забеспячэння харчовай бяспекі.

У сувязі з істотнымі зменамі клімату, узнікае эканамічная мэтазгоднасць у бліжэйшай перспектыве пашыраць спектр селекцыруемых з выкарыстаннем у сельскагаспадарчай вытворчасці культур. У першую чаргу — просавідных (проса, чуміза і інш.).

Пры рэпрадуцыраванні гатункаў аб'ектыўна і непазбежна дзейнічаюць фактары іх пагаршэння, зніжэння ўраджайнасці. Каб гэтага пазбегнуць, неабходна сістэматычна праводзіць гатункаабнаўленне і гатунказамену. Гэта сусветна апрабаваны вопыт.

Перад насенняводствам стаяць тры асноўныя задачы: размнажэнне насення высокапрадукцыйных гатункаў, дапушчаных да вытворчасці; захаванне ў працэсе размнажэння морфабіялагічных асаблівасцей гатунку, біялагічнай чысціні (адсутнасць прымесяў іншых гатункаў і відаў); фарміраванне высокіх ураджайных уласцівасцей насення з дапамогай спецыяльных прыёмаў апрацоўкі.

На этапе арыгінальнага насенняводства ў сучасны момант няма складаных праблем агранамічнага і тэхналагічнага характару, а ўзнікаючыя — лёгка вырашаюцца. Патрэбна толькі параўнаўча невялікая фінансавая падтрымка. Што да элітнага і рэпрадукцыйнага насенняводства, то яно звязана з мноствам праблем.

У рэспубліцы ў апошнія гады выконваюцца планы па вытворчасці элітнага насення, а вось якасць яго і гатунковы састаў неабходна значна палепшыць. У выніку праведзенага аналізу метадам бялковых маркераў высветлілася, што вялікая колькасць насення атрыманай эліты мае значныя прымесі іншых гатункаў.

Па меркаванні спецыялістаў, для павышэння якасці і хуткасці змен гатункавага саставу на этапе элітнага насенняводства функцыі па вытворчасці насення Р-2, а па асобных культурах і суперэліты варта перадаць навукова-даследчым установам. Гэта дазволіць паўней выкарыстоўваць навуковы і тэхнічны патэнцыял інстытутаў і вопытных станцый у галіне насенняводства, а таксама зменшыць верагоднасць біялагічнага і механічнага засмечвання насення пры яго высеве. Безумоўна, неабходна тэхнічна пераабсталяваць суб'екты арыгінальнага насенняводства.

Пры цяперашняй жа арганізацыі сістэмы насенняводства гатунказамена вядзецца недапушчальна павольна. Ніводзін новы гатунак за апошнія пяць гадоў не дасягнуў аптымальных плошчаў у вытворчасці, нягледзячы на больш чым трохразовы запас арыгінальнага насення па кожным з гэтагых гатункаў. Хаця ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў за такі ж перыяд новыя гатункі збожжавых выходзілі на плошчу пасеву ў 400—459 тыс. гектараў.

## *Сваім шляхам*

Амаль кожны сустрэчны ў Жодзіна, калі спытаць, дзе месціцца навукова-практычны цэнтр па земляробстве, не задумваючыся, назаве вуліцу і дом — Ціміразева, 1. Горад адносна невялікі, і таму не дзіўна, што пра ўсе змены, якія адбываюцца ў ім, людзі даведваюцца хутка. Тым больш, калі яны далёка не радавыя сваёй значнасцю. Як, напрыклад, гэта.

Звычайна Вучоны Савет прызначаецца на аўторак. І на гэты раз не адступілі ад графіка. Галоўныя спецыялісты падраздзяленняў сабраліся ў вызначаны час. Пытанняў, якія трэба было разгледзець і абмеркаваць, назбіралася шмат. Па завядзёнцы старшынствуючы Фёдар Іванавіч Прывалаў не любіць ставіць на першае месца галоўнае і з яго пачынаць. Лепей будзе, калі да яго паступова падступацца, даць магчымасць людзям астыць ад дарожнага тлуму.

Засяродзіў увагу на ўчарашняй сустрэчы ў Слабадзе Азярынскай з камерсантам Канстанцінам Васючэнкам. Прапаноўвае купіць сеялку аўстрыйскай вытворчасці з дзевяціметровым высяваючым захопам. Высеў — пнеўматычны. Такая пакуль нідзе ў рэспубліцы не практыкуецца. Цэнтр у «Шыпянах» сеялку СЗУ выкарыстоўвае. Туды-сюды сноўдае, больш топча, чым сее. Аўстрыйская ж — манеўраная, зручная і па прадукцыйнасці — што наша ў тры праходы робіць, яна паспявае — у адзін. Якасць высеву — не параўнаць. Ніякіх табе збояў.

Няхай Васючэнка даставіць агрэгат на палігон НПЦ і ад таго, як пры выпрабаваннях ён сябе пакажа, — вырашыцца купляць яго альбо ўстрымацца і шукаць што-небудзь іншае. З гэтым усе пагадзіліся.

Затым пачалося абмеркаванне высеву цукровых буракоў. У рэсубліцы яны займаюць штогод каля 100 тысяч гектараў. Дзейнічаюць чатыры камбінаты па іх перапрацоўцы. І гэтага дастаткова, каб задаволіць не толькі патрэбы краіны ў цукры, а больш паловы прадаваць яго за мяжой. І без асаблівых праблем, калі мець не адзін рынак збыту — Расію, а некалькі. Ні ў адной эканоміцы свету не прынята працаваць на аднаго кліента. Гэта вельмі рызыкоўна. Асабліва мінулы год паказаў. Несуразмерна вялікія страты панеслі і вытворцы, і перапрацоўшчыкі цукровых буракоў, і эканоміка ў цэлым ад таго, што менеджарам нашым не хапіла дальнабачнасці і разваротнасці.

Ва ўсіх сыравінных зонах Нясвіжская станцыя заключае з гаспадаркамі дамовы, яе супрацоўнікі кантралююць падрыхтоўку глебы да высеву, догляд за пасевамі, рэкамендуюць якія прэпараты выкарыстоўваць для аховы раслін, кансультуюць па ўсіх аспектах тэхналогіі апрацоўкі, тэхналагічных эксперыментаў.

Вядзецца селекцыйная работа па стварэнні ўласных гатункаў і гібрыдаў цукровых буракоў. Пакуль што, на жаль, замежныя гатункі дамінуюць. У нас у рэспубліцы да гэтага часу не наладжана вытворчасць дражыраванага насення. Што яно сабой уяўляе? Пакрываецца спецыяльнай абалонкай, якая ахоўвае зерне ад шкоднікаў і хвароб на ранніх стадыях прарастання. Да ўсяго прыдае зярнятам круглую форму, што дазваляе высяваць іх на канчатковую гушчыню і пазбягаць такой працэдуры ў тэхналогіі апрацоўкі, як ручная прарыўка. Сеялка, пнеўматычная, раскладвае насенне на адлегласці 17 сантыметраў адно ад аднаго і потым з кожнага вырастае адна расліна. Пры дражыраванні ў сумесь дабаўляюцца яшчэ і мікраэлементы, рэчывы, якія ўмацоўваюць рост маладой расліны і павышаюць ураджаі. 70 еўра патрабуецца, каб вырасціць адзін гектар цукровых буракоў, палова гэтай сумы за мяжой складае падрыхтоўка насення. Для яго дражыравання там выкарыстоўваюцца спецыяльныя тэхналагічныя лініі са складаным абсталяваннем. Дорага каштуюць. Але вопыт паказвае, што яны сябе апраўдваюць, хутка акупляюцца. Адна з такіх ліній у наступным годзе паступіць і ў Беларусь. Дзе яе ў першую чаргу размясціць, як наладзіць работу і абслугоўванне — пра гэта ішла размова на Савеце.

Кіраўнік лабараторыі кармавых карняплодаў Дзмітрый Лужынскі звярнуў увагу на тое, што хай сабе нашы гатункі цукровых буракоў на 5—7 працэнтаў

і ўступаюць па ўраджайнасці замежным, але затое яны ствараліся з улікам нашых умоў, адаптаваны, устойлівыя да хвароб і самае галоўнае — добра захоўваюцца. Таму і надалей іх варта вырошчваць ну і, вядома ж, спрабаваць вывесці больш ураджайныя гатункі. Паколькі ад ручной працы гаспадаркі адмовіліся, узыходжанне насення цукровых павінна быць 95—98 працэнтаў, у нашых умовах можна атрымліваць да 80—85. Гэта занадта нізкі паказчык, што і вымусіла перанесці насенняводства ў Сурхандар'інскую і Самаркандскую вобласці Узбекістана. Як паказалі вопыты, насенне, атрыманае там, адпавядае ўсім агратэхнічным патрабаванням. Адтуль яно будзе своечасова пастаўляцца ў Беларусь для дражыравання і захоўвання.

На Вучоным Савеце не адчувалася аніякага ўціску збоку старшынствуючага. Ён асабліва не абмяжоўваў і не стрымліваў выступоўцаў, кожнаму даваў выказацца, раз-пораз уносячы свае ўдакладненні або тлумачэнні ці просячы зрабіць гэта каго-небудзь іншага. У зале панавала атмасфера даверу, адкрытасці, шчырасці, узаемапагаднення, калектывізму. Тут не існавала чыста асабістага, усё падпарадкоўвалася агульным інтарэсам, клопатам, хваляванням. Міхаіл Кадыраў больш падхопліваўся, чым сядзеў. Усяго толькі тыдзень прайшоў, як збіраліся разам, але ён быў настолькі клопатным, што асобнае ну проста не дае маўчаць:

— Пабывалі на палетках. Азімыя не радуюць: нездаровы выгляд у іх, многа пажоўклых лісцяў з'яўляецца. Карнявая сістэма кепска развіваецца, запаволены рост. Цяжка зразумець, чаму такое адбываецца. Мажліва, небывала ранняя вясна на іх адмоўна ўплывае? Мо біялагічны азот імі лепш засвойваецца пры больш нізкіх тэмпературах і дастатковай вільгаці? А што яе сёння ў глебе не хапае, дык гэта факт. Лічыцца, калі ўтрыманне вільгаці меней 77 міліметраў у паверхневым глебавым слоі, то гэта ўжо прыкмета засухі. А мы маем у цэлым па рэспубліцы: Докшыцы — 75 міліметраў, Ваўкавыск — 70, Драгічын — 69, Вілейка, Крычаў — 53. Сітуацыя, як самі бачыце, вельмі трывожная. Дажджоў, лічы, тры тыдні не было, а ноччу глеба яшчэ і вымарожваецца. Хутка ўносіць падкормку, але ж тое, што было ўнесена, не працуе. Чаму? Дзе яно — выйсце? На 28 сакавіка ў Беларусі засеяна 37 працэнтаў яравых. Такое, калі мая памяць не падводзіць, у нас адбываецца ўпершыню. Неверагодна... Мы назіраем за азімымі. Яны з зімы выйшлі весялейшыя, чым выглядаюць зараз. Ці будзе ранняй уборка ад таго, што мы раней на месяц пасеялі, як гэта скажацца на ўраджаі?

Зала маўчала, зала асэнсоўвала пачутае, перад ёй стаяла задача амаль невырашальная, якую задала прырода. Ніколі раней з падобным ніхто не сутыкаўся, і таму патрабуецца глыбокі аналіз і навуковы падыход. А час неміласціва прыспешвае...

Галоўнае, што патрабавалася на паседжанні Вучонага Савета, — вызначыць рэальна неабходную плошчу, якую будзе займаць у рэспубліцы кармавая кукуруза. Дыскусіі працягваліся каля дзвюх гадзін. Нарэшце прыйшлі да высновы, што сіласная кукуруза ў рацыёне буйнарагатай жывёлы павінна скласці 50 працэнтаў. А вось якую плошчу адвесці пад гэту культуру, так і не дамовіліся. Эканамічная мэтазгоднасць залежыць ад ураджайнасці, а яна па рэспубліцы няроўная, большасць гаспадарак атрымоўвае па 180—200 цэнтнераў з гектара, а ёсць і такія, што па 300 цэнтнераў. Ды і іншыя фактары трэба ўлічыць і толькі пасля гэтага канкрэтызаваць плошчу высеву.

Зацікавіла Вучоны Савет звышлёгкая авіяцыя. Два мотадэльтапланы выкарыстоўваліся ў мінулым годзе ў чатырох гаспадарках Стаўбцоўскага раёна. Іх перавага над самалётамі АН-2, якія яшчэ называюць «кукурузнікамі», у тым, што яны могуць лятаць на вышыні тры метры. На іх не ўплывае вецер — і густа, і не пуста пры распырскванні хімічных раствораў. Яны падаюцца вельмі эканомна ў выглядзе густога туману, які раўнамерна пакрывае плошчу пасеваў. За адну гадзіну можна апрацаваць да 62 гектараў — рэкордны тэмп. І на кожным, калі ў горшым выпадку параўноўваць з трактарам-апырсквальнікам, эканоміцца 8 тысяч рублёў, пры гэтым не ўлічваючы зберажэння сродкаў аховы або падкормкі раслін.

Мотадэльтапланы шырока выкарыстоўваюцца ў ЗША, Англіі, Канадзе, Германіі, Францыі і многіх іншых краінах, на іх звярнулі апошнім часам сур'ёзную ўвагу ў Расіі і Украіне. А для нас гэта — адкрыццё.

У Фёдара Іванавіча, як заўжды, на першым плане — эканамічны эфект. Як бы ні распісвалі перавагі дэльтапланаў над традыцыйнай малой авіяцыяй і як бы ні агітавалі зацікаўленыя асобы за звышмалую, трэба на яе паглядзець у дзеянні і тады прымаць канчатковае рашэнне: за або супраць.

Тое ж і з усюдыходам, які з поспехам выкарыстоўваецца беларускімі палярнікамі ў Антарктыдзе, нашай айчыннай распрацоўкі. А чаму б яго не запазычыць сельскай гаспадарцы. Фёдар Іванавіч асабіста назіраў, як ён падкормліваў эксперыментальна азімыя ў Нясвіжскім раёне. Хуткасць — больш касмічная, чым антарктычная. Бяжыць і пасля сябе ніякіх слядоў не пакідае, чатырохколавыя пратэктары настолькі грузанеўспрымальныя, што пасевы як стаялі ў поўны рост, так і застаюцца стаяць, быццам па іх і не тапталіся. Нягледзячы на тое, што трымае на сабе 500-кілаграмовы груз хімічных угнаенняў.

Спадабалася тэхніка Фёдару Іванавічу, і ён настойліва яе рэкамендаваў для шырокага выкарыстання ў сельгасвытворчасці.

Сёння сельская гаспадарка нашай краіны мае сваю стратэгію. Гэта вельмі важна. Мы многа шукалі, якімі шляхамі пайсці, як пабудаваць адносіны паміж дзяржавай і вытворцам сельгаспрадукцыі, якія формы гаспадарання надаць вёсцы, як зацікавіць земляроба. Гэта стратэгія ўжо сфармулявана ў праграме «Адраджэнне і развіццё беларускай вёскі да 2010 года». Асабістыя, фермерскія гаспадаркі, прадпрымальніцтва на вёсцы... Мы ўжо заканадаўча далі магчымасць развіцця ўсіх форм уласнасці і гаспадарання на зямлі.

У кнізе расійскага вучонага эканаміста Л. Літашэнкі, рэпрэсіраванага і расстралянага ў 1937 годзе, «Сацыялізацыя зямлі ў Расіі», праляжаўшай больш 70 год незапатрабаванай у архівах, згадвалася: «Асцярожна і вобмацкам рухалася савецкая ўлада між усіх падводных камянёў сацыялізму, не трацячы напрамку і пастаянна помнячы канчатковыя мэты свайго шляху. І калі ў рэшце рэшт сацыялістычны будынак ляжыць у абломках, то ў гэтым віна не будаўнікоў, а тых прынцыпаў, па якіх стваралася пабудова». Завяршае сваю глыбока аргументаваную кнігу Л. Літашэнка словамі: «...выхад заключаецца ў сумленнай адмове ад грубых, татальных прынцыпаў рэгулявання народнай гаспадаркі і ў прадстаўленні рэгулюемай законам свабоды дзеянняў прыватнай ініцыятыве. Належыць цяжкі пад'ём, а не спуск да роўнай дарогі. Добры кучар не стане ў такім выпадку нацягваць павады і кіраваць коньмі. Трэба даць ім свабоду самім выбіраць дарогу і найменш крутыя схілы пад'ёму. Можна быць упэўненым, што гэта будзе самы кароткі і танны шлях эканамічнага адраджэння».

А былы кіраўнік Дзяржплана СССР М. Байбакоў ужо ў 90-я гады напісаў: «План і рынак — зусім не ворагі, а надзейныя партнёры, дзейнічаючы сумесна, яны толькі ўзмацняюць эфектыўнасць эканомікі. Разумная эканамічная свабода, разняволеная прыватная ініцыятыва і прадпрымальнасць — гэта вецер у парусах эканомікі, планавае дзяржаўнае рэгуляванне — гэта руль, накіроўваючы рух».

Навукова-практычнаму цэнтру НАН Беларусі па земляробстве наканавана доўгае жыццё. Наперадзе вялікая і адказная работа, ад паспяховага выканання якой залежыць развіццё сельскай гаспадаркі ў цэлым, яе пад'ём і ў канечным выніку наш дастатак і заможнасць. Пажадаем жа яму плёну і здзяйснення ўсяго высакародна задуманага, намечанага, запланаванага.



# ГЕОРГІЙ ПАПЛАЎСКІ: «РЭАЛІЗМ — ДУША МАСТАЦТВА»

Пазнаёміліся мы ў абставінах крыху незвычайных.

Мой даўні сябра нейкі час назад прапанаваў мне хадзіць у лазню разам з ім. Там, хваліўся ён, выдатная парылка, цудоўны басейн. А галоўнае — вясёлая, дружная кампанія.



Усё так і было. Сустрэлі мяне ветліва, прыязна. Я адразу ж адчуў сябе сваім сярод незнаёмых людзей. Хаця воблік аднаго з іх падаўся мне вельмі знаёмым — шчыры, усмешлівы твар, прамыя з сівізной валасы, што спадалі на лоб, такія ж сівыя вусы і барада.

Сябра мой пацвердзіў: так, гэта — Георгій Паплаўскі, знакаміты ў рэспубліцы мастак!

Я доўга не асмельваўся загаварыць з ім. Аднак і іншыя, сказаць па праўдзе, трымаліся з ім паважліва, з пашанай, хоць Георгій Георгіевіч абсалютна нічым не падкрэсліваў сваёй выключнасці, быў з усімі роўны, добразычлівы.

Адчувалася, што Паплаўскі тут — душа кампаніі. І не таму, што ён знакаміты чалавек, што старэйшы за іншых па ўзросце — у лазні, як вядома, гэтыя якасці ў разлік не бяруцца. Паплаўскага, было бачна, любяць за тое, што ён умее стварыць атмасферу шчырасці, даверу.

Мне, на жаль, не доўга выпала «тусавацца» ў гэтай кампаніі, але я заўсёды з вялікай цеплынёй успамінаю нашы «чыстыя суботы». Бо хіба ж можна забыць такія вось дзівосныя мінуты?

...Калі лазневыя працэдуры заканчваліся, усе збіраліся ў пакоі адпачынку. Тут ужо сыходзіў парай пузаты самавар, хутка расстаўляліся на стале кубкі, чаркі, талеркі. Кожны з нас выкладваў што-небудзь з харчовых прыпасаў. Паплаўскі звычайна вымаў свой фірменны «джэнтльменскі набор»: кавалак духмянага, самім пасоленага сала і невялікую, падобную на біклагу, бутэльку з браслаўскай, чыстай, як сляза, самагонкай:

— Хлопцы, па глыточку...

Пасля «прычасця» пачыналіся «байкі». Часцей за ўсё апавядаў Паплаўскі — што-небудзь са сваіх шматлікіх падарожжаў або нейкі іншы жыццёвы выпадак. І заўсёды гэта было цікава, у навіну. Апавядальнік ён дзівосны!

Тут жа, у лазні, усёй кампаніяй адзначалі мы і 75-годдзе Георгія Паплаўскага.

Напярэдадні Георгія Георгіевіча цёпла павіншаваў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Ён адзначыў вялікі творчы ўклад, які зрабіў мастак у нацыянальную культуру, пажадаў яму і надалей такой жа шматграннай і плённай дзейнасці. Мастацтвазнаўцы ў артыкулах, прысвечаных юбілею калегі, падкрэслівалі універсальны талент Г. Г. Паплаўскага, заўважаючы, што ён віртуозна валодае разнастайнай тэхнікай графічнага мастацтва, арганічна адчувае сябе ў амплуа жывапісца, працуе і як станкавіст, і як аўтар кніжных ілюстрацый.

У нашым імправізаваным застоллі, дзе пераважалі бізнесмены, гаварылася аб іншым:

— Мы не вельмі разбіраемся ў жывапісе, у мастацтве, і нам, відавочна, цяжка ў поўнай меры ацаніць Вас як мастака. Але мы з упэўненасцю можам сказаць, які

Вы чалавек. Просты, зычлівы, прываблівы, кампанейскі. Цэніце ўвагу і дабрыню і самі стараецеся ўсё гэта праяўляць да іншых. Заўсёды гатовы зрабіць паслугу, дапамагчы сваім сябрам, знаёмым. Дзякуй Вам за гэта. Мы ганарымся сяброўствам з Вамі!

У той дзень я нарэшце рашыўся і падышоў да Георгія Георгіевіча, напрасіўся на інтэрв'ю.

— Добра, — згадзіўся ён адразу ж і даў мне нумар свайго мабільнага тэлефона.— Пазваніце мне праз колькі дзён, і мы дамовімся аб сустрэчы больш канкрэтна.

Так я апынуўся ў святая святых мастака — яго майстэрні. Георгія Георгіевіча я застаў за працай — ён «чараваў» каля велізарнага (амаль на ўсю сцяну) жывапіснага палатна. На ім была адлюстравана княская дружына ў баявых даспехах. У цэнтры — сам князь Ігар на белым кані і з мячом у руках. На твары вояў — рашучая гатоўнасць выступіць у паход, самааддана бараніць гонар і славу Айчыны...

Майстар, убачыўшы маю шчырую зацікаўленасць карцінай, патлумачыў:

— Гэта для новай бібліятэкі. Там ствараецца своеасаблівы мастацкі летапіс нашай гісторыі. Я выбраў у якасці сюжэта паход князя Ігара. Праца ўжо практычна закончана...

З гэтага і пачалася наша размова з народным мастаком Беларусі, заслужаным дзеячам мастацтваў рэспублікі, праваздейным членам Расійскай акадэміі мастацтваў, акадэмікам Нацыянальнай акадэміі Рэспублікі Беларусь Г. Г. Паплаўскім.

### *Сацыяльны заказ — форма падтрымкі мастака*

**— Георгій Георгіевіч, як я разумею, гэта карціна — сацыяльны заказ?**

— Так, а што ў гэтым кепскага?

**— Абсалютна нічога. Хаця чамусьці многія мастакі лічаць інакш. На іх думку, сацыяльны заказ — гэта нешта ганебнае, малазначнае, што зніжае талент, ставіць яго ў залежнасць ад дзяржаўнай ідэалогіі.**

— Бог ты мой! Але ж усе лепшыя сусветныя шэдэўры жывапісу зроблены па сацыяльным заказе. Няхай гэта заказ папы рымскага, якога-небудзь караля ці фараона. Або нават хоць бы звычайнага купца. Як было, напрыклад, у Расіі. Славутыя мастакі дзевятнаццатага стагоддзя пісалі па заказе Марозава, Траццякова і іншых багатых заказчыкаў. І што, хіба гэта пазбавіла іх творчай самастойнасці, прынізіла іх талент?

А здаралася нават так. Спецыяльнага заказу мастаку ніхто не рабіў, але, улаўліваючы грамадскі настрой, палітычныя інтарэсы, ён пісаў карціну на актуальную сацыяльную тэму ў поўнай упэўненасці, што заказчык на гэтую карціну ўсё адно знойдзецца.

І сапраўды знаходзіўся! Вось, скажам, Сурыкаў піша «Баярыню Марозаву». Гэта не быў сацыяльны заказ, але карціну набыў Траццякоў.

Або той жа Сурыкаў стварае «Сцяпана Разіна». Фармальна яму гэтае палатно таксама ніхто не замаўляў. Але як толькі мастак карціну закончыў, імператар Аляксандр II купіў яе для свайго музея.

Павінен сказаць: цэны ў той час за падобнага роду творы былі такія, што мастак год-другі мог працаваць па сваім хаценні, без усякіх заказаў. Мог патрапіць у Італію маляваць пейзажы або, як Сурыкаў, ехаць на радзіму пісаць «Узяцце снежнага гарадка».

**— Чаму ж такія скептычныя адносіны да сацыяльнага заказу ў некаторых мастакоў?**

— Справа вось у чым. Ёсць тут пэўны элемент зайздрасці. Бо заказ не кожнаму прапаноўваюць. І гэта выклікае пачуццё незадаволенасці: чаму мяне абышлі? Сярод творцаў, між іншым, ніхто не можа прызнаць, што ён за кагосьці слабейшы.

На гэты конт нават бытуе такі анекдот. Паставілі мастакоў у шарэнгу і ска-

мандавалі: «На першы-другі разлічыся!» Было вымаўлена толькі «Першы!», а далей справа не пайшла.

А затым... Розныя ж і заказы бываюць. Адзін — як перадавы артыкул у газеце «Правда», а другі — натхнёны, глыбока эмацыянальны нарыс на актуальную тэму.

**— Усё залежыць ад ступені таленту, шчырасці і сумлення мастака?**

— Канечне! Нічога дрэннага ў тым, што дзяржава ў асобе чыноўніка міністэрства культуры або іншага прадстаўніка ўлады заказвае табе карціну на тую ці іншую сацыяльную тэму, — нічога ў гэтым ганебнага няма. Мы жывём у грамадстве і кожны з нас у рэшце рэшт цесна звязаны з праблемамі гэтага грамадства. І немагчыма, каб грамадства ішло па дарозе, а ты сунуўся па нейкай бакавой сцяжыне.

Гэта — абсурдная пазіцыя, і няма чаго ёю ганарыцца. Хаця асобныя творцы і спрабуюць з гэтага рабіць палітыку. Ах, калі мне заказ не далі, а далі іншаму, значыць, той іншы, — набліжаны, ангажыраваны, а вось я — вольны, сапраўдны мастак.

Але варта гэтаму мастаку атрымаць заказ, і ён з задавальненнем бярэцца за яго выкананне. Таму, што ўсе мы — людзі смяротныя, усім нам трэба на нешта існаваць.

Так, сацыяльны заказ заўсёды карміў і адчувальна падтрымліваў мастака. Спецыфіка нашай прафесіі такая, што нам самім даводзіцца і майстэрню ўтрымліваць, і неабходнымі матэрыяламі забяспечваць. А гэта патрабуе немалых затрат.

Канечне, сказанае зусім не азначае, што дзеля грошай мастак можа пайсці на ўсё. Не, вядома. Ёсць рэчы, пераступаць цераз якія ні ў якім разе нельга. Інакш страціш усякую павагу ў прафесійным асяроддзі, страціш у рэшце рэшт свой талент. Я маю на ўвазе перш за ўсё праўду, аб'ектыўнасць і, як вы правільна сказалі, сумленне.

Чаму мастакі майго пакалення заўсёды ахвотна прымалі сацыяльны заказ і не адчувалі ніякай зняваги? Таму, што гэта адпавядала і нашаму ўнутранаму стану.

### *Не ілюстраванне, а мастацкае напаўненне кнігі*

**— Георгій Георгіевіч, у свой час Вы вельмі актыўна займаліся афармленнем кніг — беларускіх, рускіх, замежных аўтараў. Як Вы лічыце: гэта таксама своеасаблівая форма сацыяльнага заказу ці самастойны, паўнацэнны напрамак мастацкай творчасці?**

— Як вам сказаць... Канечне, гэта заказная работа, бо мастак не сам выбірае тэму. Яго запрашаюць у выдавецтва, прапаноўваюць зрабіць ілюстрацыі да пэўнай кнігі. У гэтай кнігі ёсць свае героі, якія дзейнічаюць у канкрэтных абставінах.

Ёсць свой сюжэт і часовыя рамкі.

Мастак вымушаны ці абавязаны ўлічваць усе гэтыя рэаліі. Ён ужо не настолькі самастойны, каб рабіць, што яму хочацца. Узяць, скажам, чэхаўскую Каштанку. Гэта ж не хорт, не балонка. Гэта — разумная кудла. І я абавязаны маляваць менавіта такога сабаку.

Або возьмем герояў гогалеўскіх «Мёртвых душ» — Плюшкіна, Сабакевіча, Каробачку... У кожнага з іх ужо выразна акрэслены характар, дадзены яркі, адпаведны вобраз. Роля мастака тут заключаецца толькі ў тым, каб гэтыя вобразы як можна лепш данесці да чытача.

Тым не менш у гісторыі графічнай культуры, гісторыі ілюстрацыі ёсць такія прыклады, калі мастак настолькі захапіўся ідэяй кнігі, настолькі ўжыўся ў яе мастацкія вобразы, што не проста праілюстраваў падзеі, выкладзеныя аўтарам, не проста графічна паказаў дзейных асоб, а значна абагаціў іх, унёс у іх бачанне нешта сваё і досыць істотнае.

Класічны прыклад — ілюстрацыі выдатнага французскага мастака Гюстава Дарэ да геніяльнага рамана Сервантэса «Дон Кіхот». Вобраз галоўнага героя, створаны гэтым таленавітым мастаком, стаў свайго роду эталонам, сапраўднай мастацкай з'явай.

Многія пасля спрабавалі маляваць Дон Кіхота, аднак пераадолець сілу ўплыву і прыцягальнасці Дарэ не змаглі. Нават непрадказальны бунтар Далі вымушаны быў у сваіх фантазіях паўтарыць знойдзены вобраз.

Вось што такое сапраўдная ілюстрацыя! І, канечне ж, падобныя работы — гэта ўжо з'явы высокага мастацтва.

**— А вось калі браць нашу паўсядзённую практыку — ілюстрацыя не псуе мастака, ці не губляе ён пры гэтым свой твар, свой творчы воблік?**

— Не, не, ніякім чынам. Калі зноў-такі звярнуцца да гісторыі мастацтва, то мы знойдзем мноства таму прыкладаў. Вось, скажам, выдатны рускі мастак Валянцін Сяроў. Вялікі партрэтыст. Цудоўны жывапісец. І раптам ён ілюструе байкі Крылова. Прычым настолькі захапіўся гэтай працай, што амаль без перапынку займаўся ёю на працягу некалькіх гадоў.

Сучаснікі, сябры Сярова, дзівіліся: што здарылася з мастаком? Чаму ж ён заняўся працай, што абсалютна яму неўласцівая? Можа быць, ён ужо вычарпаў сябе як жывапісец?

Не, проста чалавеку абрыдла займацца адным і тым жа. Ну, стаміўся ён ад партрэтаў. І вось рашыў паспрабаваць свае сілы ў зусім новай справе, убачыў якісьці іншы шлях творчасці, якісьці новы спосаб выказаць сябе. І дасягнуў ашаламляльных вынікаў. Стварыў 96 дзівосных па сваёй выразнасці афортаў, якія і да сённяшняга дня з'яўляюцца непераўзыдзенымі ўзорамі ілюстрацый крылоўскіх твораў.

Або возьмем іншага, больш блізкага да нас мастака — Дзяменція Шмарынава. Народны мастак СССР, акадэмік, цудоўны жывапісец. І практычна ўсё сваё жыццё займаўся афармленнем кніг. Атрымаў самае шырокае прызнанне. За ілюстрацыі да рамана Л. Талстога «Вайна і мір» яму была прысуджана Ленінская прэмія.

**— Чаму ж тады да гэтага віду работ у некаторых мастакоў даволі пагардлівыя адносіны?**

— Я б гэтага не сказаў. Хутчэй не пагардлівыя, а раўнівыя адносіны. Тут, бадай, той жа выпадак, што і з сацыяльным заказам. Не кожны можа перажыць, што вось хтосьці побач паспяхова супрацоўнічае з выдавецтвамі, напружана працуе, мае гарантаваную аплату.

Але ж і не кожнаму такая праца пад сілу. І не таму, што не хапае таленту, а хутчэй за ўсё па прычыне спецыфічнага характару працэсу ілюстравання.

І хоць я жывапісец па адукацыі, але я заўсёды любіў малюнак, гравюру, афорт. Больш таго, мне так палюбілася ілюстрацыя, што я пачаў аддаваць ёй амаль увесь свой рабочы час.

У тыя гады я быў у дружбе з многімі вядомымі беларускімі пісьменнікамі і паэтамі — Іванам Мележам, Аркадзем Куляшовым, Васілём Быкавым, Уладзімірам Караткевічам, Янкам Брылём, Алесем Адамовічам, Аляксеем Кулакоўскім, Міколам Лупсяковым...

Акрамя мінскіх выдавецтваў, мне нярэдка рабілі заказы і маскоўскія. Я, напрыклад, афармляў юбілейны аднатомнік Васіля Быкава, «Палескую хроніку» Івана Мележа і іншыя кнігі.

**— Не шкадуеце, што з-за гэтага жывапіс у Вас застаўся як бы ўбаку?**

— Ну, чаму ж убаку... Я ўвесь гэты час працягваў пісаць і жывапісныя палотны. Нядаўна вось у мяне была юбілейная выстаўка, мне было што паказаць.

Але графіка, безумоўна, займае ў маёй творчасці асноўнае месца. І я не толькі аб гэтым не шкадую, але і ўдзячны лёсу, што так атрымалася. Гэта работа прыносіла і прыносіць мне сапраўдную радасць. Таму што, калі да яе адносіцца з усёй сур'ёзнасцю, з любоўю і натхненнем, для мастака ў ілюстрацыі адкрываецца прастора незвычайная. Па вялікім рахунку — гэта ўжо нават не ілюстраванне, а самастойнае мастацкае пераасэнсаванне літаратурнага тэксту.

## *Права на эксперымент*

**— Вернемся да Вашай думкі аб тым, што мастак не можа стаяць убаку ад грамадска-палітычнага жыцця, ад тых падзей і з'яў, якія адбываюцца вакол яго. У адваротным выпадку ён губляе сувязь з народам, збядняе і высушвае свой талент. Чаму ж тады даволі жывучая тэорыя гэтак званага чыстага мастацтва? Чаму пэўная частка мастакоў працягвае настойваць на сваёй поўнай свабодзе ад усяго і ўсіх, а тлумачаць гэта тым, што, маўляў, творца не павінен умешвацца ў палітыку, не абавязаны распрацоўваць якія б там ні было тэмы, праблемы, ідэі, ён можа толькі выказваць сябе, свае эмоцыі, выхоўваць у гледача пачуццё цудоўнага?**

— Я не прыхільнік дзяліць мастацтва на левае і правае, на чыстае і нячыстае. Ільф і Пятроў калісьці сказалі пра грошы: або яны ёсць, або іх няма. Тое ж самае можна сказаць і аб мастацтве: або яно ёсць, або яго няма.

Сама па сабе ідэя чыстага мастацтва, «мастацтва для мастацтва» як быццам нежыццёвая. Ёсць нават знішчальна-грэблівы тэрмін — «салонны мастак».

Аднак і ў гэтым напрамку ёсць нямала цудоўных твораў, сапраўдных шэдэўраў. Імі любуюцца, імі захапляюцца, яны прыносяць нам сапраўдную эстэтычную асалоду.

Таму сказаць адназначна, што «мастацтва для мастацтва» — гэта дрэнна, а вось сацыяльнае мастацтва — гэта добра, я не магу. Усё залежыць ад таго, у чыіх руках, у чыім выкананні і тое, і другое. Бываюць сацыяльныя, заказныя работы так далёкія ад сапраўднага мастацтва, што, правісеўшы тыдзень-другі на выстаўцы, яны тут жа знікаюць у небыцці. Гэта работы — аднадзёнкі.

А бывае твор фармальна як бы і не адлюстроўвае нейкіх сацыяльных праблем, але ён выкананы прафесійна, таленавіта — абуджае ў гледача пачуццё цудоўнага.

**— І ў той жа час...**

— Так, так, і ў той жа час, канечне ж, увесь змест мастацтва нельга зводзіць толькі да выказвання думак. Мы жывём не толькі ў цудоўным, але і ў жорсткім свеце. Ідзе напружаная сутычка ідэй, адчайная барацьба дабра і зла. Не заўважаць усяго гэтага, выключыць яго са сферы мастацтва — значыць, ігнараваць логіку жыцця, яго дыялектыку.

У гэтай сувязі хачу прывесці адну цытату. Вось яна: «Толькі пачуццё грамадкасці дае сілу мастаку і падзесяцярае яго сілы... і толькі ўпэўненасць, што праца мастака і патрэбная, і дарагая грамадству, дапаможа выспяваць экзатычным расліням, што называюцца карцінамі. І толькі такія карціны будуць ствараць гонар і сучаснікаў, і патомкаў».

Гэта сказаў вядомы рускі мастак Крамской. А як сучасна і актуальна гучаць гэтыя словы!

**— Так, несумненна. Толькі ці кожнаму творцу дадзена гэтае пачуццё — пачуццё грамадкасці?**

— Можа быць, і не кожнаму. Ды гэта, бадай, і не абавязкова. Але адна справа, калі «не дадзена», і іншая — калі чалавек свядома адгароджваецца ад праблем свету. Бо што ўзбагачае мастака, што сілкуе яго творчасць? Рэальнае жыццё ва ўсёй складанасці і шматграннасці. І калі гэтае жыццё не выклікала водгуку ў душы мастака, калі ён не знайшоў у ёй герояў сваіх будучых твораў, то можна толькі шкадаваць аб яго сацыяльнай слепаце.

**— Георгій Георгіевіч, а ці не супярэчыце Вы самі сабе, калі кажаце аб сацыяльнай слепаце і ў той жа час сцвярджаеце, што мастак мае права і на «чыстае мастацтва»?**

— Я не супярэчу, а прызнаю права і за тым, і за гэтым напрамкам. Гледзячы як разумець сацыяльнасць, грамадскасць. Для мяне гэтыя разуменні звязаны перш за ўсё са станам душы мастака, яго светаадчуваннем.

**— Іншымі словамі, усё залежыць ад ступені таленту?**

— І ад таленту, і ад глыбіні ведання жыцця. Я не адкрыю вялікага сакрэту, калі скажу, што ў некаторых творцаў досыць мізэрны запас ведаў аб сваёй краіне. Яны жывуць у замкнутым прафесійным коле, варацца ва ўласным соку. І гэта непазбежна прыводзіць да пэўнай творчай вышчэрбнасці. Адсюль гэтыя істэрычныя патрабаванні абсалютнай свабоды самавыказвання, без якіх бы там ні было ідэйна-творчых крытэрыяў і без якой-небудзь грамадзянскай адказнасці перад народам. Адсюль імкненне падмяніць няпростую для іх рэалістычную вобразнасць суб'ектыўнымі знакамі, сумніцельнай сімволікай і іншай мішурой.

**— У першыя гады Савецкай улады найбольш тэмпераментныя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі нават выступілі са спецыяльным маніфестам, у якім грамавержна аб'явілі, што старое мастацтва сябе аджыло, вычарпала, і трэба ўсё пачынаць спачатку.**

— Па сутнасці гэта быў заклік да разбурэння, да распаду. Трэба, маўляў, шукаць і новыя формы, і новы змест. Існы свет ламаць, драбіць на прызмы, квадраты і іншыя дэструктыўныя формы, а замест партрэта чалавека рабіць мазаіку.

Канечне, абсурднасць гэтых дэкларацый сягоння відавочная. Гэта тое ж, калі б выступіць з патрабаваннем спаліць усе кнігі, усе бібліятэкі і пачаць ствараць новую літаратуру. Але ў той час падобныя маніфесты многімі ўспрымаліся даволі сур'ёзна.

Своеасаблівым пунктам адліку стаў шырокавядомы «Чорны квадрат» Малевіча. Нямала шуму нарабілі сваімі супернаватарскімі творамі Кандзінскі, Тышлер, Фальк.

Але зноў-такі я не хачу сказаць, што ў гэтым руху ўсё было выключна негатыўным. Смелы творчы эксперымент, пошук новых формаў выказвання прынёс і пэўныя станоўчыя вынікі. А ў шэрагу выпадкаў — проста цудоўныя вынікі. Менавіта цудоўныя.

Нядаўна ў Маскве прайшла выстава старых работ маскоўскіх жывапісцаў з аб'яднання «Бубновы валет». Як вы ведаеце, мастакі гэтага аб'яднання адмаўлялі традыцыі акадэмізму, рэалізму і вялі пошук у духу постімпрэсіянізму. Яны спрабавалі шляхам колеру, яркіх, адкрытых фарбаў адлюстраваць напружаны свет.

Ніякіх сацыяльных карцін у іх, канечне ж, няма. Пераважаюць пейзажы, нацюрморты. Але што прыцягвае і заінтрыгоўвае ў гэтых работах? Ашаламляльная гармонія колеру. Я хадзіў па выстаўцы як зачараваны — гэта было так святочна, так здорава!

**— Ці не азначае гэта, што любы эксперымент у мастацтве мае сваю карысць?**

— Так, канечне. Я перакананы: ён абсалютна неабходны. Без гэтага няма развіцця, немагчымы які-небудзь рух наперад.

Такім чынам, скажам, у XIX веку на змену беспрадметнаму мастацтву — абстракцыянізму — прыйшоў сюррэалізм. Прыйшоў невыпадкова. У тагачасным заходнім грамадстве была нейкая самота па выказванні больш глыбокіх пачуццяў. Аднак сюррэалізм — гэта не проста вяртанне да ранейшага рэалізму, а яго якасна новы ўзровень. Гэта было адлюстраванне нейкіх падсвядомых чалавечых пачуццяў, спалучэнне рэальнага і нерэальнага, фантасмагарычнага. Як, напрыклад, у Сальвадора Далі.

Мне ў свой час пашчасціла пабываць на выставе гэтага геніяльнага мастака. Ён, безумоўна, гіперрэаліст. З пункту гледжання майстэрства кожны яго твор зроблены ашаламляльна. Хаця сам сюжэт, бывае, не паддаецца нармальнаму ўспрыняццю. Гэта нейкі замагільны свет, нейкае надзвычай суб'ектыўнае бачанне сваіх асабістых праблем. Цяжка нават расшыфраваць, што ўсё гэта значыць.

**— Сальвадор Далі, Іеранім Босх... Можна назваць яшчэ шэраг імёнаў. Скажыце шчыра, чаго ў гэтых работах больш — геніяльнасці ці душэўнай хваробы? А можа быць, гэта элементарнае абдурванне? Мне ў сувязі з гэтым згадваецца адно досыць характэрнае выказванне Пікасо. Ён казаў, што па-**

**куль маляваў упаўне рэалістычныя карціны, яго ніхто не прызнаваў. Але як толькі ён пачаў прыдумваць розныя рэбусы, загадкі, арабескі, да яго прыйшлі і слава, і грошы, і ўсё астатняе.**

— Геній — гэта заўсёды адхіленне. Але не ўсякае адхіленне геніяльнае. У мастакоў, якіх вы нагадалі, ёсць несумненныя прыкметы геніяльнасці. А што датычыцца зместу іх карцін, то я, як нармальны чалавек, гляджу на гэта і стараюся разабрацца і зразумець — гэты «пошук» у імя чаго і для якой групы гледачоў ён прызначаны. Для мяне эталонам, вышэйшым узорам мастака з'яўляюцца старыя майстры эпохі Адраджэння — Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Батычэлі, Перуджына і г. д. І, канечне, майстры рускага рэалізму.

Я дастаткова цярпімы да любых напрамкаў і праяўленняў у мастацтве. Гэта як кветкі на лузе: чым іх больш, тым лепш. Нельга ўсё кветкавае багацце зводзіць да адной монакветкі. І разам з тым нельга кветку прыраўноўваць да пустазелля. У мастацтве, пры ўсёй разнастайнасці метадаў і напрамкаў, павінна быць галоўнае, вызначальнае, прыярытэтнае.

## *Рэалізм і праўда жыцця*

**— І якому ж з творчых напрамкаў Вы аддаяце перавагу?**

— Канечне, рэалізму. І не таму, што я — мастак старэйшага пакалення, мастак рэалістычнага напрамку і абараняю сваю пазіцыю. Лепшыя творы, якія прайшлі выпрабаванне часам, ствараліся ў рэалістычнай манеры.

Суб'ектывізм заўсёды ўспрымаўся дрэнна і дасягненнем ніколі не лічыўся. Ёсць усё-такі якісьці аб'ектыўны погляд на свет, на прыроду, на чалавечыя ўзаемаадносіны. Дакладней, рэалістычны погляд на акаляючую нас рэчаіснасць.

Акрамя таго, мы не можам пазбегнуць сацыяльнага напрамку ў сваёй творчай працы. Сацыяльныя тэмы закраналіся ў любую эпоху, нават у сярэднявеччы. Па карцінах старых майстроў мы сягоння аб многім можам меркаваць — аб тым часе, аб стане грамадства, аб чалавеку, аб архітэктуры і пейзажы, гэта зна-



*У вяскоўцаў-браслаўчан.*

чыць аб рэальным свеце. Мы выхоўваліся на рэалістычным мастацтве, і гэты рэалізм у нас у крыві.

**— Георгій Георгіевіч, разам з тым у творчым асяроддзі ніколі не было, няма і, напэўна, не будзе адзінага разумення, што такое рэалізм. А як Вы сфармулявалі б сваё вызначэнне гэтага мастацкага метаду?**

— Ну, я ж не мастацтвазнаўца *(смяецца)*, але я знаю адно: рэалізм — гэта зусім не сістэма напрацаваных мастацкіх прыёмаў. Гэта нават не напрамак. З майго пункту гледжання, гэта хутчэй светаўспрыняцце, светаадчуванне, светапогляд мастака. Гэта — здольнасць бачыць свет і яго ўзнаўляць у меру сваіх прафесійных магчымасцей.

**— А вось праціўнікі такога спосабу адлюстроўваць свет кажуць адваротнае.**

— Шмат чаго кажуць... У кожнай з'явы ёсць прыхільнікі і ёсць праціўнікі. Але разам з тым, нягледзячы на суб'ектывізм меркаванняў, рознасць поглядаў, ёсць, як я ўжо адзначаў, і нейкія аб'ектыўныя рэчы, якія немагчыма абысці, а тым больш адмяніць.

Дык вось, што тычыцца рэалізму, то гэта такая ж аб'ектыўная, самадастатковая сістэма. І нельга да яе адносіцца зняважліва, з пагардай. Маўляў, гэта фатаграфія, непаўнацэннае мастацтва. Або яшчэ горш — своеасаблівыя шоры, якія перашкаджаюць бачыць і адлюстроўваць свет так, як пажадаецца толькі мне!

Што можна падобным крытыкам адказаць? Гэта або поўнае неразуменне рэалізму як творчага метаду, або свядомае яго перакручванне, адурманьванне.

Вось, скажам, мастацтва Егіпта. Гэта ж чысты рэалізм. Тысячагоддзі прайшлі, а ён нам не надакучыў. Нам цікава глядзець на старажытнейшыя творы, бачыць у іх воблік чалавека таго часу, у якім ён жыў.

Або тое ж мастацтва старажытнай Грэцыі, Індыі, Кітая. І яно ўсім нам падабаецца. Але гэта ж таксама рэалізм.

Што датычыцца шораў, то гэтае абвінавачанне зусім несправядлівае. Рэалізм — вельмі рухомая катэгорыя, яна мяняецца ў залежнасці ад задач часу, ад асобы мастака. Гэта даволі адкрытая сістэма, якая ўбірае ў сябе ўсе лепшыя дасягненні, напрацаваныя іншымі метадамі. У свой час на гэтую тэму французскі пісьменнік і філосаф Ражэ Гарадзі нават напісаў кнігу «Рэалізм без берагоў», якая ў нас, у СССР, нарабіла нямала шуму.

Аднак берагі ў рэалізме ўсё-такі павінны быць. Інакш ён можа страціць сваё рэчышча.

**— Вось-вось, як толькі аб гэтым заходзіць размова, дык адразу высоўваюць абвінавачванні ў кансерватызме, вульгарызатарстве.**

— Але рэалізм тут ні пры чым. Любую, самую цудоўную ідэю, тэорыю можна сапсаваць, давесці да абсурду. Усё залежыць ад выканаўцы. Калі адбылося дарожна-транспартнае здарэнне, то вінавата ў гэтым не машына і ўжо тым больш не правілы дарожнага руху. Так і ў нас, у мастацтве. Калі карціна прымітыўная, убогая, шэрая, то справа не ў метадзе, а ў мастаку.

Вы ведаеце, мастацтву заўсёды шкодзілі дзве крайнасці. З аднаго боку — бяздумная прыгажосць, нястрымны аптымізм і бадзёрасць, а з другога — суцэльнае крытыканства, ачарненне. Але гэтыя крайнасці нічога агульнага з рэалізмам не маюць.

Рэалістычнаму мастацтву шлях заўсёды паказвала толькі праўда. Сумленная, аб'ектыўная, глыбінная праўда жыцця. На жаль, гэтую праўду нярэдка адціскалі хлуслівая лакіроўка, падхалімажны сервілізм, нарэшце, самая звычайная бездухоўнасць. Гэта асабліва кідаецца ў вочы ў так званых «парадных» і культавых работах палітызаваных перыядаў у мастацтве.

У свой час бытавала нават пэўная канцэпцыя, якую ў нашых колах ахрысцілі гіперрэалізмам. Згодна з гэтай канцэпцыяй, на першы план вылучалася знешняя праўдзівасць формы, адмаўлялася любая ўмоўнасць, метафара, асацыяцыя, абвостраная экспрэсія пластыкі. У сілу гэтага практычна перакрэсліваліся

ўсе пошукі і знаходкі сусветнага і рускага мастацтва. На самай справе такі дагматызм пазбаўляў жывога дыхання наша мастацтва, заганяў яго ў правінцыйны кансерватызм.

Але пры чым тут рэалізм?

**— Згодзен, ні пры чым. Хто ж тады вінаваты ў падобных заганах пашага мастацтва?**

— Хто вінаваты?.. Я думаю, што гаворка тут можа весціся не толькі пра віну, колькі пра бяду. Наша агульная бяда ў тым, што сярод тых, хто кіруе нашай культурай, мала людзей па-сапраднаму кампетэнтных, эстэтычна адукаваных. Для іх на першым месцы — чысціня ідэі. А любая ідэя ў мастацтве пераламляецца вельмі спецыфічна. І гэтую спецыфіку трэба вельмі тонка разумець і заўсёды мець на ўвазе.

З другога боку, і ў творчым асяроддзі нямала мастакоў, як казаў паэт, «без божества, без вдохновенья». Іншымі словамі — рамеснікаў у горшым сэнсе гэтага слова. Усё ў сукупнасці і прыводзіць у шэрагу выпадкаў да сумных вынікаў.

**— Георгій Георгіевіч, а ці павінен наогул хто-небудзь кіраваць мастаком — няхай гэта дзяржаўны орган ці творчы саюз?**

— Ну, у прамым сэнсе кіраваць, можа, і не павінен. А вось дапамагаць, накіроўваць — абавязкова. Бо мастацтва — гэта магутны сродак уздзеяння на розум і на душу чалавека. І, канечне, дзяржаве не ўсё роўна, як, у якім напрамку — у разбуральным альбо стваральным — гэта ўздзеянне адбываецца, якім сілам — дабра альбо зла — яно служыць.

Калі вы хочаце ведаць маю думку, то я скажу шчыра: не адкідваючы розныя мастацкія метады, не пазбаўляючы права мастака на творчы, наватарскі пошук, дзяржава ўсё ж павінна падтрымліваць перш за ўсё асноўную, магістральную лінію развіцця нашага мастацтва — рэалізм. Бо шматвяковы вопыт сусветнай мастацкай культуры пераканаўча сведчыць: толькі рэалістычнае мастацтва здольнае з максімальнай паўнатой адлюстраваць рэальную падзею, ярка і наглядна паказаць чалавека, які жыве ў тую ці іншую эпоху, зафіксаваць важныя, істотныя з'явы працы і быту.

Канечне, нельга пры гэтым усіх паставіць у шарэнгу і сказаць: «Будзьце рэалістамі»! Кагосьці ў сілу свайго характару, псіхалагічных асаблівасцяў, па складу розуму і душы вабіць да іншых напрамкаў! Калі ласка! Але не патрабуйце тады ад дзяржавы большага, чым яна можа вам даць, а то ў нас часам хочуць і ў апазіцыі быць, і атрымліваць ад улады усе даброты — ардэнок, званне, прэмію...

Я лічу — калі твае погляды, перакананні, прынцыпы супадаюць з асноўнымі палажэннямі, якія ляжаць у аснове развіцця нашай дзяржавы, то і тварыць павінен у гэтай сістэме каардынат. Не супадаюць — тады жыві сваім жыццём, не прэтэндуй на штосьці большае. Знайдзі сабе спонсараў, знайдзі сваю нішу — і твары! І не дакарай тых, хто працуе ў іншай сістэме.

Але і ў тым, і ў другім выпадку ад мастака патрабуецца перш за ўсё высокі прафесіяналізм, каб мастацтва было па-сапраўднаму мастацтвам, а не кан'юнктурай або салоннымі падробкамі. Заўсёды ёсць формы, асновы сапраўднага мастацтва і нельга імі грэбаваць — ні школай, ні традыцыямі, ні вопытам папярэдніх пакаленняў, ні прыкладам сённяшніх майстроў.

Я не хачу гэтым сказаць, што нам, мастакам, якія ўжо сёе-тое зрабілі ў сваім жыцці, поспех дае права быць аракуламі. Тым не менш мы дастаткова пабачылі на сваім вяку ўсялякага, розных узораў і сапраўднага мастацтва, і кан'юнктурнага, каб строга судзіць тых, хто лёгкаважкі, але распускае, як пава, пёры, захапляецца сваім «наватарствам», што нібы прэтэндуе на мастацкія адкрыцці.

Але адкрыцці так проста не робяцца. Ім спадарожнічае многае, і не толькі з'яўленне Генія ў сціплай сям'і абывацеляў.

Усё супадае толькі ў выпадку палітычных і сацыяльных рухаў у краіне або ў свеце. У гэта ўваходзяць нават інтэлектуальныя набыткі, напрыклад, у сувязі з



*У. Мулявін у майстэрні Г. Паплаўскага.*

развіццём, хутчэй «узлётам» тэхнакратыі, як гэта адбылося ў XIX стагоддзі, або, скажам, расійскія рэвалюцыі XX стагоддзя.

**— Вы сказалі, што мастака-рэаліста адрознівае перш за ўсё высокі прафесіяналізм. Што Вы ўключаеце ў гэтае разуменне?**

— Ну, па-першае, чалавек павінен нарадзіцца мастаком. Гэта — дар ад прыроды. Можна чалавека зрабіць добрым рамеснікам, але ўзнагародзіць талентам немагчыма. Хаця я нічога не маю супраць рамяства. Гісторыя ведае нямала выдатных рамеснікаў, асабліва ў графіцы, у скульптуры, у метале. Але зноў-такі рамеснік без мастака — гэта не самае высокае мастацтва, гэтак жа, як і мастак без высокага рамяства ніколі не дасягне вяршынь у сваёй творчасці.

Далей. Прафесіяналізм складаецца з добрага ведання азоў, асноў выяўленчага мастацтва, і найперш — законаў, сакрэтаў каларыстыкі. Таму што фарбаў многа, а скласці з іх можна альбо букет, альбо мазню.

А яшчэ ёсць непарушныя законы кампазіцыі. Карціна павінна быць выразная, успрымацца нават на адлегласці. Вока чалавека ўжо здалёк павінна выхопліваць яе як нейкі знак, які ці радуе, ці трывожыць. І па меры таго, як глядач падыходзіць да карціны, ён ужо вызначае кампазіцыйны прыём і адчувае сілу эмацыянальнага ўздзеяння. Яно бывае станоўчым або адмоўным. І вось тут мы падышлі да яшчэ аднаго складніка прафесіяналізму — пачуцця меры. Гэта мера якраз і ёсць той узровень, які і адрознівае талент ад пасрэднасці.

Ну і, канечне ж, мастаку-рэалісту патрэбна глыбокае веданне жыцця, неабходна мець ясныя маральныя і ідэйныя пазіцыі, высокі ўзровень агульнай культуры.

Чаму гэта неабходна? Таму што для рэалістычнага мастацтва важны не сам факт звароту да той ці іншай жыццёвай з'явы, а яго мастацкая інтэрпрэтацыя, несумненнасць унутранага выбару, здольнасць аўтара за асобным, прыватным фактам, падзеяй убачыць іх агульначалавечае значэнне, здолець праз індывідуальную асобу адлюстраваць мнагазначнасць, гістарычнасць.

Вось, калі ўсе гэтыя складнікі ў наяўнасці, калі мастак валодае ўсімі гэтымі якасцямі, тады і нараджаецца твор сапраўднага мастацтва.

## *Служыць або не служыць?*

**— Георгій Георгіевіч, памятаеце, у савецкі час усе важнейшыя партыйныя дакументы, што тычыліся пытанняў культуры, абавязкова ўтрымлівалі прыкладна такога роду заклікі-заклінанні: мастак абавязаны... савецкае мастацтва павінна... І далей ішоў доўгі пералік таго, што яно абавязана і павінна зрабіць. Часам гэты пералік быў надзвычай катэгарычны.**

**У часы перабудовы, наадварот, у грамадскую свядомасць актыўна ўкараняліся ляваццкія лозунгі: ніхто нікому нічога не вінаваты. Мастак — вольная птушка, ён спявае толькі па загадзе душы. І чым менш у яго творы ўсялякіх ідэй — тым лепш.**

**А якія ідэйна-мастацкія ўстаноўкі ў вашых асяроддзі сягоння?**

— Але ж, няпростае пытанне... Паколькі ў сілу свайго ўзросту я ўжо не так актыўна ўдзельнічаю ў грамадскім жыцці нашага саюза, то і адказаць на гэтае пытанне з усёй паўнатой наўрад ці змагу. Скажу, як я разумею, зыходзячы з агульных назіранняў.

Канечне, атмасфера ў нашым асяроддзі сягоння ўжо больш спакойная, узважаная, чым у перабудовачныя гады. Страсці больш ці менш уляглiся. Тым не менш саюз наш так і не стаў супольнасцю аднадумцаў. Абюракрачванне яго кіраўнікоў, якое рэзка кідаецца ў вочы, спарадзіла сумную з'яву — групаўшчыну, адстайванне інтарэсаў па прынцыпе прыналежнасці да групы «свой — чужы».

Зрэшты, «групаўшчына» з'ява не новая. Былі, напрыклад, перасоўнікі, «Свет мастацтва», «Бубновы валет». Але гэта зусім іншае. Тады гэтыя групы адстойвалі свае творчыя пазіцыі, распрацоўваючы тэарэтычныя трактаты і нават лозунгі, абаранялі іх, сцвярджалі іх перавагу. У наш жа час размова ідзе аб адстойванні інтарэсаў, якія часцей за ўсё не звязаны з ідэйнымі перакананнямі.

Мы неяк і самі не заўважылі, як адбыліся далёка не самыя лепшыя перамены. І галоўная з іх, можа быць, тая, што саюз як сістэма, закліканая да аб'яднання, пачаў ператварацца ў сістэму раз'яднання.

На жаль, гэтыя перакосы ў нашым мастацкім жыцці прывялі да скажэнняў у свядомасці, а ў выніку і да адпаведных учынкаў. Склалася сітуацыя, калі на першае месца выйшлі асабістыя меркантыльныя інтарэсы. Сфарміравалася думка, што здольнасць «прабіваць» вядзе да поспеху больш пэўна, чым талент. Для некаторых гэта стала неабходнасцю і нават формулай жыцця.

Прыкладна тое ж адбываецца і пры ацэнцы твораў, пры вызначэнні іх далейшага лёсу. Цаны як такой у нас няма — мастацкасцю яна не вызначаецца. Проста ідзе нейкае ўсярэдненае размеркаванне сродкаў сярод членаў групы «сваіх».

**— Але ж такая атмасфера не можа не ўплываць на вынікі працы.**

— А яна і ўплывае. Скажам, многія мастакі рэалістычнага напрамку грашаць лабавым вырашэннем тэмы, фактаграфічнасцю, прыкрай рэпартажнасцю. Нельга публіцыстычнасць пераносіць на выяўленчае мастацтва, пазбаўляючы яго тым самым вельмі важнай функцыі — філасофскага засваення быцця, чалавечай сутнасці. Разумееце, не можа і не павінен мастак адказваць на злабадзённыя пытанні як фотарэпарцёр.

Адсюль, з гэтага аблегчанага, павярхоўнага разумення ролі мастацтва ў грамадскім жыцці, выцякае другая бяда — адсутнасць зместу. Падобнага роду работы зусім пазбаўлены натхнення, ім не хапае напружання, вастрыні адчування; іх вызначае беднасць пачуццяў і думкі.

Яшчэ адна непажаданая тэндэнцыя — залішняе імкненне да эпатажу. Асабліва гэтым пакутуюць маладыя мастакі. Па сутнасці, гэта з'ява растлумачальная: не маючы дастатковага таленту, жыццёвага вопыту, яны спрабуюць звярнуць на сябе ўвагу іншым спосабам — экстравагантнасцю формаў. Вынік сумны: у такіх работах няма ні вялікіх ідэй, ні яркага самавыказвання — адна толькі закадзіраваная ілжэзначнасць.

Адсутнасць строгага мастацкага кантролю, прынцыповай крытыкі прывялі і да такой непрыемнай заганы, як эпігонства. Бываючы на розных выставах,

радуючыся ўдалым таленавітым творам сваіх калег, я разам з тым не магу не засмучацца работам, у якіх відавочныя другаснасць, несамастойнасць, адкрытая падражальнасць або нават бессаромнае перайманне фарматворчасці з часопісаў 60-гадоў.

Словам, калі гаварыць абагулена, у мяне як мастака і грамадзяніна выклікае трывогу той факт, што ў нашым сучасным выяўленчым мастацтве занадта вялікі працэнт работ, дзе замест праўды — голая кан'юктура, замест наватарскіх рашэнняў — захапленне модай, а глыбокі, натхнёны пошук новага, актуальнага зместу падмяняецца панылым, бяскрылым эксперыментатарствам з чужой падачы. Атрымліваецца, як у народнай прымаўцы: Ванька дома — Манькі няма, Манька дома — Ванькі няма. Ёсць як быццам змест, але няма мастацтва, прысутнічае тэма, але без вобраза, ёсць вобраз, але не асоба, ёсць дасканаласць формы, але няма ідэйнай адухоўленасці.

**— Вы лічыце, што Саюз мастакоў мог бы больш актыўна працаваць па пераадоленні гэтых недахопаў?**

— Вядома! Ён жа ў свой час і рабіў гэта: рэгулярна наладжваў выставы, садзейнічаў сустрэчам маладых мастакоў з вядомымі майстрамі, арганізоўваў творчыя камандзіроўкі, клапаціўся аб будаўніцтве майстэрняў і кватэр для членаў саюза, за сімвалічную плату, а часам і бясплатна выдаваў пуцёўкі ў дамы творчасці, утрымліваў мастацкі камбінат, на адлічэнні ад даходаў якога набываліся лепшыя работы нашых калег.

Усе гэтыя формы работы давалі саюзу магчымасць далікатна, але досыць эфектыўна ўздзейнічаць на развіццё выяўленчага мастацтва.

Не ўтаю, было ўсякае. Усё залежала ад таго, хто стаяў каля руля нашага супольніцтва. Але ў любым выпадку станоўчага, стваральнага ў рабоце саюза мастакоў было непараўнальна больш, чым негатыўнага.

На вялікі жаль, за гады перабудовы мы многае страцілі. Дэмакратычны лозунг «свабода творчасці» многімі ўспрыняты як «творчая разбэшчанасць». І калі ў мінулым наш Саюз мастакоў уяўляў творчае аб'яднанне прафесіяналаў, імкнучыся быць аб'ектыўным выказнікам інтарэсаў грамадства, то сёння ён ператварыўся ў своеасаблівае аб'яднанне з абмежаванай адказнасцю, дзе кожны член адшуквае сабе нішу з большым прыбыткам, у якой можна дэманстраваць сваё суб'ектыўнае ўяўленне аб творчасці. Гэта суровая прыкмета часу.

Рынак захліснуў і нас. Знікла апека мастакоў «зверху». Дзяржава не можа ўсіх забяспечыць заказам. Густ і патрэбнасць вызначае рынак. І таму на выставах сёння побач з традыцыйным мастацтвам — авангард, сюррэалізм уперамешку з прымітывам, правінцыйны салон — з абстрактнымі галаваломкамі. За апошнія 15 гадоў не з'явілася ніводнага значнага, змястоўнага жывапіснага палатна або сур'ёзнай графічнай серыі, чым у мінулым славілася наша беларускае мастацтва.

Вось чаму сёння для ўсіх нас галоўнейшымі павінны стаць пытанні маральнай атмасферы нашых узаемаадносін, высокай ідэйна-прафесійнай патрабавальнасці, нашых асабістых чалавечых якасцей.

**— У вырашэнні гэтых пытанняў істотную ролю заклікана адыграць мастацкая крытыка, мастацтвазнаўства.**

— Крытыка, крытыка... Зноў жа, па вялікім рахунку, яе, гэтай крытыкі, у нас якраз і не існуе. Сапраўдных аналітыкаў, якія б разглядалі з'явы мастацтва ў кантэксце часу, — такіх аналітыкаў няма.

«Крытыка» бытуе не як размова аб мастацтве і прагнозах аб далейшых шляхах развіцця, а толькі як канстатацыя фактаў, пададзеная ў форме журналісцкага допісу для публікі.

Згадваецца час, калі мастацкія выставы суправаджаліся абмеркаваннем і тэарэтычнымі канферэнцыямі з удзелам такіх мастацтвазнаўцаў, як Пётр Нікіфараў, Андрэй Чагадаеў, Аляксандр Каменскі, Мюда Яблонская, Галіна Плятнова і многія іншыя. Абмеркаванне любых творчых пытанняў з іх удзелам ператваралася ў сапраўдную падзею. Разглядаючы нават адну канкрэтную карціну, яны

ўмелі паказаць месца і значэнне яе ў творчасці аўтара, у мастацкім працэсе рэспублікі. Усебакова адукаваныя, яны з ходу ўлаўлівалі недахопы і слабасці таго ці іншага твора, звярталі ўвагу на пэўныя тэндэнцыі ў развіцці сучаснага мастацтва. І калі каго-небудзь і крытыкавалі, то крытыкавалі паважліва, ацэнкі давалі аб'ектыўна, аргументавана. Гаварылі заўсёды ярка, вобразна, дасціпна.

Дзе гэта ўсё цяпер? Ні маскоўскіх, ні нашых, айчынных, крытыкаў не бачна і не чутна. Калі пайшлі з жыцця В. Шматаў, Л. Дробаў, то застаўся адзін П. Васілеўскі, ды і той выступае, як кажуць, «рады ў гады».

Нашай сённяшняй мастацкай крытыцы не хапае перш за ўсё сістэмнасці ў асвятленні падзей і з'яў мастацтва, умення бачыць іх ва ўзаемасувязі, у паслядоўнасці і заканамернасці развіцця. Яна не адрозніваецца шырынёй ахопу сучаснай творчай практыкі, філасофскай глыбінёй аналізу гэтай практыкі.

Я не паграшу супраць ісціны, калі скажу, што ў нашай крытыцы досыць мала аб'ектыўнасці. Яна бывае або кампліментарная, або залішне жорсткая. Такі суб'ектывістычны падыход прыводзіць да таго, што адных мастакоў неабгрунтавана вылучаюць, а іншых, гэтак жа неабгрунтавана, прыніжаюць або замоўчваюць зусім. Падобнае ўяўленне аб крытыцы як аб індывідуальным самавыказванні з прычыны той ці іншай з'явы мастацтва не такое ўжо і бяскрыўднае, як многія думаюць.

**— А Вы аб гэтым спрабавалі дзе-небудзь гаварыць?**

— Спрабаваў. І ў нашым саюзе, і ўдзяржаўных органах. Нічога істотнага, акрамя таго, што нажыў сабе лішніх нядобразычліўцаў, не адбылося.

**— І што рабіць далей?**

— Жыць і працаваць, не здраджваючы сваім маральным і прафесійным устаноўкам. Супрацьстаяць разбуральным тэндэнцыям у структуры творчых узаемаадносін.

**— Георгій Георгіевіч, я ведаю, Вы ведзяце курс у акадэмічнай майстэрні. Колькі маладых мастакоў на вашым апякунстве і якія прынцыпы іх вучобы і выхавання?**

— Колькасць вучняў ці, дакладней было б сказаць, стажораў, у розныя гады бывае розная, але ў сярэднім дзесьці чатыры-пяць чалавек. І займаюся я з імі тры гады. Аднак бывае, калі тэма ўзята цікавая, складаная і патрабуецца дадатковы час для яе ўвасаблення, вучобу з дазволу міністра культуры магу прадоўжыць на паўгода або нават на цэлы год. А бываюць выпадкі, на шчасце, дастаткова рэдкія, калі пасля выпрабавальнага тэрміну, г. зн. праз тры месяцы, чалавек не апраўдваў нашых надзей і яго даводзілася адлічаць. На вызваленае месца бяром наступнага вучня.

Нашы абітурыенты не старэй 35 гадоў, добра падрыхтаваныя і перспектыўныя. У нас жа не зусім звычайная навучальная ўстанова. Мы тут не вучым, як пісаць і маляваць. Мы спрабуем у маладога мастака, які ўжо мае прафесійную адукацыю, развіць яго патэнцыяльныя творчыя магчымасці. Да нас, у майстэрні, ён прыходзіць з якой-небудзь цікавай, сацыяльна значнай тэмай і на працягу двух-трох гадоў над ёй працуе. А я ў патрэбны момант кансультую яго, дапамагаю знайсці лепшы варыянт рашэння творчай задачы. Нярэдка гэта бывае вельмі і вельмі не лішнім, таму што яны хоць і амбіцыйныя, і бурляць ідэямі, але людзі яшчэ малавопытныя і не могуць саўладаць з гарачым жаданнем абняць неабдымнае, зрабіць адкрыццё. Жаданне, канечне, цудоўнае, але моцы і ўмення пакуль не хапае, і не ўсё з задуманага атрымліваецца. Тут мая дапамога якраз вельмі дарэчы.

**— Ці ахвотна да Вас, у майстэрні, ідуць займацца?**

— Так, з вялікім жаданнем, таму што ўмовы тут цудоўныя — у кожнага свая майстэрня. Выплачваецца прыстойная стыпендыя.

**— А хто вызначае кандыдатуры?**

— У савецкі час вызначаў я сам. Шукаў на абароне дыпломных, на выставах. Затым аддаваў дакументы ў Акадэмію мастацтваў СССР. Там кандыдатуры зацвярджалі і адкрывалі фінансаванне.

Сягоння, калі наша рэспубліка стала самастойнай, усё фінансаванне акадэмічных майстэрняў узяло на сябе Міністэрства культуры, для адбору таленавітай моладзі створана спецыяльная рада, куды ўвайшлі і прадстаўнікі міністэрства, і знакамітыя мастакі.

Але ўсё адно асноўны клопат па пошуку талентаў ляжыць на мне. Я прапаноўваю радзе кандыдатуры, паказваю іх работы, раблю заключэнне, што гэты мастак адпавядае акадэмічнаму напрамку. Мы ж імкнёмся захаваць рэалістычную, сацыяльную накіраванасць нашага мастацтва. Немалаважнае значэнне для нас мае і грамадзянская пазіцыя чалавека, таму што ўсё гэта потым абавязкова паўплывае на фарміраванне яго асобы ў творчасці.

**— Вам цікава займацца з моладдзю? Не шкада патрачанага часу? Вы ж забіраеце яго ў сваіх уласных работ.**

— Ну, па-першае, не ўвесь час, ад цямна да цямна, пішаш карціны; па-другое, калі і адрываешся для заняткаў з вучнямі, то гэта як пераход з аднаго працэса творчасці ў другі... А самае галоўнае — мне гэта цікава.

Вы ведаеце, у мяне даўні вопыт работы з творчай моладдзю. Цэлых дваццаць гадоў я займаўся гэтым у Саюзе мастакоў СССР. Мне аказалі давер'е, напэўна, таму, што ў тыя гады я быў яшчэ дастаткова малады, але меў ужо пэўны прафесійны вопыт і лягчэй знаходзіў агульную мову з маладымі.

Дужа цікавы быў час! Мы разам выязджалі на пленэры, праводзілі творчыя семінары. Сярод удзельнікаў гэтых семінараў былі прадстаўнікі ўсіх саюзных рэспублік. Паміж маладымі завязвалася цесная, шчырая дружба. Цёплыя, нефармальныя адносіны перарасталі ў моцнае сяброўства.

**— Хто-небудзь з вашых вучняў ужо заявіў аб сабе ў мастацтве?**

— Канечне, ёсць нямала маладых мастакоў, якімі я магу ганарыцца. Вылучыць каго-небудзь цяжка. Падобна, што агульны стан нашага мастацкага жыцця нівеліруе іх творчыя індывідуальнасці.

Зніклі нашы вялікія «манежныя» выставы-конкурсы ў Маскве, якія выяўлялі лепшых у шматлікім рознаплемянным асяроддзі. Зараз назіраюцца ўсплёскі асобных імёнаў у сувязі з удачай трапіць у Маскву або за мяжу.

Да нас прыходзяць маладыя дараванні пасля Акадэміі, гэта значыць, мастацкага інстытута, самыя здольныя, і таму іх далейшае прасоўванне залежыць ад выпадку, удачы, ініцыятывы, працавітасці.

## *Трэба ў розных краях пабываць*

**— Георгій Георгіевіч, ведаю таксама, што Вы ў свой час шмат падарожнічалі, пабывалі ў розных, іншы раз самых экзатычных кутках свету. А гэта — што для Вас: ахвота да перамены месц? неабходнасць новых уражанняў? своеасаблівая форма адпачынку?**

— Ніколі не задумваўся над гэтым. Што для мяне падарожжы? У адным выпадку гэта была неабходнасць — прапанавалі творчую камандзіроўку, у другім — самому захацелася пабываць у незнаёмай краіне, у трэцім — напэўна, і адпачынак, і праца.

Вось такім спалучэннем работы і адпачынку стала для мяне адна з першых, і бадай, самых памятных, самых яркіх паездак — паездка на гомельскае Палессе. А здарылася гэта вось чаму. Мы тады з Наташай, маёй жонкай, шмат працавалі над афармленнем кніг беларускіх пісьменнікаў, і ўвесь час адчувалі, што для больш прадметнага адлюстравання быту беларусаў, нацыянальнага каларыту нам не хапае канкрэтнасці, ведання сапраўдных рэалій. І вось спакваля зараджалася і ўсё мацнела жаданне паехаць куды-небудзь у глыбінку, пажыць у самай глухой вёсачцы, убачыць усё сваімі вачамі, памацаць, як кажуць, сваімі рукамі.

А тут і выпадак шчаслівы з'явіўся. Іван Мележ папрасіў Наташу аформіць яго раман «Подых навальніцы». І мы загарэліся: трэба ехаць! Менавіта туды, на Палессе, бліжэй да мележаўскіх мясцін.

Выбралі вёску Тонеж Лельчыцкага раёна. Тады гэта была самая сапраўдная глухамань. Толькі ўсюдыходам можна было даехаць. Але якія вакол цудоўныя мясціны! Якія цікавыя людзі! А ўжо што тычыцца прадметаў быту, дык Тонеж і яго ваколіцы сталі для нас сапраўдным Клондайкам. Чаго толькі мы там не «адкапалі»! І прыстасаванні для пракручвання ў саганку адтуліны цвіком. І унікальную, музейную ступу, у якой пры дапамозе асобнай сістэмы шарніраў можна таўчы крупы нагой. І дзівоснай прыгажосці старадаўнія паляшуцкія касцюмы. І тут жа ўсе прыстасаванні для вырабу адзення — кросны, прасніца, мялка, драўляны прас... Мы ўвачавідкі ўбачылі ўсе сялянскія рамёствы. Асабліва здзівілі нас ганчарныя вырабы, пляценні з лазы і саломкі. Да чаго ж багаты і таленавіты наш народ! Частку унікальных прадметаў мы набылі, а частку замалявалі, падрабязна апісалі. І я, і Наташа да гэтага часу карыстаемся тымі запісамі, тымі замалёўкамі. Паверце, гэта сапраўды неацэнны матэрыял.

Вельмі многае дала нам Браслаўская зямля. Там, у Рацюнях, каля Масковіч, купілі мы стары хутар, перабудавалі яго пад майстэрню з вялікім акном на возера.

Багата гадоў гэтыя мясціны былі нашым пленэрам. Рабілі замалёўкі, эцюды, кампазіцыі. Атрымаўся бясконцы цыкл акварэляў — «Браслаўскі альбом», які пазней быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

**— А якая самая яркая з вашых замежных паездак?**

— Ды яны ўсе былі яркімі, цікавымі. Але, напэўна, часцей за ўсё на памяць прыходзіць Індыя. Таму, што я ў ёй быў некалькі разоў. І таму яшчэ, што я быў не проста турыстам, а ганаровым госцем. Мне выпаў вялікі гонар маляваць Індзіру Гандзі. Партрэт, выкананы мною, ёй спадабаўся, і мне былі аказаны ўсякія знакі павагі.

Ну і, канечне ж, незабыўнае ўражанне пакінула знаёмства з багацейшай і унікальнай індыйскай культурай. Мяне як мастака асабліва зацікавіла тое, што ў работах індыйскіх мастакоў шмат розных сімвалічных элементаў. Адлюстроўваецца, скажам, эпізод вяселля. Просты, на першы погляд, няхітры сюжэт, але ўвесь рытуал яны стараюцца напоўніць магічным зместам. Пан, напрыклад, паказваецца абавязкова высокім, светласкурым, сінявокім. Чэлядзь — трохі ніжэйшай і цямнейшай. Калі побач з панам знаходзіцца лебедзь, значыць, пан разумны і г. д.



*Віншаванне ад Прэзідэнта Інданезіі Мегаваці Сукарна Путры.*

Нават кароткі рух пальцаў, рух далоні мае сваё пэўнае значэнне. Уважліва таксама трэба прыглядацца, дзе, на якой частцы цела якая адлюстравана кветка або іншы малюнак. Для індуса ўсё гэта напоўнена глыбокім сэнсам. Гэта сімволіка, што ідзе ў глыбіню вякоў і самым цесным чынам звязана з нацыянальнай міфалогіяй, дае магчымасць чалавеку, які зусім неадукаваны, з вёскі, адчуваць сябе ў музеі лёгка і вольна. Ён ўсё бачыць і разумее.

Іншаземцу спачатку няпроста, але калі ён засвоіць гэтую няхітрую навуку сімвалаў, у яго быццам адкрываецца дадатковы, глыбінны зрок, і ён адчувае невыказнае задавальненне ад шэдэўраў індыйскага мастацтва.

У Інданезіі такое задавальненне, не, скажу нават больш — лёгкае ашаламленне я меў ад сузірання іх знакамітага цуду архітэктуры — грандыёзнага храма Барабудур, узведзенага ў канцы VIII — пачатку IX веку. Унікальнасць яго ў тым, што пабудаваны ён без цэменту і вапны, камень да каменя, і мае выгляд квадратнай прыступкавай піраміды вышынёй ў 32 метры.

Барабудур — гэта не толькі гімн Буду, але таксама і гімн чалавечаму генію. Храм вызначаецца захапляючай гармоніяй архітэктуры, скульптуры і арнаментыкі, здзіўляючай прапарцыянальнасцю і сіметрыяй. Помнік упрыгожваюць больш за паўтары тысячы шматфігурных барэльефаў, бясконцая колькасць масак, пілястраў і іншага дэкору, а таксама больш за 500 каменных фігур Буды.

Падобнага роду эстэтычныя ўражанні мне давялося адчуць і ў многіх іншых краінах, дзе я пабываў, — у Кітаі, Мексіцы, на Кубе, на фантастычных Камандорскіх астравах...

**— З Вашага аповеду вынікае, што падарожжы не толькі многа даюць Вам у плане агульнакультурнага развіцця, але і ўзбагачаюць як мастака.**

— А гэта ўсё узаемазвязана. Чым больш бачыш, больш ведаеш, тым лепш для тваёй прафесіі. Мастак абавязаны бачыць свет. Гэта расшырае яго гарызонты, развівае густ. І ён, канечне, павінен бачыць прыгажосць зямнога шара. Нельга ўвесь час сядзець у майстэрні, пазнаючы жывое жыццё з дапамогай кніг, часопісаў, тэлебачання. Калі ўвачавідкі знаёмішся з іншай краінай, з бытам іншага народа, пазнаеш яе культуру і бачыш, як паказвае нацыянальны каларыт, нацыянальны дух мастак, то, паверце, гэта — велізарны, неацэнны прафесійны ўрок.

Мы вось гаварылі аб індыйскай сімволіцы. Канечне, такую сімволіку ў нас не прыменіш. Але я для сябе зрабіў вывад: трэба ў сваёй творчасці знаходзіць такія характэрныя рысы, якія б глыбей раскрывалі асаблівасці, менталітэт майго народа і ў той жа час былі блізкія і зразумелыя ўсім.

Таму любая паездка, любое знаёмства з новай краінай — гэта заўсёды набыццё. Набыццё ўражанняў, адчуванняў, ведаў. Можа быць, усё гэта напрамую і не адаб'ецца на творчасці, але ў любым выпадку я адчую сябе духоўна ўзбагачаным і з радасцю падзялюся гэтым багаццем з гледачом.

**— Вы нагадалі аб характэрным, нацыянальным мастацтве. Як яно можа і павінна выказвацца — у форме, у змесце?**

— Пытанне гэтае як быццам і простае і ў той жа час няпростае. Вось я, да прыкладу, прыязджаю ў Кітай і, канечне ж, мне ахвота паглядзець перш за ўсё іх нацыянальнае мастацтва. Як чалавек ужо вопытны, не навічок, я адразу ж улаўліваю, дзе ў мастака глыбока народныя традыцыі, дзе праглядваюцца модныя навацыі заходняга мастацтва. Першае мне цікавае, а да другога я раўнадушны.

Ці возьмем тую ж Індыю. Многія іх мастакі цяпер стажыруюцца ў Францыі. З аднаго боку, гэта добра — яны сваё майстэрства падцягваюць да агульнаеўрапейскіх узораў, а з другога — дрэнна, таму што часам захапіўшыся модай, пачынаюць пераймаць не самае лепшае і, прыязджаючы дамоў, вядуць сумнільныя пошукі, разнастайныя эксперыменты і думаюць пры гэтым, што адкрываюць нешта новае. А на самой справе яны такім чынам не набываюць, а губляюць. Бяруць сюжэт з індыйскай рэчаіснасці, а мову жывапісу прымяняюць ужо мяшаную, запазычаную, і атрымліваецца такая своеасаблівая «трасянка». Іншымі словамі, звычайны правінцыйны авангард. А любому прыезджаму ча-

лавеку цікава бачыць не гэта, а перш за ўсё самабытныя, нацыянальныя творы, якія глыбокімі каранямі звязаны з быццём індыйскага народа, яго традыцыямі і культурай.

Думаю, што і прыезджаму ў Беларусь таксама ў першую чаргу цікава пабачыць наша нацыянальнае мастацтва, разнастайнасць нашай народнай культуры. А яна, гэтая разнастайнасць, характэрна-нацыянальная, безумоўна, ёсць. Вось, здавалася б, тры братнія народы — рускія, украінцы, беларусы. Але калі глыбока прыгледзецца, то адрозненні можна ўбачыць даволі істотныя.

У чым гэта відаць? Хто яго ведае! Быццам бы адно і тое ж — у тыпажы, у прыродзе, а быццам бы не адно і тое ж. У тварах нашых людзей ёсць нейкая мяккасць, лірычнасць, у пейзажах — паветранасць, лёгкасць.

Я вось параўноўваю нашы лясы з прыбалтыйскімі. Тыя ж, здавалася б, дрэвы. А вось і не тыя. І паветра ў іх іншае. І каларыт чамусьці іншы... Дык вось, задача мастака — улавіць гэтую розніцу і ярка, з асаблівай сілай перадаць у сваіх творах.

Гэтую нацыянальную своеасаблівасць калісьці добра і наглядна можна было бачыць на нашых усесаюзных выставах. Армянскі, украінскі, малдаўскі жывапіс заўсёды адрозніваўся і адрозніваецца яркасцю, мажорнасцю. Нашыя ж работы — крыху самотнейшыя, больш сціплыя, стрыманыя ў колеры. І не таму, што мы ставім перад сабой такую задачу, прыглушаем каларыт штучна. Не, усё адбываецца на нейкім падсвядомым узроўні. Калі ты па-сапраўднаму нацыянальны мастак, любіш і ведаеш свой народ, сваю краіну, то табе не трэба напружвацца, рабіць штосьці знарок — пачуцці гэтыя будуць перадавацца нават без тваёй волі, усё адбудзецца само сабою.

Дык вось, падарожжы ў чужыя, заморскія краіны якраз і дапамагаюць мастаку вастрэй, выразней, глыбей убачыць сваё, нацыянальнае. Нездарма ж пяецца ў папулярнай песні: «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць...»

Разам з тым я хацеў бы адзначыць, што пытанне аб нацыянальным мастацтве куды больш складанае, чым наяўнасць нейкіх фармальных прыкмет. Дух нацыі, яе самабытнасць трэба раскрыць яшчэ і ў тэме, у змесце, для гэтага мастаку неабходна быць грамадзянінам сваёй краіны, раздзяляць тыя пачуцці, тыя радасці і боль, якія адчувае твой народ.

Нацыянальнае пытанне — гэта вельмі тонкая і вельмі крохкая матэрыя. Тут усё пераплецена — аб'ектыўнае і суб'ектыўнае, глыбока навуковае і міфалагізаванае. Скажам, у апошні час стала модным адлюстроўваць польска-літоўскую шляхту ў вобразе асветнікаў. Гэта, канечне ж, частка нашай гісторыі. Але ідэалізаваць магнатаў наўрад ці трэба. Не варта забываць, што яны толькі маленькая часцінка ад той масы, якая складае «соль зямлі».

Любая крайнасць перакручвае нацыянальную гісторыю. Дрэнна, калі ў савецкі час усё, што было да рэвалюцыі, падавалася негатыўна, мазалася чорнай фарбай. Але аднолькава дрэнны і другі, прама супрацьлеглы падыход, калі наша дарэвалюцыйнае мінулае паказваецца толькі ў ружовым святле, ідэалізуецца, узвышаецца, маўляў, мы былі такія знатныя, такія крутыя, што ад нас ледзь ці не ўся цывілізацыя пайшла.

Мастаку, як і ўсякаму сумленнаму даследчыку, неабходна бачыць у гісторыі ўсё — светлае і цёмнае, добрае і кепскае. У гэтым заключаецца дыялектыка жыцця. Менавіта ў гэтым і ёсць праўда жыцця і праўда мастацтва.

## *Усё ў жыцці павінна быць напоўнена любоўю*

**— Георгій Георгіевіч, давайце памяняем тэму. Раскажыце крыху аб сабе, аб сваіх бацьках, аб сваёй малой радзіме.**

— Мая малая радзіма — ціхая, утульная вёсачка Бортнікі, што пад Бабруйскам. Тут прайшло маё дзяцінства, малалецтва і першыя гады юнацтва.

А нарадзіўся я на Украіне, у горадзе Роўна. Там жыла ў той час уся маміна радня, і калі ёй прыйшоў тэрмін раджаць, яна з вёскі паехала да сваіх, у горад. Пасля таго, як усё шчасліва абышлося, вярнулася назад у Бортнікі.

Бацькі мае — рускія, са стараавераў. Бацька доўгія гады працаваў на фанерадрэваапрацоўчым камбінаце ў Бабруйску. Слесарам, наладчыкам машын. Па тым часе гэта была добрая, грашовая спецыяльнасць. На камбінаце яго цанілі і за ўмелыя рукі, і за стараннасць, добрасумленнасць.

Трэба сказаць, што ўся наша радня, стараверы, былі вялікімі працаўнікамі. Бацька, колькі помню, ледзь золак — ужо на нагах і абавязкова што-небудзь майструе, клапоціцца па гаспадарцы. Пасля едзе на працу, а вярнуўшыся вечарам дамоў, зноў з галавою акунаецца ў хатнія турботы. І так з дня ў дзень. Можа, мы і жылі крышачку багацей, чым астатнія. За што, дарэчы, сёй-той у вёсцы на нас і касавурыўся. Маўляў, гэтым усё мала.

Вось, між іншым, цікавая тэма для роздуму. Чаму, скажыце, у нас, сярод славян, такія вось негатыўныя адносіны да людзей заможных? Асабліва ў вёсцы.

Ледзь дом лепшы, падворак багацейшы — адразу ж: кулак.

Але калі ўсё дабро нажыта ўласнай праведнай працай, калі ўся сям'я, ад малога да вялікага, працуе не пакладаючы рук, калі справа робіцца разумна, па-гаспадарску, з разлікам, і прыбытак ёсць дзякуючы гэтаму — які ж гэта кулак? Іншая справа, калі чалавек свае даходы будуе на розных махінацыях, на несумленнай эксплуатацыі. Але ў нас, не ўнікаючы, усё валяць у адну кучу.

І ўжо зусім не разумею, чаму Савецкая ўлада, асабліва ў першыя гады, зрабіла стаўку на пралетарыяў, на беднякоў. Так, ёсць, канечне, маламаёмасныя не па ўласнай волі, у сілу розных аб'ектыўных прычын. Але большасць, калі ўважліва прыгледзецца, дрэнна жывуць, таму што дрэнна працуюць.

Вось карцінка з сучаснага жыцця. Адна з браслаўскіх вёсачак. Цёплая летняя раніца. Іду ў краму. Непадалёк, пад дрэвам, сядзіць некалькі вяскоўцаў. Ужо добранькія, душэўна размаўляюць. Убачылі мяне, клічуць да сябе:

— Жоржык, можа ў цябе выпіць ёсць?

Пачулі адмоўны адказ — увачавідкі засмуціліся.

Я прапаноўваю:

— А вы мне нарэжце венікаў, я добра заплачу.

— Па чым жа?

— Па тысячы рублёў за штуку.

— Добрыя грошы. Як, Іван?

— Чаму ж... — без асаблівага энтузіязму адклікаецца Іван.— Грошы неблагія.

— М-да... — чухае патыліцу першы.— Але ж гэта трэба ў лес ісці.

А лес той — за спінай, за паўсотню метраў. Але падымацца, парушаць прыемную бяседу — лянота.

**— Сумная карцінка... Але вернемся, аднак, да бацькоў.**

— Дык вось, бацькі мае ніколі не дазволілі б сабе сярод белага дня сядзець вось так, без справы. Ды яшчэ з раніцы пад хмяльком. Выпіўка ў нашай сям'і наогул лічылася вялікім грахом.

Павінен сказаць, што, калі мне што-небудзь і ўдалося зрабіць у гэтым жыцці, дык толькі дзякуючы таму, што бацькі змаглі выхаваць ува мне любоў да працы. Хаця, шчыра кажучы, мая працавітасць ужо на парадак ніжэй. Гарадскія ўмовы, напэўна, паўплывалі. Я вось прачынаюся рана, але адразу падымацца не люблю. Ляжу, чытаю, слухаю радыё... Але затое ўжо калі вазьмуся за працу, то раблю ўсё з захапленнем, з азартам. Іншы раз каля мальберта магу прастаяць і сем гадзін, і восем, і болей.

**— Георгій Георгіевіч, а Вы мастаком марылі стаць з дзяцінства ці былі якія іншыя планы?**

— Не, іншых планаў не было. Маляваць мне хацелася сапраўды з дзяцінства. Іншая справа што ўмоў для гэтага не было. Вайна, пасляваенная разруха. Ні па-

трэбнай паперы, ні фарбаў. Ды што там фарба — алоўкі каляровыя і тыя дастаць было цяжка. Але я ўсё-такі маляваў — чым можна было і на чым папала.

Вялікую ролю ў гэтым дзіцячым захапленні адыграў гурток выяўленчага мастацтва ў Бабруйскім доме піянераў, якім кіраваў Барыс Фёдаравіч Бяляеў. Гэта быў чалавек, цалкам захоплены мастацтвам, сапраўдны інтэлігент. Нягледзячы на слабае здароўе, ён шмат і самаахвярна працаваў з вулічнай дзятвой. Іменна яму ўдалося прышчапіць нам шчырую любоў да прыроды і распаліць першае жаданне самому штосьці адлюстраваць. Выхаваныя ім у лепшых традыцыях рускай рэалістычнай школы, мы пазней паспяхова закончылі спецыяльныя ВНУ і сталі прафесійнымі мастакамі.

У мяне, напрыклад, за плячамі Мінскае мастацкае вучылішча і тэатральна-мастацкі інстытут, жывапіснае аддзяленне. Вучыцца было надзвычай цікава. Студэнцтва — гэта гады набыцця ведаў, умення працаваць з натурай, на пленэры, таварыскае асяроддзе, якім фармаваліся характары і адносіны да мастацтва.

**— Георгій Георгіевіч, да Вас дастаткова рана прыйшоў поспех, прызнанне. У 39 — прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, у 43 — міжнародная прэмія імя Джавахарлала Неру, у 47 — званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў». Некаторыя нават схільныя лічыць Вас пестуном лёсу.**

— Не, не, толькі не гэта. Лёс да мяне сапраўды быў прыхільны, але ніколі не песціў у агульнапрынятым разуменні. Цяжкасцей і праблем хапала. Але сувязямі або пратэкцыяй не карыстаўся. Усяго дабіваўся ўласнай працай.

**— Дзякуй Богу, Вы шчасліва дажылі да свайго 75-годдзя, знаходзіцеся ў цудоўнай фізічнай і творчай форме. Падзяліцеся сваімі сакрэтамі, Георгій Георгіевіч. Спецыяльная дыета? Зарадка?**

— Ды якія сакрэты... Ніколі я не займаўся ніякай зарадкай. Толькі вось нядаўна, літаральна два тыдні назад, пачаў раніцай крыху размінацца. Але я цэлы дзень у руху, так што фізічнай нагрузкі мне хапае.

А ўжо дыеты і подаўна ніякай не прытрымліваюся. У мяне жонка — гаспадыня цудоўная. Любіць, каб полудзень быў абавязкова з трох страў. Але для мяне суп — сапраўдная кара. Я кусочнічаю. Гэта значыць, перакусваю на хаду. Да яды абсалютна абыякавы. Калі хадзіў з геолагамі па Казахстанскіх стэпах або Забайкаллю, яны здзіўляліся маёй непераборлівасці. Я ўсё дзяліў з імі нароўні — і ежу, і фізічныя нагрузкі, хоць ім было па 25, а мне — 40 гадоў.

Тое самае было ў падарожжы па Сахаліне, у плаванні на рыбалоўным сейнеры ў Атлантыцы... Я не хачу гэтым сказаць, што ў мяне якісьці асаблівы страўнік. Проста я сябе да гэтага прывучыў.

**— А як наконт курыва?**

— Але, курыў. Багата і доўга, з шаснаццаці гадоў. А кінуў толькі ў сямідзесятым. Апошнюю сігару выкурыў на Кубе, пачаставаў Рауль Кастра. Кідаў цяжка. Здаралася, па паўгода не браў цыгарэту ў рот. Але зноў зрываўся. Усё-такі праявіў волю, кінуў. Зараз я шкадую, што курыў. Здароўя гэта не прыбаўляе.

**— У вас, напэўна, спакойны, вытрыманы характар...**

— Так, звонку, калі бачыць часам маю непарушнасць, можа падацца, што ў мяне няма нерваў, што я не перажываю. Якраз наадварот! Я вельмі за ўсё перажываю, вельмі востра на ўсё рэагую. Але маўчу іншы раз таму, што не магу адразу парыраваць, дасціпна адказаць. Пачынаю заікацца, гаварыць паспешліва, блытана. І доўга пасля адчуваю сябе вышчэрбным, хворым. Ціск падымаецца.

Я здзіўляюся тым, хто можа спакойна, з усмешкай, імгненна даць здачы. У мяне ж — ніякай вытрымкі. Што-небудзь сказану такое, за што пасля доўга перажываю...

Але затое ў мяне ёсць адна добрая якасць — я хутка адыходжу. І не трымаю зла. Іншы раз мне кажуць: «Як ты можаш такое дараваць?!» А я, калі б не нагадалі, ужо і забыў пра крыўду. Заўсёды спрабую зразумець чалавека, растлумачыць яго нядобры ўчынак або якімісьці абставінамі, або яго характарам. Зразумець і дараваць.

Я люблю бываць сярод сяброў. Як бы ні быў заняты, але калі прыходзяць сябры — усе справы набок. Няма нічога больш лепшага, карыснага для душэўнага

здароўя, як размовы з добрымі, прыемнымі людзьмі. Можа быць, сакрэт у гэтым?

**— Георгій Георгіевіч, акрамя сяброўства, які яшчэ від адпачынку Вы больш за ўсё любіце?**

— Спецыяльна я ніколі не адпачываю. Адзінае месца, дзе я любіў калісьці паваляцца на сонейку, — гэта ўзбярэжжа Чорнага мора, на каменьчыках, на лежаку, каля хваляў. Адпачынкам былі і прагулкі па Браслаўшчыне. Нярэдка мы выязджалі ўсёй сям'ёй на які-небудзь закінуты астравок, удосталь купаліся, загаралі, малявалі з натуры.

У горадзе — гэта тэатр, канцэрты, сустрэчы з сябрамі ў майстэрні і на грамадскіх форумах.



*Г. Паплаўскі з жонкай Наталляй і дачкой Кацярынай.*

Наогул адпачынак у нас, у сям'і, заўсёды актыўны і звязаны, як правіла, з чарговым мерапрыемствам — спектаклем, вернісажам або паездкай на машыне за горад з дачкой, унучкай, а зараз яшчэ і з праўнучкай.

**— Добра, што Вы закранулі гэтую тэму — сямейную. Бо Ваша жонка, Наталля Мікалаеўна, таксама мастак. І таксама дастаткова вядомы, увенчаны лаўрамі. Як ужываюцца, вобразна кажучы, два мядзведзі ў адной бярлозе?**

— Так. Па-мойму, зусім няблага... Толькі б я ваш вобраз некалькі змяніў. Не мядзведзі ў бярлозе, а пеўчыя птахі ў гняздзе. І кожны з нас спявае сваім голасам, мы адно аднаму не перашкаджаем, наадварот — дапамагаем.

Калі казаць па вялікім рахунку, то мне ў гэтых адносінах пашанцавала. Наташа — не проста таленавіты мастак, яна вельмі шчыры, добры, клапатлівы сябар.

І гэта, канечне, здорава, што побач заўсёды ёсць чалавек, які можа прафесійна ацаніць зробленае табой, сказаць шчыра і прама, калі што не падабаецца. Жонка іншы раз жартам кажа, што ў мяне ёсць свой уласны мастацтвазнаўца. І я ўдзячны Наташы за многія каштоўныя заўвагі. Не скажу, што яны заўсёды прыемныя. Часам нават крыўдныя, але я ведаю: яны заўсёды аб'ектыўныя і справядлівыя.

**— Георгій Георгіевіч, а як Вы пазнаёміліся, якім доўгім быў працэс знаёмства?**

— Пазнаёміліся тут, у Мінску, у мастацкім вучылішчы. У 1947 годзе шаснаццацігадовым хлопцам я прыехаў з Бабруйска ў сталіцу. Вучыцца. І адразу ж прыкмеціў на курсе румяную такую, курносую, вясёлую дзяўчыну. Гэта і была Наташа.

Высветлілася, што і жывём мы зусім блізка. Наташа з бацькамі на вуліцы Крапоткіна, а я амаль там жа на кватэры.

Гэта было зручна. Мы шмат разам гулялі: летам — у парку, зімой каталіся на лыжах на Камсамольскім возеры.

З Наташай заўсёды было цікава. Мы вялі бясконцыя размовы аб жыцці, аб мастацтве, аб будучыні...

А ў 1952 годзе мы пажаніліся. Так што працэс знаёмства, як бачыце, быў немаленькі... Вяселле згулялі сціпла. Запрасілі самых блізкіх сваякоў, сяброў — вось і ўся ўрачыстасць. Праўда, жартаў, весялосці было шмат.

Жылі спачатку ў бараку. Але мы былі шчаслівыя мець і такое жыллё. Якоеніякое, а ўсё-такі сваё. Абстаноўка — спартанская. Самаробны ложак, самаробны стол, шафа і два крэслы. А людзей іншы раз у наш пакойчык набівалася больш за дзесятак. Аднакурснікі любілі ў нас бываць. Наташа ўжо і тады цудоўна гатавала.

**— Кажуць, творчым людзям вельмі складана захаваць сям'ю. Бо сутыкаюцца дзве незвычайныя, вельмі ранімыя асобы, кожная з якіх больш за ўсё аберагае сваю самастойнасць, сваю незалежнасць, кожная з якіх мае свой складаны, эмацыянальна-неўраўнаважаны, імпульсіўна-капрызны характар. Як Вам удаецца пазбягаць усемагчымых падводных рыфаў і паспяхова весці сямейную лодку наперад? Ведаю, нядаўна Вы адзначылі з Наталляй Мікалаеўнай залатое вяселле.**

— Уся справа, на маю думку, заключаецца ў тым, каб муж і жонка кахалі адно аднаго, паважалі адно аднаго, мелі патрэбу адно ў адным. Вось тады і будзе сям'я.

Псіхолагі сцвярджаюць, што ў сямейных адносінах ёсць некалькі крытычных межаў. Гэта — у першыя два гады, затым ў сем гадоў і потым ужо дзесьці ў пятнаццаць.

Мы, на шчасце, гэтыя крызісныя межы мінулі паспяхова. Канечне, усякае бывала і ў нас. Здараліся і сваркі, і канфлікты. Не без гэтага. Але ў нас хапала розуму не даводзіць усё гэта да сур'ёзных канфліктаў. Напэўна, галоўная заслуга тут належыць Наташы. З яе жаночай мудрасцю, з яе прыроднай дыпламатыяй.

Я шчаслівы, што мы дажылі да залатога вяселля, выгадавалі цудоўную дачку. Каця ўжо таксама член Саюза мастакоў, удзельніца многіх рэспубліканскіх і міжнародных выставў. Яе карціны набыты асобнымі еўрапейскімі музеямі і прыватнымі калекцыянерамі. Але больш за ўсё маё бацькоўскае сэрца грэе тое, што дачка заўсёды побач са мной. Яна — мой незаменны памочнік: і мой менеджэр, і мой перакладчык, і мой шафёр.

Звяртаючыся да пытання аб сакрэтах доўгажыхарства, мне цяжка даць вычарпальную формулу. Але я думаю, што для гэтага павінны быць прынамсі дзве галоўныя ўмовы: гэта — любімая праца і добрая сям'я. Дзякуй, лёс мяне не абдзяліў ні тым, ні другім.

***Гутарку вёў Зіновій Прыгодзіч.***
***Пераклад з рускай Алены Гардзей.***



Васіль СТАРЫЧОНАК

# МЕТАФАРА Ў СТРУКТУРЫ ЛІТАРАТУРНАГА ТЭКСТУ

Метафара як семантычная універсалія садзейнічае мове ў выкананні ёю рэпрэзентатыўнай функцыі — здольнасці апасродкавана адлюстроўваць, замацоўваць на практыцы і захоўваць вынікі сацыяльна-гістарычнага вопыту і пазнавальнай дзейнасці яе носьбітаў. Яна дазваляе атаясамліваць разнародныя вобразы і значэнні, уключаць невядомыя веды ў структуру ўжо вядомых і прывычных паняццяў і, нарэшце, утвараць новыя сэнсавыя цэнтры.

Субстантыўныя метафары, для якіх катэгорыя прадметнасці з'яўляецца найбольш выражанай, займаюць важнае месца ў структуры літаратурнага тэксту. Яны адлюстроўваюць як агульныя для большасці моў семантычныя заканамернасці і універсальныя па характары праяўлення семасіялагічныя працэсы, так і нацыянальныя элементы моўнай карціны свету, абумоўленыя асаблівасцямі мыслення і светаўспрымання чалавека, яго інтэрпрэтацыяй аб'ектыўнай рэальнасці, гістарычнымі, культурнымі і сацыяльнымі ўмовамі, у якіх адбываецца дзейнасць носьбітаў мовы, менталітэтам народа наогул.

Метафарычныя субстантывы ўяўляюць сабой не механічнае, выпадковае спалучэнне ЛСВ (лексіка-семантычныя варыянты), кампазіцыю пэўных інгрэдыентаў, суму асацыятыўных сувязей, а ўстойлівы і адначасова зменлівы змест, што выяўляецца ў непарыўнасці яго гісторыка-семантычнага развіцця. Сувязі і адносіны паміж ЛСВ абумоўлены перш за ўсё сістэмным характарам лексічнага складу мовы і падпарадкоўваюцца строгім правілам, укладваюцца ў межы дзеяння пэўных формул і лагічных схем.

Субстантыўныя метафары ў структуры літаратурнага тэксту выконваюць інфармацыйную і эстэтычную функцыі, актывізуюць увагу адрасата, служаць дадатковай вобразнай характарыстыкай да тых прымет, якія замацаваліся за дадзенай слоўнікавай адзінкай. Прычым выбар прымет не заўсёды падпарадкоўваецца законам лагічнай мэтазгоднасці і адбываецца ў адпаведнасці з суб'ектыўна-аўтарскім асацыятыўным мышленнем. Менавіта таму інтэнсіяльнасць метафары, яе больш-менш канкрэтнае значэнне раскрываецца ў межах пэўных тэкставых фрагментаў, якія дазваляюць слову маніфеставаць сваю семантыку праз суму прымет і значэнняў іншых слоў і тым самым ствараць перадумовы для нечаканых

---

***Старычонак Васіль Дзянісавіч*** *нарадзіўся 24 лютага 1954 года ў вёсцы Луцішча Крупскага раёна Мінскай вобласці. Закончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН і вучыўся ў аспірантуры гэтай жа ўстановы. Абараніў кандыдацкую (1980) і доктарскую (1998) дысертацыі. Працуе ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка на пасадзе дэкана факультэта рускай філалогіі і загадчыка кафедры сучаснай рускай мовы. З'яўляецца аўтарам звыш 170 навукова-метадычных прац, сярод якіх шматлікія слоўнікі, падручнікі для школьнікаў і студэнтаў.*

і інтуітыўных прыпадабненняў. Усё гэта прыводзіць да стварэння спецыфічных семантычных мадэляў, якія арыентаваны на збліжэнне самых розных лексічных адзінак, нетрадыцыйных і нечаканых атаясамліванняў і параўнанняў, якія часцей за ўсё выяўляюцца ў складаных двухкампанентных (двухчленных, бінарных) структурах. Адно слова ў такіх структурах ужываецца ў метафарычным значэнні, а другое — у прамым значэнні. Такія метафары (іх называюць неразгорнутымі, неаўтаномнымі, сінсемантычнымі па прычыне абавязковай апоры на іншае слова), як правіла, не патрабуюць шырокага кантэксту і адназначна ўспрымаюцца ў межах двухчленнай канструкцыі. Сярод вялікай колькасці такіх метафар пашыраны генітыўныя (лат. *genitivus* — родны склон) метафары — канструкцыі з родным склонам, у якіх на першым месцы ў назоўным склоне змяшчаецца рэма (галоўны вобразна-сэнсавы фокус метафары, яе «суб'ект»), а на другім — тэма дадзенага словазлучэння. Генітыўным метафарам уласцівы злітнасць кампанентаў, іх дыфузнасць, узаемапранікненне. Залежнае слова стварае мінімальны кантэкст, які дазваляе звузіць сэнсавы аб'ём і расшыфраваць вобраз: ***агрызкі*** *дарог* (П. Панчанка), ***фаліянт*** *нябёсаў* (Э. Акулін), ***іерогліф*** *сонца* (Л. Дранько-Майсюк), ***одум*** *жыта* (З.Марозаў), ***манеты*** *адуванчыкаў* (У. Караткевіч), ***нарада*** *ластавак* (Н. Мацяш), ***кудзеля*** *хлусні* (Р. Барадулін), ***шрот*** *няпраўды* (Ю. Лявонны), ***дровы*** *скрухі* (Я.Янішчыц), ***радно*** *вершаў* (А. Звонак), ***лабірынты*** *нядолі* (У. Дубоўка), ***сетка*** *маршчынаў* (П. Пранузa), ***салома*** *валасоў* (А. Пісьмянкоў), ***крупы*** *снегу* (Г. Васілеўская), ***атары*** *туманоў* (Р. Барадулін), ***кудзеля*** *хмар* (М. Смагаровіч), ***жырандолі*** *каштанаў* (Л. Сіманёнак), ***рукі*** *галін* (А. Салтук), ***кіпцюры*** *сукоў* (К. Цвірка), ***лязо*** *маланкі* (В. Гарановіч), ***яшчаркі*** *раўчукоў* (Г. Бураўкін), ***рамонак*** *парашута* (А. Вялюгін).

Назіраюцца і інверсійныя канструкцыі, у якіх назоўнік у родным склоне займае прэпазіцыю ў дачыненні да метафарычнага субстантыва ў назоўным склоне: *прамоў* ***струмень*** (А. Звонак), *біклагі* ***перашыек*** (К. Камейша), *зорак* ***цыферблат*** (А. Звонак), *соснаў* ***каланады*** (М. Мятліцкі), *дажджоў* ***калоны*** (А. Пысін), *стракоз* ***дырыжаблі*** (У. Ліс іцын), *хмар* ***караваны*** (Г. Бураўкін), *гневу* ***доўбні*** (В. Стрыжак).

У многіх выпадках структуру бінармы складаюць адносны прыметнік і метафарызаваны назоўнік (атрыбутыўныя спалучэнні): *дзявочы* ***шчэбет*** (К. Чорны), *туманная* ***каламуць*** (П. Кавалёў), *жыццёвы* ***карабель*** (Л. Геніюш), *людскі* ***прыбой*** (М. Лынькоў), *людская* ***рака*** (Н. Гілевіч), *зорныя* ***каралі*** (М. Аўрамчык), *зорысты* ***кілім*** (М. Віняцкі), *снежная* ***коўдра*** (М. Хведаровіч), *жытнёвыя* ***хвалі*** (П. Броўка), *лісцвяны* ***вадаспад*** (С. Басуматрава), *кіпцюрыстае* ***голле*** (Л. Дранько-Майсюк), *бэзавы* ***шоўк*** (І. Багдановіч), *лядовыя* ***краты*** (В. Гарановіч), *кудзельная* ***барада*** (А.Куляшоў), *зоркавая* ***купель*** (М.Мятліцкі), *стрыжыная* ***авіяцыя*** (Х. Гурыновіч), *вераб'іны* ***гандаль*** (І. Лосік), *пчаліны* ***фэст*** (Я. Чыквін), *снежная* ***шкарлупка*** (А. Шушко). Такія канструкцыі выступаюць у якасці сінонімаў да генетыўных метафар і лёгка ў іх трансфармуюцца, параўн.: *рачная шыба — шыба ракі, жураўліны шнур — шнур жураўлёў, бацькоўскае гняздо — гняздо бацькоў, людскі паток — паток людзей, горныя хрыбты — хрыбты гор.*

Двухкампанентныя метафары могуць ускладняцца іншымі словамі, якія канкрэтызуюць змест метафарызаванага кантэксту. Такога рода ўскладненні часцей за ўсё выражаюцца прыметнікамі (дзеепрыметнікамі) у прамым ці пераносным значэнні, якія адносяцца да прамога ці метафарычнага назоўніка ці адразу да двух назоўнікаў: *чорныя вены дарог* (К. Камейша), *далоні зялёных берагоў* (У. Гетманчук), *пасівелая скронь зямлі* (В. Матэвушаў), *шыпшыны сонечных зарніц* (П. Трус), *віно вячэрняе зары* (А. Коршак), *лапік чужой вясны* (Т. Бондар), *дзюба скваппага бяссоння* (С. Каробкіна), *вадаспады залатога зерня* (П. Панчанка), *прыбой палёў аўсяных* (М. Машара), *феерверк гнеўных слоў* (І. Шамякін), *фронт маладых таполяў* (У. Клімовіч), *каштанаў гузікі глухія* (С. Дзяргай), *зімняе каварства зямлі* (В. Ракаў), *скалелы алюміній вады* (Л. Дайнека), *мяцеліца тапалінага пуху* (І. Шамякін), *белыя тэрмометры бярозак* (А. Сербантовіч), *полымя*

*ружовых верасоў* (І. Скурко), *карункі зорнага святла* (С. Грахоўскі), *бліскучых зорак цыферблат* (А. Звонак), *месяца белыя іклы* (М. Смагаровіч), *начнога неба перфакарта* (У. Скарынкін), *воўна асенняй ночы* (З. Бядуля), *чырвонае кола сонца* (Р. Сабаленка), *сарафан паркалёвай вясёлкі* (Ю. Голуб), *вузкі нож пражэктара* (І. Новікаў), *вострае джала разца* (Ц. Гартны), *ручаіны цёплыя зярнят* (П. Панчанка), *навісь панурых броваў* (І. Мележ), *густыя застрэшкі броў* (В. Адамчык), *густая хмара валасоў* (Г. Бураўкін), *чорныя дугі броў* (А. Васілевіч), *эмацыянальны камертон паэмы* (Р. Бярозкін), *каскад вострых думак* (У. Юрэвіч), *гарачыя кастры пачуцця* (Я. Янішчыц), *ледзяныя абцугі страху* (М. Паслядовіч), *крыніцы бурнага натхнення* (Я. Колас), *залаты купал неба* (В. Гардзей), *лавіна супярэчлівай інфармацыі* (І.Макаловіч), *бліскавіца юнацкіх год* (С. Давідовіч).

Метафарызаваны кантэкст можа пашырацца за кошт назоўнікаў, займеннікаў, а таксама спалучэнняў розных часцін мовы: *плыты ракі жыцця* (В. Гарановіч), *чырвань шчокаў адвячорка* (Э. Акулін), *вейкі аканіц вокнаў* (В. Макарэвіч), *промні тваіх валасоў* (У. Мазго), *быццяя свайго дажынкі* (Я. Купала), *маіх пачуццяў рэкі* (В. Стрыжак), *шалі свайго сэрца* (А. Лойка), *пялёсткі маіх вершаў* (Н. Тулупава), *чарнавік маіх дзён* (А. Вялюгін), *валасоў тваіх густая хмара* (Г. Бураўкін), *хвалі густых сівеючых валасоў* (А. Васілевіч), *бедны думак яго ўзлёт* (Я. Купала), *зялёных год маіх цягнік* (У. Лісіцын) і інш.

Генітыўныя метафары ў структуры літаратурнага тэксту даволі часта носяць індывідуальна-аўтарскі характар. Яны паглыбляюць разуменне пачуццёвага ўспрымання рэальнасці, апелююць да ўяўленняў і фантазій і праз іх да разумення жыцця і сутнасці з'яў. Менавіта таму ў сваёй большасці такія метафары арыентаваны на выражэнне экзістэнцыі, філасофіі жыцця, псіхалагічнага стану чалавека, яго поглядаў на сябе і час, калі ён жыве. Іх значэнне найчасцей раскрываецца ў канструкцыях, дзе важную ролю адыгрывае характар спалучальнасці слоў (звычайна нестандартны) і семантычная напоўненасць кожнага слова. Як правіла, у працэс метафарызацыі ўключаюцца спалучэнні канкрэтнага і абстрактнага назоўнікаў. З пункту гледжання сэнсавай арыентацыі і характару ЛСВ такія метафары адлюстроўваюць:

1. Адметнасць, спецыфічнасць пэўнага часу, пэўнага перыяду: *Прыму сустрэчна ветру хвалі, крутога* ***часуградабой*** (В. Вярба). *Яго сэрца* ***крыгі часу*** *не сатруць* (М. Танк). *Але ў* ***прадонні часу*** *знікла ўсё* (В. Зуёнак). *З гадоў былых, з цвілых* ***затокаў часу*** *ледзь-ледзь жывыя выплываем мы...* (А. Каско). *Ад вёскі* ***нож часу*** *адрэзаў мяне* (А. Камароўскі). *Адгрукацеў цяжкі* ***цягнік гадоў***, *На папялішчах уваскрэслі хаты* (К. Камейша). *Мы ў памяці перабіралі* ***Ружанец*** *школьных сонечных* ***гадоў*** (У. Скарынкін). *Колюцца з калосся аржанога* ***Перавяслы*** *прашумелых* ***год*** (У. Паўлаў). *Звычайна* ***пража дзён*** *прадзецца* (К. Камейша). *Гусцее за спіной* ***гадоў суквецце*** (Х. Жычка). *Не астыць беларускаму сэрцу На каменных* ***далонях вякоў!*** (А. Жамойцін).

2. Разнастайныя нюансы і аспекты жыцця чалавека: *Тады адчуў, які ён цяжкі,* ***Жыцця камель***, *што я цягну* (У. Марук). ***Жыцця*** *зялёны* ***ствол*** (С. Гаўрусёў). *І адарае нас хітраю рэштаю хітра прыжмураны* ***ветах жыцця*** (Р. Барадулін). *У* ***вянок жыцця*** *і дум паэта ты дні дзяцінства завіла* (П. Трус). ***Загон жыццёвы*** *мой засеян, Я бачу сціплы яго плён* (П. Прануза). *Свайго* ***жыцця*** *пахіслівую* ***лодку*** *На плынь выводжу, быццам плытагон* (У. Паўлаў). ***Жыцця маладзічок***, *час папараці-кветкі...* (В. Гарановіч). *Тасуе ноч радкі:* ***Чыставікі бяссоння, Жыцця чарнавікі*** (В. Стрыжак). *Нікнем у* ***раллю жыцця*** *зернямі дакукі* (Р. Барадулін). *Усё бліжэй* ***жыцця дажынкі.*** *Назубіць серп скупая старасць* (М. Маляўка). *Туманіцца* ***жыцця красворд*** (А. Майсеенка).

3. Неспакой, моцнае душэўнае хваляванне, сум, заклапочанасць: *А над імі без шуму плывуць* ***аблачыны*** *іхняга* ***суму...*** (Р.Барадулін). *Яшчэ цягну* ***ярмо тугі*** *І неразважаных сумненняў* (Н. Мацяш). *Дзе ты, даўняя любасць? Белы корань душы...* ***Глей самотнасці*** *грубай Дзёрзка развярушы!* (Н. Мацяш). *Ўзышло і набракла* ***самоты*** *ліпучае* ***цеста***, *І дні выгараюць дарэшты, да самага тла*

(Г. Каржанеўская). *Я трапіў у **сіло журбы**, я сам у гэтым вінаваты* (А. Сыс). *Пакасі на палетку ростані **пустазеелле** маёй **журбы*** (І. Лагвіновіч) *Сціскае **абруч адзіноты*** (А. Шаўня). *Калі нясцерпнай **адзіноты** Абхопяць сэрца **абцугі**, Тады ўцякаю ад самоты У лес гасцінны, дарагі* (М. Пазнякоў). *О, вам тады не біў яшчэ па сэрцы **Смычок турбот** бяссонных і трывог* (Г. Бураўкін). *Але прайшла даўно **Турбот** бязлікіх **крыга*** (Ю.Таўбін).

4. Пачуццё радасці, шчасця, адчуванне вялікага душэўнага задавальнення: *І на аснежных сцежках **пялёсткі радасці** застылі на траве* (П. Трус). *Піў **шчасця брую** штовечар, Шчаслівым быў кожны дзень* (В. Гарановіч). *Лёс мне зычыў выпіць у гэты вечар **келіх шчасця** да дна* (І. Навуменка). *І стукалі **шчасця колы**...* (Р. Барадулін) *І вясёлыя **лодкі радасці**, Баючыся сесці на мель Нечае абыякавасці, Знікаюць у моры зноў І чакаюць там новага сонца* (Х. Чэрня).

5. Пачуцці чалавека, звязаныя з каханнем, недаверам, расстаннем, рэўнасцю: *Майго **кахання** дзікі **птах** Жыве ў тваім бязлюдным доме* (Л. Пранчак). *На **узбярэжжы** нашага **кахання** Гараць агнём блакітным верасы* (У. Верамейчык). *А я спрабаваў ссячы тонкае **дрэўца кахання*** (П. Шруб). *Змялела **кахання рэчка*** (Э. Акулін). ***Іржышча** нашага **кахання** Бязлітасна абоім раніць сэрца* (Г. Дашкевіч). *На **папялішчы кахання** знікнуць былыя мары* (І. Хадарэнка). *Я баюся кахання. Над ім злавесна пацепваецца асінавае **лісце нянавісці*** (Л. Дранько-Майсюк). *Нарос ліпкі **пыл недаверу**, Не кранутыя спагаднай рукой* (М. Касцюкевіч). *А як **расстання сякера** Ўзнімецца грозна — Зросшыся цесна, звыш меры, Скажам ёй: позна!* (Г. Каржанеўская).

6. Мары, надзеі, спадзяванні чалавека: *І **мар** ляцелі **матылі** Над нашым лугам чмельна-росным* (М. Шабовіч). ***Істужка мар** зляціць і абаўе, Падніме пругка над жыццёвым вірам* (У. Мароз). *Так я чакаю і веру, Моўчкі жыву між людзей. Б'ецца аб сонечны бераг **Ветразь** маіх **надзей*** (В. Вярба). *І з усмешкаю шчырай На віду у людзей Адлятала у **вырай** Самых светлых **надзей*** (А. Бачыла). *Ад агнёў рабіны не схаваць **Каласы надзей** у цёмны покуць* (Б. Давыдзюк). *Ноч з тайнамі выйшла. **Эліксір надзеі** Лье ў чашу жадання* (М. Шаховіч). *Зацяты свет глядзіць у цёмны **кратэр** Трывожна насцярожаных **надзей*** (С. Гаўрусёў). *Аб адным я цябе прашу: Хоць гады у рады прысніся — **Спадзявання** майго **парашут** Хай раскрыецца хоць унізе* (Р. Барадулін).

7. Успаміны, памяць: *Горкі **дым успаміну** Хай развеюць вятры* (М.Стральцоў). ***Вятры ўспамінаў** гурбы намялі* (К. Камейша). *Я зноў, засмучаны, прайду Па **сцежцы** цяжкіх **успамінаў*** (П. Панчанка). *Бясхмарны **матыль успаміну** жалобу на крылы надзеў* (В. Тарас). ***Цягнік успамінаў** ідзе пад адхон, Ляціць на ажыны, крушыны* (М. Стральцоў). *Нашай **памяці** млее **рака** Па віне чыёй, ягамосці?* (А. Салтук). *У **студні памяці** Вада ўспамінаў ледзіцца* (Р. Барадулін). *А нашай **памяці аблога** з ранейшай ярасцю цвіце* (Г. Бураўкін). *Тады з **галінкі памяці** маёй Ты ападзеш, як нейкі ціхі смутак* (А. Коршак). ***Калодзеж памяці** дзядоў Быў самы найсалодкі* (Я. Янішчыц). *Выткалі **памяці кросны** Дні ліхалеццяя былыя* (М. Шаховіч). *Дыханне ветру Чую, наскрозь працінаюць мяне **Памяці стрэлы*** (М. Мятліцкі). *Ласкавы **туман забыцця**... прывёў да яснаты цвярозага азарэння* (Г. Юрчанка). ***Снягі забыцця** забіраюць і мары, і песні, і гора, і радасці* (А. Савіцкі).

Многія індывідуальна-аўтарскія метафары дэманструюць розную сэнсавую напоўненасць слова, яго шырокую семантычную парадыгму, абумоўленую разнастайнымі кантэкставымі акружэннямі. Паралельна ўжытыя і арганізаваныя вакол аднаго сэнсавага цэнтра сістэмы вобразаў могуць фіксаваць самыя тонкія нюансы чалавечых думак, пачуццяў і перажыванняў (часам процілеглых). Параўн.:

- *бераг юнацтва* (В. Гардзей, У. Верамейчык), *бераг маленства* (С. Давідовіч), *бераг дзяцінства* (С. Сяргей), *бераг часу* (В. Вітка), *бераг самоты* (Р. Барадулін), *берагі тугі* (А. Салтук), *бераг спагады* (К. Камейша), *берагі памяці* (Р. Барадулін), *бераг памылак* (С. Давідовіч), *бераг бязмоўя* (Н. Мацяш), *бераг пазнання* (Л. Крывецкі), *бераг жыцця і смерці* (А. Грачанікаў);

• *сувой стагоддзяў* (В. Рагаўцоў), *дзён маіх сувой* (А. Пісьмянкоў, А.Лойка, У.Скарынкін), *гадоў і дум сувой* (М. Калачынскі), *шэры сувой жыцця* (П. Прыходзька), *сувой долі* (Д. Бічэль-Загнетава), *сувой маўчання* (В. Макарэвіч), *сувой трывожных сумненняў* (Н. Маеўская), *сувой мар* (І. Ляшкевіч), *сувой бездані* (Р. Баравікова);

• *попел болю* (І. Багдановіч), *попел адчаю* (А. Пісьмянкоў), *попел мінулых страт* (З. Дудзюк), *попел адбалелых дум* (Г. Бураўкін), *попел жывых пачуццяў* (З. Марозаў), *попел далёкіх спатканняў* (Ю. Лявонны), *попел стагоддзяў* (С. Панізнік), *попел слоў* (М. Дукса);

• *прысак часу* (А. Куляшоў), *прысак дня* (Г. Самойлава), *прысак вечнасці* (Я.Хвалей), *прысак настрояў тленных* (У. Хадыка), *прысак перажытага і дарэмнага* (В. Вярба), *прысак любых прыпамінаў* (А. Шаўня), *прысак гарачага кахання* (В. Жуковіч);

• *туман забыцця* (Г. Юрчанка), *туман адвечнай нематы* (С. Грахоўскі), *туман памяці і болю* (Г. Каржанеўская), *туман фальшы і падману* (А. Вярцінскі), *шэры туман будзённасці* (Г. Бураўкін);

• *дым мінулага* (П. Трус), *дым успамінаў* (Г. Бураўкін), *горкі дым успаміну* (М. Стральцоў), *атрутны дым бяспамяцтва* (У. Караткевіч), *падману салодкага дым* (В. Ярац);

• *скразняк трывогі* (В. Адамчык), *скразняк халоднага страху* (В.Адамчык), *скразнякі жыцця* (С. Грахоўскі, М. Гудкова, М. Маляўка), *скразнякі зняверaных эпох* (Я. Янішчыц), *скразнякі айчыннага лёсу* (В. Рагаўцоў);

• *крыло самоты* (Р. Барадулін, М. Мятліцкі), *крыло тугі* (М. Шабовіч), *крыло чужых пяшчот* (К. Камейша), *крыло веры* (М. Пазнякоў), *крылы надзей* (М. Пазнякоў), *крылы забыцця* (Р. Барадулін), *крылы памяці* (Р. Барадулін), *крыло маладосці* (Г. Бабарыка);

• *дрэва жыцця* (Г. Твараповіч), *дрэва вечнага жыцця* (П. Саковіч), *дрэва нашай долі* (Р. Баравікова), *дрэвы кахання* (М. Пазнякоў), *дрэва шчасця* (Г. Бураўкін), *дрэва памяці* (Ю. Голуб);

• *келіх шчасця* (І. Навуменка), *келіх надзей* (А. Бадак), *келіх нянавісці* (У. Жылка), *келіх жалобы* (А. Лойка), *келіх злой рэчаіснасці* (І. Хадарэнка), *келіх блакітнасці* (У. Жылка), *келіх неба* (В. Куртаніч);

• *кубак жыцця* (В. Гардзей), *кубак мудрасці* (А. Звонак), *кубак роспачы* (У.Клішэвіч), *кубак успамінаў* (Х. Чэрня);

• *човен роспачы* (І. Хадарэнка), *човен жалю* (К. Камейша), *чоўны супакою* (З. Астапенка), *човен шчаслівых дум* (Я. Золак), *човен свайго жыцця.* (Э. Акулін);

• *млын падзей* (К. Камейша), *млын гадоў гарачых* (В. Стрыжак), *млын няўдзячнасці* (С. Давідовіч), *млын фантазіі* (Р. Барадулін);

• *жорны часу* (С. Сяргей), *жорны дзён* (Н. Мацяш) *жорны стагоддзяў* (В.Макарэвіч), *жорны гісторыі* (С. Сокалаў-Воюш);

• *арэлі вятроў* (А. Звонак), *юнацтва сінія арэлі* (Г. Бураўкін), *арэлі ўспамінаў* (С. Грахоўскі), *арэлі пачуццяў* (У. Гетманчук), *арэлі хмельнае радасці* (Т. Мушынская);

• *шалі паэзіі* (А. Лойка), *шалі сляпога лёсу* (М. Машара), *шалі часу* (А.Куляшоў), *шалі строгіх гадоў* (Р.Барадулін);

• *камень памяці* (Л. Дайнека), *камень нуды* (Я. Купала), *тупыя камяні чэрствасці* (А. Сербантовіч);

• *стрэлы памяці* (М. Мятліцкі), *страла пустых пагроз* (В. Куртаніч).

У структуры метафарычнага тэксту даволі распаўсюджанымі з'яўляюцца прэдыкатыўныя метафары, якія лічацца своеасаблівымі азначэннямі, вузкімі (аднаслоўнымі) ці шырокімі (шматслоўнымі) тлумачэннямі метафарычнага ЛСВ. Звязка (часцей нулявая) у такіх ізасемічных канструкцыях аб'ядноўвае два канцэпты і выражае адносіны метафарычнай тоеснасці. Прэдыкатыўныя метафары могуць складацца з аднаго ці некалькіх слоў:

1. Аднаслоўныя метафары, як правіла, выступаюць у якасці сінонімаў да зыходных лексічных адзінак і не патрабуюць шырокага кантэкставага акружэння: *Яе бровы — **смоль**, а вочы — **васількі*** (А. Дзеружынскі). *Ціха-ціха ў блакіце было. Поўня — **сподак**, а неба — **крыніца*** (Н. Шклярава). *Агата — гэта ж такая **лісіца**: міліцыянера вакол пальца абвяла* (С. Свірыдаў). *А **Міхал** — гэта ж **кіпень**, здаецца, вось-вось са скуры выскачыць* (А. Васілевіч). *Але ж жыццё само — і ёсць **дарога*** (К. Камейша).

2. Двухслоўныя прэдыкатыўныя метафары ў большасці выпадкаў дубліруюць генітыўныя і атрыбутыўныя метафары: *Сакавік — **месяц абуджэння*** (В. Матэвушаў). *Мяцеліцы — **слугі зімы*** (У. Скарынкін). *Завеі — **белыя лебедзі*** (М. Маляўка). *Сняжынкі — **белыя агні*** (А. Сербантовіч). *Месяц — **вока цыклопа*** (П. Ламан). *Вочы — **студні сухія*** (В. Лукша). *Валасы — **ручайкі лёну**, галасы — **напеў шматструнны*** (А. Звонак). *Павуцінне — **шкілет лета*** (Я. Юхнавец). *Дні мае — **пялёсткі пажоўклыя*** (С. Дзяргай). *Наша старасць не адпачывае, Бо жыццё — **нагружаны паром*** (П. Прануза). *Удзячная памяць — **найлепшы помнік*** (А. Вярцінскі). *Вучэнне — гэта **дарога да ведаў*** (Я. Курто). *Кожны крок мой рашаючы — **Латарэя без выйгрышу*** (В. Стрыжак).

Аднаслоўныя і двухслоўныя прэдыкатыўныя метафары не заўсёды дазваляюць у поўным аб'ёме выразіць сэнс, усебакова ахарактыразаваць прадмет. Таму іх дэскрыпцыя часам уключае пашырэнне і далейшае развіццё тэмы, што фармальна перадаецца даданымі членамі сказа, часткамі складаных сказаў і цэлымі сказамі. Параўн.: *Дырэктар — цюлень, ні богу свечка, ні чорту качарга* (А. Бажко). *Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас* (Я. Колас). *Каханне — гэта круг, I радыус яго — як свет, бясконцы* (А. Грачанікаў). *Мой родны дом — майго жыцця перон, Дзе маці доўга мне рукой махала* (В. Гарановіч). *Пашпарт мой —жытнёвы бохан хлеба, Што нясу на стомленых руках* (З. Марозаў). *Талент — гэта своеасаблівы скарб. Чым глыбей ён хаваецца ў патаемных спратах душы і розуму, тым цяжэй яго адкапаць на божы свет* (З. Марозаў). *Людская праца — уладар. Яна на свеце гаспадар!* (У. Дубоўка).

3. У трохслоўных прэдыкатыўных метафарах выказнік звычайна ўскладняецца прыметнікам (радзей назоўнікам), які канкрэтызуе змест генітычнай метафары: *Восень — **дум невычарпальная крыніца*** (Х. Гурыновіч). *Наша мова — **жыцця духоўнага аснова*** (С. Бестава). *Лямпачка над маёй галавой — **крыніца энергіі светлавой*** (А. Вярцінскі). *Вочы — **два маленькія паўшар'і*** (А. Сербантовіч). *Жыццё — **імклівая, бясконцая дарога*** (М. Пазнякоў). *Жыццё людзей — гэта **бясконцы ланцуг клопатаў*** (А. Васілевіч). *Курганы — **нямыя сведкі славы*** (У. Дубоўка). *Паплавок — гэта **своеасаблівы семафор для рыбалова*** (А. Матрунёнак). *Дым — **пасынак бярозы і агню.*** (В. Коўтун).

4. У шматслоўных прэдыкатыўных метафарах метафарычнае апісанне словадонара больш дэталёвае, разгорнутае: *Мова — беспамылковы камертон аўтарскай душы* (Р. Шкраба). *Каханне — першы ветразь У вясну трывожных год* (П. Прануза). *Работа — самыя найлепшыя, дзейсныя лекі ад усякай раны* (У. Краўчанка). *Маё сягоння — гэта чарнавік Маіх наступных дзён і спраў наступных* (А. Зарыцкі). *Пачынаецца восень — старая забытая песня, развітальная песня знаёмых жывых галасоў* (В. Ярац).

Семантычны і структурны дыяпазон метафарызаванага кантэксту нярэдка ўключае шматлікія аднародныя члены, мяжа якіх у радзе выпадкаў з'яўляецца даволі пашыранай, адкрытай. Сэнсавая скіраванасць і рэцыпіентны склад такіх кантэкстуальных метафар залежыць ад светабачання пісьменніка, глыбіні ўражанняў і асацыяцый, звязаных з прадметам апісання. Менавіта таму ў прэдыкатыўных канструкцыях змест дзейніка выяўляецца шляхам пільнага і скрупулёзнага падбору вялікай колькасці слоў самай рознай сэнсавай скіраванасці. Параўн.: *Каханне — гэта полымя, агонь жыцця, тварэнне цуду* (Г. Юрчанка). *Красавік — Гэта першыя краскі вясны, Некранутая сінь Танканогай пралескі, Рокат рэк гаваркіх, Буйства сокаў зямных, Вечна юнага часу Урачыстая песня*

(А. Звонак). *Поўня — сродак болесуцішальны, Шкельца ад люстраных акуляраў, Сподак ураўнаважаных шаляў, Не загнаны ў сіло, шар більярдны...* (А. Глобус). *Паэзія — яна праменняў кужаль, пачуццяў усхваляваны акіян* (Э. Валасевіч). У якасці выразнага прыкладу шырокага і практычна неабмежаванага вызначэння сутнасці паэзіі (розннях яе метафарычных тлумачэнняў) можа служыць верш Леаніда Галубовіча «Паэзія»:

Ты — ***боль***, паэзія. Ты — ***быль***.
Твае адвечныя законы
Не для забаў, не для гульбы —
А пошук ісціны да скону.

Ты — ***рай***, паэзія. Ты — ***рой***
Адвечных дум, дзе мы згараем.
І толькі геніі парой
Жылі часова гэтым раем.

Ты — ***жаль***, паэзія. Ты — ***жар***.
Я па тваім хаджу вуголлі.
Чыя не прагнула душа
Твайго зняволення і волі.

Ты — ***сум***, паэзія. Ты — ***суд***
І ***мрояў*** нашых і ***здзяйсненняў***.
Хай душы шчырыя нясуць
Высокі лад тваіх памкненняў.

Ты — ***лад***, паэзія. Ты — ***сад***
З адзіным яблыкам спакусным.
Над ім — каторы год падрад! —
Мае збалела смягнуць вусны.

Ты — ***боль***, паэзія. Ты — ***бой***.
Ты — ***праўды*** непрыступнай ***вежа***.
Я — праведнік і грэшнік твой,
Пусці мяне ў сваё бязмежжа!..

Распаўсюджанымі з'яўляюцца канструкцыі з фармальна выражаным проціпастаўленне ***не... а; а не.*** Кантрастны малюнак дазваляе высвеціць і вылучыць з усіх магчымых граняў семантычнага дыяпазону самае асноўнае, важнае, актуальнае ў дадзены момант. Параўн.: ***Не*** *проста сена воз,* ***а*** *цяжкая гара* (Я. Чыквін). *Свет праявіўся, як фатаграфія ў праявіцелі. Толькі на ёй адбіўся* ***не*** *фасад жыцця,* ***а*** *яго задворкі* (А. Асіпенка). *Паветра стаяла рэдкае, мяккае і здаровае... Гэта было* ***не*** *паветра,* ***а*** *лякарства* (В. Адамчык). *Вар'ят я не настолькі, Каб піць рахманасці адвар,* ***А не*** *падзей настойку* (В. Стрыжак). *Ішла сялом, шапталі ўслед: «Кулёма!* ***Не*** *дзеўка,* ***а*** *саломы куль»* (Р. Баравікова). *Маша* ***не*** *дзеўка,* ***а*** *золата* (І. Шамякін). *Міхась зірнуў на Кудрыцкага і выпаліў: «Гэта ж шчыгол нейкі абскубаны,* ***а не*** *карэспандэнт»* (Р. Сабаленка). У асобных выпадках часціца *не* паўтараецца двойчы: *Паэзія —* ***не*** *барабан,* ***не*** *труба,* ***а*** *чароўная флейта, хаця ў аркестры патрэбны і ўдарныя і духавыя інструменты* (Я. Рамановіч). У некаторых канструкцыях супраціўны злучнік *а* апускаецца і на яго месца ставіцца працяжнік, што дазваляе звярнуць асобую ўвагу на проціпастаўлены аб'ект: *Мяне [Ядзю]* ***не*** *бярозкай тады называў — светлячком* (У. Мехаў).

Даволі распаўсюджанымі ў тэксце з'яўляюцца структуры з некалькімі метафарамі (шматкампанентныя метафары). Нанізванне некалькі метафар розных тыпаў, іх розная спалучальнасць спрыяюць стварэнню яркага і запамінальнага вобраза. У многіх выпадках ланцугі метафар носяць апісальны характар з паслядоўным пералічэннем якіх-небудзь падзей, фактаў (часцей за ўсё прыродных):

***Траў*** *заігралі зялёныя* ***гуслі, струны сцяблін*** *і* ***цымбалы расіцы*** (М. Калачынскі). *Люблю* ***салюты навальніц, Садоў*** *вясновых* ***летуценне, Світання*** *чыстае* ***здзіўленне*** *І* ***вочы*** *смелыя* ***зарніц*** (Г. Дашкевіч). *Якое шчасце быць тут зноў сярод* ***разважлівых дубоў****! Ў цяні бяроз, ў* ***агні рабінаў****, ў* ***абдымках думак-успамінаў*** (С.Давідовіч). *Сосны і вязы, дубы і асіны Вокала возера* ***вартай*** *пасталі, Долу ківаюць* ***паклоны*** *нямыя, Небу* ***малітву*** *таемную твораць* (Я. Купала). ***Птушыны*** *замоўк* ***тэлефон****, растала* ***хмурынка чаромхі*** *белай, і зніклі зялёныя* ***ветразі крон*** (Я. Верабей). *Нёс вецер хмару ў* ***рэзгінах з маланак****, Губляючы* ***саломінкі дажджу****. Хістаў валошкі ў* ***кіпцюрах канянак****, На летні дзень надзеўшы* ***паранджу*** (В. Гарановіч). *У разрыве аблокаў усё часцей і часцей відаць было зямлю. У* ***аквамарыне акіянаў****, дзе плавалі добрыя рыбы, у зелені пушч... у* ***золаце ніў і плаціне*** *паўночных* ***рэк****, у* ***срэбнай*** *белі бясконцых садоў* (У. Караткевіч).

Агульная семантычная скіраванасць часта носіць сентэнцыяльны характар, дзе кожная метафара нясе пэўную функцыянальную нагрузку, удзельнічае ў стварэнні складанага філасофскага зместу: *І вясёлыя* ***лодкі радасці****, Баючыся сеці на* ***мель*** *Нечае* ***абыякавасці****, Знікаюць у* ***моры сноў*** *І чакаюць там новага сонца* (Х. Чэрня). *Трагедыйнасць апошняй дзеі, Шэры* ***попел з агню пачуцця****, І адна толькі* ***літасць надзеі*** *Кліча на* ***авансцэну жыцця*** (А. Кажэра). *Каля вішань, што ў* ***вэлюме снежным****, Мне выразна малюецца свет — Новых дум і турбот непазбежнасць І пражытых* ***гадоў першацвет*** (В. Гардзей). *Гарачая вера І палкасць малітваў, І* ***душаў пажар****, І* ***полымя сэрцаў****, І зыркія вогнікі свечак, І* ***спеваў цяплынь****, І пачуццяў, і* ***подыхаў жар****... Чаму ж такі* ***холад*** *У храме тваім, чалавеча?* (С. Сокалаў-Воюш).

Прычынна-выніковыя адносіны выражаюцца паміж групамі метафар, уключанымі ў першую і другую часткі метафарызаванага кантэксту (як правіла, складанага сказа): *Скінеш* ***ценю вуаль*** *з твару гордай усмешкай, І напоўніцца дзень зноў* ***ракой дабрыні*** (В. Гарановіч) *Цішыня свой навастрыла* ***меч****, І — маўчыць* ***лясны амфітэатр*** (С. Гаўрусёў). ***Здагадак чаўнакі*** *снавалі, Саткалі* ***капу забыцця*** (Р.Барадулін). *У печы бушавала* ***агніста-аранжавая завіруха****, і добра было ад таго, што ты ведаеш яе* ***нораў****, яе* ***сакрэты*** (У.Карпаў). *Зноў ударыў зялёны гром, Загула* ***ледзяная сеча****... І прачнуўся ад сну Дняпро, Распраўляе з палёгкай* ***плечы*** (Н. Тулупава).

Часта абыгрываюцца метафары-сінонімы, якія ўдакладняюць, падкрэсліваюць, вылучаюць розныя бакі адной і той жа рэаліі і садзейнічаюць стварэнню змястоўнага і насычанага вобраза: *Бургамістр... гыркнуў на сваю палавіну: «Чаго фыркаеш,* ***скрыня****? Ці ім, панам афіцэрам, скакаць з вамі,* ***тумбамі****!»* (М. Лынькоў). *Паходкай лёгкаю Ка мне насустрач прыплыла, І ты* ***лябёдкаю..****, Зялёнай* ***птушкаю*** *была* (А. Дзеружынскі). *Так, гэта быў* ***ранак паэта****, усмешліва-ясны, светлы* ***досвітак*** *яго* ***паэзіі*** (М. Арочка). *У белым* ***кіпені*** *сады, У белым* ***вэлюме*** *маёвым* (Я. Янішчыц). *М. Гарэцкаму давялося ўзнімаць у поўным сэнсе* ***цаліну****, першаму пракладваць* ***баразну*** *на* ***неўзаранай ніве*** (Ю. Пшыркоў).

Ад апісальных і падзейных метафар з некалькімі больш-менш самастойнымі сэнсавымі цэнтрамі адрозніваюцца разгорнутыя мнагафокусныя метафары, якія выражаюць адзіны кантэкстава абумоўлены сэнс. У структуры такіх метафар вылучаецца галоўны (вобразна-сэнсавы) і некалькі дадатковых (развіваючых) фокусаў. Так, у сказе *Бялелі* ***маністы*** *на* ***шыях*** *бяроз* (Ю. Гаўрук) галоўны фокус *(маністы)* і дадатковы фокус *(шыя)* разам з іншымі кампанентамі структуры выражаюць даволі злітную і закончаную інфармацыю. У сказе *Завязаўшы* ***хустку*** *сваю стрэшкай, сцішана сядзіць* ***бабуля-вёска*** *са старэчай* ***скрыўленай усмешкай*** (А. Русецкі) галоўны фокус *бабуля-вёска* ўскладнены фокусамі-распаўсюджвальнікамі *скрыўленая ўсмешка* і *хустка*.

Сярод разгорнутых мнагафокусных метафар вылучаюцца двухфокусныя метафары, у складзе якіх два фокусы ($Ф_1$ — галоўны, $Ф_2$ — дадатковы), а таксама

распаўсюджвальнікі (Р) у выглядзе дапасаваных азначэнняў (яны выражаюцца прыметнікамі і займеннікамі). У радзе выпадкаў два фокусы метафары даволі раўнапраўныя, і ў кантэкставай сітуацыі яны прадстаўлены аднароднымі членамі (А). Двухфокусныя метафары выступаюць у некалькіх разнавіднасцях:

- A = $Ф_1$ (генітыўная метафара, дзейнік) + ($Ф_1$, генітыўная метафара, дзейнік): ***Штормы войнаў**, **Спакою адлівы** Захлыналіся ў барацьбе* (Р. Барадулін). *І **сэрца халадок**, і **снег віскоў** нагадваюць далёкі цяжкі шлях* (Л. Геніюш).
- A = $Ф_1$ (генітыўная метафара, дзейнік) + ($Ф_1$, генітыўная метафара, дзейнік) + Р: *Насцігае чужынца ля кожнай сасны Зялёнае **полымя лесу**, Барвовае **полымя гневу.*** (Г. Бураўкін). *І ляцяць аж пад аблокі ва ўстрывожанай цішы **Супакою** твайго **абломкі** ды **асколкі** тваёй **душы*** (А. Вярцінскі).
- $Ф_1$ (генітыўная метафара, дзейнік) + $Ф_2$ (генітыўная метафара, даданы член сказа) + Р (і наадварот): ***Лакаматыў гадоў** маіх стракатых Вязе мяне на **станцыю надзей*** (Т. Ляшонак). ***Дарога лёсу** лініяй скразной Лягла праз **поле** ранішніх **надзей*** (З. Марозаў). *Хвалююць кроў **Арэхі воч** здзіўлёных Пад тонкім **лісцем броў*** (У. Гетманчук). *На жывым **фаліянце нябёсаў** ззяе **золата** зорнай **вязі*** (Э. Акулін). *А па шкляных **палях нябёс** Каціліся, звінелі Пругка-цвёрдыя **брусніцы** Буйных **зор*** (З.Бядуля).
- $Ф_1$ (генітыўная метафара, даданы член сказа) + $Ф_2$ (генітыўная метафара, даданы член сказа) : *Дзень малады на **пласе небасхілу Сякерай промня** голаў адсячэ* (А. Сербантовіч). *Пяшчотна **нітачку цяпла** Звязала з **ніткаю вяртання*** (К. Камейша). ***Гронку музыкі** — не вінаграду — **Гронку чараў** табе я паднёс* (М. Пазнякоў).
- $Ф_1$ (генітыўная метафара, даданы член сказа) + $Ф_2$ (генітыўная метафара, даданы член сказа) + Р: *Вы трапілі ў **пастку кватэр** з густым **павуціннем маўчання*** (М. Дукса). *На **струнах хваль** іграе вецер **сімфонію ночы** зорнае* (Л. Геніюш). *Падняць **скібіну слова** рвуся На запусцелым **дзірване** Сваёй **старонкі** Беларусі* (Я. Купала).
- A = $Ф_1$ (генітыўная метафара, даданы член сказа) + $Ф_1$ (генітыўная метафара, даданы член сказа): *Барвовая лістота Пад старым бацькавым клёнам Тоіць у сабе бадзёрыя **маналогі** летніх **лівяў**, Вясёлыя **песні вятроў*** (З. Марозаў). *Люблю зямныя колеры і гукі, **Сцяжынак спеў і гоман бальшакоў*** (Х. Гурыновіч).
- $Ф_1$ (генітыўная метафара, дзейнік) + $Ф_2$ (атрыбутыўная метафара) + Р (і наадварот): ***Вырaі нецярпення** майго Захлынуліся на **крутым перавале*** (Р. Барадулін). ***Пацеркі хмараў** парваных не згараць між **нябёсных палетак*** (Н. Арсеннева). *Пад пульхнымі **снежнымі шапкамі** прыгнуліся разложыстыя **лапы дрэў*** (Х. Жычка).
- $Ф_1$ (атрыбутыўная метафара) + $Ф_2$ (генітыўная метафара) + Р (ці без): *Вятры... на **струнах павуціны асенні** граюць **марш*** (М. Калачынскі). ***Па скронях неба** сівізной Кудысь панеслі жураўлі **Незразумелы смутак** свой* (В. Матэвушаў).
- $Ф_1$ (метафара-прыдатак) + $Ф_2$ (метафара-прыдатак): *Ля **волата-карабля** бездапаможна кідалася **муха-лодка*** (Я. Маўр). *Спі сабе, як добры пан, А што ходзіць **прус-псяюха** Або **злодзей-таракан**, — Пагадзіцца з гэтым трэба* (Я. Колас).
- $Ф_1$ (метафара-прыдатак) + $Ф_2$ (генітыўная метафара) і наадварот: ***Людзі-зоркі**: запаляцца ў свеце, Замігацяць навокал, зазіхцяць І, колькі трэба, Зямлі пасвецячы, Скоцяцца* зноў з ***небасхілу жыцця*** (К. Цвірка). *Плылі над пасёлкам **Хмар караблі**, І ў рэйс вялі іх **Вятры-капітаны*** (П. Броўка).
- $Ф_2$ (атрыбутыўная метафара) + $Ф_1$ (метафара-прыдатак): *Назад азіраюся ў скрусе І там, на **юнацкай вярсце**, Дыхнуць на **дзяўчынку-пушынку** баюся, А ўсё навакол — раскашуе, цвіце* (М. Маляўка).
- $Ф_1$ (метафара-прыдатак) + $Ф_2$ (аднаслоўная метафара) + Р: ***Скептык-бор**, усміхнуўшыся сонцу, Замахаў цёмнай **рызай** сваёй* (М. Калачынскі). ***Дуб-волат***

*стары У* ***роздум*** *глыбокі Запаў з той пары* (Н. Гілевіч). *Ля прызбы стаялі* ***сяброўкі-бярозкі****, Ранялі на голаў мне светлыя* ***слёзкі*** (К. Буйло). *Мы —* ***сняжынкі-балярынкі****, Мы танцуем* ***танец*** *свой* (Н. Галіноўская).

• А = $Ф_1$ (генітыўная метафара) + $Ф_1$ (атрыбутыўная метафара): *І я асуджаны на вечнае выгнанне У* ***ноч душы****, у* ***кніжны неспакой*** (Л. Дранько-Майсюк).

• $Ф_1$ (генітыўная метафара) + $Ф_2$ (аднаслоўная метафара) + Р (ці без) і наадварот: *Я, пэўна, не бачыў* ***кастроў арабін*** *І рук іх у* ***бранзалетах*** (У. Паўлаў). *Стамлёных* ***лісцяў*** *пыльная* ***браня*** *Тайгу адзела ў* ***шчыт*** *цёмназялёны* (С. Гаўрусёў). *І ў гэтым зблытаным, ператасаваным* ***матку думак*** *ён ніяк не змог знайсці тую* ***нітку****, з якой і трэба было пачынаць гутарку з Зарэкам* (В. Адамчык). *І раптам сцебанула маланка, сіняватым* ***джалам*** *торкнула ў* ***грэбень лесу*** (А. Кандрусевіч).

• $Ф_1$ (аднаслоўная метафара) + $Ф_2$ (аднаслоўная метафара): *Узнялі свае* ***галіны****, К небу скінулі* ***чубы*** *Пасівелыя асіны, Стогадовыя дубы* (М. Смагаровіч). *Мы гэткіх шлюбаў многа знаем: На* ***кветках*** *жэняцца* ***карчы****, І тым* ***карчам*** *мы спачуваем, Але не можам памагчы* (Н. Гілевіч). *Час ляціць і ляціць,* ***Завіруха*** *засеяла скроні, Пакідаюць* ***насечкі*** *гады на ілбе* (С. Грахоўскі). *А недзе ж вербы ў* ***завушніцах*** *Стаяць па* ***плечы*** *у вадзе* (С. Грахоўскі). *І лес задумаўся, Як пасівелы пробашч,* ***Сукном*** *змяняе лёгкую* ***парчу*** (Г. Бураўкін).

• $Ф_1$ (аднаслоўная метафара) + $Ф_2$ (атрыбутыўная метафара): *Зорнае-зорнае неба. Колькі* ***ліхтарыкаў*** *на* ***чорным парасоне****? Ніхто ніколі не пералічыць* (У. Ліпскі). *Хоць яшчэ захад у* ***малачаі****, але па ўсім небе рассыпаўся* ***залаты мак*** (М. Ніканові́ч).

Даволі часта разгорнутыя метафары ўключаюць у свой склад некалькі вобразна-сэнсавых фокусаў у спалучэнні з рознага кшталту семантычнымі распаўсюджвальнікамі, якія ў структуры тэксту нясуць пэўную лагічную, вобразную і эмацыянальную нагрузку. Часцей за ўсё сустракаюцца наступныя канструкцыі:

• Спалучэнне некалькіх генітыўных метафар (як правіла, яны выступаюць у ролі аднародных членаў): *Я з малых дзён прывык, Калі дзялюся з кім* ***Шчадротамі ўспамінаў****,* ***Глыткамі радасці, турбот****, Ці* ***крошкамі надзей****, — Глядзець у вочы субяседніка...* (М. Танк). *Ах, як нам блізка і знаёма З гадоў дзіцячых, маладых — Вясновых* ***рэчак*** *дзіўны* ***гоман****,* ***Дажджоў цымбалы****,* ***бубны грому****,* ***Жалейкі птушак*** *паміж іх* (П. Броўка). *Прастор мой любы, неабдымны,* ***Чарга*** *нясходжаных* ***пуцін****,* ***Узор лясоў*** *у далях дымных,* ***Шнуры*** *жыццёвых* ***каляін*** (М. Хведаровіч). *А я іду яго [лесу] Паслухаць спеў, Спрадвечныя чытаць* ***Пісьмёны дрэў****. Пісалі іх дажджы, Снягі, вятры На* ***серабры*** *Бярозавай* ***кары****, На* ***бронзе сосен****,* ***Зелені лістоў****, На самотканых* ***Дыванах імхоў*** (М. Танк).

• Спалучэнне аднаслоўных і генітыўных метафар: *Яшчэ ніяк не страчаны* ***запал****, Яшчэ шумяць вясенніх* ***думак рэкі****, А ўжо, глядзі, і першы* ***перавал*** *— Тваё паўвеку* (А. Бачыла). *На* ***кантрабасах дрэў****, на* ***флейтах завірухі*** *Такі* ***канцэрт*** *наладзілі вятры, Што нават снег, каб* ***рэквіем*** *паслухаць, Як белы слуп, насіўся угары* (А. Сербантовіч). *Дзень асенні ўстае па-над нівамі, праціраючы* ***вочы*** *слязлівыя, йржавай* ***рызай лісця*** *ды* ***анучамі*** *брудна-шэрых* ***туманаў*** *абкручаны* (Н. Арсеннева).

• Спалучэнне прэдыкатыўных і аднаслоўных метафар: ***Каханне****, ты — прывабная* ***быліна****, дзе з двух герояў нехта вечны* ***раб*** (Р. Баравікова).

• Спалучэнне аднаслоўных, генітыўных метафар і метафар-прыдаткаў: *У гэтай паўночнай* ***феерыі****, у багацці вады і неба, у шчодрасці рукатворнай прыгажосці не было нічога ад* ***горада-цмока****,* ***горада-драпежніка****, што паступова аблытаў* ***шчупальцамі дарог цела*** *сваёй* ***ахвяры*** *— зямлі* (У.Караткевіч).

• Спалучэнне атрыбутыўных, аднаслоўных і генітыўных метафар: ***Сыноўняя дарога****, Якая пачалася ля* ***парога****, Губляецца у* ***вогнішчы гадоў*** (А. Сер-

бантовіч). ***Газетнаю каростай*** *люд аброс, І языкі на* ***сверб*** *спажыву маюць:* ***Сенсацыі*** *газетны* ***галалёд****, Дзе коўзаецца век непадкаваны* (В. Зуёнак).

• Спалучэнне генітыўных, прэдыкатыўных і аднаслоўных метафар: *Неба скінула* ***хмарак вуаль, Зоры*** *— яркія* ***феерверкі****. Поўня ўпала на* ***грэбні хваль*** *І разбілася на* ***люстэркі*** (У. Скарынкін). ***Маладосць*** *— мая* ***песня*** *і сіла,* ***Поўня сэрца і мараў палёт****, Што пасеяла — ўсё ўскаласіла І жаданы дало* ***умалот*** (Л. Геніюш).

З мэтай дасягнення пэўнага эфекту, узмацнення ўражання і канцэнтрацыі ўвагі на неабходных, сэнсава вядучых словах выкарыстоўваецца прыём градацыйнага нанізвання метафар, які дазваляе аўтарам стварыць выразны «гіпербалічны малюнак». Параўн.: *Я* ***акіян тугі*** *правеславала, Я* ***тысячу пустынь*** *перабрыла І* ***тысячу надзей*** *там пахавала* (Н. Мацяш). *У* ***сто вятроў*** *пранясласяя над краем навала, Ў* ***сто маланак*** *і ў цэлы* ***мільён перуноў*** (Т. Кляшторны). *Пералівы ветру пераходзяць* ***у буру****, у* ***гнеўныя галасы****, у* ***ляманты*** (З. Бядуля). *І гэты дальні дом, і гэты спеў музыкі Ўзнялі* ***агнём жаданняў і журбы Акорд*** *ў грудзях яе,* ***акорд душы*** *вялікі* (В. Маракоў).

У метафарызаваным кантэксце адно і тое ж слова можа паўтарацца некалькі разоў. Такі анафарычны прыём выкарыстоўваецца з мэтай канцэнтрацыі ўвагі на прадмеце апісання, сэнсавага і лагічнага выдзялення найбольш важных думак. Розныя ланцужкі метафар, звязаныя з апорным словам, адсвечваюць яго самыя розныя грані і адценні, пашыраюць вобразнасць інфармацыі, надаюць выказванню пачуццёва-эмацыянальную свежасць: *Не кіньце каменем у* ***неба*** *памяці, У* ***неба*** *прыязнасці, у* ***неба*** *даверу, У* ***неба любові****, у* ***неба*** *надзеі — Не кіньце каменем* (Н. Загорская). *Хай рунее ў сэрцы* ***поле — Поле*** *сённяшніх трывог,* ***Поле*** *памяці і болю,* ***Поле*** *мудрых засцярог* (В. Гардзей). *Многа я* ***парогаў*** *перамог — холаду, нянавісці і зла, гукавы пераступіў* ***парог****, да* ***парога*** *падышоў святла* (В. Вітка). *Вецер яблыкі трасе, Кружыць лісця* ***карусель****, Восені* ***карусель****, Жоўтую* ***карусель*** (Н.Галіноўская). *Загадак ці спасцігнуць нам мяжу —* ***шматкроп'е*** *зорак, зерня і слядоў,* ***Шматкроп'е*** *птушак, ягад, капяжу* (Ю. Свірка). *Я люблю* ***безнадзейнасць*** *завулкаў,* ***Безнадзейнасць*** *халодных пліт* (А.Данільчык). *Вяршыня самазабыцця —* ***каханне****. Зарука вечнасці жыцця —* ***каханне****... Натхнення сакаліны ўзмах —* ***каханне****. Каліны прысмак на губах —* ***каханне*** (Г.Бураўкін). ***Слоў*** *суровых узводзім муры,* ***Слоў*** *калючых адточваем шпагі, На пяшчотнае ж* ***слова****, сябры, Не заўжды нам хапае адвагі* (Л. Дайнека).*Ты [матчына хата] —* ***паэма*** *маіх дарог, Ты —* ***паэма*** *маіх трывог, Ты — вясёлка над росным жытам* (Я. Крупенька). ***Поўня*** *— блін на патэльні ночы,* ***поўня*** *— выпуклы пуп жаночы,* ***поўня*** *— выспа спакусных слоў,* ***поўня*** *— пудкі бусловы поплаў*... (Э. Акулін).

У адной кантэкставай сітуацыі часам выкарыстоўваюцца розныя тыпы метафар (і іх камбінацыі) у сукупнасці з іншымі вобразна-выяўленчымі сродкамі, якія арганічна ўпісваюцца ў тканіну апавядання. У адным сказе метафары могуць спалучацца з параўнаннямі: *Жыццё —* ***гасцінец****, гады —* ***як вёрсты****, Канец жыццёвы — то* ***небаспад****. Ідзеш паволі, што далей — болей Тых* ***вёрст*** *жыццёвых цячэ назад* (А. Гарун). *Каханне наша,* ***як пажар.*** *Але ніхто яго не тушыць. Шугае* ***полымя*** *да хмар І спапяляе жарам душы* (Л. Пранчак). *Людское сэрца,* ***быццам мора****, У ім бывае* ***шторм*** *і* ***штыль*** (П. Броўка). ***Папас душы — як дол парожні****, дзе* ***попел страт****, сляды падкоў, на* ***холадзе*** *аўсянай* ***пожні*** *ссівелі* ***вочы васількоў****...* (А. Вялюгін). ***Пеўнік-будзіч*** *галасісты у прыгожым* ***фрэнчыку*** *— пёры граюць,* ***як маністы****, шпоры ззяюць залаціста,* ***сонца*** *на грабеньчыку* (М. Скобла).

Прыналежнасцю стылю некаторых пісьменікаў з'яўляюцца канструкцыі, у якіх спалучаюцца метафары, параўнанні і антытэзы (антонімы), што дае магчымасць перадаць складаныя, часам супярэчлівя думкі, выразіць шырокую гаму

пачуццяў і перажываннях аўтара: *Першы снег,* ***Як першае каханне,*** *Азарыў душу маю і знік* ***Чарнатроп спаткання, Снегавей расстання — Чарнавік жыцця І смерці белавік*** (Я. Хвалей). *Ад* ***першага*** *светлага юнага* ***рання*** *Да самай* ***апошняй*** *няблізкай* ***начы Зямную трывогу — прысягу змагання*** *— Я ў сэрцы павінен,* ***як сцяг,*** *берагчы* (М. Губернатараў).

Такім чынам, у структуры літаратурнага тэксту выяўляюцца розныя тыпы метафар. Сярод двухкампанентных метафар прэваліруюць генітыўныя, якія ў радзе выпадкаў ускладняюцца за кошт дадатковага ўжывання прыметнікаў, назоўнікаў, займеннікаў і іншых слоў. Рэалізацыя метафар даволі часта ажыццяўляецца ў прэдыкатыўных канструкцыях (часцей шматслоўных), якія аб'ядноўваюць некалькі канцэптаў па лініі іх тоеснасці. Шматкампанентныя метафары ў структуры тэкста выконваюць пэўную функцыянальную нагрузку і часцей выражаюць пералічальна-апісальныя і прычынна-выніковыя адносіны. Разгорнутыя двухфокусныя і шматфокусныя метафары ўключаюць у свой склад некалькі вобразна-сэнсавых цэнтраў (некалькі генітыўных ці аднаслоўных метафар, генітыўныя і атрыбутыўныя метафары, спалучэнне аднаслоўных, генітыўных, атрыбутыўных і прэдыкатыўных метафар і інш.), якія выражаюць адзіны кантэкстава-абумоўлены змест. У метафарызаваных кантэкстах выкарыстоўваюцца прыёмы нанізвання метафар, іх паўтораў, а таксама спалучэння метафар з іншымі вобразна-выяўленчымі сродкамі. Важную ролю ў структуры тэксту выконваюць індывідуальна-аўтарскія метафары, кірунак развіцця якіх не заўсёды ўкладваецца ў межы дзеяння пэўных алгарытмаў, вядомых семантычных формул і мадэляў. Іх семантычная і структурная арганізацыя абумоўлены спецыфікай светаўспрымання аўтара, яго асабістым жыццёвым вопытам, індывідуальнымі сістэмамі каштоўнасцей, багаццем уяўленняў і свежасцю асацыяцый, асаблівасцямі стылю і почырку выкладання фактаў і многімі іншымі прычынамі.



Павел ГАСПАДЫНІЧ

# КАЛІ САКУРА ЦВІЦЕ Ў БЕЛАРУСІ...

*Гуканне паэзіі Усходу. Пазыкі.* Пераклады Рыгора Барадуліна. Мінск, Рымска-каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены, 2007.

Апошнім часам, калі размова заходзіць пра перакладную літаратуру, згадваецца найбольш моднае і «часовае». Прытым, калі той жа Муракамі ці Стывен Кінг яшчэ адносна трывала пачуваюцца ў рэчышчы літаратуры, то такія імёны, як Лорка, Нэруда, Маркес, Басё, Іса, Лі Бо і шматлікіх іншых прадстаўнікоў Сапраўднай Літаратуры, шмат хто і не згадае. Асабліва крыўдна гэта і таму, што, напрыклад, класікі (не люблю розныя параўнанні, але тут зраблю выключэнне: мы згадваем Амара Хайяма, многія яго нават на памяць ведаюць, і ў той жа час не ведаем вышэйзгаданых Басё ці Лі Бо, талент якіх, спалучаны з вобразным, афарыстычным мысленнем, нарадзіў не менш геніяльныя, залатыя радкі) Усходу, далёкага і таямнічага, заўсёды выклікалі цікавасць постсавецкай літаратуры. Хаця б з той нагоды, што такія нацыянальныя формы, як хоку, танка, дазвалялі многім прымітыўна перакладаць у лепшым выпадку як белы верш і зарабляць тым самым ганарар. Спрошчанае, пазбаўленае многіх каштоўных, эстэтычных элементаў вершаперакладанне перастала быць з'явай мастацкай. Не, безумоўна, былі і вартыя пераклады, якія максімальна праўдзіва і высокім прафесійным адлюстраваннем паказвалі айчыннаму чытачу таямнічыя знакі культуры Усходу. І я вельмі прагнуў сам расшыфраваць, разгадаць сімвалы, якія пакінулі вялікія мудрацы і паэты Японіі, Кітая, В'етнама, Карэі... Але, на жаль, у адным зборніку (перакладзеных на беларускую мову) да гэтага часу чытаць не даводзілася. Так і хацелася як мага грамчэй гукнуць паэзію Усходу. Праўда, тое ж зрабіў і Рыгор Барадулін: менавіта пад такой назвай — «Гуканне паэзіі Усходу» — сёлета пабачыла кніга яго новых перакладаў. Ці, як вызначана ў выданні, — пазыкаў. Я б назваў — залатых перакладаў (пазыкаў, бо на самой справе меркаваць пра дакладнасць тых жа хоку ці танка цяжка, а сам перакладчык, узнаўляючы тэкст, адыходзіць ад кампазіцыйнай будовы). Увесь загадкавы, непрадказальны і адвечна мудры і старажытны Усход паўстаў на старонках гэтага выдання ў абліччы сваіх найлепшых прадстаўнікоў — паэтаў. Нездарма ж раней паэтаў вельмі паважалі, шанавлі. А як жа Рыгор Іванавіч данёс далёкае слова Паэзіі з Усходу на Беларусь? Ці прыжывецца яно тут, на нашай глебе? Мяркую, пытанне рытарычнае, бо ўсе пераклады Барадуліна, незалежна ад мовы арыгінала, валодаюць адной істотнай асаблівасцю: перад намі паўстае найперш сам Паэт, творы якога перакладзены, Асоба са сваім адметным стылем, светаўспрыманнем, вобразнай і метафарычнай сістэмай. Прычым яркая маляўнічасць слова, моўная раскутасць, інтэлектуальная насычанасць кожнага гуку, выкарыстанага Рыгорам Барадуліным, — вынік творчасці самага пісьменніка. Пісьменніка, якому вельмі блізкія па духу і кітайскі старадаўні паэт Ван Вэй, з яго лірычна-медытатыўным асэнсаваннем акаляючага асяроддзя, якое выклікае асацыяцыі з непарушнай гармоніяй паміж духам прыроды і духам чалавека. Толькі трэба заўважыць і прыняць у сэрца дадзенае нам звыш:

Я рады госця сустрэць,  
Туман разаслаць дываном  
<...>  
І вось на тэрасе з ім  
Мы гутарым за віном.

А лотасы расцвілі  
З усіх чатырох бакоў.

Увогуле, Барадуліну Ван Вэй блізкі яшчэ і тым, што, бадай, ва ўсіх ягоных паэтычных радках сустракаюцца вобразы прыроды, якія шмат у чым сугучны беларускім. Усё, што побач з чалавекам, усё, без чаго жыццё страчвае сваю глыбіню... Між тым, чытаючы і японскіх паэтаў, іх знакамітыя хоку і танка, і в'етнамцаў, і карэйцаў, паэзія якіх вызначаецца шматступенчатай, шматвекавой, усходняй асэнсаванасцю свету, усё адно, сакура, якая цвіла ў паэта некалькі стагоддзяў таму, успрымаецца як вішня, што расцвіла сёння пад беларускім акном. І гэта сапраўднае майстэрства Барадуліна-перакладчыка!

Другі ж аспект «нашых» усходніх класікаў — на фоне Вялікай прыроды адлюстраванне Малой — Асобы, яе душы, пачуццяў, хваляванняў, радасцяў і трывог. У невялікіх вершаваных формах прысутнічае шматзначнасць, алегарычнасць паэтычнага выказвання, глыбінны падтэкст у межах усяго некалькіх радкоў. Прытым афарыстычнасць і ёмістасць арганічна змяшчаюцца ў даволі сціслых вершаваных памерах. Адным з найбольш выдатных майстроў, напрыклад, таго ж танка (пяцірадковы нерыфмаваны верш, у першым і трэціх радках якога пяць складоў, у астатніх — па сем) лічыцца Ісікава Такубоку, твораў якога проста не магло не быць у гэтым адметным зборніку паэзіі Усходу. Нягледзячы на тое, што прадстаўлены толькі трохрадкоўі паэта, Барадулін тонка і вельмі эмацыйна перадаў усе самыя істотныя стылёвыя і сэнсавыя рысы паэзіі гэтага аўтара:

Без матчынай мовы мы ўсе — бабылі.
Змяшаўся з людской гаманою па станцыі,
Каб толькі пачуць словы роднай зямлі.

Альбо якое дакладнае, напружанае, з (не)чаканай канцоўцай, глыбіннае перажыванне, характэрнае ўвогуле для гэтых формаў, і таленавіта перададзенае нашым паэтам:

Не затрымаць слязу, што апякла шчаку.
І не забыць таго, хто паказаў,
Што ўсё — адзін дзьмушок пяску!..

А яшчэ ж ёсць і Басё! З яго настальгіяй па страчаным і пражытым, якая персаніфікуецца ў жывыя істоты, з яго паэтычным шанаваннем іншых народаў і моў, з яго глыбіннай, уражваючай інтуіцыяй, якая вынікае з сутнасці адвечна дадзеных нам рэчаў і прадметаў, і, як тая хуткакрылая птушка, ахінуўшы вокам шырокі далягляд, сягае думкай у нябёсы ісцін і праўд, якія даруюць нам, смяротным, краса родных навакольных мясцін і боская воля...

Павучынак рэдкі дым,
Зноўку вобраз Буды бачу
На абножжы пустым.
Пра маладосць і старасць:
Не зайздрошчу летняму салаўю...
У маладзенькім гаі бамбукавым
Ён аплаквае старасць сваю.

Нямала ў кнізе прадстаўлена імёнаў з Кітая, Карэі, В'етнама. Аднак цытаваць тое, што варта чытаць толькі ў поўным выглядзе, пэўна, не мае сэнсу. Адзінае, на што хочацца звярнуць увагу, да кожнага паэта Рыгор Іванавіч падышоў з пашанай і павагай, улічваючы і нацыянальнасць, і эпоху, у якую той жыў, і яго стыль. Укладальнікі кнігі ксёндз Уладыслаў Завальнюк і Ала Сакалоўская ў прадмове напісалі: «Вялікае шчасце Беларусі, што Усявышні даў нам чаканага паэта — Рыгора Барадуліна, які не толькі піша непаўторныя арыгінальныя вершы, але і з высокім майстэрствам набліжае да нас паэзію іншых народаў і часоў». Цалкам згодны з такімі словамі, а ад сябе дадам: вялікае дзякуй вядомаму ксяндзу Уладыславу Завальнюку, кандыдату філалагічных навук, дацэнту, рэдактару гэтай кнігі Але Сакалоўскай за тое, што поўная хараства, таямнічасці і адвечных чалавечых і боскіх каштоўнасцей кніга паэзіі Усходу выдадзена Рымска-каталіцкай парафіяй Святога Сымона і Святой Алены.

Анатоль РОГАЧ

# З РОДУ ЖАЛІГОЎСКІХ

Згодна з календаром памятных дат 2006 года, 20 ліпеня споўнілася 190 гадоў з дня нараджэня польскамоўнага паэта, філосафа і рэвалюцыйнага дзеяча Эдварда Жалігоўскага. Аднак грамадскасць Вілейшчыны гэты юбілей не стала адзначаць, бо адкрыты новыя абставіны адносна як даты і месца нараджэння паэта, так і некаторых прадстаўнікоў старыннага шляхецкага роду сярэдняй рукі Жалігоўскіх, радавод якіх вядомы з XVI стагоддзя.

4 сакавіка 1585 года польскі кароль Стэфан Баторый выдаў прывілей на чатыры ўчасткі зямлі Якаву Жалігоўскаму. Праз сем гадоў наступны кароль Жыгімонт III за бездакорную службу дабавіў яму ва ўладанне маёнткі Котлін, Брант і Мойса, якія знаходзіліся на Палессі паблізу Давыд-Гарадка і сталі радавым гняздом Жалігоўскіх. Паступова род разгаліноўваўся і рассяляўся. Адна галіна трапіла на тэрыторыю Вілейшчыны.

Жалігоўскія, якія карысталіся гербам Бяліна, афіцыйна атрымлівалі пацвярджэнне сваёй прыналежнасці да дваранства Расійскай імперыі некалькі разоў. Упершыню гэта было зроблена 20 чэрвеня 1802 года на Ануфрыя Іванавіча Жалігоўскага з сынамі Валерыянам, Юльянам, Іванам, Ігнаціем, Усцінам, Лявонам, Феліцыянам і іх нашчадкамі.

Вось як выглядаў іх радавы герб: у блакітным полі тры падковы, размешчаныя трохкутнікам перадкамі ўнутр, шыпамі адна да правага, другая да левага боку шчыта, а трэцяя да яго падэшвы. У апошнюю ўпіраецца вастрынёй уніз меч, залатая рукаяць якога мае від крыжа, над каронай відаць у залатой брані ўзброеная мячом рука.

Юльян Ануфрыевіч Жалігоўскі з'явіўся на Вілейшчыне пасля падзей 1812 года па пратэкцыі яго земляка, былога палкоўніка польскіх войск, старшыні Мінскай крымінальнай палаты Івана Віктаравіча Любанскага. Справа ў тым, што Юльян (1787 года нараджэння) ажаніўся з дачкой пінскага скарбніка Марціна Любанскага Марыянай. Будучы ў сваяцтве, Юльян Жалігоўскі спачатку дапамагаў Любанскаму кіраваць яго фальваркамі Зенанова і Талуць, а затым стаў адміністратарам Вілейскага казённага староства, якое здавалася ў арэнду на пэўны тэрмін (у асноўным на 12 гадоў) расійскім саноўнікам. У сувязі з наданнем у 1795 годзе Вілейцы статуса павятовага цэнтра галоўны двор староства адышоў пад горад. Само староства падзялілася на дзве воласці — Вілейскую, куды ўваходзілі фальварак Більцэвічы з аднайменнай вёскай і вёскамі Вілейка, Каловічы, Жаўткі, Асіпавічы, Ілішчавічы, і Карэйкаўскую воласць з дваром Карэйкаўцы, вёскамі Лявонавічы, Івашынавічы, Жукавічы, Асавец, Путрычы, Гарадзілавічы, Ліпневічы і Дзяракі (цяпер Горная).

Месца для пражывання сям'і адміністратара (пасэсара) староства знайшлося толькі ў Карэйкаўцах. У Жалігоўскіх адзін за другім сталі нараджацца дзеці, у асноўным, сыны. Старэйшы Соцер з'явіўся на свет яшчэ ў 1813 годзе, Мікалай — праз год.

Наступным быў Эдвард. У беларускіх, польскіх і іншых даведніках даецца дата яго нараджэння 20 ліпеня 1816 года. Так і архіўная даведка Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі паведамляе: «З засценка Карэйкаўцы. 20 ліпеня

1816 года ахрышчана дзіця імем Эдуард Вітольд, сын высакародных Юліяна і Марыяны з Любанскіх Жалігоўскіх, законных сужанцаў, з шляхты.....»

Аднак пры больш уважлівым вывучэнні метрычнай кнігі народжаных па Касцяневіцкім касцёле бачна, што ў гэты дзень хрысцілі і старэйшага сына імем Соцер Антоні, а 8 ліпеня — Мікалая. Пазней высветлілася, што гэта быў дадат-ковы абрад хрышчэння ялеем.

Першы раз Эдварда хрысцілі вадой 23 лістапада 1815 годзе і далі яму тады імя Эдвард Аляксандр. А нарадзіўся ён у засценку Карэйкаўцы два дні таму — 21 лістапада. Такую ж дату дае і «Шаўчэнкаўскі даведнік», выдадзены ў Кіеве ў 1978 годзе.

Такім чынам дакладна ўстаноўлена, што Эдвард Вітольд Жалігоўскі нарадзіўся 21 лістапада (4 снежня па новым стылі) 1815 года ў фальварку Карэйкаўцы (цяпер вёска Карэкаўцы Касцяневіцкага сельсавета). Там жа ў 1818 годзе нарадзіўся Аляксандр, а праз тры гады — Уладзіслаў. Дачка Гелена з'явілася на свет у 1823 годзе, а сын Гектар — у 1829.

Толькі ў 1821 годзе Жалігоўскія набылі па суседстве з Карэйкаўскай воласцю частку маёнтка Арпа, які складаўся з вёсак Альшэўцы і Сліпкі і налічваў крыху больш за 70 душ сялян абаіх полаў. Праз некаторы час ва ўтульным маляўнічым месцы каля безыменнага раўчука быў пабудаваны сціплы, але акуратны і добраў-парадкаваны фальварак, якому аднадушна надалі мілагучнае імя яго гасціннай гаспадыні — Мар'янполь.

З маленства Эдвард прагна цягнуўся да ведаў. Атрымаўшы першапачатковую адукацыю, у васемнаццаць гадоў стаў студэнтам Дэрпцкага (цяпер Тарту) універсітэта, дзе ўвайшоў у склад тайнага студэнцкага таварыства, што хутка было выкрыта ўладамі, і Жалігоўскі ў 1838 годзе трапіў спачатку за турэмныя краты, а пасля быў адпраўлены пад нагляд паліцыі ў родным Мар'янполі. Да гэтага перыяду адносіцца і пачатак яго літаратурнай дзейнасці. Свае вершы ён стаў падпісваць псеўданімам «Антон Сава».

Аднак вядомасць прыйшла да Жалігоўскага пасля выхаду ў свет антыпрыгонніцкай вершаванай драмы «Іардан», якая, вытрымаўшы два выданні, была забаронена. У снежні 1850 года віленскі генерал-губернатар у пісьме міністру ўнутраных спраў паведамляў: «Сочинение это, написанное звучными и хорошими стихами, исполнено разных тёмных намёков и рассуждений, доказывающих неблагонадёжный образ мыслей автора, давно уже возбудившего на себя подозрение и состоящего под надзором полиции».

Напісаная паэтам-рэвалюцыянерам другая частка «Іардана» так і не была надрукавана, а сам аўтар драмы ў студзені 1851 года быў высланы з Вільні ў Петразаводск — цэнтр Алянецкай губерні.

Час, праведзены Жалігоўскім у суровым паўночным краі, не прайшоў для яго марна. Слабае здароўе было падарвана. Эдвард піша некалькі прашэнняў на імя службовых асоб, каб спачатку далі хоць якую-небудзь справу, а затым і памянялі месца ссылкі. Толькі летам 1853 года яго перасланы ў Арэнбург. Міністр унутраных спраў Расіі, калі даведаўся пра гэта, моцна разгневаўся і загадаў выслаць Жалігоўскага ў любы заштатны горад, акрамя цэнтра губерні. Справа ў тым, што ў Арэнбурзе ён сышоўся з былым штабс-капітанам, апальным князем Сяргеем Трубяцкім, прыяцелем Міхаіла Лермантава і секундантам таго на трагічнай дуэлі з Мартынавым.

Таму праз паўгода, вылячыўшыся ад цяжкай хваробы, ссыльны паэт апынуўся ва Уфе, дзе служыў у канцылярыі грамадзянскага губернатара. У студзені 1857 года вызваліўся з-пад нагляду і, пераехаўшы ў Пецярбург, зноў стаў займацца літаратурнай працай. Аднак новая драма «Зорскі», у якой аўтар заклікаў да адмены прыгоннага права, непрымірымасці з царскім самаўладдзем, у тых умовах так і не ўбачыла свет. Але «Зорскага» ведалі многія сябры Жалігоўскага, якія прысутнічалі на вечарах, дзе паэт сам чытаў яе.

Тым часам у сталіцу Расіі прыязджае Тарас Шаўчэнка. Завочна яны былі знаёмы праз беларуска-польскага мастака і пісьменніка Бранiслава Залескага яшчэ па прыбыцці Жалігоўскага ў Арэнбург. Жалігоўскі называў украінскага паэта пакутнікам і народным правадыром, а Шаўчэнка пранікся да нашага земляка пачуццямі шчырага сяброўства, высока цаніў яго паэзію.

Ужо на другі дзень пасля прыбыцця Шаўчэнкі ў Пецярбург адбылася першая сустрэча Жалігоўскага з вялікімі Кабзаром. На адным з вечароў ён прачытаў свой новы верш «Да брата Тараса Шаўчэнкі». А неўзабаве ўжо ў адказ Кабзар піша верш «У спадчыну Эдварду Саве», дзе выкарыстаў беларускую народную песню «Пасаджу я ля хаціны» з драмы «Зорскі». Пазней Жалігоўскі з ахвотай перакладаў творы Шаўчэнкі на польскую мову.

Пры пасрэдніцтве Жалігоўскага Т. Шаўчэнка зблізіўся з тайнымі пецярбургскімі арганізацыямі. Яны збіраліся на кватэры аднаго з петразаводскіх прыяцеляў Жалігоўскага Васіля Белазорскага. Той, у сваю чаргу, быў членам Кірыла-Мяфодзіеўскага тайнага таварыства, якое дзейнічала ў Кіеве ў 1845—1847 гадах і ставіла сваёй мэтай нацыянальнае вызваленне Украіны, ліквідацыю прыгоннага права, стварэнне ўсеславянскай федэратыўнай рэспублікі. За дачыненне да дзейнасці таварыства яго ўдзельнікі былі сасланы ў розныя аддаленыя куткі Расіі. Сярод іх Тарас Шаўчэнка, гісторык і пісьменнік Мікалай Кастамараў, украінскі пісьменнік і этнограф Панцеляймон Куліш і іншыя.

Многія з іх амаль што ў адзін час пасля вяртання з ссылкі апынуліся ў сталіцы і, натуральна, пачалі зноў сустракацца. Сюды ж далучыліся выхадцы з Беларусі, актыўныя арганізатары паўстання 1863 года Кастусь і Віктар Каліноўскія, Зыгмунт Серакоўскі. Вось як апісвае Жалігоўскага Кастамараў у сваёй аўтабіяграфіі: «... чалавек гадоў 30 (гэта толькі на выгляд, на самай справе яму ўжо споўніўся 41 год. — **А. Р.**), элегантна апрануты, даволі прыгожы сабой, з гаворкай, здзейсненай жадання, меў такія прыкметы, па якіх чалавека можна назваць угодлівым. Ён тады пачаў з натхненнем чытаць мне свае польскія вершы, якія мне спадабаліся, магчыма, падкупіў мяне сваім зместам, які меў дачыненне да любімай маёй ідэі». Сам жа Эдвард быў актыўным членам гуртка, які займаўся пытаннямі польска-беларускай гісторыі і літаратуры. Гурток падтрымліваў цесную сувязь з ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыяй, якая дзейнічала ў Пецярбургу ў 1856—1864 гг.

У 1859 г. вядомы дзеяч Агрызка пачаў выдаваць часопіс «Слова», рэдактарам якога стаў Жалігоўскі. Цяпер Эдвард ужо па службовых абавязках некалькі разоў наведваў Беларусь, сустракаўся з вядомымі літаратарамі Віцебска.

Эдвард Жалігоўскі пабываў і ў родных мясцінах. У гэты час у Гарадзілаве (Маладзечанскі раён) жыла пісьменніца Габрыела Пузына (з Гюнтэраў), аўтар кніг пра гісторыю і тагачаснае жыццё Вілейшчыны. У яе засталіся цёплыя ўспаміны пра сустрэчы з Эдвардам.

Аднак часопіс пасля выпуску 15-га нумара за сваю антыўрадавую накіраванасць быў закрыты.

У 1858 г. Жалігоўскі выдаў свой новы паэтычны зборнік «Паэзія», антыклерыкальную паэму «Манахі» і двухтомнік нарысаў «Сёння і ўчора», дзе зноў услаўляў беларускі народ і яго культуру, жадаў яго хутчэйшага вызвалення з-пад прыгнёту. Тут жа пісаў і пра творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча. У той час А. Герцэн у пісьме да І. С. Тургенева пісаў: «...Ты ведаеш Жалігоўскага. Ён, я мяркую, не без падстаў, адзін з палякаў, які мае сапраўдныя звесткі. Ты б у яго папытаў ды мне адаслаў іх...»

Праз два гады Жалігоўскі пераехаў у Вільню, дзе наспявалі важныя рэвалюцыйныя падзеі, але доўга пажыць там не ўдалося. Падарванае ў ссылках здароўе ўсё часцей нагадвала пра сябе, і ён вымушаны быў лячыцца за мяжой. Жыў у Італіі, Швейцарыі, супрацоўнічаў з перадавымі эмігранцкімі арганізацыямі, выступаў там у друку.

28 снежня 1864 г. ва ўзросце 49 гадоў ён памёр у Жэневе, дзе і пахаваны. Быў нежанаты.

Бацька паэта памёр 8 мая 1853 года. На могілках ў Касцяневічах захаваўся чыгунны помнік яму, які быў адліты на Вішнеўскім металургічным заводзе. Маці памерла 18 сакавіка 1857 года і пахавана там жа, але магіла не ўцалела. Пасля смерці бацькоў маёнтак Мар'янполе перайшоў з-за даўгоў ва ўладанне дваранскай апекі і ў сярэдзіне 60-х гадоў дастаўся новым гаспадарам — Таўстыкам.

Як склаўся лёс іншых дзяцей Жалігоўскіх? Вядома, што Гектар і Гелена (па мужу Радзевіч) пражывалі на Вілейшчыне. Аляксандр у 1843 годзе быў памочнікам Бабруйскага акружнога начальніка. Пры ім брат Уладзіслаў кіраваў у 1846 годзе будаўніцтвам шасэйнай дарогі Бабруйск—Магілёў, для чаго наймаў 109 чалавек з казённага маёнтка Рабунь.

Прыкладна ў той час Аляксандр трымаў у арэндным уладанні казённы маёнтак Валкалата, Уладзіслаў — Вілейскае казённае староства, а за Эдвардам лічыўся на ўтрыманні казённы фальварак Плябанцы.

Мікалай ажаніўся з Юліяй Мазуркевіч. Вясной 1842 года ў іх нарадзіўся сын Густаў, якога хрысцілі ў Куранецкім рымска-каталіцкім касцёле. Сярод ганаровых гасцей былі бацька і сын Іван і Зенон Любанскія, Эдвард Жалігоўскі і іншыя. Пазней у сям'і прыбавіліся яшчэ дзеці — Эраст, Чэслаў, Фелікс, Люцыян і дачка Тарэза-Марыя.

Мікалай Жалігоўскі са сваёй сям'ёй актыўна падтрымаў нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 года ў Польшчы, Літве і Беларусі, за што быў высланы разам з жонкай і малалетнімі дзецьмі ў Табольск.

У Вілейцы імем Эдварда Жалігоўскага названа адна з вуліц у новым мікрараёне. Па ініцыятыве яе жыхароў тут была ўстаноўлена і мемарыяльная дошка.

На радзіме паэта ў вёсцы Карэйкаўцы побач з каплічкай ўсталявалі памятны знак, а вучні Касцяневіцкай сярэдняй школы 1 верасня 2006 года на Дзень ведаў правялі свой першы ўрок па яго творчасці. План заняткаў распрацоўвае Віктар Віктаравіч Кажура — настаўнік гімназіі № 2 г. Вілейкі, які з вучаніцай гімназіі Бажэнай Мацюк з'яўляюцца вялікімі аматарамі творчасці Эдварда Жалігоўскага і займаюцца перакладамі на беларускую мову яго вершаў.

## *Люцыян Жалігоўскі*

Звязаць імя вядомага польскага военачальніка і дзяржаўнага дзеяча з Вілейскай лініяй Жалігоўскіх раней не было ніякай падставы, бо нідзе ні ў гістарычнай, ні ў даведачнай літаратуры пра гэта не згадвалася. Нават пра дакладнае месца яго нараджэння існуе некалькі афіцыйных звестак — Ашмяны, Солы, Нясвіж. Ды і дата з'яўленная яго на свет давалася як 19, так і 17 кастрычніка 1865 года.

Але пры больш глыбокім вывучэнні біяграфіі Люцыяна Жалігоўскага высветлілася, што яго бацька Густаў разам з маці Уладзіславай з Трацэўскіх і братамі бацькі былі высланы ў Сібір за ўдзел у паўстанні 1863 года, сумненні аб тым, што гэта адна і тая сям'я, зніклі.

Засталося знайсці месца нараджэння нашага славутага земляка. Пачаліся клапатлівыя пошукі ў архівах Мінска і Вільні, але яны амаль нічога не далі. Засталася надзея на Гродна. І вось у фондах мясцовага нацыянальнага гістарычнага архіва мяне чакала радасная знаходка. Прывяду даслоўную выпіску з метрычнай кнігі Сольскага рымска-каталіцкага касцёла: «5 кастрычніка 1865 года ахрышчана дзіця імем Люцыян Мечыслаў Рафал дваран Густава і Уладзіславы (ураджонай Трацэўскай) Жаліговічаў. Сын нарадзіўся 19 верасня 1865 года ў фальварку Пераходы. Хросныя бацькі — дваране Люцыян Мікаш —

капітан 2-га Сафійскага палка з Палагеяй Зданеўскай — удавой». Тэрмінова звязаўся са сваім сябрам — смаргонскім краязнаўцам Уладзімірам Прыхачам. Ён на старой карце знайшоў, што фальварак Пераходы сапраўды існаваў раней паблізу вёскі Дэгісі на супрацьлеглым беразе Ашмянкі (цяпер Сольскі сельсавет Смаргонскага раёна). Старэйшыя жыхары Дэгісі пацвердзілі гэты факт. Таксама ўдалося высветліць, што Пераходы пасля канфіскацыі іх ва ўдзельнікаў паўстання Жалігоўскіх-Трацэўскіх неўзабаве набыў разам з бліжэйшымі маёнткамі памешчык Базарэўскі.

Цікавая гісторыя паходжання назвы недалёкай вёскі Жалігава, якая ўтульна месціцца ўздоўж невялікай рачулкі Секуні — прытока Ашмянкі. Кожны апытаны яе жыхар з гонарам заяўляў, што гэтай назве яны абавязаны вядомаму польскаму генералу Жалігоўскаму, які ў дзяцінстве і юнацтве часта бываў тут у сваіх родзічаў.

Старэйшая жыхарка вёскі Ядвіга Расахацкая, якой споўнілася 88 гадоў, расказала, што яе бацька Вацлаў Мацвеевіч Міцюль у дзяцінстве разам з Люцыянам лавіў рыбу і пасвіў кароў. Марыя Францаўна Стрэцкая добра памятала ўспаміны старажылаў пра тое, як Жалігоўскі гасціў на канікулах у кроўных па мужу Стрэцкіх, паказала тое месца, дзе калісьці стаяла іх хата. А дзед Чарняк любіў расказваць пра сваё дзяцінства, калі часта сустракаўся з Люцыянам, пра іх дзіцячыя гульні, забавы, што іх равеснік быў вельмі жвавым хлапчуком, заўсёды першым залазіў на самыя высокія дрэвы. Пазней яго забраў на вучобу ў ваеннае вучылішча нейкі афіцэр. Магчыма, гэта быў хросны бацька Жалігоўскага Люцыян Мікаш, які адказваў за выхаванне хрэсніка, бо бацькі так і не вярнуліся з ссылкі.

Далей Марыя Францаўна расказала, што дзесьці ў сярэдзіне трыццатых гадоў мінулага стагоддзя яе тата, вярнуўшыся аднойчы дадому, паведаміў, што на агульным сходзе яго аднавяскоўцы аднагалосна прынялі рашэнне аб перайменаванні іх вёскі з брыдкай назвай Сікуня ў Жэлігава.

У 1958 годзе адбылася адна з першых хваляў перайменавання немілагучных назваў населеных пунктаў у пасляваенны перыяд. Тады і ўспомнілі, што ў 1920 годзе жаўнеры Жалігоўскага адыгралі ключавую ролю ў абароне польскай сталіцы ад бальшавікоў, разамкнуўшы савецкі фронт і паклаўшы пачатак паражэння Чырвонай Арміі пад камандаваннем Тухачэўскага.

Побач з Жэлігавым знаходзіўся былы фальварак Вішнеўка, таму і вёску па яго падабенству назвалі Вішневам.

Тым часам 31 жніўня 1959 года быў скасаваны Свірскі раён і частка сельскіх саветаў, у тым ліку і Вішнеўскі, былі далучаны да Смаргонскага раёна і там з'явіліся ўжо дзве вёскі з аднолькавай назвай Вішнева. Пачалася блытаніна. Многія вялікагрузныя машыны замест далёкага цэнтра сельсавета і калгаса траплялі ў недалёкую невялічкую вёсачку, дзе немагчыма было толкам і развярнуцца. Пасыпаліся скаргі. І вось у 1971 годзе адбылося вяртанне старой назвы, толькі замест Жэлігава па-беларуску сталі пісаць Жалігава.

Па скупых звестках аб дзяцінстве Люцыяна Жалігоўскага вядома, што ён выхоўваўся ў сям'і Мікашаў. Больш за ўсіх ён з прыемнасцю ўспамінаў цётку Кацярыну, якая жыла ў Жупранах і замяніла яму маму. У школу хлопчыку хадзіць не давялося, і ён спасцігаў грамату па духоўнай літаратуры і газетах. Падлеткам памяняў многа занятак — пасвіў кароў, батрачыў у паноў, падсабляў мулярам, вучыў вясковых дзяцей і марыў стаць ваенным па прыкладзе свайго хроснага бацькі. Для гэтага экстэрнам закончыў адну з Віленскіх гімназій і ў 1885 годзе добраахвотнікам пайшоў служыць у 116-ы Вяземскі пяхотны полк. Затым была школа юнкераў, якую малады падпаручнік закончыў з адзнакай.

Ужо ў тыя гады Жалігоўскі прытрымліваўся ў жыцці двух прынцыпаў: ніколі не пазычаў грошай і не піў спіртнога. Апошняе вельмі перашкаджала

яго ваеннай кар'еры, асабліва калі прыйшлося адмовіцца ад падтрымкі тоста за здароўе імператара Аляксандра III.

Удзельнік руска-японскай вайны, у чыне капітана камандаваў там батальёнам. Яго ваеннае майстэрства асабліва ўзрасло ў гады Першай сусветнай, а затым і савецка-польскай вайны 1919—1920 гадоў. За праяўленую доблесць быў неаднаразова ўзнагароджаны рознымі ардэнамі, у званні генерал-падпаручніка ўзначальваў дывізію польскіх стральцоў пры рускай арміі.

У 1919 годзе пераходзіць на службу ў польскую армію, дзе Пілсудскі прызначае яго камандуючым на ўсходзе. Пасля ўдалай аперацыі пры абароне Варшавы і ліквідацыі паходу Чырвонай Арміі ў Польшчу фарміруе Літоўска-беларускую дывізію, якая, фактычна, стала арміяй, бо налічвала каля 45 тысяч чалавек.

Жалігоўскі ў пачатку кастрычніка 1920 года інсціраваў па загадзе Юзафа Пілсудскага «бунт» па захопе Віленскага краю, які папярэдне стаў лічыцца тэрыторыяй Літвы, а 12 кастрычніка раніцай было аб'яўлена аб стварэнні «Незалежнай суверэннай дзяржавы Сярэдняя Літва» плошчай каля дзесяці тысяч кв.км, дзе пражывала 530 тысяч чалавек. Яна ахапіла поўнасцю ці часткова Ашмянскі, Свянцянскі, Трокскі, Віленскі, Браслаўскі, Лідскі і Вілейскі паветы.

Пасля падпісання ў сакавіку 1921 года Рыжскага мірнага дагавора, па якім да Польшчы адышлі заходнія землі Беларусі і Украіны, улады Сярэдняй Літвы ўзялі курс на далучэнне да Польскай дзяржавы, што і адбылося 20 лютага 1922 года.

Вярнуўшыся ў Варшаву, Жалігоўскі неўзабаве прызначаецца міністрам вайсковых спраў, у маі 1926 года падтрымаў пераварот, які прывёў да ўлады Пілсудскага, а праз год выходзіць у адстаўку. Выбіраўся дэпутатам польскага сейма. З яго трыбуны і ў друку крытыкаваў палітыку сілы былога свайго начальніка, яго паплечнікаў і паслядоўнікаў, рэзка выступаў супраць пераследу беларускіх нацыянальных дзеячаў таго часу, выказваўся за ідэю славянафільства. У 1939 годзе эміграваў у Англію, выступаў за супрацоўніцтва з СССР у барацьбе супраць фашысцкай Германіі.

Пасля вайны збіраўся вярнуцца ў Польшчу, заклікаў сваіх суайчыннікаў зрабіць гэта таксама, але 7 чэрвеня 1947 года пасля сардэчнага прыступу генерал памёр у Лондане. Пахаваны ў Варшаве.

Вось такая гісторыя гэтага незвычайнага чалавека, нашага земляка. Думаю, што мясцовым уладам ці вернікам варта ўстанавіць на будынку Сольскага касцёла Маці Божай адпаведны памятны знак.



Мікола МАКАРЦОЎ

# ГОЛАС СВЯТОЙ ЗАХАРАНКІ

*«Ёсць у кожнага свой мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца больш яснейшы. Куточак гэты — тая хата, дзе мы вучыліся бегаць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства».*

Іван Мележ

Праяўленне цікавасці да гістарычных звестак аб сваім горадзе, мястэчку, вёсцы ўласціва кожнаму чалавеку амаль з нараджэння і да самага скону. І тое нядаўняе бяспамяцтва, якое запаланіла нашы душы, вяртае нас зноўку адшукваць бацькоўскія шляхі да сваіх каранёў, святыняў, якія пазарасталі нашай бездухоўнай абыякавасцю.

Мая вёска Уюн, што на Быхаўшчыне, здаецца, на першы погляд, нічым не адрозніваецца ад іншых вёсак, якіх тысячы на Беларусі. Не нарадзіла яна, як, да прыкладу, вёска Нізок, што на Уздзеншчыне, найвядомейшых літаратараў, мастакоў, слынных вучоных. Але тым не менш Уюн мае сваю адметнасць, непаўторнасць. Бо кожная вёска — гэта своеасаблівая краіна, з усім сваім — моваю, звычаямі, норавамі і побытам. І заўсёды яна ў маіх вачах паўстае ў найпрыгажэйшых колерах. Таму як творца, зведаўшы Беларусь, ураджэнец вёскі Уюн, я ўзяў на сябе адказнасць і палічыў сваім абавязкам намаляваць хоць нейкія штрыхі да яе партрэта: апісаць навакольныя краявіды, спыніць увагу на гістарычных звестках, распавесці пра яе некаторых жыхароў — маіх аднавяскоўцаў, з іх працоўнымі і гераічнымі традыцыямі, з прыгодніцкімі аповедамі, у якіх і сам падчас з'яўляўся непасрэдным удзельнікам у дзіцячыя і юначыя гады.

Калі перавальвае на шосты дзесятак і жыццёвы спідометр пачынае адкручваць гады другога паўстагоддзя, на гэтым вітку, відаць, і надыходзіць час, калі асабліва абвастраецца ўнутранае чуццё — зрок душы. І тады адчуваеш непарыўную повязь з роднай вёскай, са сваім родам, аднавяскоўцамі.

Таму, куды б ні закінуў мяне творчы лёс, у блізкія ці далёкія дарогі, я заўсёды згадваю мой дарагі куточак Уюн, дзе нарадзіўся, дзе прайшлі мае малечыя і юначыя гады.

**Вёска Уюн і рачулка Уюнок**

Па сведчанні старажылаў, некалі на месцы вёскі Уюн быў непралазны лес і бурліла невялікая рачулка, у якой вялося шмат рыбы, асабліва ўюноў. Калі гэта мясціна пачала засяляцца людзьмі, — продкамі цяперашніх уюноўцаў, то яны выкарчоўвалі лес і будавалі свае хаты ўздоўж рэчкі, таму і вёска выцягнулася, як той уюн, у адну доўгую вуліцу на добрую сотню двароў. Адсюль дзве версіі паходжання назвы вёскі: першая — ад рачулкі, якую назвалі ласкава Уюнком, другая — ад характару забудовы.

Рачулка Уюнок, нібы пужлівы лясны звярок, абыходзіць агароды і крадзецца па альховым зарасніку ўзбоч вёскі, нібы баіцца, каб часам людзі яе не пакрыўдзілі. І толькі можа ўволю пацешыцца, калі злучае сваю плынь з ракой Грэзай, якая працякае праз суседнюю вёску Гамарня.

Прыгадваецца дзяцінства, калі мы, хлапчукі, лавілі кошыкамі ўюноў, смажылі на патэльні. Яны былі вельмі смачныя. Нас не палохалі ні віры, якія часам засмоктвалі з галавою, ні вадзяныя вужакі, ні студзёная вада, асабліва ў тых мясцінах, дзе білі крынічныя ключы. А крынічак уздоўж Уюнка нямала; яны жывяць рачулку чыстай халоднай вадой. Уздоўж рачулкі расце пераважна вольха, страчаецца вярба і нават каліна, чырвоныя гронкі якой увосень здаля вабяць вока. У ранейшыя часы рачулка Уюнок была карміцелькаю для вяскоўцаў. У ёй заўсёды можна было злавіць рыбы на юшку і нават на добрую патэльню. Нейкі час насялялі рачулку і ракі.

Незабыўныя летнія вечары, з надыходам якіх на траве выступае раса. У дробных кропельках зіхацяць промні сонца, што садзіцца за лесам. Мноства светлячкоў у цёплыя пагодлівыя ночы запальваюць свае ліхтарыкі. І ад гэтага яшчэ больш казачным робіцца рэчышча, акутанае сівым туманом. А ў майскую завіруху буйнаквецені, салаўіныя рапсодыі і вечарам, і ранкам замілоўваюць вёску.

**Уюноўскія наваколлі**

Відаць, не толькі аднаму мне прыгадваецца вёска Уюн, але і ўсім, каму хоць аднойчы давялося наведаць гэты райскі кут, навакольныя мясціны. У народзе кажуць: «Кожны кулік сваё балота хваліць». Нельга ўтрымацца, каб не выказаць захапленне маляўнічай мясцовасцю, і перш за ўсё лясным багаццем. Сапраўды, лесу ў ваколіцах Уюна шмат, яго ўгоддзі даходзяць амаль да Рагачова. Розных ягад і грыбоў там багата. Акрамя людзей, ласуюцца імі цецерукі, рабчыкі, глушцы. Сустракаюцца ў лясных шатах, балотах ласі і дзікія вепрукі. Часам збіраючы ягады ці грыбы, бачыш іх ляжанкі і сцежкі, якімі яны ходзяць на вадапой. Іншы раз ласі завітваюць і ў вёску, а вепрукі «праполваюць» на гародах пасевы. Сустракаюцца і санітары лесу — ваўкі. Раней, калі ў калгасе было шмат жыўнасці, яны часта з'яўляліся ля калгаснай фермы, нападалі на жывёлу ў лесе і на полі. Паляўнічыя рабілі на іх частыя аблавы. Зайцы ж прыбягаюць у лютую зімку ў садочкі, каб паласавацца маладымі яблынькамі. Крайнія хаты, што туляцца бліжэй да лесу, можа наведаць асцярожная лісіца з надзеяй пажывіцца курацінай. Палюбілася рачулка Уюнок бабрам, якія напілавалі за вёскай з вольхі цэлыя гаці, зрабіўшы своеасаблівыя масты праз рачулку.

Калі ж дажджлівае лета, знаходзяць у балотцах прытулак і качкі. Здараецца, што ўвечары яны не раз пралятаюць над вёскай.

...Прыгожа на досвітку ў нашым лесе. Яшчэ не ўзышло сонца, а ты ўжо ідзеш і пільна ўглядаешся наўсцяж — карціць адшукаць маладога баравічка. А бывае нечакана цябе абцярушаць хвойныя іголкі, кара. Кінеш позірк уверх, а над табой, на галінцы, сядзіць вавёрка ды раптам спрытна пераскочыць на другое дрэва пры дапамозе хваста-парашута і згубіцца ў вершалінах лесу.

Не паспееш налюбавацца вавёркай, як недзе збоку ў гушчары пачуецца трэск. Гэта — лось выходзіць на паляну. Ён не вельмі палохаецца сустрэчы з чалавекам. Можа хвіліну-другую запытальна пазіраць на цябе, потым разважна пакіравацца на ўзбочыну і згубіцца сярод дрэў. Рушыш далей, і раптам пад кустом нешта засапе — гэта вожык.

Кожная мясціна вакол вёскі мае сваё імя.

«Вялікае балота» разлеглася ўздоўж і ўпоперак на ладныя кіламетры. Ёсць у гэтым балоце і азярына пад назвай «Бяздонніца». Яшчэ ў маленстве даходзілі да мяне чуткі, што яна адпавядае сваёй назве. Некалькі мужыкоў, маіх аднавяскоўцаў, звязвалі жэрдкі, але дастаць дна так і не змаглі. Гэтай мясціны людзі староняцца, лічаць, што небяспечна каля яе апынуцца ноччу. Тут балем правіць балотнік і лёгка можа завабіць у Бяздонніцу.

«Чыстая лужа»... Мо яе таму так называюць, што ў ёй вада заўжды празрыстая, хаця і знаходзіцца ў невялікім балоце. Улетку ў спякотны дзень пастухі гоняць кароў на вадапой менавіта да Чыстай лужы. Здараецца, што ў засушлівае

лета Чыстая лужа высыхае, але пройдуць дажджы, і яна зноўку радуе — роўна з берагамі вадой.

«Папова гара»... Магчыма, там некалі было жытло святара, бо мясціна гэта — у двух кіламетрах ад вёскі. Згаданы ўзгорак — лясны і ўвесь у ямах, ля якіх раскіданы абгрызеныя косці і чарапы розных хатніх жывёл. Сюды заўсёды звозілі і звозяць калгасную ці гаспадарскую жывёлу, якая гіне ад хваробы ці па іншай прычыне. «Жывёльны могільнік» стаў сталоўкай для многіх лясных звяроў, асабліва ваўкоў. У дзіцячыя і юначыя гады я неаднаразова чуў у зімовыя доўгія ночы іх выццё на Паповай гары.

«Лазараў двор»... Колішнім хутарскім жыццём павявае ад гэтай мясціны. Тут, на хутары, калі яшчэ жылі аднаасобна, сярод дубняку і арэшніку пасяліўся нейкі Лазар. Меў ён шэсць сыноў, шмат зямлі, жывёлы, вялікую пасеку. Жыў заможным вольным жыццём, і калі сталі ствараццa калгасы, яго хацелі скрануць з месца і перасяліць у вёску, але ён наадрэз адмовіўся. Тады па загадзе старшыні калгаса вяскоўцы пачалі бурыць хату, прытым у холад, калі меншыя сыны Лазара грэліся на печы. Мінулі гады, і ў час вайны гэта перасяленне па прымусе з раскіданым гняздом адгукнулася помстай. Калі прыйшлі немцы, Лазар выдаў ім старшыню калгаса, якога яны расстралялі.

Прываблівае наш лес не толькі жыхароў вёскі. У ягадны і грыбны сезон амаль увесь Быхаў, а мо і палову Магілёва можна сустрэць у ім, і ўсіх ён шчодра адорвае сваім багаццем. Ва ўрадлівыя на маліну, гады сцяблінкі галінак аж прыпадаюць да зямлі ад цяжару чырвоных наліўных ягад. А восенню ўюноўскі шлях робіцца галоўнай «магістраллю» ў грыбную «краіну». У суботнія і нядзельныя дні імчаць сюды безліч матацыклаў і машын з грыбнікамі. На жаль, сярод іх нямала і такіх, хто бязлітасна «абдзірае» ягаднік, знішчае грыбніцу...

**Крокі майго маленства**

Дарога ад вёскі да Быхава не была для мяне чужой з ранняга дзяцінства. Немагчыма прыгадаць, колькі я па ёй прайшоў і праехаў. Маё дзіцячае ўяўленне пра гэтую дарогу складвалася паводле аповедаў старэйшага брата: на ёй ляжалі доўгія гадзючыя хвасты і наўкола сноўдалі ваўкалакі. Безумоўна, брат палохаў мяне, а я па дзіцячай недасведчанасці верыў яму, бо далей ваколі сваёй вёскі нідзе не бываў. А Быхаў — гэта ж далёкая таямнічая краіна. Але яна паступова набывала свае рэальныя рысы, калі я дапамагаў маці, сястры і брату несці за плячыма клункі ягад-чарніц у Быхаў на продаж — па пяць капеек за шклянку, каб хоць як кольвеч «залатаць» сваю беднасць.

Прыгадваю, якой неспатольнай радасцю свяціліся мае вочы, калі, выйшаўшы з лесу на Быхаўскае поле, я нарэшце ўпершыню здаля ўбачыў мроісты горад, пра які шмат чуў ад старэйшых. І нават цяпер, калі ў мяне за плячыма падчас творчых падарожжаў засталося шмат гарадоў і нават краін, кожная сустрэча з Быхавым выклікае адгалоскі дзяцінства. Тады самалёты на быхаўскім ваенным аэрадроме раўлі так гучна і раз'юшана, уздымаючыся над самай дарогаю, што я мусіў з перапалоху кідаць клунак і лажыцца ў прыдарожную канаву. Затое, калі за прададзеныя на кірмашы ягады, маці, адарваўшы частку грошай ад сціплага сямейнага бюджэту, купляла нам нейкія ласункі, я даваў сабе слова не баяцца больш самалётаў, як гэта ўласціва сапраўдным героям.

**Загадкі былога пастушка**

Нас дзяцей у сям'і Макарцовых было пяцёра. Старэйшыя браты Міхась, Іван, старэйшая сястра Таццяна, малодшы брат Віктар і я, Мікола. Сямейка не малая. Як казалі мае аднавяскоўцы — «Такім гуртам добра і бацьку біць». Тата, Фёдар Аляксандравіч, прайшоў праз усю вайну, быў узнагароджаны ордэнам і медалямі. Мама, Яўгенія Аляксееўна, заслужыла медаль мацярынства за выхаванне пецярых дзяцей. На вялікі жаль, мае бацькі былі зусім неадукаваныя, з малых гадоў працавалі, не мелі магчымасці хадзіць у школу. Тата на працягу

многіх гадоў пасвіў статкі калгасных кароў, мама на калгаснай ферме працавала даглядчыцай авечак і цялят. Таму нам, дзецям, пастухоўскага хлеба давялося пакаштаваць удосталь. Мама ўставала вельмі рана, да пеўняў, паліла печ, рыхтавала нам усім сняданак, даглядала хатнюю жывёлу, збірала тату ў торбу пастухоўскі абед, адпраўляючы яго са статкам кароў на ўвесь дзень за 15—20 вёрст у лес, бо лугавой пашы ў нашых мясцінах амаль не было. Старэйшыя браты былі падпаскамі ў таты, я ж — матульчын памагаты.

Мама будзіла мяне вельмі рана, перад узыходам сонца. Калі я ішоў да аўчарні выганяць на папар авечак, то бачыў, як яно толькі падымалася над падковай лесу вялікім вогненным шарам. Ён быў ярка-асляпляльным і раскідваў промні на траву, якая ўспыхвала срэбранымі кропелькамі расы. З усяго статка авечак выдзяляўся баран з кручастымі вялікімі рагамі-абаранкамі і пышным мяккім дываном поўсці. Калі я назіраў за авечкамі, слухаючы спеў палявых птушак, баран-рагач падыходзіў да мяне і асцярожна, але ўпэўнена таўхаў рогам пад бок, настойліва чакаючы ласункаў. Здаралася так, што пастухоўскі абед я ахвяраваў яму цалкам. Трушчыў ён і яблыкі, яшчэ даволі зялёныя з гаркатою, якіх я назапашваў поўныя кішэні.

Пасябравалі мы з рагачом не адразу, а праз пэўны адрэзак часу, да гэтага цярпліва прыглядаліся адзін да аднаго. Калі я мусіў падсілкавацца і даставаў з торбачкі харчы, ён падыходзіў да мяне і глядзеў з надзеяй атрымаць пачастунак, і калі атрымоўваў, то рабіўся вельмі ручным і дазваляў мне садзіцца ў мяккую пярыну і верхам на ім рабіць падарожжа вакол статка. Я па-дзіцячы быў радасны і шчаслівы.

**Вёска мая гарэла**

Варта засяродзіць увагу і на трагічным лёсе які напаткаў вёску Уюн у гады Вялікай Айчыннай вайны. Па расказе маёй маці Яўгеніі Аляксееўны Макарцовай і суседкі Ганны Рыгораўны Новікавай, можна лічыць, што Уюн ледзь не раздзяліла лёс вогненных вёсак Быхаўшчыны, якія згарэлі разам з людзьмі. І толькі своечасовае папярэджанне паспрыяла таму, што мае аднавяскоўцы выратаваліся, за выключэннем некалькіх чалавек. Калі паказаліся немцы збоку Быхава і пачалася страляніна, уюноўцы пакінулі хаты і беглі ў лес, прыхапіўшы з сабою ежу, жыўнасць, адзенне. Пры такім нечаканым перасяленні некаторым пашанцавала закапаць у яму бульбу і вопратку, якія затым ім вельмі спатрэбіліся. Перабегшы рачулку Уюнок, аднавяскоўцы стаялі на ўзлеску і з жахам назіралі, як гарэлі родныя хаты, двары. Бязлітаснае полымя ахапіла ўсю вёску, знішчала ўсё нажытае. Чорны дым засланіў неба. Душылі горкія слёзы перажыванняў, болю, адчаю.

Нямала гора зведалі вяскоўцы ў лясных зямлянках. І пасля вайна яшчэ доўга страляла ў іх сэрцы і душы. Дзеці-падлеткі ўзрываліся на мінах, калечыліся.

Аднак ішлі гады, вёска паступова залечвала раны. На папялішчах з'яўляліся новыя хаціны. Нараджаліся дзеці.

**Голас святой Захаранкі**

Ёсць на маёй радзіме мясціна, адметная сваёй святасцю, якая з дзяцінства вабіць да сябе. Прыязджаючы да матулі ў бацькоўскую хату, я заўсёды знаходжу часіну, каб завітаць да святой крынічкі, наталіць смагу і ўзяць з сабою ў горад слоік гаючай вады, ад якой адбываецца і фізічнае і духоўнае ачышчэнне.

Святая мясціна пад назвай Захаранка знаходзіцца паміж вёскамі Уюн і Гамарня, за рачулкай Уюнком. Крынічка, якая прываблівае вока сваёй празрыстай, чыстай, халоднай вадой, бруіць у лагчыне, абапал якой пераважна растуць яліны з вольхай. Арэшнік, як той малодшы брат, туліцца да іх. Жвавы раўчук, выцякаючы з крынічкі, знаходзіць сваю пуцявіну па некалі выкапанай канаве, затым, віхляючы па маладым алешніку, сыціць сваёй жывізной рачулку Уюнок. А наогул у гэтай

мясціне адчуваецца подых даўніны і таямнічай загадкавасці. І ціш, якая пануе тут, могуць зрэдку парушыць чалавек, звер, птушка ці жывы голас, што даляціць з вёскі і згубіцца ў вершалінах дрэў.

Наведваючы Захаранку, я не раз вяртаўся ў незабыўнае дзяцінства, калі мы, басаногія хлапчукі, прыбягалі да святога месца, каб паласавацца «заечай капустай», якая была хоць і кіслай, але смачнейшай за шчаўе. У жніўні ж чапляліся на арэшніку, каб нарваць поўныя кішэні спелых арэхаў «жытнікаў», збіралі ягады, грыбы. Наваколле Захаранкі спаўна аддавала і аддае людзям свае дары.

Некалі ў гады дзяцінства ў царкоўныя святы да Захаранкі ішлі не толькі мае аднавяскоўцы, але і людзі з суседніх вёсак. Маліліся і з бутэлькамі, слоікамі жывой вады вярталіся да хат. Чым жа прыцягвала Захаранка да сябе святочна апранутае шэсце люду? Каб зразумець яе прыцягальную сілу, спынюся на невялічкім паданні, якое расказала мне суседка па вёсцы Ганна Рыгораўна Новікава.

Некалі тут стаяла царква, якую падмылі падземныя плыні, і яна правалілася. На яе месцы ўтварыўся дрыгвісты яр, дзе бруіліся тры гаючыя крыніцы. З дасведчання Ганны Рыгораўны ёсць падставы сцвярджаць, што некалі тут сапраўды было збудаванне, бо як укопвалі крыжы, то рыдлёўкі натыкаліся на камяні і рэшткі цэглы. Зрэшты, гэта святая мясціна патрабуе больш грунтоўнага і глыбокага даследавання. Адна з версій, напрыклад, сцвярджае, што мяркуемая былая царква звязана з імем святога Захарыя. Менавіта ад яго і паходзіць назва — Захаранка.

Пасярод яра калісьці стаяла каплічка. Яе пабудавалі мае землякі пасля таго, як вярнуліся на свае папялішчы. Перажыўшы вялікае гора і цяжкія выпрабаванні ліхалецця, усе пачалі гарнуцца да святога месца Захаранкі. У пасляваенныя гады, кажуць, часта здаралася засуха, і людзі ішлі да Захаранкі, маліліся. І Бог даваў дождж. Ахвяравалі грошы, клалі іх ля абразоў, манеты кідалі ў крынічную студзёную ваду...

Аднак давайце мы «адкруцім» назад свае імклівыя гады на дзесяткі два-тры і вернемся ў той час, калі намі кіравала камуністычная ідэалогія, не спрыяючы нашай духоўнасці. Цяжкі лёс напаткаў тады Захаранку. Знайшліся людзі, якія спілавалі алешыну і накіравалі дрэва на каплічку, ад удару якога яна і разваліласся. Навокал потым валяліся абразкі на снезе, іх падбірала тая ж Ганна Рыгораўна.

З таго часу пачаў зарастаць шлях да Захаранкі, дзічэла святое месца. Каб не даць загінуць святыні, сцяжынку да яе адраджэння я пачаў шукаць, калі ўвасабляў свята Купалля ў сваіх землякоў на старажытнай летапіснай гары Баркулабавай. Падчас свята сустрэў свайго аднавяскоўца, аднакласніка, старшыню калгаса «Спадарожнік» Уладзіміра Сцепанцова. Менавіта ён стаўся маім першым аднадумцам у справе адраджэння Захаранкі, бо гэтае святое месца было знітавана таксама і з ягоным дзяцінствам. Назаўтра пасля Купальскай ночы мы сустрэліся зноў, далучыўшы да сябе яшчэ двух кіраўнікоў гаспадарак з мэтай у наступнае лета адбудаваць капліцу і зрабіць належны падыход да крыніц.

Заручыўшыся падтрымкай трох кіраўнікоў гаспадарак, якія паабяцалі дзейсную дапамогу, я звярнуўся ў Міністэрства культуры да тагачаснага галоўнага рэдактара рэдакцыйнай калегіі, паэткі Ніны Загорскай. І, на шчасце, знайшоў у яе асобе і ўхвалу, і падтрымку. Адгукнуўся на нашу занепакоенасць і айцец Мікалай, святар з Быхаўскай царквы. За адраджэнне Захаранкі выступілі і кіраўнікі раёна.

І вось нарэшце, пятага чэрвеня 1994 года, у дзень памяці нябеснай заступніцы Беларусі — Еўфрасінні Полацкай, Захаранка дачакалася свайго адраджэння. Арганізатарам гэтай духоўнай дзеі выступіла Рэспубліканская дырэкцыя нацыянальных мастацкіх праграм, якую ўзначальваў Міхаіл Масюкоў. Непасрэдны ўдзел у яе ажыццяўленні браў і аўтар гэтых радкоў як рэжысёр. Ніна Загорская, вяртаючыся з Польшчы, прывезла з сабою на Быхаўшчыну шэраг абразкоў, сярод якіх і святы Ілля-прарок для капліцы. Не змагла застацца абыякавай да справы адраджэння Захаранкі і мастачка-даследчыца беларускага

арнаменту Марыя Жабінская. За некалькі дзён да духоўнай дзеі яна прыехала ў вёску і праводзіла падрыхтоўку да Хрэснага ходу.

Нягледзячы на дробны дожджык, што ішоў з самай раніцы, ля перакрыжавання дарог, адна з якіх вядзе да крыніц, сабралася багата людзей. З Быхава, з навакольных вёсак і мястэчак спяшаліся і старыя і малыя. Бо менавіта адсюль павінен быў пачацца Хрэсны ход да некалі забытай святыні, а яна сапраўды перажывала сваё другое нараджэнне. У гэты дзень Захаранку наведалі святары з Быхава і Магілёва.

Раптам разышліся хмары, выглянула сонейка, і, здавалася, сама прырода і Бог радуюцца адраджэнню святой Захаранкі. Пад царкоўныя званы пачаўся Хрэсны ход, аднаўляючы шлях яшчэ да адной беларускай святыні. Так, гэта сапраўды шлях, а не забытая Богам і людзьмі сцяжынка. Да Хрэснага ходу далучылася мноства людзей, здавалася нават, што масток праз рачулку Уюнок не вытрымае такога цяжару. І па ўсім наваколлі разносіліся гукі духоўных песень у выкананні хору з Магілёва. Потым адбыўся малебен і асвячэнне адбудаванай Свята-Ільінскай капліцы і ўзноўленых трох крыніц. А вялікая чарга людзей імкнулася набраць у слоікі ды бутэлькі жывой, гаючай вады. Усе свяціліся духоўнай радасцю, бо скінулі той камень са сваіх душ, які ўсклалі на іх доўгія гады бяспамяцтва.

І зноў як некалі ідуць да святыні людзі з адкрытымі сэрцамі, чыстымі памкненнямі, каб адчуць сваю высокую чалавечую годнасць у чаруючай лясной цішыні перад Свята-Ільінскаю капліцаю.

**Жыві, мая вёска Уюн!**

Мая вёска Уюн некалі была вельмі людная, увечары на вуліцы ладзіліся вечарынкі моладзі, іграў гармонік, прыходзілі юнакі і дзяўчаты з суседніх вёсак. Жыла Уюн працоўным вірлівым жыццём. Але паступова моладзь пачала знікаць з вёскі: хто вучыцца ў горад падаўся, хто працаваць. Там жа асядалі, заводзілі свае сем'і і толькі прыязджалі і прыязджаюць наведаць сваіх бацькоў. Моладзі амаль не засталося, зрэдку нараджаюцца і дзеці, і відавочным робіцца, што вёска памірае. Паміж хатамі з'яўляюцца прагалы: хата стаіць сіратліва, а ў ёй ніхто не жыве.

Не тая стала рачулка. Зараз яна змялела, зарасла хмызняком і выглядае даволі занядбанай. Не чуюцца звонкія галасы дзятвы, як даўней за лоўляй рыбы і ў час купання спякотнымі днямі. Відаць, былую яе шчодрасць, якой яна адорвала ўюноўцаў, ужо не вернеш, бо гэта страчана назаўсёды.

Я часта ў сне і наяву вяртаюся ў сваю родную вёску, хаця там ужо няма маіх маці, бацькі і двух старэйшых братоў.

Ідуць гады... Колькі іх яшчэ наперадзе?.. Многае мяняецца ў маёй вёсцы не да лепшага. А вельмі хацелася б, каб яна стала маладзейшай, абудзілася галасамі дзятвы, набыла неўміручасць, дзякуючы пераемнасці пакаленняў жыла весела, дбайна, шчаслівa і заможна ў вяках. Я мару аб гэтым і малюся за гэта.





# *МЕТРЫКА*

*літаратурная*

**410**

гадоў таму на Брэстчыне нарадзіўся **Філіповіч** Афанасій, беларускі пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч.

З 1620 года быў пры двары князя Л. Сапегі. З'яўляўся настаўнікам Я. Лубы, якога польскія прыдворныя колы выдавалі за рускага царэвіча. У 1627 годзе пастрыгся ў манахі пры віленскім Свята-Духавым манастыры. Жыў у манастырах (Куцеінскім, Міжгорскім, Дубайскім, Купяціцкім). У 1640—43 гадах — ігумен Сімяонаўскага манастыра ў Брэсце. У 1637—38 гадах ездзіў да рускага цара, напісаў спецыяльную рэляцыю «Гісторыя падарожжа ў Маскву». Гэта яго першы публіцыстычны твор, напісаны ў арыгінальнай форме, у якім своеасаблівай паэтычнай мовай распавядаецца пра цяжкае становішча праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны ў Рэчы Паспалітай. За актыўную дзейнасць супраць Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года і рэзкія выпады на дзяржаўных сеймах у адрас караля сасланы ў Кіеў (1643), але хутка вярнуўся ў Брэст. За дапамогу рускаму паслу ў 1644 годзе арыштаваны і пасаджаны ў варшаўскую турму, дзе напісаў шэраг артыкулаў («Навіны», «Фундамент непарадку касцёла рымскага», «Супліка трэцяя», «Прыгатаванне на суд», «Парада пабожная», «Аб фундаменце царкоўным»), у якіх з дэмакратычных пазіцый крытыкаваў палітыку Рэчы Паспалітай, царкоўных іерархаў, феадалаў, выступаў супраць уніі, за саюз з Рускай дзяржаваю. У 1644—47 гадах знаходзіўся ў ссылцы ў Кіева-Пячэрскім манастыры.

15 верасня 1648 года па абвінавачанні ў дапамозе казакам Б. Хмяльніцкага расстраляны.

Аўтар «Дыярыуша» («Дзённіка», 1646), дзе сабрана ўся публіцыстыка пісьменніка. Творчасці А. Філіповіча ўласцівы эмацыянальнасць, вобразнасць апавядання, жывасць і прастата выкладання. «Дыярыуш» — помнік палемічнай літаратуры Беларусі, у якім знайшлі адлюстраванне пэўныя грані барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў супраць феадальна-каталіцкай агрэсіі. У ім таксама змешчаны напеў (запісаны кіеўскай 5-лінейнай натацыяй) гімнападобнага канта Філіповіча, які з'яўляецца адным з найбольш ранніх нотных запісаў беларускай музыкі.

**175**

гадоў таму ў Пецярбургу нарадзіўся **Дзмітрыеў** Міхаіл Аляксеевіч, беларускі і рускі этнограф і фалькларыст, педагог.

Скончыў Галоўны педагагічны інстытут у Пецярбургу. З 1853 года працаваў настаўнікам у дваранскім вучылішчы. Пазней быў дырэктарам гімназіі ў Навагрудку. У 1867—73 гадах быў інспектарам, потым дырэктарам Гродзенскай дырэкцыі народных вучылішчаў. Член Рускага геаграфічнага таварыства. Займаўся збіраннем беларускай народнай вуснай паэтычнай творчасці, асабліва тапанімічных і міфалагічных легенд, якія друкаваў у газеце «Виленский вестник», «Минские губернские ведомости»... Зрабіў апісанні народных звычаяў,

абрадаў, сялянскага побыту, цікавіўся жывой беларускай мовай — спрабаваў скласці паказальнік слоў і выразаў гаворак Навагрудчыны. Сабраў каштоўныя звесткі пра А. Міцкевіча, на радзіме паэта запісаў легенды і ўспаміны пра яго землякоў-сучаснікаў. Выдаў зборнік беларускай народнай паэзіі («Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю», 1869).

Памёр у 1873 годзе.

**115**
гадоў таму ў Кішынёве нарадзіўся **Бразер** Абрам Маркавіч, беларускі скульптар, жывапісец і графік.

Да 1910 года вучыўся ў мастацкіх вучылішчах Адэсы і Кішынёва. Пасля — у Парыжскай акадэміі мастацтваў (1912—14). Удзельнік выставак: «Асенні салон» у Парыжы (1913), «Свет мастацтва» ў Петраградзе (1916). У 1918—23 гадах працаваў у Віцебскай народнай мастацкай школе (з 1920 года Дзяржаўная мастацкая майстэрня), потым у Мінску. Быў членам Усебеларускага аб'яднання мастакоў і Рэвалюцыйнай арганізацыі мастакоў Беларусі. Вызначаюцца яго скульптурныя партрэты Ю. Пэна (1921), С. Міхоэлса (1935), партрэт народнага настаўніка М. Б. Голуба (1940), статуя С. М. Кірава (1937—40), партрэт С.К. Цімашэнкі (пастэль, да 1935).

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1940).

Памёр у 1942 годзе.

**90**
гадоў таму ў вёсцы Слабада Рагачоўскага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Сурначоў** Мікола (Мікалай Мікалаевіч), беларускі паэт.

Вучыўся ў мясцовай школе. Пасля паступіў у Гомельскі сельскагаспадарчы тэхнікум і, скончыўшы яго, працаваў аграномам на Рагачоўшчыне. Пасля перайшоў на працу ў раённую газету «Камунар». У 1937—39 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Гомельскага педагагічнага інстытута. У 1939 годзе перавёўся ў Мінскі педагагічны інстытут імя А. Горкага. Вучобу сумяшчаў з працай у рэспубліканскіх газетах «Звязда» (1939—40) і «Чырвоная змена» (1940—41). З 1941 года — у Савецкай Арміі. Ваяваў на франтах Вялікай айчыннай вайны. Удзельнічаў у абароне Каўказа, у вызваленні Беларусі, Украіны, Румыніі, Польшчы.

Узнагароджаны ордэнам чырвонай Зоркі і медалямі.

Загінуў 20 красавіка 1945 года пад Берлінам.

Друкавацца пачаў у 1933 годзе (Рагачоўская раённая газета). Выйшлі зборнікі паэзіі (пасмяротна) «На сурмах баравых» (1946), «Барвовая зара» (1959), кніга вершаў, лістоў і ўспамінаў «Акопны спеў (1986). Выступаў таксама з літаратурнымі артыкуламі і рэцэнзіямі.

**Ліпень**

**2**
— **85** гадоў таму ў горадзе Жырардаў (Польшча) нарадзіўся **Вагнер** Генрых Матусавіч, беларускі кампазітар, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, народны артыст Беларусі.

Скончыў беларускую кансерваторыю па класах фартэпіяна (1948) і кампазіцыі (1954). З 1962 года быў выкладчыкам Беларускага педагагічнага універсітэта. Прафесар (1986).

Сярод вядомых яго твораў: опера «Сцежкаю жыцця» (пастаўлена ў 1980), тэлеопера «Ранак» (1967), балеты «Падстаўная нявеста» (1958), «Святло і цені» (1963), «Пасля балю» (1971), вакальна-сімфанічныя паэмы «Вечна жывыя»,

«Героям Брэста» (прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, 1976). Напісаў тры сімфоніі і канцэрт для сімфанічнага аркестра ды іншыя музычныя творы.

Памёр у 2000 годзе.

3

— **100** гадоў таму ў вёсцы Кашына Аршанскага раёна нарадзіўся **Стаховіч** Алесь (Аляксандр Іосіфавіч), беларускі празаік.

Скончыў у Оршы сярэднюю школу ў 1923 годзе. Быў накіраваны на камсамольскую работу. Працаваў загадчыкам аддзелаў культуры і прапаганды ў Крупскім, Талачынскім і Жлобінскім райкамах партыі. Быў начальнікам палітаддзела ў саўгасах «Горкі-Апчак», «Старчыцы», інструктарам ЦК КП Беларусі. З 1938 года — адказны сакратар рэдакцыі часопіса «Полымя». Ваяваў на фронце. Пасля знаходзіўся на творчай працы.

Друкавацца пачаў у 1928 годзе ў «Чырвонай змене». У 1930 годзе ў часопісе «Беларуская работніца і сялянка» апублікаваў сваё першае апавяданне. Пісаў нарысы, фельетоны, невялікія аповеды. Першая кніга «Маленькія героі» (1939) была прысвечана дзецям. Выдаў кніжкі «Шумяць лясы», «Неспакойны гарадок», «Пампей Шчупак», «Пад мірным небам», «Шырокія гарызонты», «Залаты карп» (1973). У 1947 годзе выходзіў том выбраных твораў.

Памёр у 1956 годзе.

6

— **85** гадоў таму ў вёсцы Дараганава Асіповіцкага раёна нарадзілася **Рамановіч** Яўгенія Міхайлаўна, беларускі мовазнавец.

У 1948 годзе скончыла БДУ. З 1952 года працавала ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР, з 1954 года старшы навуковы супрацоўнік. Даследуе дыялекты беларускай мовы. Яна — адзін з аўтараў «Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы» (1961—62), «Нарысаў па беларускай дыялекталогіі» (1964), «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963), «Лінгвістычнай геаграфіі і групоўкі беларускіх гаворак» (1968—69), «Мікратапаніміі Беларусі» (1974), «Беларускага мовазнаўства». Бібліяграфічны паказальнік. 1825—1965» (1967 і ў 1980 разам з А. Васілеўскай). За ўдзел у комплексе прац па беларускай лінгвагеаграфіі была ўзнагароджана Дзяржаўнай прэміяй СССР (1971).

7

— **125** гадоў таму ў фальварку Вязынка нарадзіўся **Янка Купала** (сапр. Луцэвіч Іван Дамінікавіч), беларускі паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, грамадскі дзеяч; класік беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і беларускай мовы, народны паэт Беларусі.

Вандроўнае жыццё сям'і змушала вучыцца ў выпадковых настаўнікаў, спачатку па-польску, пасля па-руску (у няні). Вучыўся ў Сенненскім двухкласным народным вучылішчы, у прыватнай падрыхтоўчай школе ў Мінску. Скончыў Бяларуцкае двухкласнае народнае вучылішча (1898). Жывучы ў Селішчах, ён пазнаёміўся з паплечнікам К. Каліноўскага З. Чаховічам, які быў асуджаны за ўдзел у паўстанні на 12 гадоў катаргі, карыстаўся кніжкамі з яго багатай бібліятэкі. Гэта знаёмства прабудзіла ў ім цягу да мінулага Беларусі. Там, у Селішчы, памёр бацька (1902) і праз паўгода ад шкарлятыны малодшы брат Казік, праз тыдзень дзве сястры Гэля і Сабіна. Янка застаўся за гаспадара. Пачаў працаваць вандроўным настаўнікам, а пасля пісарам і многа яшчэ на якіх работах, у тым ліку і чорнарабочым на бровары і вінакурам на заводзе ў Яхімаўшчыне. У 1908 годзе з'ехаў у Вільню і ўладкаваўся бібліятэкарам у прыватнай бібліятэцы «Веды» Б. Даніловіча. Разам з гэтым супрацоўнічаў з газетай «Наша Ніва». У 1909 годзе па парадзе У. Самойлы паехаў у Пецярбург, вучыўся там на агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева. Быў пад апекай Б. Эпімах-Шыпілы.

Прымаў удзел у студэнцкіх літаратурных гуртках. Пазнаёміўся са стваральнікам беларускага тэатра І. Буйніцкім і рускім пісьменнікам У. Караленкам. У 1913 годзе, пасля заканчэння вучобы, вярнуўся ў Вільню, пачаў працаваць сакратаром у «Беларускім выдавецкім таварыстве», а пасля ў рэдакцыі газеты «Наша Ніва». З сакавіка 1914 года яна пачала выходзіць за подпісам Янкі Купалы як адказнага сакратара (абавязкі рэдактара ён пачаў выконваць значна раней). У 1915 годзе ў звязку з вайной эвакуіраваўся з Вільні і паступіў у Маскве ў народны універсітэт імя А. Шаняўскага. У 1916 годзе ажаніўся з Уладзіславай Францаўнай Станкевіч. Служыў у царскай арміі, працаваў агентам па забеспячэнні харчамі Заходняй вобласці. Разам з М. Гарэцкім быў слухачом факультэта гісторыі мастацтваў Смаленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута. У 1919 годзе, пасля абвяшчэння БССР, пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Працаваў шмат на якіх пасадах, у тым ліку і ганаровых. У 1921 годзе быў інцыдэнт з уладамі і на паэта наклалі хатні арышт. У 1930 годзе з'явіўся ў друку артыкул Л. Бэндэ, пасля якога паэт і яго сям'я патрапілі ў апалу. 7 лістапада 1930 года ён зрабіў спробу самагубства. Жыццё ўдалося выратаваць, і ўрэшце паэта змусілі выдрукаваць у «Звяздзе» «пакаянны» ліст (снежань 1930). Вонкава выглядала, што народны паэт прымае актыўны ўдзел у грамадскім і літаратурным жыцці краіны. Насамрэч то былі духоўнае «хаджэнне па пакутах». Падчас вайны згарэла хата паэта з вялікім архівам і бібліятэкай, а таксама лецішча ў Ляўках. Ён выехаў у Маскву, пакінуўшы ў Мінску старую маці. У эвакуацыі жыў у Печышчах пад Казанню. Часта бываў у Маскве. 28 чэрвеня 1942 года Янка Купала пры невысветленых абставінах трагічна загінуў у гатэлі «Масква», упаўшы ў лесвічны пралёт з 10-га паверха. Ёсць тры версіі гібелі: самагубства, няшчасны выпадак і спланаванае забойства... У ліпені 1942 года пасля крэмацыі быў пахаваны ў Маскве. У 1962 годзе урна з прахам Янкі Купалы была перавезена ў Мінск, і паэт быў перазахаваны на Вайсковых могілках.

Свой першы верш, прысвечаны сястры Леакадзіі, напісаў у 1903 годзе. Пачынаў пісаць на польскай мове. Першы беларускамоўны верш «Мужык» быў надрукаваны ў мінскай газеце «Северо-Западный край» 15 мая 1905 года. З 1907 года Янка Купала сістэматычна друкаваўся ў газеце «Наша Ніва». Першы вершаваны зборнік «Жалейка» выйшаў у 1908 годзе пад рэдакцыяй Ядвігіна Ш. Пры жыцці выдаў нямала кніг. Вось найбольш знакавыя з іх: «Адвечная песня» (1910), «Сон на кургане» (1912), «Шляхам жыцця» (1913), «Паўлінка» (1918), «Спадчына» (1922), «Безназоўнае» (1925), «На куццю» (1928), «Курган» (1940). Пасля гібелі паэта яго кніжкі выходзілі амаль штогод, але з выбарачным цэнзурным зместам. Неаднаразова выдаваліся Выбраныя творы ў некалькіх тамах. Выйшаў Поўны збор твораў.

Янка Купала — класік беларускай літаратуры. Першы Народны паэт Беларусі (1925). Акадэмік АН Беларусі (1928) і АН Украіны (1929). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1941). Яго імя ўшанавана ў помніках, назвах вуліц, універсітэтаў, устаноў. Ёсць Літаратурны музей Янкі Купалы ў Мінску, першым дырэктарам якога была ўдава паэта У. Ф. Луцэвіч (1891—1960). У мемарыяльным запаведніку «Вязынка» штогод праводзіцца свята купалаўскай паэзіі. Па сутнасці Янка Купала — адзін з асноўных духоўных сімвалаў беларускай нацыі.

**7**

— **120** гадоў таму ў гарадскім пасёлку Лёзна на Віцебшчыне нарадзіўся **Шагал** Марк, беларускі і французскі мастак яўрэйскага паходжання.

Вучыўся ў Пецярбургу ў Л. Бакста (1907—08). Жыў у розных месцах — у Францыі (1910—14, 1923—41 і з 1947 да апошніх дзён), у Мексіцы і ЗША (1942—47). Стварыў мастацкі свет, навеяны ўспамінамі пра родны Віцебск, яўрэй-

скі побыт і традыцыі. Аўтар карцін «Дзень нараджэння», «Прагулка», «Скрыпач», «Рабін», «Пеўнік і арлекін», «Цыркачка», «Зялёнае вока», «Падзенне анёла», «Сабат», «Расія аслоў і іншых», «Гадзіннік з блакітным крылом», «Чырвонае сонца», «Нядзеля», ілюстрацый да Бібліі, дэкарацый для Камернага яўрэйскага тэатра ў Маскве, балетаў «Алека» ў Мексіцы і «Жар-птушка» І. Стравінскага ў Нью-Йорку, «Дафніс і Хлоя» М. Равеля ў Гранд-Апера ў Парыжы (там жа зрабіў размалёўку плафона тэатра), вітражы сабора ў Мецы (Францыя) і ў сінагозе шпіталя Хадаса ў Іерусаліме. З 1994 года ў Віцебску праводзяцца Міжнародныя пленэры Шагала.

Памёр у 1985 годзе ў Парыжы.

**9**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Каласоўшчына Капыльскага раёна нарадзіўся **Астрэйка** Сяргей Адамавіч, беларускі паэт.

Вучыўся ў Капыльскай сямігодцы. Там жа пачаў пісаць вершы. У 1928 годзе прыехаў у Мінск і паступіў у педтэхнікум. Скончыўшы яго, пачаў працаваць літаратурным рэдактарам выданняў Беларускага НДІ прамысловасці. У 1932—33 гадах — навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Працаваў у камісіі па складанні слоўнікаў. У 1933 годзе ў выніку сфабрыкаваных абвінавачванняў быў арыштаваны і высланы ў Ірбіт Свярдлоўскай вобласці. Працаваў бухгалтарам матэрыяльнага аддзела Ірбіцкага падшыпнікавага завода. У 1937 годзе, адбыўшы тэрмін высылкі, быў арыштаваны паўторна. Несправядлівы смяротны прыгавор, падпісаны 13 верасня 1937 года, быў выкананы на наступны ж дзень.

Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Яго паэтычныя здольнасці заўважыў Цішка Гартны, які параіў адаслаць некаторыя вершы ў друк. У 1928 годзе вершы шаснаццацігадовага юнака з'явіліся ў «Чырвонай змене». Пасля арышту маці перавезла ўсе яго паперы ў вёску, там яны і загінулі падчас вайны. Сярод іх і ўхваленая самім Янкам Купалам паэма «Бенгалія». Паэт быў падрыхтаваў свой першы зборнік вершаў «Смарагды кроз», які так і не ўбачыў свету з-за арышту аўтара. Ад С. Астрэйкі, на жаль, засталася вельмі малая спадчына: некалькі вершаў, артыкул і рукапіс ранняй паэмы «Смарагды кроз», але і гэтыя творы сведчаць пра несумненны талент паэта і высокую ступень яго майстэрства. У ссылцы зрабіў мастацкі пераклад «Яўгенія Анегіна» А. Пушкіна, аднак рукапіс таксама згубіўся.

**10**

— **70** гадоў таму ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна нарадзіўся **Капыловіч** Мікола (Мікалай Фаміч), беларускі празаік.

Скончыў Астражанскую СШ, працаваў інструктарам Лельчыцкага РК ЛКСМБ (1956—58). У 1958 годзе паступіў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Пасля заканчэння (1963) працаваў настаўнікам Цудзенішскай СШ Ашмянскага раёна. З 1964 года ў Мінску. Рэдактар выдавецтва «Беларусь» (1964—71 і 1981—83), літаратурны сакратар газеты «Звязда» (1971—73), рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» (1973—81). У 1983 годзе з-за перанесенай траўмы выйшаў на пенсію па інваліднасці і пераехаў на жыхарства ў Маладзечна.

Літаратурнай працай пачаў займацца ў часы студэнцтва. Першая публікацыя ў рэспубліканскім друку прыпадае на 1960 год. Першая кніга з сімвалічнай для тагачаснай літаратуры назвай «Скрозь жывуць людзі», на якую цёпла адгукнуліся ў перыёдыцы В. Бечык, У. Калеснік, М. Прашковіч, Б. Сачанка, А. Якімовіч, выйшла ў 1968 годзе. Выдаў кніжкі «Засада», «Дні ціхай восені», «Чужы сваяк» ды іншыя. Пісаў таксама і для дзяцей.

Памёр у 2000 годзе.

13

— **110** гадоў таму ў вёсцы Мікалаеўшчына нарадзіўся **Галіна** Антось (Міцкевіч Міхаіл Міхайлавіч), беларускі празаік, публіцыст, перакладчык, педагог.

Малодшы родны брат Якуба Коласа. У 1914—18 гадах вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў са званнем настаўніка пачатковых класаў. Жыў на хутары Смольня, побач са сваім братам Іосіфам і займаўся сельскай гаспадаркай. У час нямецкай акупацыі працаваў інспектарам школ, ратаваў настаўнікаў ад фашысцкай расправы. У 1944 годзе выехаў на Захад — спачатку ў Чэхаславакію, дзе працаваў цесляром, а пасля ў Германію. Жыў у лагеры для перамешчаных асоб, працаваў інспектарам пачатковых беларускіх школ, выдаў для іх каля дзесятка чытанак. У 1950 годзе пераехаў у ЗША (Нью-Йорк). Працаваў настаўнікам беларускай школы, вартаўніком цвінтара. З 1952 да пачатку 60-х гадоў быў рэдактарам газеты «Беларус», а ў 1970—81 — часопіса «Голас Царквы».

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1918 годзе. Пісаў апавяданні і фельетоны пра жыццё сялян, семінарыстаў, фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў. М. Гарэцкі пісаў пра яго, што «гэта вельмі спадзейны малады белетрыст і паважаны публіцыст». Пасля адышоў ад літаратурнай творчасці. У 1960-х гадах пераклаў з царкоўнаславянскай на беларускую мову тэксты малітваў, Багаслужбаў і Евангелля.

Памёр у 1991 годзе ў Нью-Йорку, пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брунсвіку.

17

— **100** гадоў таму ў Рызе нарадзіўся **Юдэльсон** Арон Ісакавіч, беларускі паэт, нарысіст.

Да 1928 года жыў у Латвіі (Латгаліі), пасля пераехаў у Беларусь. У 1930 годзе паступіў у Мінску на літаратурнае аддзяленне Педагагічнага інстытута, але пакінуў вучобу на IV курсе. Працаваў у рэдакцыі яўрэйскай газеты «Октобэр» і на радыё. У 1935 годзе быў сакратаром яўрэйскай секцыі СП БССР. У 1937 годзе рэпрэсаваны і прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1957 годзе.

Друкавацца пачаў у 1923 годзе ў нелегальным друку Латвіі. З 1929 года выступаў у яўрэйскім друку Беларусі. Да 1935 года друкаваўся ў часопісе «Штэрн». Выйшла некалькі яго кніг паэзіі і прозы на яўрэйскай мове. У 1961 годзе ў перакладзе на беларускую мову выйшла кніга выбраных вершаў «Прывітанне». Найбольш цікавай часткай творчасці А. Юдэльсона лічыцца ранні перыяд, калі ён яшчэ жыў у Латвіі і натуральнасць пачуццяў яшчэ не была скасаваная класавай ідэалогіяй.

Пісаў на яўрэйскай мове.

22

— **75** гадоў таму ў вёсцы Халмы Краснапольскага раёна нарадзіўся **Яўменаў** Леанід Фёдаравіч, беларускі філосаф і паэт.

У 1955 годзе скончыў аддзяленне філасофіі гістарычнага факультэта БДУ. Быў сакратаром Мінскага гарадскога камітэта ЛКСМБ (1954—58). У 1958—61 — аспірант Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС (Масква). З 1961 — дацэнт кафедры філасофіі Мінскага педагагічнага інстытута замежных моў, у 1970—71 — лектар ЦК КПБ. У 1971—74 гадах працаваў у дэпартаменце сацыяльных гуманітарных навук і культуры сакратарыята ЮНЕСКА ў Парыжы. З 1975 года быў загадчыкам кафедры эстэтыкі, этыкі і навуковага атэізму БДУ. З 1979 года —загадчык сектара Інстытута філасофіі і права, з 1982 года — загадчык аддзела навуковай інфармацыі па грамадскіх навуках АН Беларусі.

Доктар філасофскіх навук (1977). Прафесар (1979). Член-карэспандэнт АН Беларусі (1991).

Пісаць пачаў з 11 гадоў. Першы верш надрукаваў у 1949 годзе ў бабруйскай раённай газеце «Камуніст». Выдаў шэраг манаграфій і нарысаў («Диалектика и революция», 1969), «Ленинизм и современная идеологическая борьба», 1970), «Нравственные основы советского образа жизни», (1979), «Философия антимарксизма и диалектика», 1981), «Антигуманистические тенденции современного буржуазного искусства», 1983), «Актуальные проблемы контрпропаганды», 1985), а таксама некалькі паэтычных зборнікаў: «Чужая планета» (1980), на яго станоўча адгукнуліся П. Макаль і А. Вярцінскі, «Блізкія далі» (1983) ды іншых.

**24**

— **80** гадоў таму ў Гомелі нарадзіўся **Кабашнікаў** Канстанцін Паўлавіч, беларускі фалькларыст.

Скончыў Гомельскі педагагічны інстытут у 1951 годзе. З 1957 года працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, з 1972 года быў загадчыкам сектара. Даследаваў апавядальныя жанры беларускага фальклору, рабочы фальклор, рэвалюцыйную паэзію, праблемы фальклорных узаемасувязяў. Адзін з аўтараў кніг «Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць» (1967), «Беларуская народнапаэтычная творчасць» (1979), «Параўнальны паказальнік сюжэтаў. Усходнеславянская казка» (1979, у сааўтарстве). Складальнік зборніка «Беларускія народныя песні. Са зборнікаў П. В. Шэйна» (1962), тамоў серыі «Беларуская народная творчасць»: «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі» (1971). Аўтар прац «Ад традыцыйнага фальклору да рэвалюцыйнай паэзіі» (1969) і «Беларускі фальклор у параўнальным асвятленні» (1981).

Доктар філалагічных навук (1971). Прафесар (1980).

**28**

— **195** гадоў таму ў Варшаве нарадзіўся **Крашэўскі** Юзаф Ігнацы, пісьменнік, гісторык, выдавец, ілюстратар, бібліяфіл і грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку.

Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, пасля ў Віленскім універсітэце. За ўдзел у антыцарскай змове ў 1830—32 гадах быў зняволены. У 1841—51 гадах рэдагаваў віленскі часопіс «Athenaeum» («Атэнэум»). Аўтар 223 раманаў і аповесцей. Стварыў у польскай літаратуры новы тып рэалістычнага гістарычнага рамана. Мінуламу Беларусі і Літвы прысвяціў раманы «Апошнія з слуцкіх князёў» (1841), «Жыгімонтаўскія часы» (1846), «Кароль у Нясвіжы. 1784» (1885) і іншыя, а таксама паэтычную трылогію «Анафеляс» (1840—45), навуковыя працы «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—50), «Барысаў»(1848) ... Апісаў свае вандраванні па Беларусі ў шматлікіх нарысах.

Памёр у 1887 годзе.

**28**

— **105** гадоў таму ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс) нарадзіўся **Вальтар** Віктар Бенядзіктавіч, беларускі паэт, празаік, удзельнік беларускага літаратурнага руху ў Латвіі.

Вучыўся ў гарадской пачатковай школе, а пасля ў Дзвінскім рэальным вучылішчы. Падчас Першай сусветнай вайны жыў з сям'ёй у бежанстве на Украіне (Харкаў). У 1921 годзе вярнуўся ў Дзвінск і скончыў рускую гімназію (1922), Беларускія аднагадовыя настаўніцкія курсы. У 1922 годзе — студэнт каморніцкага факультэта Чэшскага вышэйшага тэхнікума (Прага). Захварэўшы на сухоты, змушаны быў перапыніць вучобу і вярнуцца ў Латвію.

Літаратурнай творчасцю пачаў займацца рана. Дэбютаваў у Ковенскім часопісе Вацлава Ластоўскага «Крывіч». Друкаваўся з 1923 года. Супрацоўнічаў з газетамі «Голас беларуса» (Рыга), «Наша доля» і «Новы шлях» (Дзвінск), а таксама з іншымі выданнямі. Удзельнічаў у зборніку «Першы крок» (1929). Галоўная тэма творчасці В. Вальтара — жыццё беларускага сялянства ў Латвіі.

Памёр у 1931 годзе.

Пасмяротна Беларускае выдавецтва ў Латвіі выпусціла яго апавяданне «Леснікова сена» (1932). Ён аўтар рамана «Роджаныя пад Сатурнам», заснаванага на асабістых уражаннях ад вучобы ў Празе. Урыўкі з твора друкаваліся ў тыднёвіку «Голас Радзімы». Часопісны варыянт рамана з прадмовай Сяргея Панізніка быў выдрукаваны ў «Дзеяслове» ў 2005 годзе.

**31**

— **190** гадоў таму ў вёсцы Каханавічы Верхнядзвінскага раёна нарадзіўся **Храпавіцкі** Ігнат Яўстахавіч, беларускі паэт, фалькларыст, грамадскі дзеяч.

У 1840-я гады актыўна супрацоўнічаў у альманаху «Rubon». Яго першы нумар адкрываўся праграмным вершам Храпавіцкага «Дзвіна», які заклікаў абудзіцца ад спрадвечнага сну, крочыць да новага лепшага жыцця. У гэтым альманаху ён надрукаваў працу «Погляд на паэзію беларускага народа» з дадаткам назіранняў над асаблівасцямі беларускай мовы на матэрыяле гаворкі Віцебшчыны (1845) — па сутнасці першую гісторыка-параўнальную характарыстыку беларускай фальклорнай спадчыны, рамантычныя вершы «Баркарола», «Восень» і іншыя пераклады на польскую мову беларускіх народных песень (1843). Рыхтаваў да друку «Поўны беларускі песнязбор». У 1850 годзе разам са сваімі аднадумцамі С. Убры і Ю. Шчытам распрацаваў праект скасавання прыгоннага права і правёў яго на губернскім дваранскім з'ездзе, пасля чаго доўгі час не ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. З 1880 года — прадвадзіцель дваран Віцебскай губерні.

Памёр у 1893 годзе.

*Аўтар рубрыкі* ***Леанід ГАЛУБОВІЧ.***

У шостым нумары часопіса ў рубрыцы «Легенды XX стагоддзя» ліст І.П. Мележа да П.М. Машэрава падрыхтаваны да друку архівістам Віталем Скалабанам.

# ПАЛАЖЭННЕ

аб творчым конкурсе «Сэрца — адкрытае дзецям»
на лепшыя артыкулы па асвятленні працы выкладчыкаў
беларускай мовы і літаратуры ў часопісах «Полымя»,
«Маладосць» і газеце «Літаратура і мастацтва»

**1. Мэта конкурсу.** Улічваючы вялікую ролю настаўнікаў у справе павышэння цікавасці да роднай мовы, — актывізаваць асвятленне працы выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры ў літаратурна-мастацкіх часопісах «Полымя», «Маладосць» і газеце «Літаратура і мастацтва».
2. Заснавальнікам конкурсу з'яўляецца Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва».
3. Да ўдзелу ў конкурсе прымаюцца матэрыялы, апублікаваныя ў часопісах «Полымя», «Маладосць» і газеце «Літаратура і мастацтва» за перыяд з 1 сакавіка 2007 года па 10 снежня 2007 года.
**4. Тэрмін і ўмовы падачы матэрыялаў:** матэрыялы на конкурс прымаюцца да 15 лістапада 2007 года; аўтарамі публікацый могуць быць журналісты, пісьменнікі, студэнты, школьнікі — кожны жадаючы.
5. Для аўтараў (пераможцаў конкурсу) устанаўліваюцца наступныя грашовыя прэміі:

**— першая прэмія — 35 базавых велічынь;**
**— другая прэмія — 20 базавых велічынь;**
**— трэцяя прэмія — 10 базавых велічынь;**
**— шэсць заахвочвальных прэмій — бібліятэчкі кніг беларускіх пісьменнікаў з аўтографамі.**

6. Фінансаванне конкурсу ажыццяўляецца Рэдакцыйна-выдавецкай установай «Літаратура і Мастацтва».
7. Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова стварае журы для падвядзення вынікаў конкурсу.
8. Вынікі конкурсу будуць падведзены да 31 снежня 2007 года і апублікаваны ў першых нумарах газеты «Літаратура і мастацтва» ў 2008 годзе.
9. Конкурсныя артыкулы накіроўваюцца па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19, РВУ «Літаратура і Мастацтва» з пазнакай «конкурс».
10. Матэрыялы, дасланыя на конкурс і змешчаныя на старонках выданняў, будуць выдадзены асобнай кнігай.

***ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!***

**Працягваецца падпіска на II паўгоддзе 2007 года.**

**упершыню індывідуальная льготная**
**для настаўнікаў (індэкс — 00471)**
**на 1 месяц — 4300 руб.**
**на 3 месяцы — 12 900 руб.**

**індывідуальная (індэкс — 00471)**
**на 1 месяц — 5520 руб.**
**на 3 месяцы — 16 560 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**
**на 1 месяц — 7440 руб.**
**на 3 месяцы — 22 320 руб.**

**ведамасная льготная (індэкс — 00727)**
**на 1 месяц — 6240 руб.**
**на 3 месяцы — 18 720 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-91.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *М. Б. Залатар*

Падпісана ў друк 07.07.07 г. Фармат 70 × 108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 18,20. Ул.-выд. арк. 18,96. Тыраж 3497 экз. Зак. 1736.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны для ўстаноў Міністэрства культуры і
Міністэрства адукацыі — 00727
індывідуальны льготны для настаўнікаў — 00471

# Чытайце ў наступным нумары:

**Міхась Южык**
**Лесвіца**
Раман (пачатак)

**Кастусь Цвірка**
**Будзіла вёску берасцянка**
Аповесць

**Міхась Пазнякоў**
**Валянцін Лукша**
**Мікола Шабовіч**
**Аляксандр Олэсь** (з украінскай)
Вершы

**Іван Шамякін**
**З Дзённікаў**

**Легенды ХХ стагоддзя**
**Заір Азгур**

**Міхась Мушынскі**
**На шляхах волі**
**Вершаваны раман Якуба Коласа**

ПОЛЫМЯ

